



# 9

## ВЕРАСЕНЬ

МІНСК, 1969

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **У. Лашкевіча.**

Шмуцтытулы: малюнак **У. Басалыгі** (3 стар.) і фота **У. Мяжэвіча** **«Працоўны семестр»** (стар. 85).



# ПРОЗА ПАЭЗІЯ

● Мар'ян ДУКСА ● Леанід ГАЎРЫЛКІН ● Міхась РУДКОЎСКІ ● Валеры ДРАНЧУК ● Мікола ВОРАНАЎ ● Мікола АРОЧКА ● Аляксей ЗАРЫЦКІ ● Ніл ГІЛЕВІЧ ● Аванес ТУМАНЯН

## ПАЭЗІЯ

### Пасёлак Дуброўка





Мар'ян ДУКСА

Родны дом —
гэта прыстань для сэрца і ног.
Ён умее чакаць,
як паром.
Можна выбіцца з сіл
ад дарог і трывог —
Трэба помніць,
Што ёсць родны дом.

Родны дом —
Узбярэжны зялёны маяк.
Цераз ветразі вёрст,
Цераз шум баравы
Ён здалёку мігае,
пытае:
— Ну як?
Ці жывы?..

Ён умее чакаць,
Ён умее любіць,
Шчыра, шчыра сустрэць,
запрасіць да стала.
Ён умее маўчаць,
Ён умее забыць,
Што фальшываю клятва была.

І заскача
Стары чыгунок на агні,
Будзеш піць сырадой,
як калісьці, нагбом.
Уздыхнуўшы,
Матуля прамовіць:
— Засні...
Родны дом...

●●

Я крылы б даў марудлівым калекам,
Анёльскія даў крылы,
калі б мог.
Ні шчырая спагадлівасць,
ні лекі
Ампутаваных не заменяць ног.
Я падарыў бы ім жывыя крылы,
Якіх крылаты чалавек не меў,
Каб хоць на кроплю
зменшылася крыўда,
Каб інвалід не клыпаў,
а ляцеў.
Я крылы дам.
Героям крылы трэба.
Ім трэба крылы
летам і зімой,
Каб бачыць родны край,
Каб бачыць неба,
Узняўшыся высока над зямлёй.
Яны калісьці падалі пад сосны
І паміралі тройчы ля ракіт.
Іх слава на зямлі.
Жыццё — ля сонца.
Палёт — заўжды
Ў разгорнуты блакіт.

●●●

Ёсць плошча.
Самая звычайная.
І штаб пад назвай «Леспрамгас».
За шыбай белымі начамі
Рычыць, як леў, вялізны МАЗ.
Завулак. Шыльда «Піва-воды».
Абед. Вясёлая чарга.
За метры два
ад агарода —
Тайга!
Трушчобная тайга!
Ў сукі папаўся, што у нерат,
Яшчэ наіўны маладзік.
Як хочаш ты,
а без сякеры
У лес на шпацыр не ідзі.
Пяць вуліц — вось яна — работа! —
За два гады.
І будзь здароў!
Нібыта раптам з верталёта
Тры сотні спушчана дамоў
Круглабярвенных, па-сібірску
Скляпаных, зрубленых наспех,
Скуль жонка братава калыску
Выносіць на пякучы снег.
Я свой на гэтых панадворках.
Як подых роднай даўніны —
І беларускія гаворкі,
І беларускія бліны!

Усё часова, так часова,
Нібы салдацкі той шынель —
Ад камунальнай пабудовы
Да новай студні «журавель».
Яшчэ, яшчэ адна зімоўка,
Затым з пілою у руцэ
Трохсотдамовая Дуброўка
Сплыве на поўнач па рацэ.



А вас пакрыўдзілі, бярозы,
Наклалі цень на вашу бель.
Цёмна-зялёныя палосы
Завалаклі у свой тунель.
Я знаю, апірацца колка
На вастраверхую сцяну.
Чаму ж не крыўдна, калі ёлкі
Адгарадзілі збажыну
І буйны шум каласавання,
І голас жаўранка жывы...
Бо службу снегазатрымання,
Ах, не выконваеце вы!
У вас даверлівасці многа,
Калі бушуюць на зары,
Між вас нясуцца на дарогу
Бесцырымонныя вятры.
І замятаюць, колькі ўлезе,
Сляды ад гусеніц і ног...
Вы самі па калена ў снезе
Застылі моўчкі ля дарог.

ПРОЗА



● Леанід ГАЎРЫЛКІН

● Мал. В. ШРАМЯКОВА

# МЯДОВЫ ГОД

АПОВЕСЦЬ

## ЗІМА

### 1

На невялічкай станцыі з пасажырскага цягніка сышлі двое — Кастусь і Ліна. Кастусь нёс два цяжкія чамаданы. Ліна, узяўшыся за Кастусёву руку, падскоквала на цыпачках: тонкія абцасы лезлі глыбока ў жвір.

— Ой, сапсую туфлі!

— Казаў жа, не абувай. Не паслухала...

— Дык можа таксі якое будзе?

— Ты што?!.

— А як жа нам дабірацца?

— На сваіх дваіх.— Кастусь паставіў чамаданы, агледзеўся.— Можа якая машына і пападзецца...

Каля плоту, зводдаль станцыі, стаяла толькі фурманка. Конь перабіраў сена. За плотам на голай акацыі дрыжалі і пераліваліся пацеркамі буйныя кроплі: прайшоў дождж. Пад шчыкетам чарнела пазганянае ветрам лісце. На старых ліпах, што стаялі за станцыяй каля багажнай, шчабяталі вераб'і. На водапорнай вежы чарнела буслінае гняздо.

Ліна пераабулася, і яны, перайшоўшы пуці, скіравалі на разбітую трактарамі дарогу. Ішлі абочынай, дзе было менш гразі. Ліна першаю, балансуючы рукамі, каб не пакаўзнуцца ў канаву — там пасля дажджу дрыжала каламутная вада. Услед мясіў гразь сваімі кірзавікамі Кастусь. Рукі ў яго самлелі ад цяжкіх чамаданаў, ды толькі не было нідзе сухога месца, каб паставіць іх.

— Па такой дарозе далёка не ўцячэш,— сказала Ліна.
— Я ведаў, калі цябе везці ў вёску,— азваўся Кастусь.

Дарога павярнула на поплаў — ісці стала лягчэй. Цяпер можна было і пасядзець на чамаданах, паставіўшы іх на траву. Кастусь абмыў у рудаватай лужынцы кірзавікі, пастаяў, чакаючы, пакуль адыдуць у цёплых кішэнях скачанелыя рукі.

Дарога ішла паўз самае балота. Сярод высокай парыжэлай асакі там-сям вытыркаліся кусты лазняку. За балотам на грудках чарнела свежая ралля. Яна цягнулася аж да самага Якімаўскага лесу.

Усё кругом блізкае, усё знаёмае Кастусю з дзяцінства...

Вёска ж Вішнёва была тая і не тая.

Кастусь толькі два гады не быў дома, але цяпер не пазнаў вёску: стаялі новыя мураваныя дамы, пад шыферам, на высокіх падмурках. На вокнах зырка цвілі чырвоныя «агеньчыкі». На дахах тырчэлі тэлевізійныя антэны. Той-сёй толькі пачынаў будавацца: каля двароў ляжалі цэгла, бярвенне.

Ці таму, што побач стаялі цагляныя дамы, ці таму, што за гэты час вышэй паднялася ў гародчыку таполя, толькі свая хата Кастусю здалася вельмі ўжо маленькай і нейкай сіратлівай. Страха пасярэдзіне, дзе комін, асела, густа зарасла зялёным мохам. Аканіцы, некалі блакітныя, выцвілі. Паркан у гародчыку пахіліўся. Вароты падгнілі. У двары каля хлява ляжала мокрае сасновае ламачча.

Кастусь не папярэдзіў маці, што прыедзе: на пошце адмовіліся ўзяць тэлеграму, сказалі, што ў вёску трэба было даваць на суткі раней. Праўда, пра сваю жаніцьбу Кастусь напісаў адразу ж, запрашаў на вяселле. І вось цяпер, каля свае хаты, ён адчуў вінаватасць перад маці, адчуў, што хвалюецца, хаця ведаў — маці будзе рада, што ён прыехаў. Прыціхла і Ліна.

У доўгай выцертай целагрэйцы і гумавых ботах, маці выносіла з гарода ахапак бульбоўніку. І ніяк не магла прайсці з ім праз вузкія весніцы. Яна абярнулася і гэтак, уперад спіною, выбралася з гарода. Падняла галаву і ўбачыла гасцей. І неяк сумелася, не верачы сваім вачам, а потым азірнулася, куды б пакласці бульбоўнік,— кругом была гразь,— і так, з ношай у руках, накіравалась да Кастуся. Ліне зрабілася смешна, і яна, каб неяк схаваць гэта, весела сказала:

— Сына вам прывезла, а то не хацеў ехаць.

— Ой, а я вось так... з каліўем...— старая кінула бульбоўнік пад ногі і стаяла, апусціўшы рукі, на вачах у яе заблішчалі слёзы.

— Мама, пазнаёмся з Лінай. З маёй жонкай, мама...— разгубіўся Кастусь.

Ульяна падышла да Ліны, паглядзела ў вочы і хуценька пацалавала ў шчаку.

— Ну, пайшлі, дзеткі, у хату,— і першая заспяшыла да дзвярэй.

Браўся вечар, і ў хаце сцямнела. Уключылі святло.

Пры электрычным святле хата здалася яшчэ меншай. Ліна, пераадзеўшыся, сядзела на ложку. Ёй не было чаго рабіць. Памкнулася была памагчы маці рыхтаваць вячэру, дык тая не дала, сказала, каб адпачывала з дарогі, што яна і сама ўправіцца. Ліна адчула ў яе словах непрыязнь, маўляў, абыдземся самі, як абыходзіліся і да гэтага. І яна сядзела сцішаная, нібы пакрыўджаная.

А Кастусь адразу адчуў сябе дома. Прынёс дроў, схадзіў па ваду і цяпер сядзеў ля грубкі, глядзеў, як, патрэскваючы, гарэлі дровы, слухаў маці, якая падавала на стол вячэру і гаварыла, нібы апраўдваючыся:

— Не напісала табе: думала, прыеду... Ды ўсё не было калі сабраць. То сена трэба было трохі купіць... Ды пакуль напытала яго... Потым бульбу капала, з гародам упраўлялася: надта ж сёлета добра капуста ўрадзіла. Ну, думаю, няхай надыдуць марозы, закалю парася ды і паеду... А вы самі прыехалі... Так яно і лацвей. Я ж ніколі нікуды не ездзіла...

Прыйшлі Колька і брыгадзір Павел.

Колька — высокі, дужы ў плячах, з маленькім носам-бульбінкай, ад чаго твар яго выдаваў шырокім; каротка падстрыжаны, у паліто з цыгейкавым каўняром, у храмавіках гармонікам.

Павел быў дробненькі, носік-клінок, тонкі і доўгі, вочы вузкія і жывыя, валасы рэдкія і прылізаныя.

Хлопцы ўселіся на табурэтках каля грубкі.

Колька папрасіў у Ліны дазволу закурыць, дастаў з пачка цыгарэту, прыкурыў ад вугольчыка. Паўлік таксама закурыў, часта цмокаў, нібы яго папяроса не хацела гарэць, і крадком паглядваў на стол. Адно вока ў яго было прыжмурана, нібы ён цэліўся стрэліць.

Зайшоў Майсей Вухаед, што жыў ад Ульяны праз адну хату. Ён скінуў свой кажушок-пацяганку, зняў з валёнак галёшы, з усімі павітаўся за руку і павіншаваў Кастуся з законным шлюбам. Потым адразу ж загаварыў пра палітыку. Майсей Вухаед быў дасведчаны чалавек і ведаў, што робіцца ў свеце, бо рэгулярна чытаў газеты.

Сабраліся яшчэ суседзі, радня.

— Ну, госцейкі, садзецеся за стол,— мітусілася Ульяна. Яна пераапранулася ў новую спадніцу і кофту, што падарыла нявестка.— Садзецеся... Прасіла, каб і старшыня зайшоў, дык няма ж. Але не будзем болей чакаць, садзецеся...

— Старшыня ў раён паехаў,— аўтарытэтна паведаміў Павел.

— Заняты чалавек, канешне ж... Але хто не прыйшоў, няхай наракае на сябе. Кастусь, кліч усіх за стол,— прасіла сына маці.

## 2

Дажджы ішлі і ішлі. Усё расквасіла так, што нельга было вылезці. Кастусь і Ліна сядзелі ў хаце. Раніцай спалі, пакуль спалася. Прачыналіся, калі маці не было ўжо дома: яшчэ раненька яна ішла ў калгас на працу, заўсёды пакінуўшы на прыпечку гатовае снеданне. Паснедаўшы, Кастусь з Лінай бралі кнігі і чыталі. Але чытаць надакучвала. Ліна кідала кнігу і бралася што-небудзь перашываць. Кастусь прыносіў торф і распальваў грубку.

А на вуліцы шумеў вецер, стукаў аканіцай, сек дажджом у шыбы.

Ульяна старалася не перашкаджаць маладым, нават ніколі не заглядала ў пярэднюю хату. Яна, мусіць, была шчаслівая ад таго, што яны не забыліся пра яе, прыехалі. Сама даглядала скаціну, нават сама хадзіла па ваду.

І вось, нарэшце, выдаўся пагодны дзень. На траве, на стрэхах ляжаў белы іней. Паднялося сонца і з'ела яго. Над зямлёй высока сінела халоднае неба, паветра было такое празрыстае і свежае, як вада ў лясной крыніцы.

— Можа, пойдзем гной паносім пад яблыні? — сказаў Кастусь жонцы пасля снедання.

— Нарэшце ты прыдумаў, як павесяліць мяне...— засмяялася Ліна і пачала збірацца.

Гной насілі ў каробцы-гусятніцы. Кастусь сахорам уздзіраў яго

ў хляве, дзе стаяла карова, накідваў у каробку, паглядваючы на Ліну, якая стаяла ў двары і чакала, пакуль ён яе пакліча. Ліна адной рукой памагала несці каробку, а другой бралася за нос, а потым адбягалася і крычала Кастусю: «Не ведаю, як ты трываеш!» І вось ужо вынеслі апошнюю каробку пад невялічкую грушку, што расла ў самым кутку гарода. Яе пасадзіў Кастусь у тую восень, як адыходзіў у армію. Пасадзіў тоненькі дубчык, а цяпер ужо стаяла ладнае дрэўца: скора і радзіць пачне.

— Ты так расказваеш пра гэту грушу, нібы збіраешся тут жыць,— упікнула Ліна мужа.

— У госці будзем ездзіць,— адказаў ёй Кастусь і падумаў: «Не, яе тут нічым не зацікавіш...» І каб яна не заўважыла яго настрою, нагнуўся ніжэй, пачаў разграбаць гной.

— Папрацавалі, дык і апетыт знайшоўся,— гаварыў Кастусь, калі яны сядзелі за сталом і сёрбалі густы, наварысты боршч.

— Дык, можа, заўтра і суседу наносім гною ў сад? — смяялася Ліна. Шчокі ў яе разгарэліся і твар неяк пасвятлеў. Даўно Ліна не была такой.— Давай, Косця, сходзім сёння куды, дажджу ж няма...

— А куды?

— Я ж не ведаю, куды ў вас ходзяць, калі няма чаго рабіць.

— У клуб гляньце. Можа кіно якое там...— сказала Ульяна, якая якраз збіралася ісці зноў на работу.— Ці да Колькі ў госці схадзіце: ён жа ў нас быў...

— Во як многа забаў! — хіхікнула Ліна, калі Ульяна выйшла.

— Ды кінь ты! — абурыўся Кастусь.

— Што кінуць? — насцярожылася Ліна.

— Ды проста так,— пачаў ён адступаць.

— Дагаворвай,— не адставала яна.

— Ды кінь ты... Лепш давай збірацца. Можа і сапраўды да каго ў госці сходзім.

— Ах ты, хітрун! — яна схапіла мужа за чупрыну і тузанула да сябе.— Дык ці сходзім, ці не?

— Сходзім, сходзім...

Брыгадны клуб пабудавалі, калі Кастусь быў у арміі. Гэта была звычайная хата-пяцісценка. На сцяне вісела абарваная афіша. Вісела даўно, бо дажджы паразмывалі на ёй фарбу. Дзверы вартаваў маленькі ржавы замок.

— Адзін раз павесяліліся,— тулілася Ліна да мужа: ёй было холадна ў тонкім паліто.

— Зойдзем да Колькі,— засмяяўся Кастусь.— Павесялімся яшчэ раз.

Колька быў дома. Ён, падвязаўшыся жончыным доўгім фартухом, перамываў у вядры бульбу, ссыпаў яе ў вялікі чыгун.

— Пасядзіце, паглядзіце тэлевізар,— уключыў ён свой «Рэкорд», які стаяў на покуце.— А я зараз...

Колька паставіў у печ бульбу, схадзіў па ваду, а потым усеўся ў парозе на самаробным услончыку, дастаў пачак цыгарэт, закурыў:

— Добра, што зайшлі. Люба недзе і гарэлкі прыхавала. Прасіў сёння ў абед паўшклянкі, дык не дала, як ведала, што вы прыйдзеце.

Вярнулася з фермы і Люба. Яна працавала там даяркай. Люба была ў цёплай хустцы, у целагрэйцы. Засаромелася, схавалася за паркалёвай у дробныя кветачкі занавескай, а потым выйшла адтуль у белай кофтачцы і чорнай спадніцы, з цяжкім вузлом валасоў на патыліцы. Неўзабаве ўсе яны сядзелі за сталом. Колька расказваў:

— Я як ажаніўся з Любай, дык і купілі гэтую хату ў Хімы. Хіма

паехала да дачкі ў Мінск, а хату прадала. Грошы збіраю на новую. Ды старшыня лесу не дае, гаворыць, у маці добры дом. Ну, дык і што? Але ж да маці я не пайду. Мы жылі пасля жаніцьбы, дык ведаю, што такое дзве гаспадыні ля печы. Кожны дзень вайна. Не дасць лесу, паеду на Сахалін. Я там служыў у арміі, дык ведаю...

— Ну, ужо...— засмяялася Люба.— Гэта ж, як вып'е, так і пайшоў пра Сахалін...

— А што — Сахалін? Лесу колькі хочаш, сена таксама. А сенажаць, ведаеце, якая, не тое, што ў нас. Касу не пацягнеш. А ў нас — што... Раней хаця канюшыну сеялі на планах. А як старшыня стаў даваць планы ў полі, ды кожны год у новым месцы: канюшыну не пасееш. У нас цяпер сена — праблема...

— А што старшыня? — пацікавіўся Кастусь.

— Гаварылі неяк яму, дык кажа, што ў астатніх брыгадах не хочуць, каб назад планы аддавалі. Хлусіць, пэўна. А тут яшчэ брыгадзір у нас... Хаця Павел мне і прыяцель, але скажу — лапаць. Як вады ў рот набраў...

— А што яму? — умяшалася ў гутарку Люба.— Будавацца задумаў, грошы трэба. Брыгадзіру сто рублёў у месяц даюць, а то і болей. Канешне ж, будзе маўчаць.

— А ён жа мог і на праўленні сказаць пра планы,— пакасіўся на жонку Колька.— Бывае там часта, член праўлення. Дык і там маўчыць...

— Ой, ты ўжо смелы! — пакруціла галавой Люба.— Закусвай лепш, а то зусім асмялееш.

Раптам, без стуку, шырока адчыніўшы дзверы, зайшоў Павел. Ён быў у сваёй куртцы-балонні, скураной шапцы-вушанцы, можа з тыдзень няголены. Стаяў у парозе, усміхаўся, схіліўшы на бок галаву і прыжмурыўшы адно вока.

— Бачу, свеціцца ў хаце. Думаю, дай забягу, можа, губы памачу. Сёння марозік, дык яно не шкодзіць. А я гэта з праўлення. Як накінуўся на мяне старшыня за тое, што салому не важу... А як яе вазіць, калі дарогі няма? Усю восень гразь была, першы дзень, як падмарозіла. А ці нагаварылі на мяне, ці можа з яго стружку знялі ў раёне, дык ён такі злы...— ніяк не мог супакоіцца Паўлік.

## 3

Старшыня калгаса Кулагін прачнуўся, сеў на ложку, намацаў нагамі старыя з стаптанымі заднікамі туфлі, якія ён насіў у хаце, пакашляў, а потым узяў з тумбачкі пачак папярос, закурыў.

— Век не дасць паспаць: то бухае на ўсю хату, то папяросай смурodзіць...— прабурчэла жонка і павярнулася на другі бок, тварам да сцяны.

Кулагін выйшаў на кухню, уключыў святло, пахадзіў, каб размяць ногі, памыўся. Вада ў вёдрах нагрэлася за ноч і была непрыемная. Апрануўшы кароткае паліто, насунуўшы шапку, напіўся нагбом з гладыша сыраквашы і выйшаў з хаты. На дварэ яшчэ цёмна і ціха. Кулагін выкіраваў на сярэдзіну вуліцы, каб не наткнуцца ў цемры на цэглу ці на якую калоду, што звычайна ляжалі амаль ля кожнага двара. За вёскаю скіраваў на балота. За балотам на чыгунцы мільгалі чырвоныя агеньчыкі. Далёка за небасхілам узнімалася святло, нібы там збіраўся ўзысці месяц: недзе паравоз высвечваў сабе дарогу.

Лёд на копанцы адліваў халодным металічным бляскам. Кулагін

ступіў на лёд ля самага берага: на мелкім — не трашчала. Прайшоў далей, каўзануўся — лёд быў моцны. Разагнаўся, прысеў, каб не ўпасці, але не ўтрымаўся, пляснуўся і пад'ехаў, седзячы. Хуценька падхапіўся, агледзеўся, нібы яго і сапраўды хто мог заўважыць так рана. Зноў каўзануўся. Цяпер устояў на нагах. Спадабалася. Разагнаўся мацней, праехаў ледзь не да процілеглага берага. Пахадзіў і там, дзе расла асака. Не трашчала. Паспрабаваў прабіць лёд абцасам, але не прабіў. І падаўся на ферму.

Зайшоў у невялічкую цагляную прыбудоўку каля кармакухні. Гэта быў пакой адпачынку для жывёлаводаў. Тут стаяла шафа з кнігамі, на шафе, пад самай столлю, тэлевізар. Праўда, ён ужо з тыдзень не працаваў. Гаварылі, што вартаўнік спаліў яго, уключыў ды і заснуў. Цэлую ноч свяціўся экран, а пад раніцу патух.

Узімку ў гэтым пакойчыку збіраліся калгаснікі на ранішнюю нараду. Кожны раз сюды прыходзіў і Кулагін. І не толькі таму, што так рана ён не заўсёды мог паехаць у другія брыгады, а таму, што вельмі клапаціўся, каб брыгада, у якой ён жыве, была не апошняя ў калгасе. Цяпер Кулагін сеў на лаўку, зняў шапку, паклаў на стол, пашукаў вачыма брыгадзіра. Сказалі, што Паўлік яшчэ не прыходзіў.

— Гм...— Кулагін глянуў на гадзіннік.— Ну, добра, чакаць не будзем. Вось што... Сёння ўсім на балота касіць асаку. Мужчынам з косамі, жанчынам з граблямі. Сена адразу складаць у капіцы.

— Андрэй Назаравіч, дык лёд жа яшчэ...— пачаў нехта пярэчыць.

— Вытрымае. Мяне вытрымлівае. Правяраў. Трэба скасіць, а то сёння-заўтра ляжа снег...

Жанчыны адразу ж разышліся, а мужчыны яшчэ колькі пабавіліся, пагаварылі пра познюю зіму, пра тое, што нібы ў нейкай газеце Майсей Вухаед вычытаў, што хутка зімы на зямлі зусім не будзе, нібы Зямля ад нечага пачала перагравацца.

Самым апошнім пайшоў дамоў Кулагін: усё чакаў брыгадзіра, ды і не дачакаўся.

Па дарозе сустрэлася Вера Вухаедава. Яна была ў лёгкай целагрэйцы, у капронавай касынцы, у кароткай і вузкай спадніччы, у тонкіх панчохах. Бегла, згорбіўшыся ад холаду.

— Чаго гэта ты фарсіш? — спыніў яе Кулагін.— Захварэць захацела?

— Ды яно цёпла.

— Цёпла... Ну, як працуецца? Не крыўдзяць цябе там? Мо што трэба?

— Ды не, усё добра, Андрэй Назаравіч. Дзякуй.

— Толькі цяплей апранайся,— ён правёў дзяўчыну вачыма.

Вясной яна скончыла школу, нікуды не паехала паступаць вучыцца, засталася ў калгасе. Гаварылі, што чакала Кастуся Вярэйчыка з арміі. А той узяў ды і прывёз сабе маладуху. Што там за жонка ў яго? Гавораць, гарадская...

Маня, Паўлава жонка, як толькі Кулагін пераступіў парог хаты, кінула абіраць бульбу, выцерла рукі, замітусілася, пачала запрашаць старшыню прысесці.

— Мой зараз устане...— саромеючыся, гаварыла яна.— Павел! Назаравіч прыйшоў...

— А ён што, яшчэ спіць?

— Учора позна вярнуўся.

Кулагін зайшоў у пярэднюю хату, уключыў святло. Павел сядзеў на ложку босы, кашуля і штаны на ім былі пакамечаныя, відаць, ён

спаў не распрануўшыся. На табурэтцы перад ім стаяў карэц з капустай.

— Расольчыкам лечышся? Усё ясна.— Кулагін з непрыязню глянуў на брыгадзіра. Той сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі, нібы баяўся, што яна ў яго разваліцца.— Ачухаешся, пагаворым...

— Няўжо ж вы, Назаравіч, і пойдзеце, не паснедаўшы ў нас? — Маня не ведала, за што і ўхапіцца, а потым, калі ўбачыла, што Кулагін і не збіраецца садзіцца, захліпала.— Ой, Назаравіч, памажыце як! Ну што мне з ім рабіць? Дойдзе ад гэтай гарэлкі... Гаворыш, гаворыш яму, дык як гарох ад сцяны.

— А вось праганю, дык перастане піць.

— Ой, што вы, Назаравіч! Дык за што ж? Колькі ён там п'е? Здароўе такое... А другія хіба не п'юць? Ды ён жа тады зусім сап'ецца. Я ведаю... Так хаця людзей трохі саромеецца, а тады ж... Дык вы, Назаравіч, так як-небудзь,— пачала бараніць свайго мужа Манька.— Ён жа вас баіцца, Назаравіч. Вы яму толькі строга скажыце, дык ён...

Кулагін у сенцах, а потым яшчэ і ў двары чуў, як Маня напала на Паўла, як той глуха бурчэў нешта.

Дома Кулагін распрануўся і паліто кінуў на канапу, не павесіў у парозе на вешалку, як гэта рабіў звычайна. Жонка яго, Кацярына Філатаўна, адразу ж здагадалася — муж не ў гуморы. Яна ведала, што цяпер у яго не трэба нічога распытваць, а цярпліва чакаць, пакуль сам разгаворыцца.

— І чорт ведае, дзе ён учора паспеў напіцца? — падумаў уголас Кулагін.— Разам жа з праўлення прыехалі, давёз да двара. Быў цвярозы...

— Павел знойдзе,— адразу ж здагадалася Кацярына Філатаўна, пра каго ідзе гаворка.— А ты ўжо так не бяры да сэрца, ліха з ім, з Паўлам. Цяпер, як паглядзіш, дык і няма такіх, каб не пілі.

— Каб жа ён не быў твой пляменнічак, дык... я яго даўно б... Дык ён жа, дурань, ведае гэта. Хоць стараўся б рабіць, а то ж... Па яго брыгадзе заўсёды самы большы перарасход зарплаты: ці не лічыць ці каму прыпісвае. А вазьмі бульбу: няўжо ў яго няма за што выпіць, што калгасную прадаваў?.. Мне, думаеш, гэта прыемна?

Ля двара прасігналіла «Волга».

Кулагін цяпер рэдка ездзіў па брыгадах. Не паехаў ён і сёння, пасядзеў у праўленні, падпісаў паперы, якія трэба было падпісаць, пазваніў у Гомель на завод, дзе абяцалі даць токарны станок, схадзіў у калгасную майстэрню, пацікавіўся, як там рамантуюць трактары, і заспяшаў назад у Вішнёва. «Волга» перавальвалася з боку на бок па няроўнай дарозе.

Канаў кароткі дзень. Неба зацягнулі нізкія хмары, яны павольна сунуліся над зямлёй, нібы выглядалі, куды б сыпануць снегам.

У Якімаўскі лес уехалі яшчэ завідна. Улетку на лясной дарозе змрочна нават удзень — дрэвы сплятаюцца верхавінамі, хаваюць неба. Праз іх ледзь прабівалася сонца. А цяпер тут было нязвыкла светла. А можа, ад бярэзніку, што кружыўся, мільгаў белымі камлямі.

Наперадзе ішлі двое. Ён і яна. Ён у доўгім шынялі, яна ў блакітнай куртцы з капюшонам і ў чорных боціках. Ён нёс кош з чырвонай рабінай, а яна ішла, гарэзліва памахваючы хваёвай галінкай.

— Вярэйчык са сваёй маладухай,— сказаў Кулагін.— Спыніся, падвязём.

Ліна першай ускочыла на мяккае сядзенне, крыкнула Кастусю:

— Давай кош!

— Гуляем? — павярнуўся да іх Кулагін.

— Хадзілі па рабіны,— адказала Ліна.— Будзем варэнне варыць. Заходзьце, пачастуем.

— Дзякуй,— усміхнуўся Кулагін вачыма.— Зайду. Здаецца, ніколі і не еў варэння з рабіны. Помню, некалі прынясе маці з гарышча прыпол мёрзлых ягад. Мы, дзеці, гэтак і елі іх.

Праехалі лес, хмызнякі, выскачылі ў поле, за якім і было Вішнёва. Поле чорнае, там-сям у жоўтых лапіках — гэта дзе трактарыст зазяваўся і хапіў глыбей.

— Ну, што гэта вы на работу не набіваецеся? — спытаў Кулагін.— Ці ўсё адпачываеце?

— Пакуль адпачываем,— адказаў Кастусь.

— А мы прыехалі сюды толькі на адну зіму. А потым вернемся, будзем паступаць з Кастусём у медыцынскі інстытут,— прызналася Ліна.

— А-а... Ну, вучыцеся, вучыцеся...— Кулагін закурыў і, счакаўшы, загаварыў: — Я думаў, што вам на вучобу грошы трэба, дык захочаце дзе папрацаваць.

— Кастусь жа збіраўся ісці хаты будаваць,— сказала Ліна.— Гаварыў, што нядрэнна можна зарабіць. Ды нешта...

— У нас для гэтага ёсць спецыяльная будаўнічая брыгада,— абыякава сказаў Кулагін і змоўк. І толькі калі ўехалі ў вёску, спытаў Кастуся.— А кім ты быў у арміі?

— Артылерыст.

— А званне?

— Сержант. Камсоргам яшчэ быў...

— А ўвечары вы дома будзеце?

— Будзем. У цырк не пойдзем,— засмяялася Ліна.

Калі Кастусь і Ліна вылезлі з машыны ля свайго двара, Кулагін кіўнуў шаферу:

— На балота!

## 4

Ліна перабірала рабіны і спявала нешта сабе пад нос. А потым на керагазе варыла цукровы сіроп, расчырванелася, папрыгажэла. Кастусь сядзеў тут, каля стала, не адводзіў ад яе вачэй. Ён даўно не бачыў жонку такой вясёлай, даўно не чуў яе песні...

Прыйшла Ульяна. Яна ўваткнула ў пячурку рукавіцы, зірнула на гадзіннік, не распрануўшыся, выцягнула з печы чыгун з бульбай, абхапіла яго анучай і вынесла ў сенцы. Потым вярнулася, узяла сякач, пайшла таўчы бульбу.

— Што гэта — тваёй маці дык і паабедаць некалі? — спытала Ліна.

— Хоча зрабіць усё, пакуль не сцямнела.

— Сказала б, дык і самі зрабілі б. Ці, можа, яна не давярае?

Кастусь выйшаў у сенцы.

— Давай я,— узяўся за сякач.

— Ды сама ўжо,— запярэчыла Ульяна.

— Што ты ўсё сама ды сама? Маглі ж і мы што-небудзь. Сказала б Ліне ці мне...

— Наробіцеся яшчэ, дзеткі.

— Наробімся, наробімся... Калі што трэба памагчы, то скажы.

— Нічога, сынок. Пакуль сама спраўлюся. Ну, таўчы, а я пайду ў хату. А то ж хутка Назаравіч зойдзе.

...Кулагін адразу ж у парозе пачаў распранацца. Ліна ўзяла ў яго паліто, павесіла ў шафу.

— Яшчэ ў шафу? — здзівіўся Кулагін.— Павесіла б дзе на цвічок, бліжэй да дзвярэй.

— А вы што, уцякаць збіраецеся? — смяялася Ліна.

— Ну, праходзьце, Назаравіч, праходзьце,— запрашала Ульяна.

— Толькі трошкі,— запярэчыў Кулагін, калі Кастусь хацеў наліць яму ледзь не шклянку.— Перад сном стараюся не піць, а то ўсю ноч сэрца баліць... Ну, за маладых! — выпіў ён, чарпнуў лыжкай капусты, захрумстаў.— Ну і капуста, Ульяна, у цябе! Добрая! Не інакш, як нейкі сакрэт ведаеш.

— Ды ўдалася сёлета,— сарамяжліва адказала Ульяна.

— Памятаю, Ігнат заўсёды любіў хваліцца, што яго Ульяна ўмее капусту квасіць... А ты памятаеш свайго бацьку? — спытаў у Кастуся Кулагін.

— Не вельмі... Памятаю толькі, як ён мяне на каня падсаджваў. Конь такі рыжы быў... А больш нічога.

— Адкуль жа ты помніць будзеш, калі табе было гадкі тры,— уздыхнула Ульяна. Сказала нявестцы: — Ад сухотаў памёр, небагата і пажыў пасля вайны.

— Вельмі коней любіў,— успамінаў Кулагін.— Усё жыццё каля іх і прахадзіў... Яны разам з Майсеем Вухаедам. У іх была такая дружба, што вадой не разліць... А ты, Кастусь, коней любіш?

— Малы любіў катацца. А цяпер... Ды і дзе яны, тыя коні?..

— Ох, твой бацька любіў аб'язджаць коней,— расказваў Кулагін.— Памятаю, сеў на Орліка. Агонь быў, а не конь. Дык вось сеў твой бацька на таго Орліка, а ён як ірване! Ды ў лес... У лесе ўсё ж скінуў твайго бацьку. Упаў Ігнат тады няўдала. Ударыўся, рабрыну нават зламаў... Дык ты, Ігнатаў сын, гаворыш, любіў на конях катацца? А можа і цяпер не супраць? Га? Вось вазьму ды і выдзелю табе лепшага жарабка. Хочаш? Санкі лёгкія. Пасадзіш сваю маладую. Ну, што маўчыш? — Кулагін дапіў сваю гарэлку, закусіў, а потым сур'ёзна сказаў: — Брыгадзір мне патрэбен. Тут, у Вішнёвым. Паўла рашыў прагнаць. Ты, Ігнатавіч, з арміі нядаўна, дысцыпліну не забыў. Грошы табе трэба... Дык як, Ігнатаў сын?

— Ды я ж...— пачаў быў аднеквацца Кастусь.

— А захочаш вучыцца, трымаць не буду, едзь, вучыся.

— А можа, і ёсць сэнс пайсці? — спытала Ліна.

— Бачыш, і жонка — за... Дык як?

## 5

Калі Ліна выйшла замуж, то ёй было ўсё роўна, дзе жыць, абы быць разам з мужам. Спачатку яны жылі ў Ліны, у невялічкім драўляным доміку на глухой вуліцы абласнога цэнтра. Ліна працавала на фабрыцы. У інстытут не прайшла па конкурсе. Яна кожны дзень з нецярпеннем чакала, калі скончыцца рабочы дзень, а потым спяшыла на прахадную, дзе яе ўжо сустракаў Кастусь. Пажылі яны ў горадзе пасля жаніцьбы можа з месяц. Ліна, хаця не ўяўляла, што будзе рабіць у Вішнёве, згадзілася паехаць: па-першае, яна ехала сюды з любым чалавекам, па-другое, ёй нават цікава было паглядзець, дзе нарадзіўся і вырас яе муж, нарэшце, пажыць у вёсцы, у якой яна ніколі не жыла. А калі там, у вёсцы, думала яна, будзе ўжо вельмі дрэнна, як ёй гаварылі сяброўкі, то яна ж едзе не на век, а толькі на якую зіму.

Першыя дні Ліне нават падабалася. Спачатку яе ўсё дзівіла, усё было для яе новае, нязвыклае: як Ульяна гатуе страву, як яна рана падымаецца, ледзь не сярод ночы, як яна доіць карову, здаваліся дзіўнымі людзі, іх гутарка. Але праз які тыдзень Ліне пачало надакучаць аднастайнае жыццё. І зрабілася яно зусім невыносным, калі Кастусь стаў брыгадзірам і цалюткія дні прападаў у сваёй брыгадзе. Бывае, ён з раніцы да самага вечара не заходзіў дамоў. То ў яго тэрміновая работа якая, то нейкае там праўленне, то яшчэ што-небудзь. І Ліна адчувала, што яна тут не вытрымае да вясны. Каб пайсці ў брыгаду ці на ферму, яна нават і не думала, а іншае работы проста не бачыла. Ліна была памкнулася памагаць свякрусе ў гаспадарцы, ды тая сказала ёй, каб адпачывала, маўляў, напрацавацца яшчэ паспее. І Ліна толькі тое і рабіла, што засцілала ложкі, падмятала і мыла падлогу.

Ішоў час, і Ліна ўсё больш адчувала сябе пакінутай і пакрыўджанай. Яна ўжо дадумалася да таго, што і муж яе кожны раз так позна прыходзіць дамоў, каб меней пабыць з ёю, Лінай, а можа ён ужо і зусім разлюбіў яе ды толькі прыкідваецца. Можа дзе ўпотайкі сустракаецца з Верай? Пра сваё колішняе сяброўства з ёй ён неяк расказваў. А Верка ж тут, на ферме, робіць. І нічога сабе дзяўчына. Яе часта бачыць Ліна ў акно, калі тая каля іхняй хаты бяжыць да калодзежа. І Ліна шкадавала, што выйшла за Кастуся замуж, крыўдавала на сваю маці, якая пусціла яе паехаць у вёску. Ліна так расчуліла сама сябе, што калі дадому вярнуўся Кастусь, вясёлы і радасны, ласкавы да яе, то яна сустрэла яго варожа:

— Што з табой, Ліна? — здзівіўся той.

— Не чапай! — яна адкінула яго руку.

— Ды што з табой? Цябе можа хто пакрыўдзіў?

— Ніхто.

— Можа маці?

— А ты не ведаеш? Прыкідваешся...

— Не ведаю. Мо пасварыліся?

Яна, нагнуўшы галаву, маўчала.

— Ну, чаго ты маўчыш? Раскажы,— не мог супакоіцца Кастусь.— Я ж табе, здаецца, не чужы...

— Вось іменна...— але болей гаварыць яна не магла, баялася, што расплачацца.

— Што — іменна? — замест таго, каб перастаць дапытвацца, а неяк ласкава прыгалубіць жанчыну, супакоіць, а потым пагаварыць, Кастусь пачаў злавацца.— Калі я вінаваты, дык скажы. Але, здаецца, што я нічога дрэннага не зрабіў.

— Канечне ж, ты чысценькі. Канечне ж, ты нічога не ведаеш. Аслеп. Ведаеш толькі брыгаду, а што ёсць жонка, дык, пэўна, забыўся. Бачыце, ён нічога не зрабіў! Табе толькі і засталося краты на вокнах зрабіць... У яго ні дому няма, ні жонкі.

Кастусь раззлаваўся.

— А ты што гаварыла, як ехала сюды? Што са мной паедзеш хоць на край свету. А цяпер? Які месяц пажылі, а ты ўжо раскісла? А я сілай цябе не цягнуў сюды. Я гаварыў табе, што тут не горад, што... падумай... Я ўсё табе гаварыў. А ты, маўляў, драбяза... А цяпер?..

— Дык я яшчэ і вінаватая? — абурылася Ліна.— Ну, ведаеш... Я думала, ты чалавек. А ты... Ты проста пень дубовы! Вось ты хто!..

— Дык чаго ты з пнём жывеш? — Кастусь сеў і закурыў.

— Магу і не жыць... Заставайся тут, глядзі на сваю Верку і жыві, як хочаш,— Ліна дастала з-пад ложка чамадан, пачала збіраць рэчы. Кастусь моўчкі курыў.

Ліна стала зачыняць чамадан, ды вечка ніяк не слухалася. Яна прыціснула яго каленам, але яно не паддавалася. І ёй стала крыўдна, што яна не справіцца з чамаданам, што яе не разумее Кастусь, што ён не ўгаворвае яе застацца, сядзіць і маўчыць, што ёй цяпер няма каму паскардзіцца, і яна расплакалася, як малое дзіця.

Кастусь узяў за плечы жонку, пасадзіў на ложак, прытуліў да сябе...

— Ну, хопіць. Пойдзем павячэраем, Ліна? Ты ж у мяне адна на ўсім свеце. І калі я затрымаўся па рабоце, дык я ж не вінаваты. Я цэлы дзень пра цябе думаў, спяшаўся, а ты...

Ліна супакоілася, папраўіла прычоску, усміхнулася мужу, спытала:

— Можа чаю паставім?

## 6

Дзьмуў стрэчны вецер. Ён быў слабы, як уздых стомленага чалавека, але абпальваў твар марозам. Кастусь, прыгнуўшы галаву, спяшаўся дамоў. Ён абяцаў жонцы прыйсці сёння рана, а выйшла так, што зноў затрымаўся. І цяпер Кастусь думаў, як сустрэне яго Ліна: раззлуецца ці не. У завулку наткнуўся на Паўла і Кольку.

— Куды так разагнаўся? — узяў яго за рукаў Павел.

— Дамоў.

— Паспееш да свае...— хіхікнуў Павел.— Сёння, ты ж ведаеш, што... Асаку вывезлі. Гэта падзея ці не падзея? Падзея. Колька вось запрашае да сябе, ды я адзін саромеюся. Калі ты пойдзеш, дык і я за кампанію. Пайшлі, брыгадзір, нельга ад мас адрывацца!

— Мы цябе чакалі. Праўда...— сказаў Колька.

— Ды што вы, хлопцы? Мне трэба хутчэй дамоў.

— Дарэмна толькі мерзлі, выходзіць? — адвярнуўся Павел.— Брыгадзір грэбуе намі. Мы думалі, што ён чалавек, а ён нос задраў.

— Пайшлі,— папрасіў Колька.— Мы купілі з белай галоўкай. Спецыяльна. Мы хуценька. Дзесяць мінут якіх і разбяжымся.

«Дзесяць мінут ужо нічога не зменяць»,— падумаў Кастусь. І згадзіўся. «Ды, нарэшце, хай і прывыкае. А то паддайся раз, дык...»

— Пайшло, як па масле,— пагладзіў па жываце Павел, узяў кавалачак сала, адарваў скурку і кінуў яго ў рот.— Гэта ж, як здаў свой брыгадзірскі партфель, дык першы раз п'ю. Мая жонка аж здаволеная. А яно і спакайней. Чэсна, я і не думаў, што так спакойна можна жыць. Вось толькі — што хату зацеяў... Але нічога. Колька во ніякі не брыгадзір, а ўжо другую хоча будаваць.

— Што хата? Тры цялушкі прадаў і — хата...— ап'янеламу Кольку ўсё было лёгка.

— Ды ты, Кастусь, націскай не на капусту, а на сала,— раіў Павел.— Твая краля мацней любіць будзе.

— Ды што вы ўсё — краля, краля! Якая яна краля? — абурыўся Кастусь.— Яна ў мяне з рабочай сям'і. Такая, як і мы...

— Ды хай твая жонка будзе хоць іранскай шахіняй, абы ты ад нас не адрываўся,— смяяўся Павел.

— А ты адрываешся! — грукнуў кулаком па стале Колька.

— Глупства! — крычаў Кастусь. У яго кружылася галава.

— Не, не глупства. Ты вось скажы, ты ўвесь час збіраешся быць брыгадзірам? — дапытваўся Павел.— Ці да лета? Дык чаго ж ты, гэта самае... дагаджаеш старшыні? Дзе твая самастойнасць? Ты веда-

еш, за што ён мяне прагнаў? За незалежнасць. Я, ведаеш, праўду-матку прама ў вочы. Вось які! І ты далжон сваю лінію гнуць, ад мас не адрывацца. Я табе скажу, што ў брыгадзе гаспадары мы з Колькам. Нас з Колькам няма — няма і брыгады. Хто ты без нас? Хто табе сёння асаку вазіў? А хто табе гной вазіць будзе? А ты што? Толькі і бегаеш каля старшыні.

— Ён мне памагае, падказвае, як і што, а вы...

— А што — мы? — пакасіўся на Кастуся Павел. Але Кастусь не заўважыў яго позірку.

— Што? А хто сёння смяяўся з мяне, калі я забыўся паставіць на сцірту чалавека? Так сябры робяць?

— Хе, ён ужо і надзьмууўся. Дзівак... Я ж пажартаваў. Што, нельга і пажартаваць? — разводзіў рукамі Павел.— Ты на гэта не звяртай увагі. Вось што я табе скажу, брыгадзір. Хочаш жыць, дык трымайся нас. І нам не замінай. Ты прыехаў і паехаў. А нам жыць трэба. Хаты нам трэба. Дык каб коні былі ў нас! Зразумеў? Каб коні за намі былі пастаянна.

— Што гэта — ультыматум? — спытаў Кастусь.

— Навошта ж палітыка? Мы па-сяброўску: ты за нас, мы за цябе...

Павел не дагаварыў: на парозе стаяла Люба.

— Дык што ж гэта такое? — накінулася яна на мужчын.— Не паспеў чалавек асвоіцца, а вы яго ўжо спаіць хочаце!

Колька паціхеньку пачаў вылазіць з-за стала, а за ім і Кастусь.

## 7

Ноччу выпаў снег.

І Кастусь, прачнуўшыся, адразу здагадаўся пра гэта: у вокнах неяк нязвыкла пасвятлела. Выйшаў у сад. Было ціха. Бухматы снег вісеў на яблынях, ляжаў высокімі шапкамі на кожным слупку, на кожнай штыкеціне, тоўстай коўдрай укрыў стрэхі. Ці ад гэтага вільготнага, свежага паветра ці ад учарашняй выпіўкі ў Кастуся закружылася галава. І трэба ж было так напіцца!

Ён вярнуўся ў хату. Маці ўжо завіхалася каля печы.

— Які снег! — сказаў Кастусь.

Ульяна моўчкі ўздыхнула. Лепей накрычала б: не так цяжка было б на душы. А то маўчыць... Можа, не хоча пакрыўдзіць Ліну, не хоча ўмешвацца ў іхняе жыццё. А вось — Ліна?..

Ліна была яшчэ ў ложку. Спала ці проста так ляжала? Падышоў, крануў за плячо. Нават не паварушылася. Значыць, не спіць, прыкідваецца толькі. Проста — не хоча з ім гаварыць. Ну і няхай! Добра, што хаця яна не пайшла з хаты. А то ён сам, здаецца, учора вечарам крычаў ёй, каб збірала свае манаткі і ішла прэч, бо ёй, такой святой, няма чаго жыць з п'яніцам. А яна маўчала. Хоць бы слова. А можа і маўчала, што надумалася сапраўды яго кінуць, і цяпер ляжыць ды чакае, пакуль ён пойдзе?.. Каб не ўгаворваў застацца... Кастусь не мог знайсці сваю шапку. Нарэшце, знайшоў. Яна ляжала пад сталом у самым кутку. Як яна трапіла туды?

Павел па нарад не прыйшоў. Недзе адлежваўся. Колькі таксама не было. Наогул, мала хто прыйшоў: ведалі, асабліва пільнай работы пакуль што ў брыгадзе няма. Пасядзелі, пакурылі, разышліся. Брыгадзір пабег дамоў першы.

— Я думала, і сёння сярод ночы прыйдзеш,— упікнула Ліна Кастуся, калі той пераступіў парог.— Снедаць будзеш?

— А ты? — у яго адлягло ад сэрца: нікуды не збіраецца.

— Я ўжо наелася.

Кастусь неахвотна з'еў бульбіну, запіў яе расолам, падышоў да жонкі. Ліна сядзела за сталом, рашала задачкі па геаметрыі. Палажыў руку на плячо.

— Ну, чаго крыўдуеш?

— Адкуль ты ўзяў? — нават не глянула.

— Маўчыш.

— Вучу.

— Снег выпаў.

— Дзякуй, не ведала.

— Слухай, Ліна, давай у лес паедзем. Га? Я запрагу жарэбчыка. У нас вазок ёсць на двух чалавек. Ведаеш, як цяпер у лесе прыгожа? Паедзем, Ліна? Чуеш? Паедзем?

— Можна,— абыякава згадзілася Ліна.

Кастусь, рады, што жонка згадзілася, пабег на канюшню. Майсей Вухаед памог Кастусю запрэгчы жарабка, прынёс і кінуў у санкі ахапак сена.

— Даўно я не бачыў, каб так добра зіма пачалася,— гаварыў ён, раскладваючы сена.— Мароз быў добры, зямлю скаваў. А цяпер сняжок лёг. А то летась снег выпаў, а зямля не паспела падмерзнуць, дык жыта багата дзе і папрэла. А ў гэтым годзе добра...

— Будзе ўраджай? — спытаў Кастусь, сядаючы ў санкі.

— Старайся па раллі не ехаць, а то снег яшчэ рыхлы,— крыкнуў яму ўслед Майсей.

З цялятніка насустрач Кастусю выскачыла Вера. У цёплай хустцы, у сінім доўгім халаце. Салома на плячах, на галаве.

— Пачакай, Косця! — крыкнула.

— Ну, што? — прыпыніў ён каня.

— Добры дзень, можа? — усміхнулася.— Гэта ж, бачу, пайшоў на канюшню. Глядзела, глядзела і ледзь не прагледзела. А ты чаго такі сярдзіты? Дзівак... Слухай, Косця, я табе па-сяброўску. Сябрамі, спадзяюся, мы засталіся? Навошта ты п'еш з Паўлам? Ці ведаеш, што пра цябе сёння гавораць у вёсцы?

— Ну і няхай гавораць! — буркнуў ён.

— Ты ж не такі, я ведаю...

— Усё? — рэзка спытаў Кастусь і сцебануў пугай жарабка. Той ірвануў з месца, з-пад капытоў паляцелі камякі снегу.

Пэўна, няма на свеце таго чалавека, які не зачараваўся б зімовым лесам, асабліва ў тую пару, калі снег яшчэ не асеў, калі яго не паспелі прашыць слядамі лісіцы і зайцы, не зацярушыў карой дзяцел, калі снег ляжыць чысты, некрануты.

Кастусь не падганяў каня, і той сцішыўся зусім. У лесе збочылі, спыніліся пад высокімі дубамі. Кастусь кінуў каню сена. Ліна злезла з санак, войкнула, прысела.

— Ой, ногі памлелі...

Снег правальваўся да самай зямлі. Ліна ішла за Кастусём, ступаючы ў яго сляды: так было лягчэй. Апынуліся на невялічкай палянцы каля маленькіх засыпаных снегам хваінак.

...А гады чатыры назад іх, здаецца, яшчэ не было. Тут рос толькі густы сівец. Вакол буяла чаромха, і цяжка дыхалася ад яе густога водару. У тую вясну ў Якімаўскім лесе прызначыў Кастусь спатканне Веры. У белай кашулі і добра адпрасаваных штанах, ён прыбег у лес, схаваўся ў густым арэшніку, пільна ўзіраючыся на дарогу. Прыйдзе ці не прыйдзе? Учора, як вярталіся са школы, ён аддаў ёй запіску,



напісаў, каб прыйшла ў Якімаўскі лес — трэба абавязкова пагаварыць. І яна прыйшла. Пастаяла каля лесу, агледзелася, а потым праз дарогу пачала збіраць жоўценькія кветачкі-адуванчыкі. Кастусь выйшаў з арэшніку. Вера, убачыўшы яго, узрадавалася, зусім неяк па-дзіцячаму, аж у ладкі запляскала.

— Красачкі рвеш?

— Эге ж.

Ён не ведаў, што гаварыць болей. Толькі адчуваў, што макрэюць рукі.

— Давай з табой дружыць,— нарэшце выціснуў з сябе.

— А мы і так дружым.

...Усё гэта прамільгнула цяпер у Кастусёвай памяці.

«А дарэмна я сёння так абышоўся з Верай... Яна ж хацела мне толькі дабра».

Азірнуўся. Ліна стаяла ля высокай яліны і глядзела на яе, мусіць, зачаравалася хараством. Яліна стромкай пірамідай цягнулася ўгору. На яе густых карункавых лапах віселі цэлыя падушкі снегу.

Кастусь падышоў да Ліны, абняў.

— Ды пусці ты мяне, а то губы патрэскаюцца.

— Не пушчу.

— Здурнеў зусім! — вырвалася яна з абдымкаў і адбеглася.

Ён дагнаў яе, яна штурхнула малады дубок, і на іх густа пасыпаўся снег. У Ліны з'ехала з галавы хустка, снег набіўся ў валасы, раставаў, вісеў празрыстымі дрыготкімі кроплямі. Кастусь яшчэ ніколі не адчуваў столькі пяшчоты да жонкі, як цяпер. Ён падхапіў яе на рукі і панёс.

— Хачу быць рыцарам.

— Пусці, а то зусім задыхаўся, рыцар!

Калі яны выйшлі на тое месца, дзе пакінулі каня, то ўбачылі, што на снезе чарнела толькі пацяруха ад сена.

— А дзе ж конь? — спалохалася Ліна.

— Не ведаю.— Кастусь паглядзеў, куды павялі сляды ад санак, схапіў жонку за руку.— Пайшлі хутчэй!

Конь пацягнуўся проста на канюшню. Кастусь з Лінай яго і не даганялі. Ішлі памаленьку, не спяшаліся. Ішлі і кідаліся снежкамі.

— Ну, як? — ужо каля самай вёскі спытаў Кастусь.

— Што — як? — Ліна ўважліва паглядзела на мужа.

— Павесялела?

— Хе!.. Цікава, куды ты мяне павязеш, калі яшчэ нап'ешся? Зноў у лес?

— Я больш не нап'юся.

— А ты напіся. Мне сапраўды цікава, якую ты мне забаву прыдумаеш.

— Не дачакаешся.

— Забавы?

— Што я нап'юся.

— Я так і паверыла...— засмяялася Ліна.

— Пабачыш,— у Кастуся пачынаў псавацца настрой.

— Ды што мне? Напівайся. Яно тады і весялей. Ты тады гуляеш у футбол са сваёй шапкай.

— Ну, цырку ў нас пакуль няма...

— А мне цырк і не трэба, дурненькі ты мой,— сур'ёзна сказала Ліна.— А вось калі не знойдзеш мне якой работы, то абавязкова ўцяку. Тады ніякімі забавамі мяне не ўтрымаеш.

— Чаго ж ты раней маўчала?

— А ты сам не бачыш...

— Знойдзем табе, Ліначка, які занятак. Абавязкова знойдзем,— павесялеў Кастусь.

У той жа вечар ён пайшоў да загадчыка брыгаднага клуба Івана Малька.

## 8

Іван Малёк надзеў блакітную кашулю,— два гады таму купіў ён яе ў міліцыянера,— завязаў гальштук з вялікім зашмальцаваным вузлом. Ён насіў гэты гальштук можа гадоў дзесяць, з той пары, як толькі прыехаў у вёску. Потым доўга перад люстэркам прычэсваў вусы, бародку. Вусы ў яго былі яшчэ як вусы, а вось бародка дык зусім няўдалая. Не бародка, а жменька рэдзенькага моху...

У армію Малька ў свой час не ўзялі, хаця тады, калі яго выклікалі ў ваенкамат,— а гэта было на другі тыдзень пасля вызвалення Вішнёва,— не вельмі прыдзіраліся да здароўя. Іван Малёк расказваў, што ўрач забракаваў яго, бо пасля таго, як немец ударыў чобатам па ягонай галаве, на патыліцы нібы пачала расці нейкая шышка. І расце яна нібы ў сярэдзіну, таму яе зверху і не відаць. Праўда, гэтая ўнут-

раная шышка не перашкодзіла Мальку скончыць дзесяцігодку. Пасля школы Малёк хадзіў гады два па вёсцы з альбомам. Да альбома на ніткачцы быў прывязаны аловак. Малёк маляваў хаты, калодзежныя журавы. Гаварыў, што хоча паступіць у мастацкую акадэмію. І сапраўды, ён хутка некуды знік, і яго не было ў вёсцы гады два. А потым прыехаў у белых палатняных штанах, у басаножках і з рыжай рэдзенькай бародкай, якая з таго часу большай і не вырасла. Усім паказваў даведку пра заканчэнне мастацкай студыі пры нейкім Палацы культуры. Даведку нікому ў рукі не даваў. Потым ён насіў з сабою падручнік па алгебры: захацеў раптам стаць інжынерам. У політэхнічны інстытут не пайшоў, прыехаў і ўсім заявіў, што там бяруць толькі сваіх, і то па вялікім блаце, і што ён наогул перадумаў быць інжынерам, што ў яго цяпер абудзілася цяга да творчасці, што ён ужо напісаў некалькі твораў, якія паслаў Леаніду Ляонаву. Пасля гэтай навіны ў вёсцы ўжо ніхто не сумняваўся, што ў Малька і сапраўды ёсць нейкая ўнутраная шышка ў галаве.

Калі памёрла маці, Малёк асеў у Вішнёве, рабіў у калгасе. Рабіў усё, што загадвалі. Потым яго прызначылі начным вартаўніком па вёсцы. І слава пра Малька пайшла па ўсім наваколлі. Яшчэ з вечара ён абыходзіў Вішнёва, а ўбачыўшы дзе на лавачцы закаханых, папярэджваў іх, каб былі асцярожныя з запалкамі, бо дажджоў няма, сухмень стаіць, не ўгледзіш, як і пажар ухопіцца. З чыгуначнай станцыі прыцягнуў стары вагонны буфер, падвесіў яго на таполі ля школы і кожнае ночы званіў. Каб не заводзіць у зман людзей, Малёк упрасіў Кулагіна купіць яму гадзіннік. Купілі яму сіні вялікі будзільнік. З гэтым будзільнікам у кішэні і хадзіў па вёсцы Малёк.

Калі ў Вішнёве пабудавалі клуб, дык Івана Малька прызначылі загадчыкам.

Нарэшце, прычасаўшы сваю бараду, Малёк абкруціў шыю тоўстым шалікам, надзеў паліто, узяў старэнькую скураную папку, у якой ляжалі выразкі з газет, некалькі брашур пра культработу ў вёсцы, песеннік, кнігу Станіслаўскага «Маё жыццё ў мастацтве» і выйшаў на вуліцу.

У клубе было холадна і не падмецена. Малёк падмёў падлогу, падняўшы такі пыл, што мусіў адчыніць насцеж дзверы. Расставіў услоны, а тыя, што былі з адламанымі ножкамі, зацягнуў на сцэну, за кулісы.

Вечарам сюды прыйшлі Кастусь з Лінай. Каб яны не сумавалі, Малёк уключыў радыёлу, сядзеў, мяняў пласцінкі. Індыйскую песню «Ой, мама» змяняла італьянская «Селена». Часцей за ўсё Малёк ставіў «Марыну».

— Дзе ён толькі набраў гэтых пласцінак? — здзівілася Ліна.

— Сам купляў,— пачуў яе Малёк.— Я так лічу, што для сучаснага этапу развіцця культуры, гармонік устарэў. Гэту аксіёму мне ўдалося даказаць Кулагіну, і ён адпусціў грошай на радыёлу. Праўда, у зімовы перыяд у нас танцаў амаль не бывае — мала танцораў. Школьнікам цяпер няма калі, а астатнія ці параз'язджаліся, ці пажаніліся. Тых, што засталіся ў Вішнёве, не хапае, каб забяспечыць мінімальную колькасць танцораў. Але, я вам скажу, галоўны вораг культурна-масавай работы на вёсцы — гэта тэлевізар. Нават у кіно цяпер меней ходзяць. І ваша ініцыятыва,— звярнуўся Малёк да Ліны,— я маю на ўвазе драматычны гурток — можа зрабіць круты паварот у культурным развіцці нашай вёскі. Таму я вітаю вашу ініцыятыву. Тым больш, што я сам хачу запісацца ў драматычны гурток. Праўда, у Вішнёве няма ніякіх тэатральных традыцый. Спачатку не было клуба, а потым

не было рэжысёра. Цяпер у нас усё ёсць. І як толькі збяруцца людзі, пачнем рэпетыцыю.

— Сёння яшчэ не будзем рэпетыраваць,— запярэчыла Ліна.— Пачытаем п'есу. Можа яшчэ яна і не спадабаецца...

— Разумею, разумею,— згадзіўся з ёю Малёк.— Я гэта проста сказаў вобразна.

Ніхто так у клуб і не прыйшоў. Паказаліся ў дзвярах дзве школьніцы, глянулі, што нікога няма, не зайшлі. Заглянуў Павел, пасядзеў, пакурыў у рукаво, каб не бачыў Малёк, і заспяшаўся дамоў глядзець сёмую серыю тэлефільма пра шпіёнаў.

Прыйшла Вера. Яна адразу ж, яшчэ ў дзвярах, спытала:

— Гэта тут артысты збіраюцца?

Яна была ў сваім чорным футры пад коцік, у сінім берэціку. Густа нафарбавала губы, падвяла бровы. Старалася, каб выглядаць не горш за гарадскую Ліну. І, мусіць, раскаялася, як толькі ўбачыла Ліну без усялякіх слядоў касметыкі на твары. Сумелася, прысела на ўслон, схілілася над газетай, што прынесла з сабой.

Малёк дастаў з шафы вялізны альбом, гартаў яго Кастусю і Ліне.

— Хачу зрабіць наглядную гісторыю нашай вёскі,— хваліўся ён.— Парторг гаварыў, каб я гісторыю пісаў. А я не хачу пісаць, бо не згодзен прынцыпова. Цяпер усе пішуць. І я магу пісаць, нават мастацкім тэкстам ці ў рыфму. Сядзі, пішы, што ў галаву прыйдзе. А што, не так? А я хачу праўдзівую гісторыю зрабіць, наглядную. Паглядзіш, і — усё ясна. Вось агульны раздзел. Тут здымкі тых, што загінулі на вайне. Ёсць яшчэ раздзел пра самых добрых людзей з нашай вёскі і самых вясёлых...

Разглядаючы фотаздымкі, яны і не заўважылі, як пайшла дамоў Вера. Больш ніхто ў клуб не прыходзіў.

— Вось і правялі рэпетыцыю,— усміхнулася Ліна.

— Дзевяць афіш па вёсцы развесіў,— здзівіўся Малёк.— Няўжо ніхто іх не чытаў?

— Я многім сам гаварыў,— разводзіў рукамі Кастусь.— Вы праўду гаварылі, што сядзяць ля тэлевізараў ды глядзяць спектаклі.

— Мусіць,— задумаўся Малёк, пачэсваючы сваю рэдзенькую бародку.— Я вось што зраблю, сябры. Напішу на імя праўлення калгаса дакладную аб тым, як тэлевізар перашкаджае развіццю мастацкай самадзейнасці. А што? Хай меры прымаюць.

## 9

Чарга была доўгая, хвост яе выцягнуўся праз увесь калідор да самых дзвярэй. Кастусь стаў апошні, дастаў газету і пачаў праглядаць. Выйшаў са свайго кабінета Кулагін. Ён быў у паліто, у шапцы, ссунутай на патыліцу.

— А ты чаго стаіш тут? — падышоў да Кастуся.— Ідзі ў касу. Брыгадзіраў адпускаюць без чаргі. Разлічышся, зойдзеш да мяне.

Кабінет старшыні быў невялікі, пусты і няўтульны. Ля акна стаяў невялічкі столік, на ім тэлефон і каляндар. На сцяне віселі тэрмометр, барометр і яшчэ нейкія прылады, якіх не ведаў Кастусь. Кулагін сядзеў збоку каля століка, нібы наведвальнік, і нешта падлічваў на паперцы. Да ніжняй губы прыліпла патухлая папяроса.

— Ты на кані? Добра. Зараз заедзем у магазін, захопіш тэлевізар. На ферму завязеш...

Кулагін папраівіў шапку, прапусціў у дзвярах Кастуся, але раптам вярнуўся назад.

— Тут пісьмо мне прыслалі з абласной газеты. Пачытай.

Пісьмо было напісана на лістку са школьнага сшытка:

*«Дарагая рэдакцыя! Я часта чытаю вашу газету. Вы правільна крытыкуеце нашы недахопы. Я, як кроўны калгаснік, хачу паведаміць вам яшчэ адзін факт. У нашай вёсцы Вішнёва старшыня калгаса Кулагін прызначыў новага брыгадзіра Вярэйчыка Кастуся Ігнатавіча. Ён нядаўна з арміі прыйшоў. Слёзы набягаюць на вочы, як бачыш гэта безабразіе. З першых дзён свайго кіравання брыгадзір адарваўся ад мас і ўсё робіць, што яму скажа старшыня. Акрамя гэтага, ён яшчэ п'е. А потым ходзіць па вёсцы і спявае забароненыя песні, бо гэтыя песні ніколі не перадаюць па тэлевізары. Пра камыш ды пра агурочкі, што над ракой нізка растуць. І яшчэ адзін факт пра дармаеда ў нашым грамадстве, дзе хто не працуе, той не есць. Вярэйчык прывёз з арміі жонку, дык яна не працуе нідзе. Сядзіць дома, як тая іранская шахіня. Таму Кастусь Вярэйчык не саатветствуе такой высокай должнасці, як калгасны брыгадзір. У Вішнёве ёсць і лепшыя людзі, ды іх старшыня не хоча, бо яны прама ў вочы рэжуць праўду-матку, а ён не любіць гэтага. Просім выслаць вашага карэспандэнта для праверкі фактаў. Калгаснікі вёскі Вішнёва».*

— Што цяпер будзе? — спытаўся Кастусь.

— Што? — узяў Кулагін пісьмо і кінуў яго ў шуфлядку стала.— Бачыў? Вось і ўсё. Болей нічога і не будзе. Я думаю, здагадаўся, хто пісаў? Дык вось — каб не піў разам. Я для гэтага і даў табе пачытаць.

— Дык ён жа са мной сам! Нават запрашаў...

— Толькі не апраўдвайся,— перапыніў яго Кулагін.— Не трэба. Ты разумны чалавек, спадзяюся, зробіш з усяго гэтага вывады. Усё. Больш пра пісьмо гаварыць не будзем. Паехалі!

...Яны не пайшлі ў магазін з вуліцы, а зайшлі праз дзверы з двара. Адчыніла невысокая, з дробным тварам жанчына. Яна здалася тоўстай і няўклюднай, можа ад таго, што была ў ватоўцы, цёплай хустцы і ў вялікіх валёнках.

— Холадна ў вас,— пацісну́ў жанчыне руку Кулагін і, усеўшыся на скрынку каля стала, кіўнуў Кастусю, каб і той не стаяў. Кастусь сеў, агледзеўся. Ля сцен ледзь не да столі грувасціліся скрыні, ляжалі мяхі з мукой, ля дзвярэй стаялі пустыя бочкі з-пад селядцоў.

— Ну што, Карпаўна, прывезла сёння? — спытаў старшыня.

— А што вас цікавіць? Ёсць кашулі мужчынскія нейлонавыя, жаночыя трыкатажныя касцюмы англійскія. Было тры. Адзін сабе ўзяла. Прыгожыя касцюмы. Я зараз пакажу...

Кастусю асабліва спадабаўся адзін — мяккі, тоўсты, чыстага жоўтага колеру. Такой абнове Ліна яшчэ як будзе рада!

— Жоўты, значыцца, майму брыгадзіру,— сказаў Кулагін.— А той хай паляжыць. Забыўся, які размер мая нявестка носіць. Спытаю ў старой, потым, можа, вазьму. А гэтыя, як іх, шпількі прывезлі? Вазьму. Можа і брыгадзір сваёй возьме? А, Ігнатавіч? Парадуй маладую.

Кастусь купіў жонцы касцюм, туфлі-шпількі, сабе белую ў палоску кашулю нейлонавую. Кашулю ён не вельмі хацеў, ды старшыня настояў:

— У кожнага майго брыгадзіра ёсць такая кашуля. І не адна.

— Калі што табе трэба, Ігнатавіч, не саромейся, гавары мне, усё раздабудзем,— сказаў Кулагін на развітанне і заспяшаўся да свае машыны, якая чакала яго ўжо каля магазіна.

Кастусь выйшаў следам, але ўспомніў, што трэба купіць якіх селядцоў. Ля самых дзвярэй у магазін, на скрынках з цвікамі, сядзеў Павел і яшчэ нейкія незнаёмыя Кастусю мужчыны. Перад імі на газеце ляжалі галовы ад кількі, скарынкі ад хлеба.

— Брыгадзір, ідзі пасядзі з масамі!— паклікаў Павел.— Ці, можа, зазнаўся?.. Ну, а дамоў мяне падвязеш?

— Падвязу, калі не будзеш абы-што плявузгаць.

— Маўчу-маўчу.

— Ідзі тэлевізар памажы вынесці.

...Сонца апускалася ў расчырванелыя касматыя воблакі, што засланялі небасхіл. Хутка яно схавалася зусім, але яшчэ доўга трымцела на захадзе вузкая малінавая палоска. Сіні змрок разліваўся ў прасторы. А калі праязджалі Якімаўскі лес, дык і зусім было цёмна. У небе гарэлі рэдкія зоркі. Снег скрыпеў пад палазамі. Конь бег няшпарка, але яго Кастусь і не падганяў, каб не выкінуўся дзе на выбоіне з санак тэлевізар.

Павел разлёгся, уткнуўся тварам у сена, маўчаў. Кастусю таксама не вельмі хацелася гаварыць. Тое, што ён адчуваў да Паўла цяпер, пасля яго пісьма ў рэдакцыю, нельга было назваць не толькі злосцю, нават непрыязню. Гэта хутчэй за ўсё — абыякавасць. Самая звычайная абыякавасць. Павел не злез у вёсцы, паехаў на ферму, хаця яму туды і не трэба было. Занеслі ў пакой адпачынку тэлевізар і, распрэгшы каня, пайшлі дамоў.

— Дык, можа, замочым тэлевізар, а то рассохнецца? — засмяяўся Павел.— Ну, што ты маўчыш? Маю такі-сякі рубель. А мала будзе, знойдзем яшчэ.

— Не пайду, Павел.

— Чаму гэта? То хадзіў заўсёды, а то раптам...

— Не п'ю.

— Хе! У манастыр збіраешся, ці што?

— З табой не буду. Вось так.

У кароўніках было цёмна, і толькі ў цялятніку ва ўсіх вокнах зырка гарэла святло.

— Зойдзем. Можа святло забыліся выключыць? — сказаў Павел.

Па праходзе паміж станкоў Вера несла бярэмя саломы. Убачыўшы мужчын, закрычала на іх, каб зачынілі дзверы, не напускалі холаду. Вера перакінула салому цераз перагародку, перагнулася, каб яе там разраўняць.

— Жадаю поспеху, брыгадзір! — хіхікнуў у самае вуха Павел і выйшаў хуценька з цялятніка.

Кастусь разгубіўся, стаяў і не ведаў, што сказаць. Ды Вера сама выручыла яго.

— Ледзь управілася сёння,— падышла да яго, папраўляючы хустку.— Мая напарніца захварэла, дык я адна. А пакуль усіх цялят напаіла ды падаслала...

— І даўно яна захварэла?

— Пазаўчора яшчэ. У бальніцу завезлі.

— А чаго ж ты маўчыш? Знайшлі б каго.

— Дык ты ж не любіш, калі цябе сустракаю.

— Калі па справе, дык нічога.

— Дзякуй,— засмяялася Вера.— Калі нядоўга будзе хварэць, можа і сама ўпраўлюся.

— Дык скажаш потым. Добра?

— Пачакай. Я прынясу саломы, пойдзем разам. Тут мне толькі што прынеслі бычка рабенькага. Такі мярзляк. Дрыжыць увесь. Ідзі паглядзі.

— Не, я пайду, мне хутчэй трэба...

Вера маўчала, Кастусь выйшаў за дзверы, спыніўся, хацеў быў вярнуцца, але не вярнуўся, не асмеліўся. Толькі пастаяў трохі, а потым заспяшаўся ў вёску. Ішоў і ненавідзеў сябе за тое, што такі баязлівец, што спалохаўся нейкага пісакі. Нават не пачакаў Веру, а ёй можа і боязна будзе ісці дамоў так позна...

Ліна нават не глянула на абновы.

— Ды што з табой? Якая зноў цябе муха ўкусіла? — раззлаваўся Кастусь.

— Куды я ўсё гэта буду адзяваць?

— Адзень і хадзі па хаце,— усміхнуўся Кастусь.

— Толькі грошы змарнаваў. Лепей на кніжку паклаў бы...

— Заробім яшчэ,— Кастусь баяўся, што зараз пачнецца сварка.

— Ды якія цяпер грошы? Не грошы, а вада,— умяшалася Ульяна, каб неяк адвесці бяду.

— А вы заўсёды абараняеце яго. Канечне ж, родненькі сыночак. Што ні зробіць, дык усё добра...

Ульяна махнула рукой і выйшла, каб, мусіць, не ўмешвацца ў сварку, каб не быць вінаватаю.

— Калі ж ты мяне выпусціш з-пад гэтага замка? — спыталася Ліна ў мужа.

— Што ты мелеш? — накінуўся Кастусь на жонку ледзь не з кулакамі.— Што ты прыкідваешся, нібы ўчора нарадзілася! Ты ж ведаеш, што фабрыкі тут няма, а цялятніцай ты ж не пойдзеш, у цябе ж пальчыкі з манікюрчыкам, можа...

— А адкуль ты ўзяў, што не пайду? Ты ж ніколі не спытаў пра гэта,— паспакайнела Ліна.

— А то пойдзеш? — ён здзіўлена і ў той жа час з затоенай радасцю глянуў на жонку.

— А то не...

— Ліначка! Дай я цябе пацалую,— абхапіў ён яе.— Я ж ніколі яшчэ не цалаваў цялятніцу.

І яны, вясёлыя, пайшлі вячэраць.

Ліна прапрацавала ў цялятніку два тыдні, а на трэці сказала мужу:

— Я болей не пайду туды.

— Вярнулася з бальніцы тая?

— Не.

Кастусь насцярожыўся: ці не нагаварыла ёй чаго Вера?

— Проста — нецікава...— адвярнулася Ліна.— Першы дзень яшчэ было нічога, а потым... Учора ледзь дабыла да вечара. Проста дзіва, як Вера не ўцякае адтуль. Кожны дзень адно і тое ж, адно і тое ж... Насі пойла, падграбай за цялятамі, насі салому. Лепш дома ўжо сядзець. Канечне, калі ты нікога не знойдзеш, то я пахаджу трохі...

— Знайду каго-небудзь,— задумліва сказаў Кастусь.

— Ды ты, Косця, не бойся. Не ўцяку. Паразімуем,— засмяялася Ліна.— Не так далёка ўжо і да вясны...

## ВЯСНА

### 1

Кастусь кожны дзень вельмі рана прыходзіў на нараду, стараўся правесці яе хутчэй і спяшаўся дамоў снедаць. І кожны дзень са страхам чакаў, што Ліна загаворыць пра ад'езд. Яна ж пакуль маўчала. Кастусь стараўся ўсё рабіць так, каб Ліна не сумавала. Яны звычайна разам ці чыталі, ці рашалі задачы, ці хадзілі ў поле... Іншы раз здавалася, што Ліна так прывыкла жыць у вёсцы, што і не збіраецца нікуды ехаць. Але Кастусь ведаў, што яна не гаворыць пра гэта, бо верыць яму. Яно так і было. Ліна ўжо жыла адчуваннем радасці вяртан-

ня дамоў. Кожны дзень перасушвала адзенне, мыла, прасавала. А Кастусю якраз цяпер і не выпадала ад'язджаць: распачыналіся палявыя работы. У яго наконт гэтых работ былі свае меркаванні і планы. Яму нават здавалася, што без яго ў брыгадзе не справяцца, ва ўсякім выпадку, усё будзе не так, як трэба. І Кастусь ледзь не кожны дзень збіраўся пагаварыць з жонкай, каб не спяшацца з ад'ездам, але ўсё не адважваўся. Баяўся, што яна раптам не пагодзіцца з ім і ён не зможа яе пераканаць. І ён маўчаў, але стараўся, нягледзячы на тое, што ў брыгадзе прыбавілася работы, больш быць дома...

У гэты дзень ён і зусім не пайшоў на ранішнюю нараду.

— Можа звольніўся, што не ідзеш сёння на работу? — спытала Ліна за снеданнем.

— Не,— адказаў Кастусь.— Я адмяніў ранішнія нарады. Навошта хадзіць кожную раніцу і загадваць адно і тое ж. Цяпер я інакш буду рабіць. Вось я загадаў Паўлу падвозіць на поле ўгнаенне. Ён і будзе падвозіць яго, пакуль усё жыта не падкорміць. І жанчыны будуць хадзіць на поле, пакуль усё не зробяць. Такім чынам, людзі не трацяць часу на ранішнія нарады, раней могуць выехаць у поле, і я магу дома сядзець і спакойна піць чай. І табе не так сумна. Можа не ўцячэш ад мяне, пакуль не адсеемся,— засмяяўся Кастусь, але, убачыўшы, як спахмурнела жонка, сказаў: — Вось я і хачу, Лінaчка, з табой параіцца...

— А што табе раіцца, калі ты сам усё вырашыў,— яна не падняла вачэй.

Кастусь загаварыў больш спакойна і добразычліва.

— Я нічога не вырашыў. І калі ты супроць, то...— ён замаўчаў, чакаючы, што Ліна скажа цяпер, але яна нешта разглядала ў сваёй шклянцы.— Давай, Ліна, пажывем, пакуль скончыцца пасяўная. Калі хочаш чэсна, дык мне проста сорамна пакідаць брыгаду ў такую адказную пару. Застаўся які месяц... У маі ў нас заўсёды цёпла...

Ульяна, якая заграбала ў печы вуголле, перастала шоргаць качаргой, слухала, што скажа Ліна.

— Можна будзе і пазагараць,— нехаця ўсміхнулася Ліна, паглядзела ўважліва на мужа і нечакана спытала: — Ну, дамогся свайго? Давольны?

Кастусь, каб не выдаць свае радасці, прыкінуўся, што добра не пачуў яе, пацягнуўся да чайніка:

— Нешта і п'ецца сёння...

— І адкуль у цябе такі апетыт раптам на ваду? — шчыра ўжо спытала Ліна.

У сенцах нехта загрукаў клямкай. Ульяна адчыніла дзверы — у хату зайшоў Кулагін. Ён усё яшчэ быў у сваім кароткім паліто на аўчыне, але ўжо ў капелюшы, ссунутым на патыліцу.

— Сёння дык і горача,— расшпіліў ён паліто.— Вясна. Было холадна, холадна, і раптам — так прыгрэла...

— А вы распранайцеся, распранайцеся,— завіхалася каля яго Ульяна.— Пасядзіце ў нас, паснедаеце.

— Садзіцеся, праўда,— паднялася і Ліна, дастала шклянку.— Я ж некалі абяцала пачаставаць вас рабінавым варэннем. Садзіцеся, калі ласка.

— Прыпазнілася вясна сёлета,— сказаў ужо за сталом Кулагін.— Ці ўправімся з сяўбою. Мала часу. Зусім мала... А гэта ж я пайшоў на нараду, а там нікога. Сядзеў, сядзеў... Павел запрагаў каня, дык сказаў, што дарэмна чакаю...

— А што? — насцярожыўся Кастусь.

— Ды я нічога. Але мне трэба было сказаць пра сваё рашэнне. А то Павел смяецца, што брыгадзір старшыню не прызнае.

— Ну, як варэнне? — перабіла Ліна Кулагіна.

— А нічога сабе. Я думаў, што горкае будзе, але ж нічога. Смачнае.

— Бярыце яшчэ, Назаравіч, бярыце,— не адставала ад госця Ліна.— Вам яшчэ чаю?

— Дзякуй, дзякуй,— прыкрыў сваю шклянку далоняй Кулагін.— Здаецца, Ігнатавіч, ты нядрэнна прыдумаў з гэтымі нарадамі. Я разважаў, калі да цябе ішоў. Разумна. Гэта правільна. Каб людзі большую адказнасць адчувалі. І свядомасць выхоўваецца. Але ёсць такія, што прывыклі, каб іх кожны дзень паганялі. Так што, Ігнатавіч, пільнасць і пільнасць. А то хто-небудзь і забудзе, што яму рабіць...

## 2

Кастусь ехаў з калгаснай канторы. І хаця ён, як і звычайна, спяшаўся дамоў, у Якімаўскім лесе злез з каня, прывязаў яго да бярэзіны, а сам пайшоў пахадзіць, палюбавацца вясновым лесам.

Гонкія сосны цягнуліся ў неба жаўтлява-зялёнымі верхавінамі. На чорных дубах трымцела ад ветрыку леташняе лісце. На зламанай бярозавай галінцы слязой набягаў сок. Недзе тоненька ціўкала сініца.

Кругом на зямлі зелянеў бруснічнік. Ці ён і перазімаваў зялёным? Праз леташні бляклы сівец прабівалася кволымі іголкамі маладая трава. Пад голымі яшчэ асінамі густа ляжала леташняе лісце. Прыляцела аднекуль пчала. Села на скручаны сухі ліст. Ліст перавярнуўся. Пчала паднялася і прапала з вачэй. У ямках стаяла вада, яна настоена, як чай. У вадзе адбівалася неба з рэдкімі кучаравымі воблачкамі.

Пасля лясной прахалоды ў полі было аж парна. Кастусь не падганяў каня, ехаў паволі, слухаў жаўрукоў, устрывожаных кнігавак. Успаміналася дзяцінства, успаміналася, як з сябрукамі хадзіў па гразкай раллі шукаць гнёзды кнігавак. Эх, злезці б з каня ды пахадзіць цяпер па цёплым ворыве! Над узгоркам трымцела мроіва. Вішнёва, здавалася, паднялося над зямлёй і плыло.

Ля Паўлавага двара стаялі калёсы. Кастусь пад'ехаў. Павел з жонкай насілі ў двор цяжкія мяшкі. Маня памагала мужу браць іх на плечы, а ён адносіў у сенцы.

— Што, угнаенне ўсё пераваізіў? — спытаў Кастусь, не павітаўшыся.

— А-а, брыгадзір... Дзень добры!

— Ці ўсё ўгнаенне перавёз, пытаюся?..

— Учора цэлы дзень вазіў. А на сёння ты не загадваў, дык падумаў, што не трэба. Паехаў у сельпо ды цэмент сабе вось прывёз. Падмурак думаю заліваць. Ды што ты на кані сядзіш, злазь, пасядзім ды пагаворым, як людзі.

— Ты не ведаў, што і сёння табе трэба падвозіць угнаенне?!.

— Што ты заладзіў — не ведаў, не ведаў,— хіхікнуў Павел.— Злазь, дык пасядзім, пакурым. А ты, Маня, падрыхтуй нам чаго закусіць.

Кастусь злез з каня, сеў на лавачку побач з Паўлам.

— Ведаеш, не чакаў, што ты першы парушыш дысцыпліну.

— Цэмент трэба ж прывезці...

— А што людзі гаварыць будуць?

— Людзі заўсёды гавораць. На тое і людзі.

— Ты гэта кінь. Тут усе бачылі, што сабе цэмент прывозіў. Падумаюць, што так можна ўсім.

— Ідземце ж, мужчынкі, абедаць,— выйшла Маня.

— Кінь ты, Косця. А то яшчэ і палітыку мне прышыеш. Дробязі ўсё гэта. Да цябе ўсе самі вазілі, што трэба, і пасля цябе будзем вазіць. Але што многа гаварыць... Пайшлі па чарцы вып'ем.

— Дзякуй, паабедаю ўжо дома,— адмовіўся Кастусь. На каня не садзіўся, павёў у повадзе.

Ліна ў адным купальніку, павесіўшы на нос чорныя акуляры, сядзела на табурэтцы ў двары і чытала. Было зацішна, і сонца даволі моцна прыпякала.

— Паглядзі, я загарэла? — падхапілася яна, убачыўшы Кастуся.— Так добра грэе! А ты чаго нахмурыўся?

— Ды нічога,— ён прысеў на калодку, на якой звычайна секлі дровы, разуўся, падставіў ногі, каб грэла сонца.

— Не разумею цябе, Косця. Ты так перажываеш за ўсё, нібы збіраешся заўсёды тут жыць. Ты паглядзі на сябе, як схуднеў. Ну, якая карысць з гэтае работы?

І ўся злосць, што была ў яго на Паўла, цяпер паднялася на жонку. Але ён змоўчаў, пасядзеў, а потым спытаў:

— Можа, абедаць будзем?

## 3

Больш за ўсё Кастусь баяўся, што на сход не прыйдзе Павел. Бо яшчэ днём ён сказаў, што «брыгадзір збірае людзей на гаварыльню». А цяпер, маўляў, трэба сеяць хутчэй, а не «антымоніі разводзіць». Але як толькі Іван Малёк адчыніў клуб, Павел прыйшоў туды першы.

— Калі збяруцца ўсе,— загаварыўшы яшчэ здалёк, да Кастуся падбег Іван Малёк. І па тым, як ён падбег, як у яго блішчалі вочы, Кастусь здагадаўся: загадчыка клуба апанавала нейкая новая ідэя.— Калі збяруцца ўсе, я прашу, каб вы далі мне слова. Хачу праінфармаваць народ. Нядаўна я вычытаў у адным спецыфічна навуковым часопісе, што звычайнае срэбра вельмі карысна для чалавечага арганізма. Вы ведаеце, чаму святая вада не псуецца? Сакрэт вельмі просты. Поп боўтаецца ў вадзе срэбным крыжам, а ад крыжа адлятаюць іёны, якія і забіваюць усялякія мікробы... Вось чаму раней паны ды цары елі срэбнымі лыжкамі. І ў іх ніколі не балелі жываты. І я прыйшоў да думкі, што калі мы забяспечыць срэбнымі лыжкамі ўсіх не можам, то трэба ў нашы калодзежы насыпаць срэбных манет... Я пачаў ужо збіраць срэбныя манеты. Сем штук ёсць... Дык вось, калі абмеркаваць гэтае пытанне на сходзе. Майце на ўвазе, таварыш Вярэйчык, што гэта вельмі важнае пытанне, пытанне здароўя насельніцтва. Праўда, Павел смяяўся з мяне, калі я расказаў пра гэта, але яму можна і дараваць.

— Правільна, Іван Арцёмавіч, гэтае пытанне надзвычай важнае,— задумаўся Кастусь.— Гэта сапраўды дзяржаўнай важнасці пытанне. І яго трэба абмеркаваць сур'ёзна, вельмі сур'ёзна, а не абы-як. І для яго абмеркавання трэба добра падрыхтавацца, каб гаворка прайшла сапраўды на навуковым узроўні. А мы да такой гаворкі не гатовы. Гэта — па-першае. А, па-другое, у нас сход сёння пра дысцыпліну. Так што трэба перанесці гэтае пытанне на наступны раз.

— Вось з вамі, Ігнатавіч, я згодны. Я рад, што вы сур'ёзна падышлі да мае прапановы,— сказаў Іван Малёк і пайшоў на сцэну расстаўляць крэслы для прэзідыума.

— Слухай, Ігнатавіч,— засмяяўся Павел.— Ты абмяркуй адзін, ды і разыдземся. З вопыту ведаю, што ніхто не прыйдзе. Людзі паадвыкалі ад сходаў.

Але на сход сабралася столькі людзей, што не было дзе сесці. Ці ўсіх цікавіла тое, што будуць абмяркоўваць былога брыгадзіра, ці, можа, думалі, што гаворка пойдзе сапраўды пра планы. Хутчэй за ўсё, яно так і было. Бо калі Кастусь расказаў пра ўчынак Паўла, то мала хто і слухаў. Не слухаў і сам Павел: нешта гаварыў кабетам, і тыя смяяліся.

— Ну, таварышы, папрашу выступаць,— Кастусь глянуў у залу.

Усе апусцілі вочы.

Кастусь убачыў толькі адны — Верыны. Відаць было, што яна спачувала яму, перажывала за яго. І гэтая сцішанасць у зале, і гэтае спачуванне Веры яшчэ больш раздражнялі Кастуся.

— Што, будзем цэлы вечар маўчаць? — ужо са злосцю спытаўся Кастусь.

— Выступі, а потым ты паедзеш, а ён зноў камандаваць будзе, дык і каня не дасць,— крыкнула некая жанчына з задняга раду.

— Што наконт каня, то мы і яму не дадзім...— неяк рашэнне прыйшло адразу і нечакана.— Ну, калі вы не хочаце выступаць, дык у мяне ёсць такая прапанова. За парушэнне дысцыпліны пазбавіць Паўла Кіёчка права працаваць з канём да канца года.

Кастусь разумеў, што такое пакаранне залішне жорсткае, ды яму, брыгадзіру, не лёгка будзе і абысціся без Паўла: не вельмі многа мужчын у брыгадзе. Але ў такой сітуацыі іншага выйсця няма. Каб хаця людзі выступілі ды асудзілі, а то ж маўчаць. Дык хай ведаюць, што і на Паўла ёсць улада і што ў брыгадзе ніякай літасці самавольнікам не будзе.

— Хто супраць мае прапановы, прашу падняць рукі.

Кастусь гэта зрабіў знарок, бо баяўся, што ніхто не прагаласаваў бы за тое, каб пакараць Паўла.

Усе прыгнуліся. Ніхто не паднімаў рукі.

— Ого! — крыкнуў Павел. У голасе яго была пагроза.

— Ну, на сёння ўсё,— сказаў Кастусь.

— А планы? — данеслася з залы.

Хоць Кастусь і аб'явіў, што на сходзе скажа пра планы, але ведаў, што цяпер гаварыць пра іх няма ніякага сэнсу. Не было Кулагіна: ён чамусьці не прыехаў.

— На сёння ўсё,— паўтарыў брыгадзір.

У зале загудзелі. Крычалі ўсе. Кастусь не ведаў, што рабіць. Вера паглядвала на яго і неяк хітра ўсміхалася.

Раптам у дзвярах Кастусь заўважыў жонку. Яна, відаць, і раней стаяла ў калідоры, а калі ўзняўся гоман, зазірнула ў залу. Кастусь гаварыў Ліне пра сход, хацеў, каб прыйшла, але яна адмовілася тады, сказала, што будзе спаць. Але не ўседзела дома. Перад жонкаю Кастусю хацелася быць рашучым і самастойным, а галоўнае, паказаць ёй, як многа залежыць ад яго. І Кастусь падняў руку, просячы, каб у зале сціхлі.

— Можам пагаварыць і аб прысядзібных участках,— пачаў ён.— Я многа пра іх чуў, сам распытваў, як робяць з імі ў другіх калгасах. У Залессі хочуць людзі, каб ім кожны год давалі новыя ўчасткі, бо бульба, кажуць, кепска родзіць на адным месцы.

Узняўся гармідар. Гаварылі ўсе разам. Кастусь доўга стукаў алоўкам па графіне, пакуль крыху супакоіў людзей:

— Таварышы, давайце па парадку!..

Першай да стала праціснулася Куліна. Маладжавая круглатварая жанчына, у доўгай плюшавай жакетцы і квяцістай капронавай касынцы.

— Дык я так скажу,— пачала яна.— У тых калгасах просяць мяняць планы, дзе сена хапае. Мая кума жыве ў Бярозаўцы. Дык там, канешне... Там сена колькі хочаш. Людзі вясной прадаюць. Вядома, лугі такія... На планах там спрадвек толькі бульбу і садзяць. А мы ж усё канюшыну сеялі. А цяпер не пасееш: мяняюць кожны год планы. І даюць жа іх за тры вярсты ад вёскі. Хадзі за блізкі свет бульбу палоць. І дома дагледзь усё, і ў калгас ідзі ды яшчэ бяжы на тую бульбу. А калі планок пры хаце, дык, як вольная мінутка, выскачыў і вырваў тую траву...

Гаварылі і іншыя, але пра тое ж самае, што і Куліна. І вось наперад выйшаў Майсей Вухаед.

— Я вам скажу так,— пачаў ён разважліва.— Палітычна будзе больш правільна, калі планы пакінуць каля хат, як і было раней. Назаравіч нам планы абрэзаў, бо тады была кукурузная кампанія, пад кукурузу, як культуру палітычную, трэба былі лепшыя землі. Угноеныя, дагледжаныя. Ну, трэба дык трэба. А цяпер? Другі год на нашых планах авёс сеюць. Навошта? Дык вось... Няхай нам зноў планыададуць: хоць добра іх угноім. Будзе раптам якая кампанія, дык і ёсць зямелька гатовенькая. Бяры выконвай дырэктыву, уцякай з кансерватараў. Трэба планы пакінуць пры хатах, пакуль іх не засеялі.

Кастусь разумеў, што ніяк нельга абмежавацца адным толькі абмеркаваннем, але і без Кулагіна прымаць якое-небудзь рашэнне таксама не было сэнсу... А чаму? А можа Кулагін і не будзе супраць? А калі сход прыме рашэнне, што тады зробіць старшыня? І Кастусь адважыўся:

— Хто за тое, каб планы нарэзаць каля хат, прашу галасаваць.

...Усе паразыходзіліся.

Кастусь памог Івану Мальку расставіць услоны, пазачыняць вокны, якія паадкрывалі, каб не было так горача ў клубе. Ліна ўзяла са стала графін і папырскала падлогу вадой, каб крыху асеў пыл. А потым яны развіталіся з загадчыкам клуба, які нешта доўга не мог замкнуць дзверы, і пайшлі. Ліна маўчала. Кастусь быў такі стомлены, што яму таксама не хацелася гаварыць. Наперадзе чуўся дзявочы смех, мігалі агеньчыкі папярос. Кастусь пасля тлумнай духаты з асалодай дыхаў свежым паветрам. Па другі бок вуліцы ішлі жанчыны і, чуваць было, гаварылі пра Кастуся.

— Удалы хлопец.

— Смелы.

— Смелы, бо не збіраецца тут жыць. Хутка ж паедзе.

— Шкада.

— Ён можа і застаўся б, каб не яго маладзіца.

— Кажа, што і сам хоча вучыцца.

— А хай нам планы дасць ды і едзе.

Ці ад таго, што пра яго гаварылі, ці ад таго, што побач з ім ішла Ліна, Кастусь не столькі зразумеў, колькі адчуў, што быў бы сапраўды шчаслівы, каб назаўсёды застаўся ў Вішнёве.

## 4

Кулагін прыехаў дамоў позна. У клубе ўжо нікога не было. Дома ён распрануўся, папрасіў цёплай вады. Кацярына Філатаўна выцягну-

ла з печы вялікі чыгун і наліла вады ў тазік. Кулагін разуўся, усунуў ногі ў таз і спытаўся ў жонкі:

— Ты была на сходзе?

— Была ж... Паўлу забаранілі працаваць на кані да канца года.

— Крута, але ў прынцыпе правільна.

— І пра планы гаварылі...

У гэты момант нехта затупаў у сенцах. Кацярына Філатаўна сціхла і прыслухалася. У хату ўвайшоў Павел. Ён стаяў моўчкі, угнуўшы галаву, жмурыў вочы, нібы прывыкаў да зыркага святла.

— Добры вечар вам, Назаравіч, і вам, цётка. Як добра, што ты, Назаравіч, дома. Я прыйшоў да цябе, Назаравіч... Як да роднага бацькі прыйшоў. Ты не вячэраў яшчэ, Назаравіч? Вось добра... У мяне якраз і бутэлечка ёсць,— Павел паставіў на стол паўлітэрку.— Пагаварыць трэба...

— Прыходзь, Павел, цвярозы, тады і пагаворым,— сказаў Кулагін.

— Ты мяне не крыўдзі, Назаравіч. Я не п'яны. Я ад крыўды такі. Мне плакаць хочацца, Назаравіч. Мяне сёння вельмі пакрыўдзілі, Назаравіч. Гэты смаркач ужо не дае мне каня. Толькі за тое, што прывёз мяшок цэменту. Гэта спецыяльна ён так робіць. Сёння ён пада мною капае яму, а заўтра, глядзі, і пад табою пачне... Ён жа і на сход цябе спецыяльна не запрасіў. А пра планы што? Супраць жа праўлення ідзе. Супраць твайго аўтарытэту, Назаравіч. Я, можа, рабіў часам не так, але я заўсёды паважаў цябе і слухаўся. А гэты смаркач... Ды ліха з ім! Ён сам сабе галаву скруціць. Цётка, падай нам шклянкі ды закусіць што, раздзелім гэтыя слёзы...

Кулагін падхапіўся, падбег да дзвярэй, пакідаючы на падлозе мокрыя сляды, штурхнуў нагою дзверы:

— Вон!

— Што вы, Назаравіч? Я ж з чыстым сэрцам...

— Вон!

— Значыцца, так? Дарэмна вы так з масамі...— Павел схапіў сваю паўлітэрку і выскачыў за дзверы.

— Пляменнічак! — Кулагін босы хадзіў па хаце, крычаў жонцы: — Бачыла свайго пляменнічка? І як я такога дурня столькі ў брыгадзірах трымаў! Правільна зрабіў Кастусь. Маладзец!

Кацярына Філатаўна сядзела і маўчала. Ведала, што ў такую хвіліну лепш за ўсё маўчаць.

## 5

Павел так прыстукнуў веснічкамі, што аж задрыжаў плот. Веснічкі адскочылі і не зачыніліся. Павел гучна мацюкнуўся і пакіраваў дамоў. Але, прайшоўшы колькі, спыніўся, павярнуў назад, пабег у другі канец вёскі, дзе жыў Колька. Той якраз з жонкай вячэраў. Павел, не чакаючы запрашэння, падсеў да стала і паставіў бутэльку:

— Даруй, Люба, але на душы так пагана...

— А я свайму казала ўжо. Так вам і трэба. А то водзяць яго, гарэлкай пояць, а ён п'е ды смяецца з вас. Так вас, дурняў, і трэба вучыць.

— Чорт з ім...— уздыхнуў Павел, думаючы не пра брыгадзіра, а пра старшыню.— Жылі да гэтага, пражывём і цяпер. Га, Колька? Давай вып'ем... Мы з табою заўсёды былі і будзем. Праўда, Колька? За дружбу! А ў цябе, Люба, сырога яйка няма?

Выпілі, моўчкі закусілі.

— Толькі пачаў будавацца, а ён каня адбірае! — не мог супакоіцца Павел.

— Вядома, з канём лаўчэй. Ці пяску падвезці, ці якую дошку з лесапільні, кожны ж раз не напросішся,— паспачувала Люба.

— Ды кінь ты, Павел,— супакойваў яго Колька.— Будзе ў мяне конь, лічы, і ў цябе будзе. Прывязу і падвязу ўсё, што табе трэба. Чуеш? І няма чаго журыцца.

— Чую, чую,— язык у Паўла ледзь варочаўся.— Скажы, Колька, хіба я табе не даваў жыць? А гэты смаркач? Замнога ён на сябе бярэ, я табе скажу... Але ён дайграецца, я гавару табе, што ён яшчэ дайграецца.

— А наконт планоў ён усё ж маладзец,— уставіў Колька.— Што, не так?

— Ха! Смелы! Анархія! Ты ведаеш, што такое анархія? Гэта Кастусь са сваімі планамі. Ён мае права рашэнне праўлення адмяняць? Не мае. Назаравіч не любіць, хто супраць яго ідзе, ён яму за гэта не даруе, я ведаю... І наогул, дурныя людзі, што маўчаць. Ён жа пенсіянераў на працу пасылае, а сваю іранскую шахіню дома трымае, каб у яе ручкі беленькія былі. Гэта ж цэлы фельетон!

— А праўда, каб хто ў газету напісаў? — сказала Люба.

— Што пісаць, Люба? Куды пісаць?.. Пісаў... Павел махнуў рукой. Я пісаў, і — ні гу-гу... Але нічога. Вось няхай ён паедзе ў свае гарадскія прымы, яго старая да нас прыбяжыць, каб дроў прывезлі ці сена. Праўда ж, Колька? А мы ёй тады ўсё прыпомнім. Вось так. Ну, давай яшчэ, Колька...

Павел быў пацягнуўся да бутэлькі, ды яе перахапіла Люба.

— Хопіць, хлопцы. Не трэба болей супраць ночы...

## 6

«Волга» спынілася ля Кастусёвага двара. Ляпнуўшы дзверцамі, з машыны вылез Кулагін, падышоў да гародчыка і сеў на лаўцы. Зашпільваючы летнік, на двор выбег Кастусь. Павітаўся са старшынёй, стаяў, чакаў, што той скажа... Кулагін дастаў папяросу, прыкурыў, зацягнуўся і дапытліва глянуў на брыгадзіра.

— Прысядзь, пагаворым...

— Дык учора ў нас сход быў,— пачаў быў расказваць Кастусь, прысеўшы.

— Я ўсё ведаю,— перапыніў яго Кулагін.— Я ўсё ведаю, што ты тут робіш. Хаця ты і не ўсё расказваеш... Падабаешся ты мне як брыгадзір. Самастойны. Такога яшчэ ў калгасе не было. Наконт Паўла правільна. І з нарадамі, я гаварыў, нядрэнна. А вось наконт планоў ты таго... Не на вышыні. Пастанова праўлення ёсць наконт планоў.

— Дык людзі ж захацелі, я не мог...

— Людзі... Па-дзяржаўнаму трэба да ўсяго падыходзіць. У кожнага па сорак сотак. Па брыгадзе шэсцьдзесят гектараў назбіраецца. А па калгасе?.. Трыста гектараў мае калгас кожны год добра ўгноенай і дагледжанай зямлі. Калгаснік пад сваю бульбу заўсёды гной вывезе. Пасей на прысядзібных участках жыта — па дваццаць цэнтнераў з гектара збярэш. Вось што такое планы ў полі!

— Але ж гэта не выхад. Трэба, каб уся зямля добра даглядалася.

— Трэба... Вядома, трэба. А ты ведаеш, колькі ў калгасе гэтых «трэба». Вось у нас ні ў адной брыгадзе няма дзіцячых садоў, толькі ў

цэнтры. Яны трэба? Трэба. А за сена ты не вельмі перажывай. Яшчэ ні ў аднаго калгасніка карова не здохла з голаду. І не здохне. Што за людзей ты так, то гэта нядрэнна, але і пра калгас думай, пра яго эканоміку. Будзе ў нас моцная эканоміка, будзе і людзям нашым добра.

— Ясна, Назаравіч. Але ж на сходзе прагаласавалі за планы.

— І ўсё ж пачакай, нічога не рабі. Збяром праўленне...

## 7

Кожны дзень з раніцы Кастусь ездзіў у поле. І не толькі, каб пагля-дзець, як дзе што ўзыходзіць, а проста пабыць у полі, пастаяць каля маладое руні, паслухаць, як недзе далёка туркоча трактар і глухне за ляском. І кругом цішыня, і нікога не відаць нідзе.

Сёння ж Кастусь убачыў людзей: уся вёска была на сваіх планах. Вазілі гной, а дзе і аралі. Як валуны, ляжалі мяшкі з бульбай-сеянкай.

Кастусь вярнуўся ў вёску, завёў на канюшню жарабка і заспяшаўся дамоў. Ён хацеў у гэтыя два-тры дні, калі ў брыгадзе стала меней работы, пабыць з Лінай. Вясна выдалася цёплая, але без дажджоў. Спяшылі пасеяць усё, пакуль не перасохне зямля. Ліна можа і крыўдавала на мужа, але нічым не выдавала сваю крыўду. Сёння з ёй можна будзе ці ў лес схадзіць, ці, можа, у райцэнтр з'ездзіць: хай там сабе што купіць.

Маці з Лінай у двары перабіралі бульбу. Маці выносіла яе кошыкам з пограба, сыпала на зямлю. Ліна, седзячы на табурэце, перабірала. Сеянку ссыпалі ў мяшок, а мяккую і сапсаваную насілі ў сенцы.

— А я, думаю, перабяру, а то калі будзем сеяць, дык потым усё не схопіш. А можа і заўтра возьмем каня? — гаварыла Ульяна.

— Ды возьмем,— не вельмі весела адказаў Кастусь. Ён і забыўся, што ў маці ёсць план, што і ім трэба садзіць бульбу.

— А то, можа, веснічкі прыладзіў бы, а то ўвосень як адваліліся, так і ляжаць. Там слупок падгніў...

Кастусь захапіўся работай і ўжо не шкадаваў, што нікуды не схадзіў з Лінай. Ён знайшоў і абчасаў слупок і цяпер долатам выдзёўбваў шчыліны.

На вуліцы прасігналіла «Волга». Раз, другі. Кастусь выйшаў з двара. Кулагін сядзеў у машыне і нават не кіўнуў галавой на прывітанне.

— Ты што, сяўбу закончыў? — стрымана спытаў старшыня, але адчувалася, што ў сярэдзіне ў яго ўсё кіпіць.

— Яшчэ не закончылі.

— Я лічыў, што ты разумны хлопец, а ты проста анархіст. Для цябе, выходзіць, не існуе ні старшыні, ні праўлення.

— Я ж гаварыў вам, што людзі...

— Глядзі, які дэмакрат! А што людзі скажуць, калі прышлю вось трактар ды пераару ўсе планы? Што яны табе скажуць? І прыйдзецца. А што мне рабіць? Ну, добра. Пагаворым на праўленні. Сёння каб у шэсць быў у канторы.

— Ну што? — спыталася Ліна.

— Выклікаюць на праўленне.

— Чаго гэта? — насцярожылася маці.

— Відаць, прагоняць з работы,— усміхнуўся Кастусь.

— Ура! — запляскала ў далоні Ліна і заскакала на адной назе.

Кастусю раптам стала крыўдна. І не таму, што яго прагоняць з пасады, а таму, што так радуецца жонка.

«Хаця б не пры маці»,— падумаў Кастусь, але нічога не сказаў.

Ульяна выйшла на вуліцу, убачыла, што ля старшынёвага двара стаіць «Волга», пакіравала да яе. Заглянула ў машыну. Там, разлёгшыся на пярэднім сядзенні, вытыркнуўшы адну нагу ў акно дзверцаў, спаў шафёр. На грудзях яго ляжала раскрытая кніга. Ульяна зайшла ў хату. На кухні Кацярына Філатаўна мыла посуд.

— Добры дзень табе, Кацярынка! — павіталася Ульяна.— А твой дзе?

— Ой, маўчы...— шэптам сказала Кацярына Філатаўна.— Гэта ж як прыехаў, дык і не абедаў. Лёг на канапе, так і ляжыць. За тыя планы ўсё злуе яшчэ. Палажыў зусім здароўе ў калгасе.

— А я ж гэта хацела з ім пагаварыць, Кацярынка.

— Толькі не цяпер, Ульяначка.

— Хто там прыйшоў? — пачуўся голас Кулагіна.

— Ды вось Ульяна да цябе,— адказала жонка.

— Зайдзі, Ульяна! — паклікаў старшыня.— Садзіся, расказвай, што там у цябе?

— Няма чаго расказваць. Сын мой, гэты сваволькік...

— ?!.

— Ты яму даруй ужо, Назаравіч. Бачу, ён вельмі за работу перажывае.

— Перажывае? А яна?

— Яна яго цягне да сябе, але ж адна нікуды не паедзе. А хай бы яны тут і жылі. А то як мне, старой? У яго душа да работы ляжыць, бо каб не ляжала, то ён даўно паехаў бы. А то ж стараецца. Дык я вас прашу, Назаравіч. А калі прагоніце, то паедзе...

— Эх, Ульяна, Ульяна! — уздыхнуў Кулагін.— Каб я ўпэўнены быў, што ён не паедзе... Я табе шчыра скажу — другога брыгадзіра мне і не трэба.

— Я сама ўжо ўсяляк стараюся. І ёй рабіць нічога не загадваю: сядзі, чытай, вучыся. Яна, канечне, думае пра свой горад. Але без яго не паедзе. Бачу па ёй. Яны ж, як тыя галубкі. Як ён толькі позна дзе забавіцца, дык яна месца сабе не знаходзіць.

— Добра, Ульяна. Паспрабуем. А раптам мы з табой пераможам яе? Га?

— Вы толькі сыну не прагаварыцеся, што я прыходзіла, то яшчэ пакрыўдзіцца,— папрасіла старая.

— Добра, Ульяна, добра.

## 8

На пасяджэнне праўлення сёння сабраліся ўсе, як ніколі. Прыйшоў і Павел. Ён пакуль што заставаўся членам праўлення. Кулагін ведаў, што многія з тых, што цяпер сядзяць у яго кабінеце, будуць заступацца за Кастуся, бо не раз ужо брыгадзіры гаварылі тое самае наконт планаў, што зрабіў Кастусь, толькі яны, праўда, нічога не дабіліся: старшыня ўпарта стаяў на сваім. І ніхто не адважыўся пайсці супраць, нават Чыжэвіч. Стары вусаты Чыжэвіч, брыгадзір з сёмай брыгады, які не прызнаваў ні агранома, ні заатэхніка і не пускаў іх у брыгаду, і той не дадумаўся да таго, што зрабіў Кастусь.

Прамова Кулагіна была вельмі кароткай:

— Я і сам за тое, каб аддаць планы, але ў будучым годзе, бо на сёлета спланаваны севазварот з улікам таго, што планы будуць у полі. І ўчынак Вярэйчыка нельга абысці маўчаннем, мы павінны вельмі строга асудзіць яго, каб такія рэчы больш у калгасе не паўтараліся.

— Ай, што гаварыць! Усё ясна,— сказаў Чыжэвіч і прыгладзіў свае доўгія абкураныя вусы: — Правільна зрабіў. Шкада, што я гэтага не зрабіў.

— Можаш радавацца, Чыжэвіч,— сказаў Кулагін.— Быў у мяне адзін анархіст, а цяпер вас двое.

Узяў слова парторг калгаса Рыгор Стах. Гэта быў невялікі чалавечак, хадзіў заўсёды ў добра адпрасаваных штанах, у тоўстым світэры. Знешне нечым нагадваў школьнага выкладчыка фізкультуры, хоць да спорту меў толькі тое дачыненне, што іншы раз з Кулагіным ездзіў у Гомель на футбол. Але гэта было вельмі рэдка. Парторг ніколі не крычаў, размаўляў ветліва, па-сяброўску:

— Ты, Косця, зразумей адну простую ісціну. Ты мог тое ж зрабіць, што зрабіў, і мы цябе сёння ўсе пахвалілі б. Мэта твая ясная і высакародная, а вось метады нікуды не вартыя. Анархісцкія, як тут гаварыў Назаравіч. Калі ты бачыш несправядлівасць, дык прыйдзі да Кулагіна, прыйдзі да мяне, прыйдзі на праўленне, даказвай сваё, змагайся. Не думай, што цябе не зразумеюць. Зразумеем. І ў гэтым выпадку зразумелі б, прынялі б адпаведную пастанову. А ўяві, Косця, сабе такое. Гаспадарка наша вялікая. Што будзе, калі кожны пачне рабіць пасвойму? Да чаго мы дойдзем? Ты зразумеў мяне, Косця? Ты скажы, зразумеў?

— Зразумеў,— адгукнуўся Кастусь.

— Якія будуць прапановы? — звярнуўся да ўсіх Кулагін.

— У мяне ёсць прапанова,— падняўся Павел.— Я гаварыць не вельмі, дык пісьменна рэзалюцыю падрыхтаваў. Я вось прачытаю яе:

*«За зазнайства, за агітацыю супраць рашэнняў праўлення калгаса, за адмову ад агульнапрынятага распарадку і адмену ранішніх нарад, за невыкананне рашэнняў праўлення, што выразілася ў распараджэнні засяваць прысядзібныя ўчасткі пры хатах, вызваліць Вярэйчыка з пасады брыгадзіра!»*.

— Ого! — не вытрымаў Чыжэвіч.

Нехта засмяяўся.

Усе члены праўлення, акрамя Паўла, былі за тое, каб абмежавацца абмеркаваннем.

А потым яшчэ засядалі гадзіны дзве. Спачатку Кастусь уважліва прыслухоўваўся. Гаварылі пра рамонт камбайнаў, пра тое, што яшчэ трэба было б два грузавікі купіць, зацвердзілі праект газіфікацыі калгаса. У Кастуся разбалелася галава, ён не вельмі ўжо і слухаў, і калі закончылася пасяджэнне, першым выскачыў на вуліцу. Кулагін у адкрытую фортку паклікаў зайсці.

— Ну, як настрой, Ігнатавіч? — спытаўся Кулагін, хаваючы нейкія паперкі ў папку.

— Добры. А вось жонцы сапсую настрой, як скажу, што мяне не прагналі.

— Слухай, Ігнатавіч, а які ў яе настрой будзе, калі ты ёй скажаш, што назаўсёды застанешся ў Вішнёве? А ёй праўленне калгаса прапануе пасаду загадчыка клуба. Восемдзесят рублёў у месяц.

— Не, Назаравіч. Не згодзіцца. Ведаю. Яна толькі і думае, каб хутчэй паехаць адсюль.

— А каб яна засталася?

— Я быў бы рады,— адказаў Кастусь.— Але...

— Ды што ты за мужчына, калі жонку не ўгаворыш? Нічога не выйдзе... А ўсё ж скажы ёй пра клуб. А раптам? Дам крэдыт вам на дом. Будуйцеся, жывіце сабе. Старая дзяцей вам глядзець будзе. А што? Бачыш, як усе будуюцца. Падумай.

— Ды ўсё ясна і так, Назаравіч.

Кастусь выйшаў, сеў на свайго жарабка і паехаў дамоў. Каня не падганяў, той ішоў ціха і толькі, калі мінуў Якімаўскі лес, пабег: адчуў, што вяртаецца дамоў. Садзілася сонца, на ферму з поля цягнуўся статак.

## 9

На апошнюю нядзелю мая было прызначана Свята вясны. Парабіўшы ўсё ў полі, мужчыны чакалі касьбы, а жанчыны даглядалі свае гароды. У ціхае надвор'е над палеткамі кружыўся самалёт, «палоў» гербіцыдамі яравыя, лён.

На Свята вясны Ліна не толькі згадзілася паехаць, а нават з нецярпеннем чакала яго. Ліна пашыла сабе белую шаўковую сукенку, з'ездзіла ў райцэнтр і зрабіла новую прычоску. Кастусь радаваўся, што яна не засталася абыякавай да свята: не ўсё ёй у вёсцы чужое.

З раніцы каля клуба пачалі збірацца па-святочнаму апранутыя калгаснікі. Іван Малёк нават абнавіў свой гальштук. Майсей Вухаед быў у новенькай афіцэрскай гімнасцёрцы, падпяразаны шырокім з бліскучай спражкай рамянём. Пажылыя кабеты ў шырокіх і доўгіх спадніцах, у зыркіх гарусоўках, а маладзіцы — у сукенках на гарадскі манер.

Пеўнем хадзіў каля маладзіц Павел. Ён быў у храмавіках, у белай кашулі, расхрыстанай на грудзіне. Павел паспеў перахапіць сто грамаў, і з яго расчырванелага твара не сыходзіла ўсмешка. Ад Паўла не адставаў Колька. Гальштук з залішне вялікім вузлом рабіў яго ненатуральна салідным.

Хлопцы падышлі да Кастуся.

— Камандуй, брыгадзір, каб пешшу. Тут якія тры кіламетры. А то пакуль тыя машыны пад'едуць, дык і дзень міне,— дыхаў перагарам Павел.

— А табе і праўда не пашкодзіла б праветрыцца,— засмяяўся Кастусь.

— Сёння, брыгадзір, я п'ю законна. І ты мяне не чапай.

Іван Малёк адчыніў акно ў клубе, паставіў на падаконнік радыёлу, уключыў яе на ўсю моц. Хутка ўтварыўся круг. Маладзіцы ганялі спадніцамі пыл.

— Станцуем, брыгадзір,— падышла да Кастуся Вера. Яна была ў чорнай кароткай сукенцы.— Ты ж некалі здорава ўмеў танцаваць. Ці жонкі баішся?

— Ды я развучыўся,— азірнуўся Кастусь на жонку.

— Не адрывайся ад мас,— крычаў Павел і цягнуў у круг Ліну.— Хоць раз патрымаюся за гарадскую талію.

Ліна вырвала сваю руку і моцна штурханула Паўла, адышлася ўбок і ледзь не плакала. Яе заўважыла Вера, кінула Кастуся і падбегла да Ліны.

Дзяўчаты кружыліся адна з другой, бо хлопцаў усім не хапала.

Раптам пад'ехалі тры грузавікі, упрыгожаныя лозунгамі і плакатамі. Шафёры памагалі жанчынам сесці, стараючыся употай ушчыкнуць каторую. Узняўся крык.

Машыны ціха крануліся. Дзяўчаты зацягнулі песню:

*Распрагайце, хлопцы, коней*
*Ды лягайце спачываць...*

Кастусь з Лінай стаялі каля самай кабіны. Спявалі разам з усімі. Кастусь падводзіў. Ліна ўпершыню чула, як хораша спявае яе муж.



— Хай чуюць, што нашы едуць,— крычаў Кастусь Майсею Вухаеду. На яго вачах блішчалі слёзы, пэўна, ад стрэчнага ветру.

У Якімаўскім лесе звярнулі на вузкую лясную дарогу і хутка спыніліся на паляне. З аднаго боку яе рос высокі сасоннік, а з другога — бярэзнік. Пад бярозамі ўжо стаяла сцэна, збітая з дошак, перад сцэнай — лаўкі. На сцэне — стол, накрыты чырвоным паркалем, крэслы. У засені дрэў спыніліся сельпоўскія грузавікі, згружалі буфеты. На адной машыне дзяўчаты ў белых халатах прадавалі марожанае. Ля машын таўкліся дзеці. На паляне і ў бярэзніку палілі кастры: ратаваліся ад машкары.

Вось з сасонніку вынырнула старшынёўская «Волга», а за ёй — аўтобус. На аўтобусе прыехалі шэфы з горада, прывезлі духавы аркестр. Ля сцэны заззялі трубы, па лесе разнесліся гукі марша. Людзі пацягнуліся сюды, дзе іграў аркестр. За сталом на сцэне селі старшыня, парторг, брыгадзіры, госці. Кулагін павіншаваў усіх са святам, а потым даў слова брыгадзіру Чыжэвічу, а за ім ужо Кастусю. Кастуся гэта крыху здзівіла, бо па ўсіх паказчыках яго брыгада была першая і яму трэба было рапартаваць першаму. Але калі старшыня стаў чытаць рашэнне праўлення, то ўсё стала ясна. Кастусёвай брыгадзе прысуджалася другое месца. Першае месца, вымпел і першая грашовая прэмія прысуджаліся чыжэвічавай брыгадзе.

І тут пачалося такое, чаго ніхто не чакаў. Здалося, што пачалі крычаць усе адразу. Да сцэны падбегла даярка Куліна:

— Няправільна! — крыкнула яна і аж пачырванела.

— Несправядліва! — пачуліся галасы.

— Які ты помслівы чалавек! — перакрыквала ўсіх Куліна.—Першае месца не брыгадзір заняў, а мы. Мы ўсе стараліся. Несправядліва робіш! А яшчэ і наш! Сорамна! Давай нам вымпел! Вымпел наш! Чуеш?..

Разам з усімі крычаў і Вухаед:

— Давай, старшыня, вымпел!

Кастусю было вельмі няёмка, што людзі з яго брыгады паднялі з-за прэміі такі гармідар, і ў той жа час радасна, што яны такія дружныя. Кастусь выбраўся з натоўпу. Ульяна стаяла крыху зводдаль ад грамады.

— Вось як яно, сынок...— усхвалявана сказала яна.

— Там перапіліся, ці што? — усміхнулася Ліна, калі да яе падышоў Кастусь. Яна адганяла машкару ад ног бярозавай галінкай. Кастусь маўчаў.

Нарэшце ўсе накрычаліся і сціхлі. Кулагін дачытаў рашэнне праўлення. Аб'явілі, што хутка пачнецца канцэрт мастацкай самадзейнасці, а пасля танцы пад духавы аркестр.

— Ліна, пайшлі куды,— Кастусю не хацелася глядзець канцэрт мастацкай самадзейнасці.

— Куды?

— Прыстанем да якой кампаніі.

— Да якога Калькі? — і яна пацягнула мужа бліжэй да сцэны.

Выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Баршчоўскай сярэдняй школы. Спачатку спяваў хор.

— А вось дзе яны! — пачуў Кастусь над самым вухам голас Кулагіна.— А я вас шукаю ўсюды... Пайшлі са мной!

— А куды? — спытаў Кастусь.

Але Кулагін маўчаў, пакуль не селі ў машыну. А калі выехалі з паляны на вузкую лясную дарогу, парослую званочкамі і маладымі асінкамі, не вышэйшымі за траву, павярнуўся да Кастуся і Ліны:

— Невялічкі прыём. Запрасіў брыгадзіраў, праўленцаў і перадавікоў.

— А народ няхай глядзіць мастацкую самадзейнасць? — спытала Ліна.

Кулагін, здавалася, і не пачуў, гаварыў далей:

— Мінулай вясной зрабілі на паляне сталы для ўсіх. І, ведаеце, пакуль з прэзідыума дайшлі, дык і месцаў не было. Пазалазілі за стол такія, каго я век і не бачыў. Няёмка выйшла. Дык сёлета я інакш... Кожны атрымаў сваю прэмію, як хоча, так няхай і распараджаецца... Буфеты ёсць. Ну, а для гасцей і наогул... Без гэтага таксама нельга.

Памаўчалі. Машына выехала з лесу. Ехалі цяпер ускрайкам, па шаўкавістаму сіўцу, паўз бярэзнічак.

— А ў цябе ў брыгадзе не людзі, а золата,— зноў загаварыў Кулагін.— З такімі людзьмі куды хочаш можна ісці, не падвядуць. Ніколі не дадуць у крыўду. Я добра ведаю сваіх вяскоўцаў, але і я такога не чакаў ад іх...

— Я таксама не чакаў,— сказаў Кастусь так, нібы апраўдваўся.

— А ведаеш, Ігнатавіч, я быў за тое, каб тваёй брыгадзе першую прэмію далі. Настойваў нават. Дык члены праўлення ўпёрліся, парторг таксама. Чыжэвіч адзін мяне і падтрымліваў. І справа зусім не ў дысцыпліне, як потым запісалі ў пратаколе. Напіралі на тое, што ты ў брыгадзе часова, што, калі б пастаянна... А так... Зарабіў вымпел адзін, а ганарыцца будзе другі.

Кулагін счакаў крыху, спадзеючыся, што Кастусь скажа штонебудзь пра сваё далейшае брыгадзірства, але той маўчаў.

# ЛЕТА

## 1

У пачатку чэрвеня не было дажджу.

З раніцы свяціла сонца, а недзе апоўдні неба зацягнула касматымі воблачкамі. Яны збіраліся ў чорныя хмары. Падаваў голас далёкі гром. Усё прыціхла, не варушылася. Толькі нізка над дарогай шмыгалі ластаўкі. Хмара вырасла на паўнеба і дыхнула халадком. Пачалі

падаць буйныя, рэдкія кроплі. Але дажджу не было — узняўся моцны вецер, праганяў хмары...

Дажджы пайшлі тады, калі іх ужо і не чакалі,— без ветру і грому. Дарогі расквасіла так, што ні праехаць, ні прайсці. Часам выдараліся пагодныя раніцы, на расе блішчала сонца. Але ў другой палове дня наплывалі хмары і зноў ішоў дождж.

Надышла касьба. А пагоды ўсё яшчэ не было. Касіць сена паднялі ўсіх, хто толькі мог трымаць касу. Папрыязджалі і тыя, што працавалі ў райцэнтры, у горадзе.

За якіх два дні траву падвалілі. Ставіць копы пайшлі таксама ўсе, нават падлеткі і дзеці. Як кінуць вокам, ад Вішнёва да самай чыгункі бялелі хусцінкі і кашулі.

Кастусь і Ліна ішлі па слядах, што зялёным шнурочкам цягнуліся па траве між балотам і высокім жытам. Над балотам трывожна крычалі кулікі. Жыта выходзіла ў колас, у ім там-сям сінелі васількі.

Ліна бегала па траве, ірвала кветкі. Босыя яе ногі абрасіліся, і да іх папрыліпалі пялёсткі ад рамонкаў.

— Ой, чаму мы раней сюды ні разу не прыйшлі! — яна паглядзела на Кастуся.— Праз тваё брыгадзірства і лета не бачылі!

Кастусь моўчкі цягнуў біклагу з вадой, сумку з ежай і двое грабляў.

Кабеты зграбалі сена, а мужчыны сталі на стагі. Стаў на стог і Кастусь. Копы цягалі коньмі. Зачэпіць вяроўкай капу, а сам на яе і — паехаў... Ліне ці абрыдла грэбці, ці ей сапраўды захацелася пацягаць копы, толькі яна аддала Кольку граблі і ўзяла ў яго каня. Зачапіла капу вяроўкай, уселася сама наверх і сцебанула каня пугай. Той ірвануў з месца, і Ліна кульнулася на зямлю. Усе зарагаталі. Падышоў Колька і навучыў яе, як трэба кіраваць канём. Кастусь са стога назіраў за жонкай, радаваўся, што яна так захапілася работай. Кожны раз, як Ліна пад'язджала да стога, яна нешта крычала Кастусю, але ён, не разабраўшы яе слоў, толькі ўсміхаўся.

Пад стогам стаяла Вера, брала на вілкі ладны ахапак і падавала Кастусю. Кастусь зверху добра бачыў яе, бачыў, як яна напружвалася, падымаючы сена, як з галавы ў яе з'язджала хустка і яна папраўляла яе, як выцірала пот на твары.

Майсей Вухаед завяршыў свой стог першым, падышоў да кастусёвага, паказаў, з якога боку больш падкласці. І ўсё ж стог у Кастуся выйшаў нейкі аднабокі, з нахіленай дзюбкай-вяршком.

— Сена не ўляжалася... Калі яно пастаіць у копах, тады яго і таптаць лаўчэй, а так тапырыцца,— апраўдваўся Кастусь.

— Будзе стаяць,— махнуў рукой Вухаед.— Давай, Ігнатавіч, аб'яўляй абед.

Хто тут, пад стогам, раскладаў сваю ежу і абедаў, а потым драмаў у цяньку, а многія пайшлі на рэчку. Кастусь з Лінай таксама захацелі выкупацца.

— Стамілася?

— На далоні мазоль ускочыў ад лейцаў,— паказала яна мужу сваю руку.— Шчыміць.

Яны адышліся далей па беразе, дзе ўжо нікога не было, аблюбавалі шырокую, ахутаную з усіх бакоў алешнікам затоку, у якой можна было наплавацца ўволю. Кастусь раздзеўся і прама з берага нырнуў у ваду, выплыў на самай сярэдзіне, фыркаў ад асалоды, пырскаўся.

— Ліна, давай сюды!

Ліна спусцілася з абрывістага берага, спынілася ля самай вады, трымаючыся за карэнні, што звісалі з берага.

А потым, накупаўшыся, яны ляжалі на травяністым беразе.

— Здаецца, і не варушылася б... Усё цела баліць.

— Гэта з непрывычкі. Потым не будзе.

— Як гэта — потым? — села Ліна.

Кастусь не заўважыў яе насцярожанасці.

— Ну, праз дзень-другі. Чалавек прывыкае...

— Дык ты хочаш, каб я прывыкла?.. Каб сядзела тут?.. Спачатку паехалі толькі на адну зіму. Там, казаў, ніхто не будзе перашкаджаць нам рыхтавацца да экзаменаў. Паверыла. А потым — «пажывем, пакуль адсеемся». Тут, бачыце, без яго не будуць людзі ведаць, як вывозіць на поле гной. А цяпер, выходзіць, без яго ў калгасе не ўбяруць сена.

— А што ты думаеш? — у Кастуся быў вельмі добры настрой. Ён памкнуўся прылашчыцца да яе, загарэлай, разагрэтай на сонцы, ды яна адштурхнула яго.

— І не спадзявайся, што я стану прывыкаць. Зразумеў? — апошняе слова яна ледзь выгаварыла праз слёзы. Ён цалаваў ёй рукі, прасіў супакоіцца.

— Ну, ты зразумей мяне, Ліначка. Я не магу пакуль што пакінуць маці. Хоць сена трохі заробім ёй. Дзе яна возьме яго? Тут які тыдзень... Я абяцаю табе... Ты не будзеш хадзіць на гэтае сена. Пабудзь дома. Я сам пахаджу. Але дабудзь хаця сёння да канца дня.

Кастусь зноў стаяў на стозе. Ліна зноў цягала копы. Рабіла моўчкі, засяроджана. Кастусь з трывогай пазіраў на яе, баяўся, што раптам возьме ды кіне ўсё і пойдзе дамоў.

Недзе гадзін у пяць на луг прыехаў Кулагін.

— Ігнатавіч, паехалі! Выклікаюць нас з табой у райком,— сказаў старшыня, падыходзячы да брыгадзіра.

— Чаго?

— Гавораць, што не могуць далей цярпець, каб ты быў не зацверджаны.

— А навошта яго зацвярджаць? — выйшла наперад Ліна, якую спачатку Кулагін і не заўважыў.— Ён пасля сенакосу будзе разлічвацца.

— Ён больш як паўгода працуе, а не зацверджаны,— сказаў спакойна Кулагін.— Так нельга. Мне сказалі, каб сёння прыехалі.

Кастусь сеў у машыну, памахаў Ліне рукой.

— Няёмка атрымалася,— сказаў Кулагін.— Я і не заўважыў, што яна тут.

## 2

Кулагіну і Кастусю нядоўга давялося чакаць у прыёмнай. Неўзабаве дзяўчына, што сядзела за машынкай, паклікала іх у кабінет. Кулагін сеў на крэсла ля акна, а Кастуся папрасілі падысці да доўгага стала, за якім сядзела некалькі чалавек. Перад кожным з іх ляжалі чыстыя лісткі паперы, шарыкавыя ручкі. Насупраць Кастуся сядзеў сакратар райкома Мікалай Васільевіч. Ён камячыў у пальцах цыгарэту, нібы збіраўся закурыць. Зламаўшы яе, кінуў у попельніцу, ціха сказаў:

— Таварыш Вярэйчык. Брыгадзір з калгаса «Перамога». Колькі вы працуеце ў калгасе?

— З восені.

— І за гэты час Кулагін не знайшоў часу прывезці яго на зацвярджанне! Што вы скажаце пра свайго брыгадзіра, таварыш Кулагін?

— Ды што тут гаварыць...— падняўся Кулагін.— Работнік добры. Брыгада перадавая. Граматны. Самастойны. Спраўляецца. Любіць зямлю, працу на ёй. Хлопец з галавой, што і гаварыць. Я ж вам, Мікалай Васільевіч, расказваў пра яго.

— Ну, добра,— сказаў сакратар. А потым звярнуўся да членаў бюро: — У каго якія пытанні? Няма? Супраць Вярэйчыка ніхто нічога не мае? Зацвярджаецца таварыш Вярэйчык брыгадзірам. На гэтым мы заканчваем наша пасяджэнне. Вярэйчык і Кулагін затрымайцеся, калі ласка!

Калі ўсе выйшлі з кабінета, Мікалай Васільевіч падняўся, пацягнуўся так, што ў яго аж хрумснулі косці, труханўў плячыма, нібы скінуў з іх які цяжар, а потым шырока расчыніў вокны.

— Што прыдумаць, каб абыходзіцца без гэтых пасяджэнняў? Як, Назаравіч, ты ў калгасе многа засядаеш?

— Усяк бывае.

— Ну, а ты, Вярэйчык, як думаеш жыць далей? — сакратар закурыў, стаў ля адчыненага акна.— Я чуў, што збіраешся пакінуць калгас?

— Я прыехаў часова. Кулагін, можа, гаварыў...

— Часова... Чалавек нарадзіўся, вырас у Вішнёве, і ён, бачыце, прыехаў часова...— нібы падумаў уголас Мікалай Васільевіч.— Ну, а ты ведаеш, пэўна, дзе тваё не часовае месца?

— Дамовіліся з жонкай паступаць у медыцынскі.

— Так...— сакратар кінуў у попельніцу недакурак, дастаў яшчэ цыгарэту, але закурваць не стаў, прайшоўся па кабінеце, спыніўся перад Кастусём.— Я не веру, каб ты адчуваў, што тваё прызванне — медыцына. Ты ж пра гэтую медыцыну да жаніцьбы і не думаў. А што, не так? А ёсць такія, што з дзяцінства мараць стаць урачом. І раптам ты зоймеш месца такога чалавека. Ты хлопец здольны, разумны. Паступіш... Я не хачу сказаць, што тваё месца будзе пуставаць у калгасе, але я не асмелюся пэўна сказаць, хто больш прайграе — ты ці калгас? Адным словам, таварыш Вярэйчык, ты вельмі правільна зробіш, калі застанешся. А вучыцца ты будзеш завочна ў сельскагаспадарчай акадэміі. Жонка ж няхай ідзе ў медыцынскі. Будзе ў Вішнёве і свой урач. Дык, можа, узважыш усё яшчэ раз, параішся дома. Як глядзіш на гэта?

— Назаравіч чуў, што мая жонка сказала сёння.

— А я лічу так, што жонка, калі яна сапраўдная жонка, заўсёды павінна тое рабіць, што жадае муж,— умяшаўся Кулагін.— Я нават уявіць не магу, каб мая была супраць мяне. Хай паспрабуе! Ого!

— Цяпер, Назаравіч, не тыя жонкі пайшлі,— уздыхнуў Мікалай Васільевіч.— Цяпер яны не такія, як у вас. Ну, добра, Вярэйчык. Уся гэтая гаворка вялася для таго, каб вы яшчэ раз добра падумалі над сваёй будучыняй, каб яшчэ раз усё добранька ўзважылі. Вось так... Бывайце!

— А наконт акадэміі сакратар гаварыў праўду,— сказаў Кулагін ужо ў машыне.— Ведаеш, ён многім памог паступіць. Ты дарэмна адмаўляешся. Хто ж будзе кіраваць пасля нас? Нас надоўга не хопіць. А цяпер толькі і жыць у вёсцы. Не разумее гэтага моладзь. Вельмі правільна гаворыць Мікалай Васільевіч: у вёсцы цяпер патрэбны здольныя арганізатары. Вось так, Ігнатавіч. Але цябе не ўгаворыш. Каб ты яшчэ ажаніўся з тутэйшай, а так... Што, можа, няпраўда?

— Праўда.

— А я вельмі хачу, каб ты застаўся. Думаў, вырашчу сабе замену. Не выйшла. Калі цябе разлічваць?

— Ды так, каб на экзамены не спазніцца.

Больш не гаварылі. Кулагін сядзеў, звесіўшы галаву. Ці не драмаў... Кастусь таксама адхінуўся на спінку сядзення, адчуваў, што яго ўсяго ахутвае прыемная лянота. Натаміўся на стагаванні.

Сонца апускалася за Вішнёва. Большала, чырванела. І вось ужо толькі хмары свецяцца адбіткамі яго праменняў.

З канторы яшчэ не разышліся. Сядзелі, чакалі старшыню. У кожнага знаходзілася тэрміновая справа да Кулагіна. Ён прама на ганку пагаварыў з брыгадзірамі, забег у кабінет, каб падпісаць паперкі, якіх нямала назбіралася за дзень у бухгалтара.

— А што рабіць з прэміяй для сёмай брыгады? — спытаў бухгалтар.— Чыжэвіч адмаўляецца ад яе. Вымпел узяў,— тут парторг пераканаў яго, кажа, гэта палітычная справа,— а ад грошай адмаўляецца, і ўсё. Куды мне іх?

— Купіце радыёлу і завязіце яму ў клуб. Пласцінак таксама купіце. Ну, усё? — а потым яшчэ спыніў бухгалтара ў дзвярах, загадаў: — Разлічыце Вярэйчыка з пятнаццатага ліпеня, выпішыце прэміяльных сто рублёў. Потым правядзем рашэннем праўлення. Супроць ніхто не будзе: чалавек стараўся.

Кастусь сядзеў у машыне маўклівы, задумлівы. Ён заўсёды ведаў, што пакіне вёску, але заўсёды пра свой ад'езд думаў, як пра нешта надта далёкае. Але цяпер, калі яго ад'езд азначан нейкім канкрэтным тэрмінам, яму раптам стала вельмі сумна.

Каля дарогі буяла маладая бульба, бліжэй сюды прыпыленая, а далей — густая, зялёная. За бульбай сцяной стаяла жыта. Яно як пайшло ў колас, дык пасвятлела, адлівала жаўцізной. Сінеў вечар, далячынь хавалася ў туманнай смузе. Смуга гусцела, набліжалася, і раптам за вокнамі машыны стала цёмна: шафёр уключыў фары.

— Ты там не заснуў? — павярнуўся да яго Кулагін.

— Ды не,— азваўся Кастусь.

Кулагін спачатку маўчаў, нібы прыглядаўся да хлопца, а потым загаварыў:

— Дык я, Ігнатавіч, табе скажу, што мне шкада з табой расставацца. Шкада, як з родным сынам. Вось мы ўдваіх з Кацяй дажываем свой век, а некалі ж і ў нас была сям'я, былі дзеці... А цяпер адзін сын на цаліне парторгам у саўгасе. Другі ў Ленінградзе, у інстытуце выкладае. А самы меншы ў Данбасе. Жывуць... І мы ім не патрэбны. А ты ж бачыў, якую хату паставіў. Навошта, для каго? Параз'язджаліся... Каб яны цяпер пачыналі жыць, хоць аднаго ды ў калгасе пакінуў бы. А тады, сам разумееш... Нават не верылася, што такое жыццё настане. А яшчэ лепей будзе, Ігнатавіч. Нават не ўяўляеш, як будзе. Дом адпачынку калгасны пабудуем. Думаю я, Ігнатавіч, балота расчысціць, глей і торф на поле вывезці, а там зрабіць возера. Мне гавораць, каб балота зусім асушыць, але я не згодзен. Колькі там той зямлі... Карысці болей будзе, калі торф ды глей з балота на поле вывезці. Няхай будзе возера. На беразе парк пасадзім. А ў парку дом адпачынку пабудуем. Лодачную станцыю. Хай людзям памяць пра Кулагіна застанецца. А што, не так? Можа, калі і ўспомняць добрым словам... Ды гэта ўсё дробязі. Я табе скажу — заказаў праект новай вёскі. Будзем будаваць горад... Не, я нават не ўяўляю, як будуць жыць у вёсцы праз некалькі год. Няхай нават праз дзесяць. Падумаеш іншы раз, і так шкода стане самога сябе, хоць плач: стары, мала жыць засталося. Вось так, Ігнатавіч... Але твая жонка цябе чакае: бач, ва ўсіх вокнах святло,— сказаў ён, калі машына спынілася ля Кастусёвага двара.— Ну, бывай, Ігнатавіч!



Ульяна не спала. Яна сядзела на палку ля печы і нічога не рабіла. Проста сядзела і чакала сына. Кастусь нават не ўбачыў яе, калі ішоў у пярэднюю хату. Жонкі дома не было.

— А дзе ж яна? — спытаў ён, убачыўшы маці.

— Ліна... Ай, сынок, нарабіла твая Ліна. Сабрала чамаданы і — на станцыю... Запіску пакінула.

Кастусь стаяў, як аглушаны.

— Запіска на стале, кажу,— устрывожылася маці.

Прачытаў:

*«Ты ўвесь час хлусіў мне. Хлусіў, калі ўгаварыў пажыць у вёсцы да вясны, потым, пакуль пасяўная пройдзе, а потым, пакуль пройдзе касавіца. Ты проста не хацеў ехаць. Сёння я гэта зразумела. Ну і заставайся! Хочаш, каб мы жылі разам, прыязджай».*

Кастусь хацеў быў кінуцца на станцыю, нават выбег на вуліцу, але зразумеў, што бегчы позна, што цягнік на Гомель пайшоў. А ноччу Ліна выедзе з Гомеля. Кастусь вярнуўся ў хату. І ўсё хадзіў і хадзіў у пярэднім пакоі, нібы хацеў у гэтую ноч уцячы сам ад сябе.

## 3

Пяцьдзесят гектараў сенажаці выдзелілі для вішнёўцаў за рэчкай Цярэшкай. Трава на гэтым урочышчы была няроўная — у лагчынах густая, укосная, а на ўзгорках — рэдкая лугавая аўсяніца, конскае шчаўе, палын, а дзе і зусім адзін лазняк рос.

Дзялілі сенажаць усёй вёскай.

Павел трымаў шапку, кожны падыходзіў і выцягваў адтуль згорнутую ў трубачку паперку з нумарком. А потым па нумарку і наразалі кожнаму дзялянку.

Паўлу, як на зло, выпала вельмі няўдалая дзялянка. З аднаго краю яшчэ нічога, а з другога — толькі лазнячок.

— Кошыкі будзеш плесці,— пажартаваў нехта.

Каб каму папалася такая дзялянка, дык пагараваў бы сабе, але не крычаў. Але Павел, які за сваё брыгадзірства адвык ад чаргі,— заўсёды сена браў там, дзе хацеў,— цяпер падняў лямант, што, маўляў, дзяліць не трэба, што трэба спачатку скасіць, а потым важыць.

Павел і Колька ішлі за брыгадзірам, пакуль ён не нарэзаў усім дзялянкі. І тады аказалася, што засталося яшчэ гектары са два сенажаці, праўда, не самай лепшай, але і не самай горшай.

— Можа каго абдзялілі? — сумеўся Кастусь.

— Усё правільна, брыгадзір. Так яно і павінна быць. Усе лічаць, што ў гэтым кавалку пяцьдзесят гектараў, а на самой справе пяцьдзесят два.

— Трэба сказаць Кулагіну.

— Ну і дурань будзеш, калі скажаш,— абурыўся Павел.— Вось што, брыгадзір. Няхай думаюць, што тут толькі пяцьдзесят гектараў. У нас кожны год будзе нейкі рэзерв. Тут заўсёды на працэнты аддаюць. А цяпер гэта сена падзелім на трох, ніхто і ведаць не будзе. Мы з Колькам выкасім і тваю дзялянку. І сена табе прывязём. Зробім так, што камар носа не падточыць. У нас вопыт... Ну, што глядзіш? Хочаш, за гэта мы выкасім і тваю законную дзялянку?

Кастусь не згадзіўся.

— Ну, добра,— пачаў Колька.— Не хочаш з намі дзяліцца, давай надрэжам па колькі сотак тым, каму дрэнныя дзялянкі папаліся.

— Таксама можна,— згадзіўся Павел.— Вось у мяне, напрыклад, што за сена? Лаза адна...

— Не, хлопцы, скажу старшыні... Мо потым і надрэжам, але надрэжам у першую чаргу ўдовам,— перакінуў Кастусь праз плячо «казу» і пайшоў на сваю дзялянку.

— Выслужыцца захацеў! Сваім людзям шкадуеш. Думаеш, старшыня табе ордэн павесіць. Чакай...— крычаў на ўвесь луг Павел.

Кастусь з нейкай незразумелай апантанасцю, не адпачываючы, касіў і касіў да таго часу, пакуль не паклаў у пакосы ўсю траву. А потым прыпаў да біклагі з вадой, прагна піў. Вада цякла па падбародку, па шыі, па грудзях. Потым ён абедаў, еў сала з хлебам... Лёг адпачыць на мяккім зялёным пакосе.

Сонца хілілася на захад, спадала гарачыня. Недзе блізка, ледзь не над самым вухам, гудзеў чмель, шукаючы сваё гняздо, можа дзе прываленае травой. Вось і зусім звечарэла. Ад ракі пацягнула вільгаццю. Дамоў ісці не хацелася. Ад адной думкі пра дом стала невыносна сумна. А можа, застацца на лузе, зрабіць буданчык і пераначаваць?

Пачало цямнець, калі Кастусь падыходзіў да свайго двара. Над вуліцай яшчэ вісеў сухі пыл, што паднялі каровы, вяртаючыся з пашы. Кастусь адкрыў самаробную паштовую скрынку. Адны газеты... Няўжо яна чакае, пакуль ён напіша першы? Ці, можа, хоча, каб ён паехаў услед? Не, гэтага ніколі не будзе.

У хаце, не запальваючы святла, Кастусь напіўся цёплага сырадою і выйшаў зноў на двор. Спаць не хацелася. Успомніў, што хацеў расказаць Кулагіну пра лішнія гектары, пайшоў да яго. Кулагіна дома не было. Кастусь пасядзеў, пакурыў. Не дачакаўся. Пайшоў паўз двары, не ведаючы, куды і навошта ідзе.

На ганку каля клуба сядзеў Іван Малёк.

— Усё спакойна, Арцёмавіч? — прысеў каля яго Кастусь.

— Ціха, Ігнатавіч,— адказаў Малёк.— А ў вас што, вячэрні мацыён?

— Спаць не хочацца. Выйшаў — нідзе нікога...

Пасядзелі яшчэ моўчкі.

— Ігнатавіч,— пачаў неяк таямніча Малёк.— Я хачу табе расказаць пра адну рэч, ды ўсё не асмельваюся. Я вельмі вінаваты перад табой. Я заўважыў, што твая маці ходзіць па ваду ў калодзеж, што ля Вухаеда. Дык вось я ў той калодзеж усе срэбныя манеты і высыпаў, каб, значыцца, там вада была з іёнамі. Я спачатку не хацеў табе гаварыць, але цяпер можна. Усё роўна твая жонка паехала... Слаўненькая яна была ў цябе, гавару табе, як мастак. Ты мне можаш паверыць, я нямала па свеце паездзіў, усякіх сустракаў, такой не бачыў. Ну вось...— Малёк падняўся, дастаў з кішэні будзільнік, пстрыкнуў запалкай.— Хутка адзінаццаць, трэба ісці званіць.

— Дзякуй, Арцёмавіч, за добрае слова,— стараўся быць ветлівым Кастусь.— Гэта нічога, што яна паехала. У той калодзеж многія па ваду ходзяць, так што...

— Ды я табе і не хацеў гаварыць, але...

— Ну, добра, Арцёмавіч, ідзі звані,— развітаўся Кастусь і пайшоў дамоў. Не даходзячы да свае хаты, твар у твар сутыкнуўся з Верай.

— Ой, хто гэта? — адскочыла яна ўбок.

— Вера! А гэта я...

— Ты? — здзівілася Вера, хоць добра ведала, каго сустрэла. Яшчэ з вечара яна сядзела на лавачцы каля свае хаты і бачыла, як выйшаў на вуліцу Кастусь.

Пасля таго, як паехала Ліна, Вера ўсё больш стала думаць пра Кастуся.

— Дык куды ты ідзеш? — знарок абыякава спытала яна.

— Не ведаю. Спаць не хочацца, дык я... А ты?

— Мне таксама не хочацца. Можа там танцы якія?

— Каля клуба нікога няма. Накасіліся за дзень, дык спяць.

— Выйдуць яшчэ.

— А можа... Дык што, сходзім?

Яна згадзілася.

Ён узяў яе пад руку. Ішлі моўчкі, бо на які момант адчулі, што ім няма пра што гаварыць.

— Ты на мяне не крыўдуеш? — раптам спытаў Кастусь.

— Ой, што ты! — ціха засмяялася Вера і неяк даверліва прытулілася да яго.

Яны павярнулі ў завулак. І не толькі таму, каб нікога не сустрэць на вуліцы, хоць Кастусь і баяўся гэтага, але і па даўняй звычцы: некалі заўсёды хадзілі гэтым завулкам на танцы. Тады яшчэ клуба не было, танцавалі каля школы. І цяпер Кастусю падалося, што ў яго жыцці не было ні службы ў арміі, ні кахання да Ліны, ні жаніцьбы — а ўсё гэта, нібы сон, што ў яго заўсёды была адна толькі Вера.

— Ой, а як цёмна! Аж страшна...— зашаптала яна.

Ён палажыў ёй на плячо руку. Яна не скінула яе. Кастусь абняў і пацалаваў Веру, адчуваючы, як рукі яе абвілі яго за шыю. Яна прашаптала нешта, слоў Кастусь не разабраў: моцна грукала кроў у скронях. Раптам Вера адштурхнула яго і кінулася некуды ўбок, ціха смеючыся, каб, мусіць, ён не згубіў яе. У канцы нейчага гарода стаяла капа сена. Сена было свежае, неўляжалае...

## 4

Ульяна адчыніла дзверы, убачыла за сталом Кулагіна і зайшла ў кабінет. Зводдаль стала сядзеў яшчэ нейкі незнаёмы мужчына, лысы, загарэлы, у белай кашулі пад гальштукам. Ён нават і не глянуў на Ульяну.

— Вы да мяне, Ульяна? — спытаў Кулагін.— Дык я пакуль заняты. Вы пачакайце, калі ласка, крыху...

— Добра, я пачакаю,— і яна села на крэсла, што стаяла каля сцяны.

— А што ў вас там здарылася, Ульяна? — спытаў Кулагін, убачыўшы, што яна і не думае выходзіць з кабінета.

— Я да вас, Назаравіч. Хачу з вамі пагаварыць, але каб нікога не было.

Кулагін і незнаёмы, усміхнуўшыся, пераглянуліся.

— Ну, добра, Назаравіч, вы тут пагутарце, а я выйду пакурыць,— незнаёмы падняўся, прыкурыў, акінуў абыякавым позіркам старую і выйшаў.

— Ну што, Ульяна, у цябе? — не хаваў Кулагін раздражнёнасці.— Зайшла б да мяне дамоў. А то ісці ў такую далеч...

— А хіба цябе зловіш дома? Я ўчора і раніцай прыбягала і вечарам — не застала.

— Ну гавары хутчэй, Ульяна, а то ў мяне чалавек з вобласці...

— Прасіць цябе прыйшла, Назаравіч. Ты сам бачыш, як сохне мой Кастусь. Пакутуе, вельмі пакутуе, Назаравіч... Па ёй. Проста не можа... Баюся, сапсуецца. Людзі кажуць, што да Веры Вухаедавай пачаў хадзіць. Але ж нашто яна яму? Вера то дзеўка добрая, але ж не трэба яна яму. Дык што ж гэта будзе, Назаравіч? Прападзе чалавек... Баюся, прападзе...

— А што я магу зрабіць?

— Вы скажыце яму, каб да жонкі ехаў. Мяне ён не слухае, а вас паслухае. Паедзе, дык чалавекам будзе...

— Дык ты хочаш, Ульяна, каб я свайго лепшага брыгадзіра прагнаў?

— Знойдзеш сабе брыгадзіра, Назаравіч. А вось як чалавек прападзе...

— А я думаю, што няма чаго яму ехаць. Што гэта за жонка, што кідае мужа ды ўцякае. Гнаць такую жонку трэба. Пабегла — няхай бяжыць. Такія хлопцы, як твой Кастусь, на дарозе не валяюцца. Пабегае ды і прыбяжыць. А ён яшчэ няхай падумае, пускаць яе ці не? А не прыбяжыць, дык і не трэба. Знойдзем яму і тут жонку. І не горшую.

— Нядобра вы гаворыце, Назаравіч,— не згаджалася Ульяна.

— Ну, паедзе ён за ёй. А дзе ж яго гонар, мужчынскі гонар? А можа яна потым яшчэ куды ўцячэ, дык зноў яе даганяць? Так усё жыццё і будзе бегаць. Ты вось скажы, ты ўцякала ад свайго Ігната? Ды ты ж з ім гатова была паехаць на край свету. А што — не так? А то ўцякла... Ды я на месцы Кастуся, каб яна нават вярнулася, на парог не пусціў бы...

— Дык у нас сваё, Назаравіч, а ў іх сваё. І нічога, што ён паедзе да яе. Абы жылі добра. Ты скажы яму, Назаравіч.

— Не, не буду гаварыць, Ульяна. І ты не вельмі журыся. Вернецца яна, абавязкова вернецца,— сказаў, як адрэзаў, Кулагін.— А калі не вернецца, значыць, не хоча з ім жыць. Кастусь твой перахварэе, і ўсё будзе добра. Можа яго лёс, яго будучыня тут, у калгасе? А адарві яго ад усяго гэтага, што выйдзе? Тут жа ён вялікім чалавекам стане. Дэпу-

татам людзі выберуць. А ты хочаш, каб я прагнаў яго з калгаса. Хіба не так, Ульяна?

— Ды яно так, але ж... Яму сям'я трэба. А што за чалавек без сям'і?

— Ну, добра, Ульяна, дамовімся так: не будзем пакуль спяшацца. Можа яна яшчэ вернецца. Адным словам, пабачым, як яно будзе. А потым ужо і будзем рашаць? Так?.. А цяпер ты дамоў ідзеш?

— Ды дамоў... Я толькі дзеля гэтага прыходзіла,— паднялася Ульяна і памкнулася да дзвярэй.

— Пачакай, Ульяна, я зараз скажу шаферу, каб адвёз цябе.

— Ды пайду, Назаравіч. Сюды прыйшла, дык і дамоў дайду,— адмаўлялася Ульяна.

— Не, не, адвязём,— выйшаў з ёй Кулагін.

## 5

Надышоў жнівень...

Вечарамі ў дварах курыўся дымок — варылася на вячэру бульба. Вячэралі тут жа каля агню — елі бульбу з хрумсткімі маласольнымі гуркамі.

Лугі ляжалі зялёненькія, роўненькія, застаўленыя стагамі. Высока сінела неба. Зрэдку набягалі на сонца шэрыя хмаркі, і аднекуль тады цягнула халадком. Міжволі думалася тады, што хутка восень.

Жалі жыта. Па полі хадзілі камбайны, пакідаючы за сабою кучкі саломы. Каля свірнаў раслі горы зерня. Пажоўк лён — прыйшла пара рваць і яго.

Кастусь падымаўся з сонцам і дамоў прыходзіў, калі пачынала цямнець.

— Эх, каб у жніўні было якіх шэсцьдзесят дзён...— скардзіўся ён маці.

— Ой, сынок, бабы і так ледзь ногі цягаюць,— гаварыла яна яму. Яна рада была, што сын захапіўся работай: можа не так будзе пакутаваць па жонцы.

— Узімку адпачнем. Яшчэ столькі работы... Лёну аднаго колькі, і салома яшчэ ў полі. Калі яе засціртаваць, проста і не ведаю.

— Засціртуем,— супакойвала яго маці.— Скажы толькі людзям, што за дзесятую долю, дык і глянуць не паспееш, як у сціртах будзе стаяць.

А дні ішлі. І ніяк не выпадала часу, каб управіцца з саломай. Разы два яе добра такі паліў дождж. Яшчэ адзін такі дождж, і пагніе дабро.

Кастусь сеў каля двара на лаўку, закурыў. Курыў без усялякае ахвоты. Не дакурыўшы папяросу, кідаў яе і даставаў другую.

Пад'ехаў Кулагін. Вылез з машыны. «Волга» завярнулася, паласануўшы па хатах фарамі, паехала назад. Кулагін павітаўся з Кастусём за руку, сеў на лаўцы, выцягнуў ногі, пагладзіў калені.

— Баляць, чэрці... Ці не раўматызм які? — папрасіў закурыць.— Свае ў машыне забыўся. Усю салому засціртавалі?

— Засталася толькі тая, што на працэнты.

— Мы сёння з заатэхнікам падлічылі кармавы баланс. З кармамі не ўсё ясна. Сто галоў дабаўляем у гэтым годзе. Вырашылі пакуль што салому засціртаваць усю. Калі бульба ўродзіць, то тады аддадзім салому людзям, а калі не, то прыйдзецца не аддаваць. Пойдзе на сечку каровам.

— Мы ж паабяцалі.

— Нічога страшнага. Не сабе бяром. Пакуль нічога не гавары. А будуць дапытвацца, скажы, што будзем раздаваць пазней, калі работы будзе меней у калгасе.

— А можа ўсё ж раздамо салому, Назаравіч?

— Не. Па ўсіх брыгадах засціртуюць, а мы раздамо? Чыжэвіч ужо сёння засціртаваў,— падняўся Кулагін.— Вось яшчэ што, ледзь не забыўся. Там сёння лес і цэглу дзялілі. Выдзелілі і табе матэрыялу на хату. Дык завязі заяву ў кантору, каб лішняй гаворкі не было. Даў загад будаўнікам, няхай будуюць хату табе ў першую чаргу. Так што Новы год сустрэнеш у новай хаце.

— Дзякуй...

— Потым падзякуеш,— ён паціху, нібы мацаючы нагамі зямлю, пайшоў дадому.

Было ціха, ціха... Толькі чулася за вёскай песня. Вярталіся дамоў з фермы. Там была і Вера.

## 6

Колька сек ламачча. Большыя сукі клаў каля сцяны пад павеццю, а драбнейшыя звязваў у пукі і кідаў іх у кучу тут жа каля калодкі.

Зайшоў у двор Павел. Моўчкі, схіліўшы галаву, глядзеў на Кольку, той не вытрываў і спытаў:

— Ну, што ты?

— Ты мне скажы, хіба такія дровы меў, калі я быў брыгадзірам? На іх жа бліноў не спячэш.

— Ды кажуць, што пасля ўборкі ўсіх забяспечаць дрывамі. Выдзеляць, кажуць, людзей, яны і будуць вазіць,— Колька загнаў тапор у калодку і разагнуўся.

— Навозяць, чакай...— хмыкнуў Павел.— Сенам цябе забяспечылі ўжо.

— Ды воз сена яшчэ не шкодзіла б...

— А ты пры мне без сена калі-небудзь сядзеў? Скажы? Ніколі! Яшчэ вясной прадаваў. Капейку меў. А цяпер? Эх, каб ведаў, што не буду брыгадзірам, дык не пачынаў бы будавацца. А то яшчэ і каня не даюць. Не, гэтага я ніколі яму не дарую. Трэба правучыць такога разумніка. Каб лічыўся з людзьмі.

— Правучыць бы мо і не пашкодзіла,— згадзіўся Колька.— А то спачатку такім ліслівым прыкінуўся, а цяпер са старшынёй у адну дудку грае.

— А чаму ж яму не трубіць? Яму ж хату пачалі будаваць. Бачыў, якое дзерава сёння падвезлі? А цэглу? Ніводнай бітай. Вось так. Дык як, думаеш зімаваць без сена?

— Можа ж яшчэ які вазок саломы будзе.

— Саломы? Хе! Ён спадзяецца на салому! — зарагатаў Павел.— А скулы не хочаш? Ты ведаеш, што тваю салому сёння сціртуюць?

— ?!

— Вось так... Сказаў усім, што салому пазней будуць даваць. Але ж тады навошта сціртаваць? Чыстая брахня. Салому ў сцірты, і вартаўніка з драбавічком паставяць. А нашы кароўкі няхай сцены грызуць.

— Ды за гэта трэба морду біць!

— Правільна, трэба правучыць гэтага смаркача. А то будзем цярпець, дык зусім...

— Ну, гэта хто каго! — пасмялеў Колька.

На сцірце стаялі Майсей Вухаед і Кастусь. Астатнія мужчыны, што былі ў брыгадзе, падвозілі салому. Кастусь знарок не клікаў на работу Паўла і Кольку, ведаў, што тыя пачнуць крычаць. А без іх усё абышлося ціха. Праўда, той-сёй спытаўся, чаму салому рашылі сціртаваць.

— Хіба нас падводзіў калі Ігнатавіч? — супакоіў усіх Майсей Вухаед.

На гэтым уся гаворка і скончылася.

Таптаць салому было цяжка, хадзіць па сцірце няёмка, салома раз'язджалася пад нагамі. Кастусь так упарыўся, што мусіў быў скінуць пінжак і астаўся ў кашулі. Неўзабаве людзей яшчэ прыбавілася. Падышлі даяркі з фермы, цялятніцы, а з імі і Вера. На Кастуся яна нават і не зірнула, як адчула, што ён староніцца яе.

Сцірта непрыкметна расла. Майсей на сваім канцы пачынаў ужо вяршыць. У гэты час Кастусь і заўважыў Паўла і Кольку. Яны спяшаліся. Павел ішоў першы з сукаватым дрынам у руцэ. Услед за ім ледзь не бег цыбаты Колька. Абое без шапак, у расхрыстаных кашулях.

Падышоўшы бліжэй, Павел крыкнуў Кастусю:

— А ну, злазь, пагаворым! Ну, чаго стаіш?

— Калі не хочаце па пятнаццаць сутак палучыць, дык ідзіце дамоў ды праспіцеся!



— Злазь, а то дрынам знімем!

— Ідзіце, яшчэ раз гавару, а то дайграецеся.

— Ён не дае нашай саломы, ды яшчэ і пагражае. А ну, злазь, кажу! — Павел замахнуўся і шпурнуў дрынам на стог.



Кастусь нагнуўся, дрын з посвістам паляцеў на другі бок сціртьі.

— Уцякай! — здаецца, закрычала Вера.

Кастусь згледзіў, што Павел шпурнуў яшчэ нешта, але адхіліцца не паспеў — вілы дзеўбанулі ў руку вышэй локця.

— Заб'ю! — крычаў Павел і вырываўся, а яго трымалі жанчыны і Колька. Маня, Паўлава жонка, бегала вакол і галасіла. Паўла павялі дамоў. Ён упіраўся і ўсё крычаў, што не даруе брыгадзіру.

Вера, убачыўшы, што бацька перавязвае Кастусю руку, пабегла на канюшню, вывела брыгадзіравага жарабка, ускочыла на яго і панеслася ў Вішнёва.

Кастусь убачыў толькі воблака пылу, што паднялося над дарогай пад Якімаўскім лесам.

Неўзабаве прыехалі Кулагін з участковым міліцыянерам. Міліцыянер сеў пад сціртай і напісаў акт. Кастусь адмовіўся яго падпісаць.

## 7

Вярнуўшыся да маці, Ліна не хадзіла ні ў кіно, ні да сяброўак, не ўключала тэлевізар — рыхтавалася да экзаменаў. Абедала з кнігай

у руках, з кнігай і спаць клалася. Зінаіда Пятроўна добра ведала сваю дачку, разумела, што такая зацятасць да вучобы ў яе зусім нечаканая, і вельмі ўстрывожылася. І сапраўды гэта было так. Ліна хацела не думаць пра Кастуся, пра тое, што ён не піша... Ну і няхай не піша! А яна вось паступіць у інстытут!

Зінаідзе Пятроўне не раз хацелася пагаварыць з дачкой, але не адважвалася, бо ведала, што ўсё роўна гаворкі не будзе, як не выйшла і ў той дзень, калі Ліна прыехала з вёскі і калі яна сказала: «Пра яго каб і слова не чула».

Здавала экзамены Ліна паспяхова. Кожны раз ішла на экзамен з нейкай зухаватасцю. І кожны раз здавала на выдатна. Не адпачываючы, у той жа дзень бралася за наступны. Зінаіда Пятроўна баялася, ці хопіць у дачкі сілы. Пасля апошняга экзамена Ліна прыйшла дамоў сумная, з пустымі, абыякавымі вачыма, нават не пахвалілася маці, як здала. Есці нічога не стала, выпіла кефіру і лягла спаць. Спала да вечара, спала і назаўтра ледзь не да абеду. А потым зноў было хваляванне: ці залічаць, ці не?

І вось настаў дзень, калі ў вестыбюлі медыцынскага інстытута вывесілі спісы. Ліна які момант стаяла і баялася глянуць туды, дзе павінна было быць яе прозвішча. А раптам... Яе прозвішча было ў спісах. Спачатку ёй захацелася некаму расказаць пра сваю радасць. Кінулася да тэлефона, ды ўспомніла, што званіць няма каму. А ў вестыбюлі, як на злосць, нікога знаёмага. І тут яна можа ўпершыню за апошнія дні падумала пра Кастуся, падумала з такой балючай роспаччу, што ўся яе радасць адразу прапала, на душы зрабілася пуста. Ён і не ведае пра яе поспехі. А можа і не хоча ведаць. Можа дзе яшчэ і рады, што яна пакінула яго...

Ліна выйшла на вуліцу. Вуліца жыла сваім жыццём... Каля самага інстытуцкага ганка нейкая старая прадавала жытніцу. Ля білетнай касы кінатэатра таўклася чарга. Ліна прыглядзелася — ніводнага знаёмага твару. Скіравала ў скверык, села на лаўку.

Не сядзелася. Неўзабаве паднялася і пакіравалася дамоў.

Зайшоўшы ў двор, Ліна адразу ж падбегла да паштовай скрынкі. Дастала газеты, патрасла іх — пісьма не было...

Калі Зінаіда Пятроўна ўбачыла дачку, то падумала, што яе не прынялі ў інстытут. Не стала дапытвацца, пацікавілася толькі, ці не будзе яна абедаць. Ліна адмовілася, села на канапу, падабрала пад сябе ногі і пачала старанна вывучаць тэлевізійную праграму.

— Ну, што маўчыш? — не стрывала маці.

— А што? А-а, інстытут... Залічылі...— сказала яна так, нібы незадаволена тым, што яе залічылі.

— Ну, дык віншую! — маці села каля дачкі, а потым усё ж спыталася, пра што раней не рашалася пытаць: — Ліна, а як жа цяпер з Кастусём?

— А што — з Кастусём? — раззлавалася Ліна.— Каб я патрэбна была яму, то прыехаў бы даўно ці напісаў бы. А не патрэбна, дык і ён мне не патрэбен,— ледзь не закрычала яна.— Чуеш?

— Чую, чую, дачушка, як ты кожны дзень правяраеш паштовую скрынку...

— Я не магу без яго,— раптам уткнулася Ліна ў матчын прыпол і расплакалася. Расплакалася, як малая, гучна ўсхліпваючы, шморгаючы носам. Маці маўчала, яна ведала, што цяпер трэба толькі маўчаць, нічога не гаварыць. Ліна сама супакоіцца, сама потым будзе ведаць, што ёй рабіць. Ліна і сапраўды, наплакаўшыся, супакоілася, папрасіла есці.

— Але ж я не магу кінуць інстытут,— сказала яна за абедам.— Тры гады паступала. Тры гады! Не, я не магу кінуць цяпер інстытут. Я болей тады не паступлю...

## 8

Кулагін загадаў неадкладна сабраць брыгадны сход.

У клубе не хапала ўсім месца. Людзі стаялі каля сцяны, у дзвярах.

Колька і Павел сядзелі перад самай сцэнай, абодва былі вясёлыя. Цяпер хлопцы ведалі, што для іх самае страшнае мінула. А спачатку былі вельмі спалохаліся. Чакалі, што прыедуць іх арыштоўваць. Потым па вёсцы пачалі гаварыць, што нібы той пратакол адмовіўся падпісаць Кастусь, што ён адмовіўся таксама ехаць у паліклініку на медыцынскае абследаванне. Але Павел і Колька не верылі чуткам, не верылі, што брыгадзір не падасць на іх у суд. Але, як даведаліся, што маюць склікаць сход, паадважнелі. І цяпер, седзячы на самым перадзе, каля прэзідыума, былі вясёлыя.

А ў Кастуся сапсаваўся настрой. І не таму, што Кулагін перад самым сходам аблаяў яго за тое, што пашкадаваў хуліганаў. Настрой яго ўвесь час псавала Вера. Яна таксама сядзела на першым радзе і не зводзіла з Кастуся вачэй. Ну, навошта яна так глядзіць на яго? Не глядзела б так, Кастусь адчуў бы сябе смялей. А так сядзіць ён, апусціўшы вочы, нібы не каго іншага, а яго на гэтым сходзе збіраюцца судзіць.

Падняўся Кулагін, адкрыў брыгадны сход. Адкрыць жа сход павінен быў Кастусь, ды забыўся.

— Дык што ж гэта робіцца? — Кулагін ніколі не быў такі ўзрушаны.— Больш за пятнаццаць гадоў я працую старшынёй, але такога яшчэ не бачыў. Быў вельмі цяжкі час, калі мы на працадні не мелі чаго даць, калі я сілком выпраўляў людзей у поле. Але каб хто падняў руку на мяне ці на брыгадзіра — такога не было. І мяне сёння дзівіць не толькі ўчынак хуліганаў,— мы яшчэ пра іх пагаворым,— але паводзіны самога брыгадзіра, таварыша Вярэйчыка. Не разумею, чаму ён пакрывае злачынцаў? Ну, добра, няхай гэта астанецца на яго сумленні, але мы не можам даравць ім гэтага. Не дазволім, каб яны кідалі віламі ў людзей.

Кастусь і сам спачатку не вельмі ўцяміў, чаму ён падхапіўся, папрасіў сказаць некалькі слоў. Ці таму, што Кулагін сказаў, што ён пакрывае злачынцаў, ці яго раззлаваў спачувальны позірк Веры.

— Я перш за ўсё хачу сказаць, што мне не трэба ніякага спачування,— пачаў ён.— У тым, што здарылся, больш за ўсіх, відаць, вінаваты я сам. Я сказаў людзям, што яны атрымаюць салому... А потым загадаў салому сціртаваць, маўляў, яе будуць даваць пазней. Схлусіў. Сказаў няпраўду. І атрымаў. Мне вельмі сорамна перад усімі. Я не маю права гаварыць людзям няпраўду.—Кастусь азірнуўся на Кулагіна, той сядзеў і ўважліва яго слухаў.— Вось так. Вось чаму я не падпісаў пратакол. Хоць разумею, што Павел і Колька заслугоўваюць пакарання. Тым больш, што Павел кінуў вілы не толькі таму, што не палучыў саломы. Але ж я яго з брыгадзірства не праганяў, ён сам сябе прагнаў...

Кастусь сеў, у зале запляскалі ў далоні. Кулагін наліў шклянку вады, выпіў, падняўся, счакаў, пакуль стане цішэй, і нечакана для ўсіх пачаў вельмі спакойна:

— Вы чулі, што сказаў зараз Вярэйчык. Вы самі пераканаліся, якія

гэта прынцыповы чалавек. Дзякуй табе, Кастусь, што не пасаромеўся і мяне, старшыню, папракнуць. Вучыцеся, таварышы, у яго сумленнасці, прынцыповасці. І вось у такога чалавека кідаюцца віламі! Гэта ж добра, што яшчэ так абышлося. Нам трэба з усёй строгасцю асудзіць паводзіны хуліганаў. Хто хоча выступаць?

Паднялося некалькі рук.

А Кастусь сядзеў, апусціўшы вочы, адчуваючы сябе побач з Кулагіным няёмка.

Сход скончыўся.

Кастусь бачыў, што Вера не спяшаецца выходзіць, азіраецца. Вядома, яна чакае яго! Кастусь знарок марудзіў.

Над зямлёй вісела ноч. За балотам над чыгункай ружавела палоска, збіраўся выплысці месяц. І ад той адзінай палоскі яшчэ больш цёмна было навакол. Далёка на чыгунцы мільгалі агеньчыкі. За вёскай гудзеў трактар, араў жытнішча. Недзе заспявалі дзяўчаты.

— Косця,— пачулася амаль побач.

— Вера?

— Не пазнаў, можа?

— Пазнаў. А чаго ты тут стаіш?

— Цябе чакаю,— яна ўзяла яго пад руку.— Бачу, старонішся мяне. А што, можа, не так? Не старонішся?

— Адкуль ты ўзяла, Вера? — як мог бадзёра, сказаў Кастусь.— Проста часу няма. Ведаеш, колькі цяпер работы? Змучышся за дзень...

— Раней работы не меней было, а прыходзіў жа. Ці можа цяпер я не трэба табе? Можа абрыдла?

— Ды што ты!..— ён не дагаварыў.

— А ведаеш, Косця,— памаўчаўшы, сказала яна,— я вырашыла таксама разам з табой паступаць у акадэмію. Паедзем разам? Добра?

— Добра. Абавязкова паедзем.

Яна засмяялася, як смяюцца ад радасці дзеці, яшчэ бліжэй прытулілася да яго, абняла рукой.— А я, дурная, думала абы-што.

— Дурная ж...— у яго голасе з'явілася нешта падобнае на пяшчоту.— Упраўлюся з работаю — будзем сустракацца часцей.

— Але сёння ты пойдзеш са мной. Я цэлы мяшок жытніцы нанасіла ў дрывотнік. Буду цябе частаваць яблыкамі. Ну што ты, Косця, маўчыш? Ты ж прасіў, каб я з хаты ў дрывотнік перабралася спаць.

— Позна ўжо,— яго абражала яе шчырасць, але ў яго не хапала рашучасці, каб развітацца з ёй.

— Яшчэ і дванаццаці няма.

— Сёння такі цяжкі дзень...

— І сход гэты яшчэ...

— Сход то сход, але вось,— раптам знайшоўся Кастусь.— Рука разбалелася.

Болей і не ведалі, пра што гаварыць. Крыху пастаялі каля веснічак.

— Ну, дзякуй, што правёў,— ціха сказала яна.— Я пайшла.

— Спакойнай ночы,— ён легка прытуліў яе да сябе, пацалаваў на развітанне.

У хаце гарэла святло. Кастусь падумаў, што можа што здарылася, адчыніў дзверы і спыніўся. У парозе стаяла Ліна і ўсміхалася яму.

ПАЭЗІЯ



- Беларусі
- Мне сняцца маладыя камісары
- Лясы маленства



**Міхась РУДКОЎСКІ**

О, Скарыны зямля,
непакорная воляй і духам,
край Купалы
і звонкае песні купальскае край!
Беларусь, Беларусь —
мая светлая радасць і скруха,
Шлях мой Млечны,
мой росны чаромхавы май!

Ў тваіх кузнях мой дзед
гартаваў лемяхі і нарогі,
На палях тваіх
бацькі —
што крочыў з сяўнёю —
сляды.
Я звіваў у сувой
і дарогі твае і трывогі,
і, як замкі свае,
адчыняў я твае гарады.

Дзе б ні быў,
я усюды
знаходзіў гасціннасць і шчырасць,
бо і сам я з табою,
з сябрамі ў жыцці не хітрыў...
Беларусь-працаўніца,
лябёдка мая белакрылая,
ты дала мне усё, што магла,
каб шчаслівы я быў.

У кашулі з снягоў
і шаўкоў свіцязянскае сіні,
падпяразаны Нёманам,
з весняй, як хмель, галавой,
у бяседным застоллі
па праву адданага сына
я саджуся з табою,
адзінай маёй, дарагой.



Калі ўначы ускрыкну я парой,
ты не будзі,
я бачу не кашмары,—
мне сняцца маладыя камісары,
што за сабой вядуць палкі на бой.
Успененыя коні
на зары
развейваюць па небакраі грывы.
Ляціць штандар, крылаты і імклівы,
і на вятрах разбуджаных гарыць.
Стук капытоў, нібы літаўраў звон,
зліваецца у маршы пераможным.
І над зямлёй абуджана-трывожнай
ўсплывае сонца векапомных дзён.
І калі я ускрыкну ў сне парой,
ты ведай,
я імчуся праз пажары
і бачу —
конь упаў пад камісарам.
А лепей бы упаў ён пада мной...



*І тчэ, забыўшыся, рука...*
*М. Багдановіч.*

Я помню заўжды іх, бы казку,
бясконца удзячны я ім,
прасторным палянам пушчанскім —
зялёным чытальням маім,
дзе кніжкі уміг ажывалі
і я раствараўся у іх.
Дубы, што Сакраты, стаялі
у тогах няяркіх сваіх;
і снежань,
высокі і чысты,
Палярнаю зоркай гарэў
і ясені, як дзекабрыстаў,
у строгае строіў карэ.
А ў маі, калі распускаўся
авеяны промнямі клён,
ў разгульнай самоце імчаўся
ружовы паэтавы конь —
туды, дзе у бэзавых росах
у леце цвілі верасы
і ткалі у сонцы бярозы
Радзімы маёй паясы.

ПАЭЗІЯ

● *Ліўні*

●● ——————

●●● ——————





**Валеры ДРАНЧУК**

●

Не жыў на адзіным хлебе:
за родным сялом сярод ніў
дажджынкі з ільдзінкамі неба
і я у маленстве лавіў.

У вочы ўлівалася сінь.
Расплёскаўшы зыркую зелень,
званіцай уся далячынь
суладна з душой звінела.

І дзесь ля прырэчных ракітаў
лажылася з кроплямі ў травах
душа мая... Рыбкай блакітнай
у сецях срабрыстых сплывала.

Над хатай шапталіся клёны
ў празрыстай начной цішыні.
І сніліся сінія коні,
і я на блакітным кані

імчаўся над садам і ліпамі
туды, дзе за вёскай ільны
вязалі пруточкамі ліўня
зялёны
        абрусік вясны.

●●

Галінкі,
        тонкія, як пальцы,
вярба спусціла на пясок.
На пляж забыты толькі памяць
з табой прыходзіць незнарок,

І хоць сышло з зеніту лета,
сцягнуўшы сонца за сабой,
твой позірк промнем
над планетай
стаяць застаўся нада мной.

Шкада, што сумным лістападам
на міг убачыць не змагу
крутою хваляю купальнік,
загар на пахкім мурагу.

Не спаласнецца
ціхі бераг
у сіняве тваіх вачэй.
Спакой, як парус,
пахіснецца
на ветры восеньскіх начэй.

А незнарок заблудзіць памяць
туды, дзе шэпчуць чараты,
галінкі
тонкія, як пальцы,
ўспамінам хруснуць ля вады.



Ноч навісне...
На травы пракосныя,
незнарок на туманную гладзь
будуць падаць сузор'ямі росы
ў прадчуванні цяпла і святла.

І блакіту сцюдзёнага раннем
не паспеюць напіцца ласі:
сонца хлыне,
і возера ў ззянні
разаб'ецца ад кроплі расы.



● Мікола ВОРАНАЎ

● Мал. А. БАРАНОЎСКАГА

# КРОКВЫ

АПАВЯДАННЕ



На двары ля нашай маленькай, ужо струхнелай у вуглах, хаткі шаркае піла, звіняць сасновыя бярвенні і ўвачавідкі расце зруб. Заўчора было шэсць вянцоў, а сёння ўжо восем.

На зрубе сядзяць стары Астах і Гапей, таксама ўжо не малады мужчына. Астах сухі, як таран, з доўгай і рэдзенькай, што ў казла, барадой. Гапей — круглейшы, меншы ростам і шырэйшы ў плячах. Абое з калгаснай будаўнічай брыгады, абое ўвішненька махаюць сякерамі, шчыруюць да самага вечара. Робяць яны ўсё згодна, і ніводнага шчыкаткога слова не сарвецца ў іх з языка. Толькі і чуеш: «Астах, пасабі прыпадняць бэлечку, села няшчыльна», або: «Гапей, паз малаваты, давай яшчэ трошкі знімем».

Маці ўвесь дзень на рабоце, сушыць сена ў брыгадзе. А я памагаю цеслям: то моху падам, то адвес ці яшчэ што-небудзь. Увесь дзень кручуся ля зруба, дабрэючы ад радасці: гэта ж мы ўжо скора пяройдзем у новы дом! Як магу, стараюся дагадзіць цеслям.

— Дзядзька Астах, чаго вам напіцца падаць — хлебнага квасу ці сыроваткі?

— А што халаднейшае? — перапытвае Астах.

Я не ведаю, што халаднейшае — сыроватка ці хлебны квас. Кумільгом улятаю ў старую хатку, наліваю ў адзін збан хлебнага

квасу, у другі — сыроваткі і падаю цеслям. Астах п'е квас, а Гапей — сыроватку. Потым яны мяняюцца збанамі. Я забіраю амаль што парожні пасудак, нясу ў хатку і скоранька зноў бягу да зруба. Астах па-кавалерыйску сядзіць на бервяне і курыць люльку. Гапей, мусіць, некурашчы, перабірае ў руках зеленаваты мох і, нешта там выбраўшы, кідае ў рот. Па тым, што ён зморшчыўся, я здагадаўся: дзядзька Гапей кінуў у рот журавінку.

Выпускаючы з рота клубок дыму, Астах глядзіць на мяне і кажа:

— Дык во, Янак, скора ты будзеш жыць у новым доме.

Радасць мая большае.

А ён як бы не заўважае мае радасці, пытае:

— Табе, Янак, не надаела ў гэтым церамочку жыць?

Мне робіцца смешна: нашу хатку дзядзька Астах называе церамочкам.

— Надаела,— кажу і борздзенька бягу пад паветку за хлеўчык. Зганяю з гнязда курыцу і забіраю ўсе, пакінуўшы толькі на поклад, яйкі. Нясу іх да зруба і крычу, задраўшы галаву: — Вось яечак прынёс вам. Выпіце, дужэйшымі станеце.

Астах глядзіць у мой прыпол і разважна гаворыць:

— Ты, Янак, не будзь курашчупам. Пакладзі яйкі там, дзе ўзяў...

Я адчуў, як загарэліся мае шчокі, як падкаціў да горла горкі камячок. Выцершы рукавом слязінку, я пайшоў пад паветку і паклаў у гняздо яйкі. Моўчкі вярнуўся, сеў на сасновы круглячок, чухаючы ўджаленыя каля паветкі крапівою ногі.

Астах згледзеў, што я перамяніўся, і сказаў:

— Гэта, Янак, не хлапечая справа шастаць па гнёздах. Унь падай мне лепей моху.

Я напхаў у кошык мяккага, як пух, моху, падаў на зруб. Астах роўненька расклаў мох і прыпусціў бэльку, пагрукаўшы, каб шчыльней села, абухам.

Паніжэла сонца, паменшала дзённая духата. Прайшоўся ветрык-нізавік і прынёс з ракі пах ціны, раскі і бабоўніку. Недзе за вёскай рыкалі каровы, іх, напэўна, гналі ўжо з пашы.

Якраз, калі я загнаў у хлеў нашу Вавёрку, вярнулася з работы маці. Яна прыпынілася пасярод падворку, доўга і ўважна глядзела на высокі зруб, з якога ўжо злазілі цеслі, і я бачыў, як свяціўся стомлены матчын твар.

— Не ведаю, мусіць, і да самае смерці не паспею аддзякаваць вам,— гаварыла маці, з лагодай ужо гледзячы на цесляў.

— Ці ж пра смерць думаюць, Пёкла, у новым доме? — азваўся Астах.— Згуляй наваселле ды жыві, не спяшаючыся. А дзякаваць праўленню трэба: яно паслала нас будаваць табе дом.

— Усё роўна ж...— не вельмі гаваркая, маці пераступала з нагі на нагу, і — да мяне: — Янак, назбірай сушэйшых трэсак ды распалі цяпельца, унь там ля цаглін. Трэба ж нашых мужчынак накарміць.

— Не галодныя, Пёкла,— за сябе і за Гапея адказаў Астах, але дадому не спяшаўся, гупнуўся ў кучу моху, загаварыў: — Дык бачыш, Пёкла, гатоў зруб. Трэба кроквы ставіць. Заўтра б і паставілі, ды няма з чаго вычасаць. Восем тоненькіх бэлечак трэба. Неяк выберам часу, прывязём.

Маці ўважліва паглядзела на мяне, як бы мераючы ўсяго ад пят да макаўкі, падумала і азвалася:

— На кроквы мы з Янакам прывязём, Астах. Спілуем і прывязём, заўтра ж. Праўда, Янак?

— Ы-гы,— доўга не думаючы, адказаў я і падзьмуў на цяпельца.

Яно падхапілася, заскакала чырвонымі грабянцамі з-пад цаглін, на якіх стаяла вялікая патэльня, а ў ёй вiршчэлі скрылікі сала і дзесятак, ніяк не меней, яек.

— Ну, хадземце ж у хату,— сказала, нарэшце, маці і падхапіла чапельнікам патэльню.

Да яешні маці паставіла буталь нечага чырвонага, як вішнёвы сок. Я бачыў, як Астах, выпіўшы, зморшчыўся, смешна затрос бародкай.

Павячэраўшы, цеслі падзякавалі і скоранька падаліся дадому. Маці прыбрала са стала і таксама выйшла з хаты. Нешта доўга яе не было. Вярнулася яна, калі я, лежачы пад коўдрай, ужо ціхенька драмаў.

— Ты спіш, Янак? — на паўголаса спытала маці.

— Не яшчэ.— Я выцер ліпкія вочы і выглянуў з-пад коўдры.

Маці паставіла на стол гліняк з малаком,— гэта каб скіслася да рання на сыраквашу,— і сказала:

— Я да брыгадзіра хадзіла каня пытаць. Даў. Дык з'ездзіма, Яначак, заўтра?

— З'ездзім, чаго там,— азваўся я і зноў схаваў галаву пад лёгенькай коўдрай.

Разбудзіла мяне маці раненька — толькі-толькі бралася світаць. На двары фыркаў і тупаў капытамі конь. Я глянуў у акно і пазнаў Громіка — куртатага, з падстрыжанай грывай каня, на якім не раз ездзіў і вярхом і ў запрэжцы.

— Еш, еш, наглядзішся яшчэ,— маці бліжэй падсунула міску з сыраквашай.— Раней выедзем, дык раней і ўправімся. Днём духата, а цяпер самы раз будзе.

Праз якія мінуты мы ў дарозе. Громік трухае борздзенька, дробна трасучы хвастом. Я лёгенька сцёгаю пужкай па яго сівым крыжы. Громік касавурыцца, але ўлягае спарней, і наша вёсачка астаецца далёка ззаду, схаваная ў бярозавых прысадах. Дарога вузее, вымазаны каланіцай лазняк чапляецца за колы, сцёбае па нагах, і я задзіраю іх вышэй, каб не парвала штаны. Праз вярсту дарога зусім пачала рассыпацца то ўлева, то ўправа каляінкамі, парослымі трыпутнікам і дарожнікам.

— Куды ехаць далей? — збіўшыся з тропу, пытаю ў маці.

— Унь туды кіруй, за Ляды,— паказала яна на рослы ельнік.

Я тузануў ляйчынай управа, яшчэ раз дастаў пужкай Громікавага крыжа, і калёсы мякенька пакацілі ўскрай выжарыны, парослай зязюльчыным лёнам, сіўцом і дзікай цыбулькай. Пераехалі вузенькі, увесь у бабоўніку, ручай, узабраліся на сухі грудок, а за ім пачынаўся гонкі ельнік.

— Стой, Янак, тут мы і выберам на кроквы.— Маці першая саскочыла з калёс, прыпынілася, папраўляючы хустку.

Я адпусціў папружку ад аглобляў, паправіў сядзёлку і прывязаў Громіка да бярэзінкі. Мы падышлі да роўнай, гонкай елкі. Шаркала, мякка ўпівалася ў маладое дрэва піла. Затрашчаўшы там, дзе мы падрэзалі, і шастаючы галінамі, елка паляцела. Я скоранька абсек сучча,— яго ад камля мала і было,— і мы з маці адпілавалі макаўку. Потым падышлі да другой, трошачкі таўсцейшай у камлі елкі, і таксама хуценька яе спусцілі. Папраўдзе, мы і самі не думалі, калі ехалі ў лес, што так спорненька ў нас будзе падавацца работа. Выгрызаючы жоўценькія крупкі, піла мякка лезла пад маладую кару, а сякера за раз брала нават самы таўсцейшы сук, бо заўчора яе дзядзька Астах добра навастрыў.

Мы пасцягвалі ў адно месца бэлечкі — іх было ўжо якраз восем, прыселі адпачыць.

— За раз, відаць, не завязём: слабаваты конік наш,—паглядаючы на Громіка, сказала маці.

— Ага, не забраць за раз,— згадзіўся я.— Каб яшчэ зімой на санях, можа б і за раз забралі...

— А на два таксама не выйдзе — мала,— заўважыла маці.— Трэба яшчэ на што-небудзь спілаваць.

— Спілуем, што нам значыць.

Мы ўсклалі на воз пяць бэлечак, моцна ўвязалі пяньковай вяроўкай. Ужо калі я ўзяў лейцы, маці раптам сказала:

— А можа б астаўся ты лепей тут, Янак, жэрдак насек бы на латы. Не баішся ў лесе адзін?

— Каго мне тут баяцца,— адказаў я, косячы вокам на сякеру.

Папраўдзе, мне не вельмі хацелася тут аставацца, хацелася ехаць, каб самому трымаць лейцы, ісці пры возе, каб усё наша Сцяпкова бачыла, што я ўжо не блазнюк, а гаспадар. Аднак жа трэба, бо кроквы ёсць, а лат не будзе.

Маці паехала, а я забраўся ў гусцейшы ельнік — рос ён тут высокі, сама раз на жэрдкі. Сячы іх лягчэй, а церабіць — тым больш, бо сучча тонкае ды і мала яго. Але так здавалася толькі напачатку. Ссекшы і абцерабіўшы з дзесятак ялінак, я адчуў, што рукі трошкі пацяжэлі, а кашуля ўзмакрэла і прыліпла да спіны.

Павыцягваўшы з парасніку жэрдкі, я падаўся глыбей у лес пашукаць ягад. Шастаў у гушчары доўга, але, акрамя зялёных ажын, нічога не знайшоў. Я прыпыніўся, агледзеўся — і трошачкі разгубіўся: не ведаю, у які бок ісці. Выручыў мяне матчын голас.

— Яна-а-ак! — гукнула маці.

— ...анак,— азвалася рэха.

— Чу-ую!..

— ...ую!

Я кінуўся на матчын голас і хуценька дабег да воза. Трошачкі ўзмылены пад лапаткамі, Громік апусціў галаву і вадзіў пысай па шорсткім сіўцу, аднак шчыкаць яго не хацеў, шукаў сакаўное травы.

— Куды гэта, Янак, ты бегаў? — беручыся за камельчык бервянца, папытала маці.

— Тут паблізу быў,— пасабляючы ёй, адказаў я.

Гэты воз быў большы. Громік упіраўся з усяе сілы, выцягваў уперад галаву і ледзь не да самае зямлі клаўся заднімі нагамі, выкідваючы іх далей, каб мацней уперціся. Я цяпер на яго не панукваў, не падсцёбваў сырамяткай, а толькі злёгку тузаў ляйчынай, ідучы каля воза, які праразаў коламі сырую зямлю і граз ледзь не па самыя ступіцы.

Каляіна вывела з узлеску, абагнула выжарыну, прымяла ў лажку асочку і лягла ўброд раўчуком. Ля ручая Громік прыпыніўся, правёў пысай па вадзе, ударыў пярэдняй нагой, апырскаўшы сабе грудзі, а мне порткі.

— Ці возьме ён тут? — насцярожана спытаў я.— Можа б куды ў аб'езд павярнуць?

— Гэты ручай аж за Тураўскія выгаркі цягнецца,— сказала маці.— Можа як выедзем. Узяў жа быў першы раз. Толькі лявей бяры, бо справа дужа глыбокая каляіна...

Але Громік не вельмі слухаў мяне, рэзка рвануўшы, ён папёр, сапучы, праміком, куды глядзелі вочы. Лейцы вырваліся з маіх рук. Правыя колы схаваліся ў каляіне, а левыя наскочылі на штосьці цвярдзейшае. Воз крута нахіліўся і знерухомеў. Да яго скоранька падскочыла маці, каб памагчы плячом. Я падхапіў лейцы, нокнуў і добра

такі сцёбнуў Громіка сырамяткай. Ён з падскокам ірвануў, пялёхнуўшы заднімі нагамі, і ўжо ступіў на сухое, але воз яшчэ больш нахіліўся і лёг у ваду. Я пачуў, як ускрыкнула, прыціснутая бярвенцамі, маці. І нехта без рук падштрухнуў мяне: «Пасабляй!» Я бездапаможна пялёхаўся ля воза, спрабаваў падняць яго, але нават і не скрануў з месца. Апіраючыся на локці, маці намагалася выбрацца, але яе не адпускала возам.

— Яначак, паспрабуй калком прыпадняць, можа як выберуся.

І толькі цяпер спахапіўся я, што на возе ёсць сякера і жэрдкі. Скоранька адсек калок, моцна ўпёрся плячом, намагаючыся прыпадняць воз. І ён на гэты раз чутачку падаўся. Маці выслабаніла спіну, а калі я напяўся яшчэ мацней, выслабаніла і ногі. Але стаць на іх яна адразу не магла і апусцілася на прыбярэжны асочнік.

— От жа нагода навярнулася...— маці паглядзела на мяне і, супакойваючы, дадала: — Нічога, сынок, пройдзе. Во пасяджу трошкі і палягчэе, адляжа.

— Я завязу цябе, мама, да доктаркі. Яна паможа.

— А як жа кроквы? — маці паглядзела на скасабочаны воз.

— Кроквы пасля прывязу.

Я адвязаў вяроўку, паскідаў у ваду бярвенцы, паставіў калёсы і памог маці сесці.

Ехалі хутка, я без упынку паганяў каня, воз трэсся, падскокваў, з колаў абвальваліся на траву чорныя камякі гразі. Праз якую гадзіну мы пад'язджалі ўжо да Сцяпкова. Новы чырвоны будынак медпункта стаяў з краю вёскі. Яго вокны з вуліцы зялёнымі каснікамі завешвалі бярозы. Я пад'ехаў да самага ганка, ссадзіў маці, адчыніў ёй дзверы, а сам астаўся чакаць на двары. Чакаў, як здалося мне, добрай паўгадзіны, ды так і не дачакаўся: замест маці на ганак выйшла доктарка Ядзя.

— Едзь, хлопчык,— сказала яна,— маме паляжаць трэба.

— Доўга? — вырвалася ў мяне.

— Не. Паправіцца трохі і выйдзе.

Я выкіраваў каня з двара, крыху пастаяў на вуліцы і паехаў да ўзлеску: трэба ж забраць кроквы. Чамусьці цяпер мне ўсё здавалася, што час ідзе надта марудна, што дарога, як знарок усё роўна, падаўжэла: едзеш-едзеш, а ёй усё канца няма. Я думаў пра бацьку. «От быў бы ён, даўно б стаяў у нас новы дом, не ляжала б мама ў доктаркі Ядзі праз гэтыя кроквы». Бацьку мала і помню, ён памёр, калі я быў яшчэ малы. Маці казала, што здароўе ў бацькі адабрала вайна: пад Вязьмай яго раніла асколкам у жывот, а пад Курскам — разрыўной куляй у плячо.

Ужо добра ўмеркла, калі я завярнуў у свой двор. Ля зруба на тоўстым кругляку ў нас хтосьці сядзеў. Калі я спыніў каня, чалавек падняўся. Я пазнаў лесніка Ёсіпа. Ёсіп падышоў да воза, паглядзеў, што я прывёз, памог скінуць жэрдкі, а потым папытаў:

— А маці, хлопча, дзе твая?

— Яе возам было прыціснула, дык у ложак доктарка палажыла.

Ёсіп нешта падумаў і зноў папытаў:

— Бярвенцы гэтыя дзе ты насек?

— За Лядамі, на грудку.

Ёсіп нахмурыўся, растаптаў ботам акурак.

— За Лядамі, хлопча, казённае,— ён яшчэ болей нахмурыўся.— Каб калгаснае — мне што: хоць усё папілуйце. А за казённае прыйдзецца аштрафаваць. Ты, хлопча, перадай гэта маці.

Мне хацелася сказаць, што мы ж не знарок гэта, у нас не было часу

салдатамі, умелі трапна страляць, хутка бегаць, добра арыентавацца на мясцовасці, ведалі б зброю і спосабы абароны. Быць салдатам сёння трэба. І прыведзеныя вышэй ленінскія словы — гэта словы, звернутыя і да воіна, і да студэнта, і да ўрача, і да інжынера...

Ворагі не ўтойваюць сваіх поглядаў у адносінах да нас і нашай Радзімы. Вайна з гітлераўскай Германіяй паказала масавы гераізм, адданасць воінаў ленінскім ідэалам. Адразу ж пасля вайны ворагі пачалі адкрыта гаварыць пра тое, як было б добра, калі б у нашай краіне не нараджаліся больш і не выхоўваліся такія, як Зоя Касмадзям'янская, Мікалай Гастэла, як маладагвардзейцы.

Але ўсё наша жыццё, усе нашы справы, якімі мы заклапочаны, усе падзеі, якія ў нас адбываюцца, адхіляюць спадзяванні імперыялістычных «летуценнікаў». У нас раслі, растуць і будуць расці патрыёты, якія заўсёды гатовы аддаць усе сілы, а калі спатрэбіцца — і жыццё, за сацыялістычную Радзіму, з шчасце свайго народа, за справу камунізма.

Атрымліваецца так: нас хочуць запалохаць, а мы не баімося. Калі на рацэ Усуры сержант Юры Бабанскі і яго аднапалчане здзейснілі свой подзвіг, тысячы равеснікаў задумаліся, ці гатовы яны да ратнай справы, і цвёрда адказалі: «Так, гатовы!» Падзеі на Даманскім прадэманстравалі перад усім светам, што савецкая моладзь, савецкія воіны — верныя, мужныя, стойкія нашчадкі герояў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

Грудзі салдата ўпрыгожваюць адзнакі воінскай доблесці. Але таксама да твару яму і ўзнагарода за подзвіг, здзейснены дзеля жыцця і шчасця людзей. Успамінаецца вестка, якая прыйшла нядаўна з брацкай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. 45 савецкіх грамадзян адзначана тут медалем «За выратаванне чалавечага жыцця». Аляксей Сельцаў вынес з палаючага дома пяць малых дзяцей сям'і Адам і стаў іх шостым сынам. Рызыкуючы жыццём, радавы Аляксандр Кураў кінуўся ў прасветліну між бортам карабля і сцяной прычала і выратаваў чатырохгадовага нямецкага хлопчыка. Сержант Таштулай Ушэраў і радавы Уладзімір Аверын выцягнулі з багны трох школьнікаў.

Здавалася б, нічога дзіўнага няма ва ўчынках нашых хлопцаў, апранутых у салдацкія гімнасцёркі. І ўсё ж у іхніх імкненнях, подзвігах ёсць вялікі сацыяльны сэнс. Гэта людзі розных нацыянальнасцей, але выхаваны яны ў адной краіне — у краіне Леніна. Вялікае сэрца ў нашага салдата. Гэта патрыёт-інтэрнацыяналіст, чалавекалюб, ён сёння такі, якім бачыў яго Ільіч.

Шмат вялікіх спраў сёння ў моладзі нашай краіны — актыўнай стваральнай сілы народу. На ўсю шырыню разгортваецца новая ініцыятыва камсамольцаў, якія ўзялі двухгадовае шэфства над сельскай школай; новых поспехаў дасягнулі ўдзельнікі трэцяга семестра — студэнцкія будаўнічыя атрады 1969 года; энергічна б'ецца пульс ударных камсамольскіх будоўляў; ідзе ўпартае змаганне маладых за павышэнне прадукцыйнасці працы, эканомію і беражлівасць, укараненне новай тэхнікі, за высокія ўраджаі і механізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці... І кожны малады чалавек адчувае сябе раўнапраўным байцом вялікай арміі працы, акружанай даверам і клопатамі партыі. Ён верны запаветам Ільіча — штодзень у кожнай вёсцы, у кожным горадзе вырашаць «практычна тую або іншую задачу агульнай працы, няхай самую маленькую, няхай самую простую».

- ● *На сустрэчы з роднай школай*
- ●● *Ода жыццю*
- ●●● *Шапку здыму перад палеткам*
- ●●●● ——————————





● **Мікола АРОЧКА**

*Настаўнікам і вучням Селявіцкай школы*

Не чакаў я,
што ў гонар мой
грымнуць горны,
на ўрачыстай лінейцы пасыплюцца рапарты.
Б'юць барабаны.
А ў мяне — да горла
камяк падкаціўся раптам.

Вышэй галаву:
перад табой
родная школа праходзіць маршам!
Забудзь пра маленства з альховай трубой.
Ты сёння — нібыта маршал.

Дайце апомніцца! —
прашу дзетвару.
А дзяўчо з хваляваннем —
на цыпкі прыўстала —
гальштук алы
дрыжачай рукой,
як зару,
на мае з сівізною гады павязала.

Б'юць барабаны.
Ўзлятаюць вышэй
дэвізы — на вернасць гарачаму сцягу...
Дзеці, цішэй!
Можна ж цішэй,
калі даяце прысягу.

Я крык ваш люблю —
у двары, у бары.
Хочаце — пойдзем гурмой за аселіцу.

Там птушанятам,
як і вам, дзетвары,
не церпіцца найхутчэй аперыцца.

Будзе вырай.
Адлёт з цёплых бацькавых гнёзд.
Ды аднойчы з маленства
затрубяць горны.
І свой кут вас пакліча
за тысячу вёрст.
І надступіць камяк
да горла.



*Я люблю тебя, жизнь,*
*И хочу, чтобы лучшей ты стала.*
*К. ВАНШЭНКІН*

Біў напавал мяне пад сэрца змрок.
Жыццё, жыццё — ты зноў на валасінцы!
А поруч лез упарты павучок
На ліст зялёны —
ўверх, па павуцінцы.

Няйначай, я хапаўся за прамень,
Што нада мной, звісаючы, свяціўся,—
Прамень адвечнай веры ў лепшы дзень,
Якой на бацькаўшчыне любай прычасціўся...

Дай мне руку —
свой цёплы пульс жыцця.
Я мо таму і дыхаю, што веру!
Я зноў хадзіць вучыўся, як дзіця,
Ў бярозак за прыпол трымаючыся ў скверы.

Я зведаў прагу сэрца, што ў бядзе,
І пекла слоў —
«крытычны момант», «крызіс».
Ды ўсё ж, даруйце,
я не з тых людзей,
Каму жыццё — як вера ў катэхізіс.

Люблю.
Таму і не іду на дно,
А шмат — і не люблю.
Вось гэтым я і дужы.
І гэты спеў табе
хай будзе як звяно
Далейшай і нялёгкай нашай дружбы.



Дзе ты, салдат? Акажыся!
Недзе ж ты пахаваны ў жыце,
вось на гэтых, помню, загонах
пад сум каласоў зялёных...

Я, напэўна, са сцежкі збіўся,
ва ўспамінах сваіх заблудзіўся.
Той жа спеў каласоў...
Гэй, салдаце!
Палеткі,
яго ад мяне не хавайце.
Жаўрукі,
мяне песняй сваёй не адводзьце.
Скібы чорныя,
не пакідайце яго ў адзіноце.
Што я маці яго пакажу,
што скажу, пахілай,
як спытае —
ці была ў гэтым полі магіла...
Мусіць, моўчкі спынюся
і неўпрыкметку
шапку здыму
перад палеткам.



Поле бою —
Сунічнае наша урочышча —
Я і сёння трызню табою.
Божа мой,
я на месцы таго пабоішча
З непакрытай іду галавою...

Ляжалі ўпокат пасля атакі
На вогненным тым абшары...
О, як цяжка было падымаць астанкі
На калёсы-мажары!

Не, мы не маглі памыліцца,
Пераблытаць паўшых:
На адны калёсы —
масцілі чужынцаў,
На другія — нашых.

Не маглі на той свет яны
ехаць разам.
Разам легчы ў магілы...
Нават смерць іх
крывавым ранкам
Не прымірыла.

ПАЭЗІЯ

# ВЕРШЫ, НЕ ДАПІСАНЫЯ Ў МАЛАДОСЦІ

- ● Улада весніх сноў
- ●● Маё бяссмерце
- ●●● Ведаю
- ●●●● Спяшаю да цябе
- ●●●●● Ні кроплі
- ●●●●●● Твае сціхаюць крокі

Аляксей ЗАРЫЦКІ

●

На нечы ўладны голас я іду:
Заве мяне ён з далечы скразной.
Лятучых касмалётаў чараду
Я часта сню цяперашняй вясной.

Яны дамоў вяртаюцца здаля,
З планет, яшчэ не бачаных нікім.
Блакітнаватай зорачкай Зямля
Ужо мігціць у мораку глухім.

Лячу на самым першым караблі.
Я малады,
Вясну я чую зноў.
А там,
На блізкай, сонечнай Зямлі,
Мяне чакаюць
Слава і любоў.

●●

А. Д. З.

Я ў бяссмертных хадзіў на вайне:
За чатыры гады не кранулі
Ні асколкі мяне,
Ні кулі.

І хваробы і немачы следам за мной
Не хадзілі ніколі-ніколі,

Хоць і мок я ў вадзе ледзяной,
Хоць і спаў на сумётах у полі.

Смерць, відаць, разгубілася ў тыя гады
І мой адрас згубіла:
Ты ж мяне так чакала тады,
Так любіла!

Дзе ж падзеўся ранейшы мой гарт?
Дзе ж маё франтавое бяссмерце?
То мне грозіць інсульт,
То інфаркт,
Скразняка я баюся, паверце.

Пад уладаю весняю сноў
Да мяне прыхініся пакорна,
Пакахай так, як некалі, зноў,
І бяссмертным я стану паўторна.



Шаную надзею
І з ёй маладзею,
З ёй веру заўсёды
І ведаю я,—
Не ў маі зялёным,
То ў снежні сцюдзёным
Ты будзеш,
Ты будзеш,
Ты будзеш мая!

Так сны маладыя
Нясу праз гады я,
Лячу за табою,
Як птах за вясной.
Ты позна ці рана
Палюбіш аддана,
Ты будзеш,
Ты будзеш,
Ты будзеш маёй!

Мы дні разгайдалі,
А сны разгадалі.
Усё я аддам,
А знайду — утрая:
Не ў багавым раі,
Але ў родным краі
Ты будзеш,
Ты будзеш,
Ты будзеш мая!



Я вераснёвым лесам спяшаю
Па верасах да цябе напрасцець.

Сонца схіляецца да небакраю,
Гасне асенні дзень.

Цінькаюць ціха і зябка сінічкі,
Ды далятае самотны гудок
Зрэдку сюды электрычкі,
Быццам з інакшага царства.
Здалёк-здалёк.

Цені гусцеюць каля дарожкі.
З тропу не збіцца б у цемры
начной!..
Ты гэты дзень прадоўжы
хоць трошкі,
Сонца сваёй прытрымай даланёй,
Каб у далёкае сіняе мора
Нанач скацілася сонца няскора,
Каб я з дарожкі не збіўся ніяк,
З той, што вядзе да цябе напрасцяк.



Я нёс бы і нёс бы цябе на руках
Паўз гэта дрымотнае жыта
Датуль, дзе світальнае неба,
як сцяг,
Агнём кумачовым прашыта.

Хілілася б жыта да цёплай раллі,
Спрасонку шапочучы штосьці.
Павольна б я нёс цябе,
Каб не праліць
Ні кроплі тваёй маладосці.



Раніца з-за мора прыляцела.
За маім акном крылом яна
ўзмахнула,
Шызапёрым з агнявой каймой.
Ты пайшла.
Тває сціхаюць крокі
На ступеньках лесвіцы каменнай.
Толькі я ўсё адчуваю
На маіх гарачых вуснах
Лёгкі подых твой
І шчок тваіх пяшчотнасць.
Поўнен я табой увесь,
Быццам лес, дрымучы, векавы,
Пошумам вясновага лісця...
Ты пайшла.
Тває сціхаюць крокі...

ПАЭЗІЯ

- *Усебалгарскае харо*
- *Хрыста Боцеў* *Трыпціх*
- ——————
- ——————







**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Ці бачыў хто, як светлым маем
І вераснёваю парой
Грыміць, віхурыць за Дунаем
Усебалгарскае харо?

Спачатку ўдарыць бубен гулкі,
Дуда зальецца на ўвесь дух,
І вось на плошчу з вузкай вулкі
Танцораў вырвецца ланцуг.

Ля Маўзалея Дзімітрова
Ён пачынае нарастаць,
Глядзіш — і стужкі каляровай
Канца і краю не відаць.

Ужо танцуе ўся Сафія —
Што крок, што момант — весялей,
І, як магутная стыхія,
Харо расходзіцца далей.

Адным крылом ідзе да Рылы,
Другім — у Добруджу вядзе,
Тупоча, гухкае, што сілы,
І не спыняецца нідзе.

Па ўсёй Балгарыі віецца
Стракатым поясам жывым —
Мільёны ўбрала і не рвецца
У рытме радасным адным!

Кружы, харо, каб чутна стала
На цэлы свет! Каб на зямлі,

*Я не бачыў старой, давераснёўскай Балгарыі, але ведаю яе па творах пісьменнікаў, па таленавітых карцінах мастакоў, па вельмі багатай і цікавай народнай творчасці, а таксама па расказах немаладых людзей, якія спазналі на сабе ўсю «ласку» прафашысцкага буржуазнага ладу. Горкім і бязрадасным было жыццё працоўнага балгарына ў тыя часы.*

*Чвэрць веку мінула з той пары, як працоўныя братняй славянскай краіны Балгарыі, дзякуючы прыходу Савецкай Арміі, узялі ў свае рукі ўладу і пад кіраўніцтвам роднай камуністычнай партыі ступілі на новы шлях, асветлены ідэаламі Вялікага Кастрычніка, на шлях будаўніцтва сацыялізма.*

*Новую Балгарыю мне давялося неаднойчы пабачыць сваімі вачыма, і я магу з поўным правам засведчыць, што поспехі балгарскага народа ў сацыялістычным будаўніцтве, у развіцці народнай гаспадаркі, навукі і культуры — незвычайныя, нават не пабаюся сказаць — грандыёзныя. Асабліва радасна бачыць, што велізарныя перамогі ў будаўніцтве новага ладу, небывалыя сацыяльныя заваёвы і перамены вельмі выразна адбіліся на духоўным вобліку балгарына-працаўніка — рабочага, селяніна, інтэлігента, якія ўпэўнена і з гордасцю глядзяць у сваю светлую будучыню, моцна і непахісна вераць у сваю новую долю.*

*25-ая гадавіна сацыялістычнай рэвалюцыі ў Балгарыі гэтак радасна і ўрачыста адзначаецца там, у братняй краіне за Дунаем, а таксама і ў нас, у сям'і вольных народаў Вялікай сацыялістычнай Радзімы. Гэтай слаўнай гадавіне я і прысвячаю свае новыя вершы, напісаныя па балгарскіх уражаннях.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ.*

**Дзе многа слёз, а ўцехі мала —**
**Чаму? — задумацца змаглі.**

**Кружы нястомна і заўзята,**
**Кружы на шчасце, на дабро,**
**Усенароднае, як свята,**
**Усебалгарскае харо!**

●●

**1**

**Як вы́водзіў Хрыста Боцеў**
**На Дунайскі бераг чэту —**
**Першай песняй аб свабодзе**
**Ён назваў хвіліну гэту.**

**Як адчуў у цемры ночы**
**Пад нагамі камень родны —**
**На калені стаў і моўчкі**
**Цалаваў вапняк халодны.**

**І падумаў ваявода:**
**Выбар лёсу будзе строгі —**
**Ці магіла, ці свабода,**
**А назад — няма дарогі.**

**І хоць кажуць на радзіме:**
**Між паэтаў ён найпершы,—**

Хто за волю меч не ўздыме —
Не паэт! Хай спаліць вершы!

У зняволенай краіне
Іх чытаць ніхто не будзе.
І не праўда, што павінны
Берагчы паэтаў людзі.

Хай на бой вядуць паэты!
Хай мячом пакажуць прыклад,
Як ісці да светлай мэты,
Як пазбыцца ночы прыкрай!

2

Як загінуў Хрыста Боцеў
За бацькоўскі край, за волю —
Здрыгануўся на самоце
І ўцямнеў Балкан ад болю.

Як на камень заімшэлы
Ён упаў з прабітым сэрцам,—
Грозна ўзвіўся сокал шэры:
«Гора будзе чужаверцам!»

Гнеўны крык яго пачуўшы,
Хвалі ў моры ўзгаласілі —
Іх дзевяты вал рашучы
Дакаціўся да Расіі.

А праз горы і даліны
Гэты кліч данеслі гусі
Да прастораў Украіны,
Да сястрыцы Беларусі.

І пайшлі палкі паходам,
Каб скрышыць ярмо дашчэнту,
І на Шыпцы брат з усходу
Рад быў брату-апалчэнцу.

І ляцеў, як сцяг, наперад,
Каб ніхто ў баі не збочыў —
Акрыляў герояў верай
Неўміручы Хрыста Боцеў.

3

Як вярнуўся Хрыста Боцеў
На вяршыню Вол, на тую,
Дзе ў рашучай першай бойцы
Кроў праліў ён маладую,

Дык спыніўся там навечна
І ўжо долу не сыходзіць,

І ці ноч, ці дзень, ці вечар —
Ен з Радзімы воч не зводзіць.

Ад Дуная да Радопаў,
Ад Сафіі аж да мора
Ён адно разгледзеў добра,
Што народ пазбыўся гора.

І калі на гэтым версе,
Як вясна саступіць лету,
Сотні тысяч аднаверцаў
Аддаюць паклон паэту,—

Ён нічога не пытае,
Разумее сам, вялікі:
Гэта ж будучыня тая,
За якую ў бой ён клікаў!

Гэта ж лёс яго Радзімы,
Што ўзышоў зарой нязгаслай,—
Справядлівы і праўдзівы,
Светлы лёс зямлі балгарскай.



У храме, цесным, як хаціна,
Дзе абразы па ўсёй сцяне,
Балгарка сумнымі вачыма
Глядзіць з сутоння на мяне.

І хоць на кожнай рамцы з дрэва
Зусім інакшае імя —
Алена, Соф'я, Параскева,
І багародзіца сама —

А ўсё адзін і той жа самы
Ясніцца воблік, бы з імглы,
Святы не святасцю пісання,
А горам роднае зямлі.

«Ты бачыш, брат мой, я ў няволі,
Рабыня прыхамці чужой.
Я ўся сцярпелася ад болю
І вочы выплакала ўжо.

Маю красу чужынцы топчуць,
Маю душу ссушыў палон,
А ў сэрцы раны крываточаць,
А ў вуснах вогніцца праклён.

Пачуй жа ты мой плач з мальбою,
Што глухне ў звоне кайданоў,

Прыйдзі, гукні — і я з табою
Адпраўлю ў бой сваіх сыноў.

Ды і сама знясу нягоды,
Адно прыйдзі дапамажы,
Каб не застаўся назаўсёды
Мой лёс распятым на крыжы...»

Пад цёмным кляштарным
скляпеннем
Пагляд пакутніц з абразоў
Я стрэну горкім задуменнем
I сто і тысячу разоў.

I сто і тысяча спатканняў
Не зробяць звыклым для мяне
Іх боль, накоплены вякамі,
Іх сум, народжаны ў ярме.

Хоць знаю: сёння іх Радзіма,
Даўно пазбыўшы кайданы,
Глядзіць шчаслівымі вачыма
На госця з братняй старааны.



А ў Радопах суніцы завуць па-радопску «зуніцы» —
Як і ў нас, толькі першая літара трошкі званчэй.
Як і ў нас, тут вясёла бруяцца лясныя крыніцы,
І ў дзятвы, як і ў нашай, праменіцца сонца з вачэй.

Як і ў нас, тут паветра сунічным прапахла настоем,
А яшчэ — баравою, здаровай, смалістай сасной.
Як і ў нас, палавее на доспеве жыта густое.
I вясёлыя жаўранкі путаюць вецер струной.

Ах, напэўна ж, усё — і зямля тут, і неба, і сонца,
І ўсе гукі лясныя, і водар, і фарбы наўсцяж
Мне таму і здаліся сваімі, што роднае слоўца,
Беларускае слоўца я раптам пачуў у гасцях!

Ці ж не варта было ў гэты край старажытны забрацца,
Каб не толькі па сэрцах, а нават па слове адным
Распазнаць і адчуць векавечнае кроўнае брацтва,
Не адолець якога нікому, ніколі, нічым!



*Творчасць Аванеса Туманяна—яскравая старонка ў шматвяковай армянскай літаратуры. Туманян вялікі майстар мастацкага слова, аўтар паэм „Ануш“, „Давід Сасунскі“, „Узяццё Тмбкаберда“, цудоўных легенд, казак, апавяданняў і вершаў. Уся яго творчасць—сцверджанне хараства жыцця, свабоды і справядлівасці, адмаўленне зла і гвалту. Гуманістычныя і патрыятычныя погляды Туманяна прынеслі яму добрую славу песняра дружбы народаў.*

*Аванес Туманян нарадзіўся 19 лютага 1869 года ў сяле Дсех Ларыйскага раёна. Лары—цудоўны куток Арменіі, які славуты не толькі сваёй прыродай, але і гістарычнымі помнікамі. Адсюль чэрпаў паэт сваё натхненне. Лары і яго людзі адлюстраваны ў многіх творах Аванеса Туманяна. Тут паэт правёў гады маленства і атрымаў першапачатковую адукацыю.*

*Народы Савецкага Саюза ўрачыста адзначаюць стогадовы юбілей вялікага армянскага паэта.*

## З Айчынай

**Здаўна, з юнацтва я гляджу ў нязведаны прастор,**
**Лунаюць сэрца з розумам над безданню між гор,**
**Але заўжды, мой край, гняце мяне туга і страх,**
**Як аглянуся я на твой многапакутны шлях,**
**На шэрагі знямелыя выгнаннікаў-сыноў,**
**На гора зруйнаваных сёл і попел гарадоў.**
**О, родны мой край,**
**Маркотны мой край!**
**Я бачу: топчуць чужакі цябе, мой родны край,**
**Твой твар прыгожы, на палях багаты ураджай,**
**Я чую стогны гарадоў і зруйнаваных сёл,**
**І крыкі тых, хто нам прынёс няшчасце гэта ўсё,**

Хто старадаўні гэты край зрабіў далінай слёз.
У сумных песнях у тваіх—увесь твой боль і лёс.
О, горны мой край,
Непакорны мой край!
Ты ўся паранена, зямля, але жывая ты,
Стаіш, гатовая сказаць свой запавет святы.
І верыш, што на таямнічым на тваім пуці
Табе яшчэ сам лёс, сам бог памогуць іх знайсці.
Мы ўсе чакаем слоў тваіх, мы слухаем наўкруг.
Ты станеш краем тым, куды імкнецца вольны дух.
Свяшчэнны мой край,
Неацэнны мой край!
І ўзыдзе — верым мы — зара, настане ясны дзень,
Заззяе зыркае святло для радасных людзей,
І на вяршыні гор тваіх з-за хмар зірне прамень,
Упершыню наш Арарат сустрэне ўсмешкай дзень!
І апяюць твой лёс тады паэты новых дзён,
Якім не апаганіць вуснаў ні адзін праклён.
Наступны мой край,
Непрыступны мой край!

1915

З армянскай.
Пераклад Міколы АЎРАМЧЫКА.

## *Армянскае гора*

Армянскае гора — бяскрайняе мора,
Бяздонне халоднай вады.
Душа мая кружыць па гэтай прасторы
Народнай журбы і бяды.
То ў ярасці дыбіцца, бераг шукае,
Бунтарна рване ў вышыню,
То выб'ецца з сілы яна і ў адчаі
Маўкліва нырне ў глыбіню.
Душы маёй вечна блукаць у тым моры,—
Няма ў ім ні краю, ні дна,—
У армянскіх пакутах, у чорнай прасторы
Тужліва спявае яна.

1903

З армянскай.
Пераклад Хведара ЖЫЧКІ.



**Дзвесце гадоў назад, 9 верасня 1769 года, у Палтаве, у сям'і дробнага чыноўніка, нарадзіўся выдатны пісьменнік, першы класік новай украінскай літаратуры Іван Пятровіч Катлярэўскі. Усё сваё жыццё ён служыў народу і аддаў яму свой бліскучы талент паэта і драматурга. Неўміручую славу Катлярэўскага прадбачыў Шаўчэнка. Ён пісаў:**

**Будеш, батьку, панувати,**
**Поки живуть люди;**
**Поки сонце з неба сяє,**
**Тебе не забудуть!**

# ПАКУЛЬ ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ...

У другой палове студзеня 1849 года тэатральныя афішы, расклееныя на Губернатарскай і некаторых іншых вуліцах Мінска, паведамлялі, што ў горад прыехаў на гастролі «руска-ўкраінскі тэатр». Сярод п'ес, якія меркавалася паказаць мінскаму гледачу, была і «Наталка Палтаўка» Івана Катлярэўскага. У тагачасным Мінску была ўжо даволі шматлікая аўдыторыя аматараў Мельпамены. У 1847 годзе, як паведамляе адзін з даследчыкаў, мінчане прагледзелі 48 спектакляў. Мясцовыя ўлады строга сачылі, каб на сцэну не пранікалі «непажаданыя» п'есы. Аднаму з прыезджых тэатраў з цяжкасцю ўдалося дабіцца дазволу паказаць мінчанам «Рэвізора».

Хоць «Наталка Палтаўка» па сваёй сацыяльнай накіраванасці і не была такой вострай, як камедыя Гогаля, але і яна ўстрывожыла чыноўнікаў з губернскага ўпраўлення. Асабліва не падабалася ім тое, што п'еса напісана на «маларасійскай мове» — гэта ж магло навесці каго-небудзь з мясцовых літаратараў на думку напісаць нешта падобнае і на «беларускай мове». Аднаму з іх — Вікенцію Дуніну-Марцінкевічу ўжо ўдалося надрукаваць у Вільні камедыю «Сялянка», і цяпер ён упарта дабіваецца, каб яе паставілі на мінскай сцэне.

Была яшчэ адна прычына, якая прымушала мінскія ўлады адмоўна ставіцца да пастаноўкі ўкраінскай п'есы. Нядаўна цар распарадзіўся «забараніць і зняць з продажу» кнігу вершаў Тараса Шаўчэнкі «Кабзар». У сакрэтным цыркуляры міністра ўнутраных спраў на імя мінскага губернатара гаварылася: «Пра такі царскі загад, лічу абавязкам паведаміць Вашаму высокаправасхадзіцельству..., што п. Міністрам народнай асветы прадпісана ўжо цэнзурнаму ведамству не дазваляць у далейшым перадрукоўваць азначаныя творы новым выданнем».

П'еса Катлярэўскага, як гэта можна меркаваць па газеце «Минские губернские ведомости» ад 4 лютага 1849 года, была ўсё ж паказана мінчанам і мела поспех. Спектакль давялося паўтарыць некалькі разоў. «Наталка Палтаўка» захапіла гледачоў напружанасцю дзеяння, праўдзівасцю зместу, узятага з самога жыцця.

Сімпатыі да народу вызначаліся многімі акалічнасцямі біяграфіі самога аўтара «Наталкі Палтаўкі». Унуку дзячка, сыну дробнага чыноўніка, Катлярэўскаму, паводле слоў яго біёграфа, «нярэдка даводзілася задавальняцца адным кавалкам хлеба і хадзіць босым; але жывая і вясёлая натура памагала яму пераносіць нястачы ў доме».

Першапачатковую адукацыю Іван Катлярэўскі атрымаў у простага дзячка. Затым паступіў у Палтаўскую духоў-

ную семінарыю, якую, аднак, пакінуў, таму што не меў ніякага прызвання да духоўнай кар'еры. Як і бацька, ён становіцца канцылярыстам і адчувае ўвесь цяжар жыцця дробнага чыноўніка ва ўмовах самадзяржаўнай Расіі.

Будучы аўтар «Энеіды» і «Наталкі Палтаўкі» дапытліва ўглядаецца ў навакольную рэчаіснасць, уважліва вывучае жыццё ўсіх слаёў насельніцтва, асабліва народу. Працуючы хатнім настаўнікам у памешчыцкіх маёнтках, Катлярэўскі прымае ўдзел у сельскіх «зборышчах і забавах прасталюдзінаў», уважліва вывучае народную мову, быт, вуснапаэтычную творчасць. Нездарма многія песні, якія спяваюць героі «Наталкі Палтаўкі» («Віють вітри, віють буйні», «Сонце низенько», «Ой, під вішнею, під черешнею» і іншыя) пачалі пашырацца па Украіне. Некаторыя з іх нават перайшлі ў беларускі фальклор. Так, у вядомым беларускім зборніку Я. Раманава мы знаходзім песні: «Бацька рады», «Пакахала б Петруся». А праз многа дзесяцігоддзяў, ужо ў дні Вялікай Айчыннай вайны, партызанка Лідзія Лясная склала на матыў песні «Віють вітри» сваю песню пад назвай «У няволі»:

Над спіною пуга ўзнята,
Б'юць, аж жылы рвуцца!
Возьме жаль і сціснe сэрца,
Слёзы самі льюцца...

Дванаццаць гадоў знаходзіўся Іван Катлярэўскі на ваеннай службе, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне. Выйшаўшы ў 1808 годзе з чынам капітана ў адстаўку, ён вярнуўся у родную Палтаву, дзе пачаў служыць спачатку ў «Доме для выхавання бедных дваран», а потым узначаліў Палтаўскі тэатр, на сцэне якога пачынае сваю дзейнасць прыгонны артыст харкаўскай трупы М. Шчэпкін.

У Палтаве ўпершыню была паказана і «Наталка Палтаўка». Гэта было ў 1819 годзе. «Выбарнага» Макагоненку іграў М. Шчэпкін, які вельмі палюбіў гэтую ролю і потым увесь час уключаў п'есу Катлярэўскага ў рэпертуар сваіх гастрольных паездак. Бялінскі пісаў у артыкуле «Шчэпкін на пецярбургскай сцэне», што, «калі ў апошні раз паднялася заслона і пачаліся сцэны з «Наталкі Палтаўкі», захапленне публікі даходзіла да найвышэйшай ступені... Кожны раманс публіка прымушала Шчэпкіна паўтарыць некалькі разоў».

У Мінску, а таксама ў іншых гарадах Беларусі, «Наталка Палтаўка» ставілася на працягу ўсёй другой палавіны XIX і пачатку XX стагоддзя. Пра нязменны поспех п'есы Катлярэўскага ў беларускага гледача сведчаць рэцэнзіі і іншыя матэрыялы, апублікаваныя ў тагачасных газетах. «Хто не чытаў або не бачыў на сцэне «Наталкі Палтаўкі» Катлярэўскага,— пісала газета «Минский листок» у 1899 годзе, у рэцэнзіі на спектакль у выкананні трупы М. Крапіўніцкага,— гэтай прамацеры маларускіх п'ес! Хто, нарэшце, не любаваўся дзіўным тыпам дзяўчыны, якая заставалася вернай на працягу чатырох гадоў свайму «каханаму і міламу»!»

З захапленнем сустрэлі пастаноўку «Наталкі Палтаўкі» ў сакавіку 1909 года гамяльчане. «П'еса,— піша рэцэнзент газеты «Гомельский вестник»,— была разыграна артыстамі вельмі ўдала», яны «бліснулі ў гэтым спектаклі», што садзейнічала поспеху «Наталкі Палтаўкі».

На беларускай сцэне ў мінулым стагоддзі ішла і другая п'еса Катлярэўскага «Салдат-чарадзей». Мінчане глядзелі яе ўпершыню ў лютым 1849 года ў пастаноўцы таго ж «руска-ўкраінскага тэатра». Камплекты «Губернских ведомостей», што выдаваліся ў Мінску, Віцебску, Магілёве і Гродна, а таксама «Минский листок», які, як вядома, пачаў выходзіць з 1886 года, сведчаць, што і гэты твор украінскага пісьменніка карыстаўся ў беларускага гледача поспехам.

«Наталка Палтаўка» і «Салдат-чарадзей» паклалі аснову нацыянальнаму ўкраінскаму тэатру. Яны вызначылі далейшыя шляхі яго развіцця. «Ні адно апавяданне, ні адзін любы другі твор,— гаворыцца ў «Даведачным энцыклапедычным слоўніку»,— не прыйшоўся так да душы маларасіянам, як «Наталка» Катлярэўскага. Сотні яе спісаў і цяпер яшчэ ходзяць па ўсёй Маласоросіі».



Дом у Палтаве, дзе нарадзіўся Катлярэўскі.

Малюнак Тараса Шаўчэнкі.



Помнік Катлярэўскаму ў Палтаве.

Па ўсёй Украіне ў мностве спісаў пашыраўся і другі твор Катлярэўскага — паэма «Энеіда». «Усе саслоўі чыталі яе,— успамінае сучаснік паэта,— ад пісьменнага селяніна да багатага пана». Тарас Шаўчэнка ў сваёй аповесці «Мастак», якая ў значнай ступені носіць аўтабіяграфічны характар, піша: «Даўно, вельмі даўно, яшчэ ў прыходскім вучылішчы, крадком ад настаўніка чытаў я славутую «Энеіду» Катлярэўскага».

У беларускай літаратуры ёсць, як вядома, аналагічны па жанры твор. Называецца ён «Энеіда навыварат». Але самы першы яго друкаваны тэкст, змешчаны ў пецярбургскім часопісе «Маяк» (1843 г.), мае такую назву: «Урывак з І-й песні Энеіды навыварат на беларускай мове, па ўзору маларускай Катлярэўскага». Ужо з аднаго гэтага відаць, што «Энеіда» Катлярэўскага мае самае непасрэднае дачыненне да беларускай паэмы. Але пра гэта пасля. Спачатку пра твор, сюжэт якога пакладзены ў аснову ўсіх наступных пераробак, у тым ліку і ўкраінскага. Катлярэўскі, ствараючы сваю «Энеіду», выкарыстаў сюжэт «Энеіды» Вяргілія. «Ніхто са старажытных паэтаў не быў так часта травестыраваны, як бедны Вяргілій»,— пісаў М. Карамзін у сваёй рэцэнзіі на адну з такіх «пераробак» — паэму Н. Осіпава «Вяргіліева Энеіда, вывернутая навыварат». Карамзін называе найбольш вядомых зарубежных аўтараў такіх травестыраваных пераробак — француза Скарона, немца Блюмаўэра. Але «Энеіда» Катлярэўскага не падобная ні на адну з «пераробак». Украінскі пісьменнік не ставіў мэтай стварыць пародыю на паэму антычнай старажытнасці . Ён паказаў карціну сучаснага яму жыцця, якім яно было на Украіне ў канцы XVIII— пачатку XIX стагоддзяў. «Няхай яны выступаюць у паэме Катлярэўскага,— піша акадэмік А. Бялецкі пра персанажаў «Энеіды»,— пад дзіўнымі імёнамі Неўціса, Палінура, Ніза, Эўрыала, Геленора, Ліка — мы добра разумеем, што гэта маскарад і што аўтар не вельмі клапаціўся, каб маскі трымаліся моцна. Пад псеўданімам Неўціса выступае Ахрым. Сапраўднае імя Палінура — Тарас, а калі, напрыклад (у 5-й частцы), з'яўляецца Лік..., украінцы без цяжкасці пазнаюць у ім свайго земляка».

Першыя старонкі «Энеіды» Катлярэўскага, дзе паказаны насельнікі Алімпа, ужо маюць «зямны» характар і прымушаюць чытача звярнуцца да рэальных з'яў сацыяльнай рэчаіснасці. Багі «на сутяжників похожі і раді мордовать людей». Зеўс — самадур і п'яніца, Эол — хабарнік, Алекта — «яхіднійша


ЕНЕИДА

МАЛОРОССІЙСКІЙ ЯЗЫКЪ

Часть I.

ВЪ САНКТПЕТЕРБУРГѢ,

Першае выданне «Энеіды».

ад всіх відьом», Венера і Юнона інтрыганкі. Як і іншыя багіні, яны

... в гніві также баби
І также на утори слабі,
З досади часом и брехнуть,
І, як перекупки, горланять,
Одна другу безчестять, ганять
І рід ввесь з потрухом кленуть.

У падземным царстве, дзе даводзіцца пабываць Энею, у пекле церпяць пакуты тыя, хто на зямлі «людзям льготи не давали і ставили іх за скотів». Гэта — паны-прыгоннікі, служыцелі царквы, «судді і стряпчі бестолкові», «начальники, п'явки, людськії», «прокляті писарі» і іншыя прадстаўнікі самадзяржаўна-паліцэйскага ладу, да якіх Катлярэўскі ставіцца адмоўна. Затое ў рай паэт пасяляе ўдоў, сірот, жабракоў. На зямлі яны «з парожніми сумками жили голодні під тинами», их «випроводжали в потилицю і по плечах».

Катлярэўскі сімпатызуе простым працаўнікам, якіх хацеў бачыць свабоднымі і шчаслівымі. Нездарма паэт быў блізкі да дзекабрысцкіх колаў, сябраваў з М. Новікавым, дзеячам «Саюза выратавання» і «Саюза працвітання». Вядома таксама, што Катлярэўскі быў выбраны пачэсным членам Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці ў Пецярбурзе, куды ўваходзілі многія ўдзельнікі дзекабрысцкага руху, у тым ліку К. Рылееў і А. Бястужаў. Ідэі «лепшых людзей з дваран», «дваранскіх рэвалюцыянераў», як назваў удзельнікаў паўстання на Сенацкай плошчы ў Пецярбурзе У. І. Ленін, былі блізкія аўтару ўкраінскай «Энеіды», хоць у сваіх палітычных поглядах Катлярэўскі стаяў на пазіцыях памяркоўнага асветніцтва.

«Энеіда» напісана цудоўнай мовай, якая зачароўвае нас народным гумарам і весялосцю. Сатырычнае лязо твора Катлярэўскага бачыў А. М. Горкі. Ён раіў украінскім пісьменнікам напісаць па ўзору паэмы Катлярэўскага сатырычную паэму пра буржуазных дыпламатаў, буржуазных нацыяналістаў. «Чаму б вам, — гаварыў вялікі пралетарскі пісьменнік,— не напісаць такі вясёлы бурлеск, як, скажам, «Энеіда», пра нашых ворагаў?»

Каля трыццаці гадоў працаваў Іван Пятровіч Катлярэўскі над сваёй паэмай. Першыя яе тры часткі выйшлі ў Пецярбурзе ў 1798 годзе. Другое выданне з'явілася праз дзесяць гадоў, а цалкам «Энеіда» была апублікавана пасля смерці яе аўтара — у 1842 годзе, стаўшы паэтычнай і грамадскай з'явай. Паэма зрабіла імя Катлярэўскага вядомым не толькі ў Расіі, але і далёка за яе межамі. Яна, як ужо гаварылася, мела прамое дачыненне да стварэння нашай «Энеіды навыварат», якая стала ля вытокаў рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Гаворачы словамі акадэміка Я. Карскага, «Энеіда» Катлярэўскага з'явілася для аўтара беларускай паэмы «пачатковым пунктам і ўзорам для пераймання». На залежнасць «Энеіды навыварат» ад украінскай паэмы паказваюць тэкстуальныя супадзенні асобных эпізодаў і радкоў у абодвух творах. Прычым, у беларускай паэме ёсць такія эпізоды, якіх няма ні ў адной з іншых пераробак «Энеіды» Вяргілія, акрамя ўкраінскай. Так, толькі ў паэме Катлярэўскага мы знаходзім словы Дзідоны пра траянцаў: «Відкіль такі се гольтіпаки». А ў «Энеідзе навыварат» Дзідона гаворыць: «Глядзі, які ж то абарванцы!» і г. д.

Гаворачы пра тое, што паэма Катлярэўскага з'явілася «ўзорам» для аўтара «Энеіды навыварат», калі той пісаў свой твор, трэба пры гэтым мець на ўвазе, што сам факт такога «пераймання» ніколькі не зніжае вартасці нашай паэмы, яе мастацкасці і своеасаблівасці. Гэта было адзначана яшчэ вялікім Шаўчэнкам. Калі ён пазнаёміўся з беларускай паэмай, то заўважыў у гутарцы з беларускімі пісьменнікамі ў Пецярбурзе, што «Энеіда навыварат» — твор самабытны, што ў паэме ёсць «беларускі элемент». А даследчык беларускай літаратуры, рускі літаратуразнаўца і бібліёграф мінулага стагоддзя Г. Генадзі, вельмі высока ацэньваючы «Энеіду навыварат» у мастацкіх адносінах, пісаў пра геніяльныя здольнасці яе аўтара.

Уплыў паэмы Катлярэўскага на аўтара «Энеіды навыварат» бясспрэчны, і гэта яшчэ раз паказвае, што паміж літаратурамі беларускага і ўкраінскага народаў здаўна існуюць братнія і плённыя сувязі. Яны намнога ўзбагаціліся ў наш, савецкі час.

Творчасць Івана Катлярэўскага — найталенавіцейшага папярэдніка Шаўчэнкі — высока шануюць усе народы Савецкага Саюза.

**Ісідар БАС.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Віталь ЧАНІН
- Пятро ЛЫСЕНКА
- Аляксей КАРПЮК
- Іосіф КАЛЮТА
- Зянон ПАЗНЯК
- Анатоль ПРОЦКІ
- Віктар КАВАЛЕНКА
- Анатоль СЕРБАНТОВІЧ
- Сцяпан ГАЎРУСЁЎ
- Міхась НЯХАЙ
- Уладзімір ЛАЎРОЎ
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Васіль СВЯТЛОЎ
- Барыс РОЗЕН
- Наталля ЖУКОЎСКАЯ
- Аляксей СУЭЦІН
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ



Ленін слухае. Малюнак Мікалая Жукава.

*„Яго думка, нібы стрэлка компаса, заўсёды паварочвалася вастрыём у кірунку класавых інтарэсаў працоўнага народа“.*

*А. М. Горкі „У. І. Ленін“*

● Віталь ЧАНІН



# ЖЫЦЬ ПА-ЛЕНІНСКУ...

*Пачынаюцца горы з падножжаў,*
*Пачынаемся з Леніна мы...*

...Ты любіш сваю радзіму, свой сінявокі край? Ці не праўда, тваё сэрца поўніцца радасцю, калі бачыш меднаствольны сасняк, які аберагае квяцістую, вытканую травамі паляну. Але ты ведаеш і іншае — кожная былінка на гэтай паляне беражліва ўкрывае акоп, хавае партызанскую сцяжыну...

Ты любіш сваю Радзіму, свой бацькоўскі дом, свой горад? Шумлівы, працавіты, індустрыяльны? Ці не праўда, ён паўстае нібы з казкі? Неба над ім падпіраюць краны, а наступ новых кварталаў ужо не пад сілу спыніць ні прыгарадным вёскам, ні багністым нізінам. І табе вядома, што амаль кожная новая вуліца прывядзе цябе сёння да фабрыкі ці завода, якіх раней у тваім горадзе не было.

Чаму так казачна прыгожы твой дом, твой горад, тваё сяло, твая вялікая і магутная Радзіма? Чаму нашы з табой песні аб ёй такія звонкія, што чуваць на ўсіх кантынентах? Ды таму, што яе адстаялі нашы бацькі і маці жыццём сваім, таму што не за кошт чужой працы, не за кошт эксплуатацыі іншых народаў дамагліся мы такога росквіту і дабрабыту. Таму, што ў кожным камені, у кожным зярняці — праца нашых мазолістых рук. Таму, што самы першы чалавек на нашай зямлі — гэта чалавек працы. Таму, што радзіма наша — радзіма вялікага Леніна, радзіма Кастрычніка, і няма больш свяшчэнных для нас у жыцці запаветаў, чым запаветы барацьбы і творчасці ў імя сацыялістычнай Айчыны.

## ДЭВІЗ ВЕКУ—ДЭВІЗ ПАКАЛЕННЯЎ

«Запаветам Леніна верныя!» — такі дэвіз камсамольцаў, усёй моладзі нашай краіны. Упершыню ён прагучаў сорак пяць гадоў назад — 12 ліпеня



Плакат Л. Замаха.

1924 года, калі камсамол прыняў імя Леніна. «Не для прыгожага слова, не з жадання насіць лепшае з усіх імёнаў,— гаварылася ў Маніфесце да ўсіх камсамольцаў, да ўсёй рабоча-сялянскай моладзі, прынятым на VI з'ездзе камсамола,— не толькі для таго, каб ушанаваць павагай памяць вялікага нябожчыка, прынялі мы гэтае рашэнне. Не, мы прынялі яго для таго, каб працоўная моладзь усіх народаў, якія насяляюць СССР, разам са сваім перадавым атрадам — Камуністычным Саюзам Моладзі — пранікласся адзінай воляй і цвёрдай рашучасцю навучыцца паленінску жыць, працаваць і змагацца, здзяйсняць запаветы, пакінутыя нам Леніным...»

А вось крэда рабочай моладзі Старадубскага павета Гомельскай губерні, якое распрацавала канферэнцыя ў верасні 1924 года: «Наша канферэнцыя заяўляе, што камсамол за гады грамадзянскай вайны, а таксама на культурным і гаспадарчым фронце даказаў сваю камуністычную лінію і выявіў сябе як сапраўдны прадстаўнік рабочай моладзі і адлюстроўвае штодзённыя яе інтарэсы і імкненні. Наша канферэнцыя заяўляе ад імя ўсёй рабочай моладзі горада і павета, што рабочая моладзь разам з камсамолам пляча ў пляча, памагаючы яму, папаўняючы яго рады, пойдзе і далей...»

Звярнуліся мы да гэтых радкоў, каб падкрэсліць непасрэдную сувязь пакаленняў, адданасць моладзі рэвалюцыйнай спадчыне, непахіснасць волі, з якой яна выконвае праграму, намечаную Уладзімірам Ільічом у сваёй прамове на трэцім з'ездзе РКСМ. Ленін быў вялікім сябрам моладзі, у ёй ён бачыў надзейнага і вернага змагара за інтарэсы народу, за справу рэвалюцыі.

Гісторыя захавала для нас адзін вельмі характэрны эпізод. У 1921 годзе ў дом да Канстанціна Эдуардавіча Цыялкоўскага прыйшла група камсамольцаў. Вучоны, які марыў тады пра пакарэнне чалавекам зоркавых сусветаў, сказаў сваім маладым сябрам, што ён прачытаў прамову Леніна на трэцім з'ездзе камсамола і цяпер цвёрда ўпэўнены ў здзяйсненні сваіх ідэй. Цыялкоўскага захапіла тая велізарная вера ў маладое пакаленне, якой дыхала выступленне Уладзіміра Ільіча перад камсамольцамі, яго заклік вучыцца камунізму і будаваць камунізм сумесна. Не па адным, не кожны сам па сабе, а разам, агульнай калектыўнай працай.

Не па адным, а разам, калектыўнай працай вывелі мы на касмічную арбіту першы зоралёт, якім кіраваў Гагарын: упэўненасць Цыялкоўскага поўнасцю сябе апраўдала. Не па адным, а разам, калектыўнай працай здзейснілі мы мару Леніна даць сельскай гаспадарцы сто тысяч трактароў — адзін толькі Мінскі трактарны завод ужо даў краін звыш 700 тысяч машын.

Калектыўнай, упартай, настойлівай, нястомнай працай мы дамагліся поспеху ў многіх галінах вытворчасці, тэхнікі, навукі і культуры. I калі гаварыць пра моладзь, то яна заўсёды смела ішла на заклік партыі, знаходзілася на важнейшых рубяжах камуністычнага будаўніцтва. Атрады маладых стваральнікаў налічвалі не адзінкі і дзесяткі, а сотні тысяч камсамольцаў, бо кожны з іх паўтараў заўсёды ленінскія словы: «Я — частка вялікай арміі вольнай працы і здолею сам пабудаваць сваё жыццё без памешчыкаў і капіталістаў, здолею ўстанавіць камуністычны парадак». Сотні юнакоў і дзяўчат будавалі Магнітку, Днепрагэс, Турксіб. Сотні воінаў білі ворагаў каля Хасана, Халхін-Гола. Сотні тысяч байцоў змагаліся з фашызмам, стаялі насмерць пад Брэстам, Магілёвам, Сталінградам, Севастопалем. А потым, пасля вайны, змяніўшы гімнасцёрку на рабочы камбінезон, яны будавалі Брацк, Абакан-Тайшэт, узнімалі цаліну. На ўсіх этапах грандыёзнай бітвы за сацыялізм, на ўсіх этапах барацьбы і стваральнай працы моладзь Савецкай краіны заставалася і застаецца вернай ідэям партыі, ідэям Леніна, ідэям камунізма.

Не для прыгожага слова ўзяў сабе камсамол імя Леніна. I ніколі, ні на адзін дзень не слабела вернасць маладога пакалення запаветам Ільіча, не пакідала яго імкненне вучыцца, жыць і працаваць па-ленінску.

Запаветам Леніна верныя! Гэта свяшчэнная клятва карчагінцаў, свяшчэнная клятва юнацтва 60-х гадоў. У гэтых словах вялікі сэнс, які блізкі і зразумелы ўсім нам, назаўсёды запаў у сэрцы маладых.

# У ПРАЦЫ З РАБОЧЫМІ I СЯЛЯНАМІ

I ўсё ж, напэўна, ёсць свой асаблівы абавязак, свае асаблівыя справы, якімі падмацоўвае сённяшняе пакаленне юнакоў і дзяўчат клятву, прынятую іх аднагодкамі ў суровым і трагічным дваццаць чацвёртым. У кожнага пакалення ёсць свае справы, свае Магніткі і Днепрагэсы, хоць усе мы, магчыма, маем многа агульнага, таму што робім адну вялікую справу — будуем камунізм. Належым да адной вялікай сям'і, якая называецца камсамоліяй.

Як жа цяперашняе пакаленне моладзі выконвае запаветы Ільіча, у чым заключаецца яго ўклад у справу Леніна? Усе гэтыя пытанні сёння набываюць асаблівае значэнне, бо наша краіна рыхтуецца адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння вялікага правадыра і настаўніка. Відаць, гэта будуць асаблівыя падарункі моладзі залатой даце. Так, гэта іменна так. Але перш чым расказаць аб іх, хочацца перадаць размову паміж старым ветэранам партыі і камсамольцам, сведкам якое мне давялося быць.

Размова была сур'ёзная. Стары камуніст пытаўся ў юнага сябра, у чым ён бачыць і як ён разумее шчасце. Як ён разумее сваё месца ў барацьбе за ленінскую справу. Як ён вучыцца, як выхоўвае ў сабе ленінскія рысы чалавека і змагара. I калі юнак запытальна паглядзеў на старэйшага: як гэта вы можаце, як магу я сам ставіць сваю асобу побач з Леніным,— ветэран адказаў яму словамі Алены Стасавай, якая блізка ведала Ільіча: «Нельга пнуцца пераймаць убоства. Можна і трэба рабіць жыццё з чалавека, з вялікага чалавека, якога фарміравала вялікая справа». Вялікая справа, якой Уладзімір Ільіч аддаў усяго сябе — гэта барацьба за шчасце народу, барацьба за камунізм. Гэтую барацьбу ён завяшчаў моладзі, камсамольцам, калі гаварыў: «Вы павінны быць першымі будаўнікамі камуністычнага грамадства сярод мільёнаў будаўнікоў, якімі павінен быць кожны малады чалавек, кожная маладая дзяўчына».

Працоўную біяграфію 1969 года пішуць цяпер мільёны савецкіх людзей. У нашай рэспубліцы, напрыклад, яны сталі ініцыятарамі спаборніцт-



У гарачым цэху Мінскага трактарнага.

Фота А. Каляды.

ва, аб'явіўшы яго годам ударнай ленінскай вахты. Да гэтага пачыну далучылася працоўная армія беларускай моладзі. Што гэта азначае — год ударнай ленінскай работы? Гэта азначае, што яны вырашылі ў юбілейным годзе зрабіць больш, чым звычайна, чым заўсёды, зрабіць датэрмінова і лепш, больш якасна, эканомна, рупліва.

Вось камсамольцы Мінскага аўтазавода. Кожны з іх узяў індывідуальнае абавязацельства, а токар цэха шасі Уладзімір Астрэйка даў слова выканаць да ленінскага юбілею дзве гадавыя нормы. Прычым, яшчэ адна абавязковая ўмова — якасць прадукцыі будзе толькі выдатная. Уладзімір Астрэйка мае ўжо сваіх паслядоўнікаў. Маладыя аўтазаводцы да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна пабудуюць сто камсамольскіх МАЗаў.

На фабрыцы імя Крупскай у г. Пінску няма ніводнага камсамольца, які б не выконваў вытворчага задання. Усеагульным аўтарытэтам і павагай карыстаецца тут камітэт камсамола. Калі аднойчы фабрыцы пагражаў зрыў плана, камітэт аб'явіў камсамольскі нядзельнік. Слова, звернутае да мо-



Радасць хлебароба.

Фота В. Арнашова.

ладзі, запала ў сэрца ўсіх трыкатажнікаў. Побач з маладымі дружна працавалі камсамольцы ўсіх пакаленняў. Вынік —21 тысяча вырабаў замест планавых дзевяці тысяч. Камсамольская арганізацыя заваявала права насіць ганаровае імя Юрыя Гагарына, ёй уручаны на вечнае захаванне пераходны вымпел ЦК ВЛКСМ.

Можна і далей прыводзіць прыклады таго, як выконваюць вялікія ленінскія запаветы камсамольцы і моладзь рэспублікі. Можна і трэба ўспомніць працу на ўдарных камсамольскіх будоўлях — у Салігорску, Магілёве, Гродна, Гомелі, Полацку, на калгасных палях, у навуковых лабараторыях і праектных майстэрнях. Але справа не ў колькасці прыкладаў. Справа ў змесце, у сэнсе працы маладых. А сэнс у тым, што камсамольцы сёння, як і завяшчаў Ленін, аддаюць свае здольнасці, свае сілы агульнай справе, што камсамол стаў той ударнай групай, якая ў кожнай рабоце праяўляе сваю ініцыятыву, свой пачын, што кожны з нас, маладых, выдатна засвоіў ленінскую ісціну — толькі ў працы з рабочымі і сялянамі можна стаць сапраўднымі камуністамі.

# БУДУ ВЕДАЦЬ БОЛЬШ

Вялікае ўражанне на моладзь зрабіў заклік Ільіча вучыцца. Моладзь імкнулася да ведаў. Але хіба ёй тады да гэтага было? Вакол голад, разруха, ворагі. І раптам — вучыцца! А ваяваць хто будзе, хто будзе вылоўліваць чарнасоценныя банды? Вось як апісаў Аляксандр Безыменскі першую рэакцыю дэлегатаў III-га з'езда РКСМ на заклік Леніна вучыцца:

«Ленін вымаўляў слова «вучыцца» неяк асобна ад астатняй фразы, строга і цвёрда.

З'езд быў здзіўлены.

Нельга было не зрабіць рэзкага руху, пачуўшы такое незвычайнае ў той час слова! Трэба было перабудавацца, засвоіць новую тэму і ўдумацца ў яе. Вельмі ўжо нечаканай была гэтая новая тэма!»

Між тым, у звароце Леніна да моладзі адчуваецца яго пранікнёнасць, мудрасць, Ільіч добра разумеў, што без ведаў, без адукацыі камунізм застанецца марай, жаданнем. І ўся гэтая баявая, энергічная, поўная энтузіяз-



Будучыя інжынеры.

му і веры ў сябе моладзь, якая сядзіць цяпер перад ім, здолее зрабіць у сто разоў больш і хутчэй, калі яе ўзброіць сучаснымі ведамі. І каб моладзі лягчэй было засвоіць гэтую ісціну, якая так нечакана адкрылася ёй, Ленін прыводзіць практычны прыклад.

«Вы цудоўна разумееце,—гаворыць ён,— што да электрыфікацыі непісьменныя людзі не падыдуць, і мала тут адной простай пісьменнасці. Тут недастаткова разумець, што такое электрычнасць, трэба ведаць, як тэхнічна прымяніць яе і да прамысловасці, і да земляробства, і да асобных галін прамысловасці і земляробства. Трэба навучыцца гэтаму самім, трэба навучыць гэтаму ўсё падрастаючае працоўнае пакаленне».

Уся краіна села за парты. Вучыліся пры газоўках, у перапынках паміж налётамі кулацкіх банд, выводзілі першыя крымзолі на кавалках шпалераў, між радкоў старых кніг. Цяпер гэтыя «сшыткі» захоўваюцца ў музеях. Але мы пачыналі з іх, мы ішлі ад буквара да кібернетыкі.

Барацьба за веды і сёння не здымаецца з парадку дня. Як і дзесяцігоддзі назад, надзённа гучыць ленінскае вучыцца, вучыцца камунізму, абнаўляць свае веды, арсенал пазнавальных магчымасцей, свой інтэлектуальны свет, бо «камуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва».

Цяпер у нашай краіне вучыцца кожны чацвёрты. Мы рыхтуемся перайсці да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі. Наша дваццатае стагоддзе справядліва афішыруецца як стагоддзе бурнага імклівага развіцця навукі і тэхнікі, стагоддзе аўтаматызацыі і кібернетызацыі. Кіраваць складанай тэхнікай па сіле толькі высокаадукаванаму, высокакваліфікаванаму рабочаму, спецыялісту. Толькі ён здольны і ўдасканальваць вытворчасць, каб заўтра яна была больш прадукцыйная, больш сучасная. І вось калі паспрабаваць намаляваць сацыяльны партрэт сённяшняга маладога чалавека, рабочага, то абавязковай рысай яго будзе прага ведаў, адмаўленне ўсякага дылетанцтва. Звернемся да моладзі Мінскага завода прыборабудавання імя У. І. Леніна. Тут многія юнакі і дзяўчаты займаюцца ў вячэрніх школах, тэхнікумах, інстытутах, у аспірантуры. Аркадзь Тэйф, слесар інструментальнага цэха, сцвярджае, што наш час не прызнае «злёгку пісьменных людзей», што чалавека трэба ацэньваць у першую чаргу па яго ведах, па інтэлекце. «Спачатку гэтага я не разумеў,— прызнаецца Аркадзь,— цяпер даводзіцца наганяць упушчанае, канчаць вячэрнюю школу. Калі ўдасца паступіць у інстытут — пайду. Вучыцца трэба ўсур'ёз і многа».

Дзіваком праслыве сёння той чалавек, які асмеліцца адмаўляць неабходнасць ведаў, вучобы. Гаворка, відаць, павінна ісці ўжо пра тое, каб гэтыя веды як мага паўней служылі нашай агульнай справе, каб маладыя людзі атрымлівалі правільную прафесійную арыентацыю, якая адпавядала б іх здольнасцям.

Уладзімір Ільіч Ленін быў супраць зуброжкі, сляпога, механічнага засваення ісцін, узятых з камуністычных брашур і кніжак. Ён патрабаваў ад моладзі творчага, смелага, крытычнага засваення навук. «Калі я ведаю, што ведаю мала,— гаварыў Уладзімір Ільіч,— я даб'юся таго, каб ведаць больш, але калі чалавек будзе гаварыць, што ён камуніст і што яму і ведаць нічога не трэба трывала, то нічога падобнага на камуніста з яго не выйдзе».

Цяпер маладое пакаленне здае ленінскі залік. Гэта справаздача камсамольцаў, моладзі аб сваёй працоўнай, палітычнай, грамадскай актыўнасці, аб сваёй рэвалюцыйнай ідэйнай сталасці. Апошні этап леніскага заліку будзе праведзены напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння Ільіча. Ленін жадаў бачыць маладых людзей краіны Саветаў палітычна спелымі, актыўнымі, дзейнымі. Такімі, якія б яскрава разумелі і ажыццяўлялі праграму партыі, якіх нельга было б збіць з пазіцый марксізма. У 1902 годзе са ста-

ронак «Искры» гучыць палымяны ленінскі заклік, звернуты да навучэнцаў: «Таварыская парада: старайцеся зрабіць галоўнай мэтай сваёй арганізацыі самаадукацыю, выпрацоўку з сябе перакананых, стойкіх і вытрыманых сацыял-дэмакратаў». А хіба мы маем права забываць яго перасцярогу, параду ўмець за ўсялякімі маральнымі, рэлігійнымі, палітычнымі фразамі, заявамі, абяцаннямі адшукваць інтарэсы тых або іншых класаў. Менавіта гэтай зброяй — зброяй палітычнай хлусні, дыверсіі, знешняй аб'ектыўнасці, спачування — узбройваліся з галавы да пят нашы сённяшнія класавыя ідэйныя ворагі.

Моладзь цягнецца да рэвалюцыйнай, марксісцка-ленінскай тэорыі, што памагае ёй усвядоміць вялікую гістарычную справу, за якую змагаецца партыя і народ, разабрацца ў складаным становішчы, вызначыць сваё месца ў грамадскім працэсе, у шэрагах будаўнікоў камунізма, выкрываць палітычны авантурызм, ідэалагічныя дыверсіі, узятыя сёння на ўзбраенне нашымі класавымі ворагамі.

Вучыцца камунізму, сёння ведаць больш, чым учора,— гэта значыць выхоўваць у сабе ленінскія рысы змагара, стойкага, ідэйна перакананага, які ўвабраў у сябе рэвалюцыйныя традыцыі партыі і народу, трывала аваладаў тэорыяй марксізма-ленінізма, вучэннем Леніна. Добра сказаў пра гэта на камсамольскім сходзе ў механічным цэху Мінскага аўтазавода наладчык Уладзімір Зарэцкі: «Да мяне сапраўднае захапленне Леніным прыйшло яшчэ ў школе. Прачытаў самастойна «Красавіцкія тэзісы», пачаў вывучаць іх радок за радком. Не адразу, крок за крокам адкрывалася мне глыбіня ленінскай думкі. І нарадзілася жаданне — вучыцца сур'ёзна. Жыццё часам ставіць такія пытанні, на якія без ведання рэвалюцыйнай тэорыі цяжка знайсці правільны адказ. Ленін звычайна гаварыў у такіх выпадках: параімся з Марксам. І мы гаворым: параімся з Леніным». Сёння з Леніным раяцца, звяраюць з ім кожны свой крок мільёны маладых патрыётаў.

# АРЛІНАЕ ПЛЕМЯ

У кожнага з нас яшчэ ў памяці наша нядаўняе свята — 25-годдзе з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Застаўся надоўга ў сэрцы і сонечны дзень адкрыцця кургана Славы, і ўрачысты марш салдатаў каля яго падножжа... Ішлі маладыя салдаты — стройныя, дужыя, прыгожыя той воінскай выпраўкай і доблесцю, якая па сэрцы ўжо бывалым воінам. Гэта вельмі неабходна, важна — моцныя, загартаваныя, умелыя салдаты, магутная, добрая, сучасная зброя Савецкай Арміі, таму што, як гаварыў Ленін, «усякая рэвалюцыя толькі тады чаго-небудзь вартая, калі яна ўмее абараняцца».

Салдатамі не нараджаюцца. І ўсё ж мне, чалавеку выключна грамадзянскай прафесіі, вельмі б хацелася, каб усе мы нараджаліся



У дазоры.

Фота А. Мызнікава.

схадзіць у лясніцтва і выпісаць гэтыя кубаметры, ды мо і не ведала маці, казённае гэта ці калгаснае. Хацелася сказаць Ёсіпу, што, як толькі маці паправіцца, скоранька сходзіць у лясніцтва. Але ўжо было позна: кашляючы, Ёсіп спорненька ступаў на вуліцу.

«От жа нагода навярнулася...»,— успомніў я матчыны словы, і ўслед за Ёсіпам выехаў на вуліцу. На брыгадным дзядзінцы выпраг каня, занёс у хамутоўню вупраж. Потым падвёў Громіка да бочкі з каламаззю і, стаўшы на яе, узабраўся каню на спіну.

Табун пасвіўся ля Галенніцы, у самым лагу, які ўжо завалакло белаватым туманом. Над ім віўся сіняваты дымок: конюх Аўдзей паспеў ужо распаліць вогнішча. З туману несліся конскі храп і тупат, у густой медуніцы дзёр горла дзяркач, яму азвалася ў жыце за Галенніцай перапёлка.

Я спутаў Громіка, закінуў за плячо аброць і падаўся быў дадому, як натрапіў на дзядзьку Астаха. Ён таксама з аброццю ішоў ад вогнішча.

— Ты, Янак? Куды ж далёка ездзіў?

— На кроквы прывёз.

— Глядзі, які скоранькі.

— І жэрдак на латы насек,— дадаў я.

— Дык ты зусім маладзец! — ён правёў сваёй сухой далоняй па маёй голай макаўцы.— Заўтра паставім кроквы і пачнём лаціць.

Свойскасць і шчырата дзядзькі Астаха трошкі адгарнулі мае самотныя думкі, прыдалі настрою.

— Вось толькі...— пачаў быў я.

Ад дзядзькі Астаха я не мог ды і не хацеў таіць, расказаў усё, як было: і пра тое, як абярнуўся воз, і як заходзіў вечарам ляснік Ёсіп.

Уважліва, не перабіваючы, дзядзька Астах выслухаў мяне, потым, не спяшаючыся, сказаў:

— Нічога, Янак, уладзім неяк з гэтымі кубаметрамі.

Ён змоўк. Я таксама не падаваў голасу, часценька ступаў, стараючыся не адстаць. Дзесьці за Галенніцай выглянуў з-за хмаркі веташок, кінуў на шэры дарожны пясок цьмянае сяйво, зноў паплыў, куляючыся з хмаркі ў хмарку. Аціхала, гасіла агні Сцяпкова, спаць збіралася.

Паварочваючы ў вузкую, з роўнымі радамі ліпнёвых прысад, вулачку, дзядзька Астах прыпыніўся, сказаў:

— Ты, Янак, вось што: пра Ёсіпа маці пакуль што — ні гу-гу... Хай папраўляецца...



# ДАРАГІЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ

**З блакнота мастака**

Крута ўгару вядуць драўляныя прыступкі, аж на самы «Вянец» — так называецца гэты 150-метровай вышыні бераг Волгі каля Ульянаўска. Неабсяжная прастора адкрываецца позірку. Бяскрайняя люстраная роўнядзь Куйбышаўскага вадасховішча — сапраўднае мора — зліваецца ў далечыні з блакітам нябёс. Воблакі, выкупаўшыся ў вадзе, бягуць у далячынь па сініх лясах і спелых палях. Чыстае крыштальнае паветра звініць вакол.

Цяністы парк выходзіць на шырокую плошчу, дзе бронзавая постаць Леніна, які крочыць наперад, узвышаецца над волжскімі стромамі.

Шырокія, пранізаныя святлом вуліцы горада, дзе нарадзіўся і правёў сваё маленства Валодзя Ульянаў. Усюды волаты-краны, насустрач бягуць нашы магутныя мазы. Горад у рыштаваннях будоўляў.

А вось і ціхая, уся ў зеляніне, вуліца Леніна. Дом № 58. Натоўпы людзей. Большасць — госці, якія прыехалі здалёк, каб убачыць мясціны, звязаныя з маленствам і юнацкімі гадамі Леніна. У гэтым доме ён пражыў каля дзевяці гадоў. Цяпер тут музей У. І. Леніна. Больш за пяць мільёнаў наведвальнікаў пабывала тут. Народны паэт Чувашыі Педэр Хузангай сказаў: «Усе краіны свету, усе нацыянальнасці прайшлі тут. Напэўна, усе. Хто не паспеў, той яшчэ пабывае. Мільёны подпісаў, тамы і тамы складае кніга наведванняў. Словы ўдзячнасці, водгукі і пажаданні на ўсіх мовах. Напэўна, на усіх. Калі няма слоў якога народа, яны будуць тут».

Усё тут захавалася ў асноўным так, як было ў тыя далёкія гады, калі Валодзя Ульянаў толькі ўваходзіў у вялікае жыццё.

Вось невялікая ўтульная святліца. Няма тут ніякіх упрыгожванняў, ні дарагіх забавак. Стаіць стол, канапа і крэслы. Люстэрка на сцяне. Каля акна — раяль. Калісьці тут гучала музыка.

Побач — кабінет Ільі Мікалаевіча Ульянава. На пісьмовым стале зборнікі справаздач і аглядаў, мармуровы прыбор — падарунак сімбірскіх настаўнікаў, кішэнны гадзіннік Ільі Мікалаевіча.

У сям'і Ульянавых дзеці з ранніх гадоў прывучаліся да працы. У пакоі маці Уладзіміра Ільіча на куфры ляжаць самаробныя падарункі дзяцей. Аляксандр выразаў лобзікам дошчачку для хлеба з надпісам «Brod». Тут жа выразаная шкатулка для нітак.



Пакой Валодзі Ульянава.



У адной з залаў музея.

Суботнімі вечарамі ўся сям'я Ульянавых збіралася ў сталовай. Абмяркоўвалі свой рукапісны часопіс «Субботник», чыталі кнігі. На стале ляжаць шахматы.

...Драўляная лесвіца вядзе на антрэсолі. Тут дзіцячыя пакоі. Мусіць, самы маленькі з усіх пакой Валодзі. Такое ж, як і ўнізе, сціплае ўбранства. Нічога лішняга, усё толькі самае неабходнае. Каля невялікага акна — стол, засцелены цыратавым настольнікам, два крэслы. На сцяне карта свету, збоку — невялікая кніжная паліца. На ёй любімыя ўсімі з дзяцінства кнігі — «Спартак», «Тарас Бульба», «Прыгоды Тома Сойера», «Што рабіць?», падручнікі. Тут Валодзя Ульянаў займаўся і адпачываў, пісаў вось за гэтым сталом, вывучаў карту свету. Можа быць, гэта тая самая карта, гледзячы на якую ён упершыню ўбачыў будучую Расію, пераўтвораную віхурай рэвалюцыі.

...Усе, хто наведвае Ульянаўск, ідуць да будынка былой сімбірскай мужчынскай гімназіі, а цяпер школы № 1, якая носіць імя Леніна. Ступаеш той жа дарогай, па якой Валодзя Ульянаў хадзіў на заняткі. У бібліятэцы я разглядаў старыя здымкі гэтых мясцін. Сярод мноства раскіданых абы-як драўляных хацін з шматлікімі прыбудоўкамі, нібы астравы, узвышаліся 29 цэркваў і 2 манастыры Сімбірска.

Каля будынка школы шумлівая гамана. Гэта экскурсія школьнікаў. Тут з другога па восьмы клас вучыўся Валодзя Ульянаў — сёмы клас былой гімназіі ператвораны ў клас-музей. У апошнім радзе ля высокага паўкруглага акна парта з шыльдачкай: «Тут сядзеў Уладзімір Ульянаў, вучань VII класа».

Заняткі тут цяпер не вядуцца, але свой першы ўрок першакласнікі праводзяць у гэтым пакоі. У канцы ўрока ўсе вучні па чарзе на хвілінку прысаджваюцца за парту Уладзіміра Ільіча.

167 чалавек скончылі гэтую школу з залатым і сярэбраным медалямі. Тут вучыліся Аляксандр і Дзмітры Ульянавы, акадэмікі Ігар Курчатаў і Уладзімір Філатаў, Дзмітры Садоўнікаў, пясняр Волгі і волі, аўтар вядомай песні «Аж з-за вострава на стрыжань», паплечнік Леніна Мікалай Бруханаў і Сяргей Бутурлін, былы вучоны сакратар Камітэта Поўначы пры ВЦВК.



Парта, за якой сядзеў Валодзя Ульянаў.



На рыштаваннях.



Будаўнікі Юра Мартынаў і Мікалай Крайноў.

Недалёка ад школы імкліва ўзняўся ў неба 23-павярховы будынак гасцініцы «Вянец» на тысячу месц. З вышыні гэтага дома відзён увесь горад; каміны аўтазавода, увішныя машыны якога можна сустрэць амаль што на ўсіх дарогах свету. На 25 кіламетраў раскінуўся Ульянаўск ушыркі, цяпер ён пачаў расці ўвышыню. Рэканструіруюцца вуліцы і цэлыя кварталы.

Вялізны шкляны дом гандлю яшчэ толькі вызваляецца ад рыштаванняў, а з-за старой манастырскай сцяны ўзняўся ўвысь лёгкі будынак Усесаюзнага дома піянераў.

З вышыні будынка гасцініцы бачна галоўная ўдарная камсамольская будоўля — велічнае збудаванне мемарыяльнага комплексу, якое будзе завершана да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Тут размесяцца — філіял цэнтральнага музея Леніна, універсітэт марксізма-ленінізма, дом палітасветы і вялізная канцэртная зала. Унутры будзе адноўлен дом, дзе нарадзіўся Ленін. Працуюць на будоўлі юнакі і дзяўчаты, якім па 17 гадоў. Столькі ж, колькі было і Леніну, калі ён закончыў Сімбірскую гімназію. З усіх канцоў прыехала сюды моладзь, прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей.

...Маладзее Ульянаўск — радзіма вялікага правадыра і настаўніка працоўных усяго свету. Велічна ўзвышаюцца сучасныя гмахі адноўленага горада — помніка вялікаму Леніну.

**Пятро ЛЫСЕНКА.**

●

Аляксей КАРПЮК



# МІЛЬЯРД... І 30 ГОД НОВАЙ ЭРЫ

**Толькі малому здаецца, што з паяўленнем яго на свет і пачалося жыццё. У дарослага чалавека ўзнікае няўрымслівая і ўпартая цікавасць: а што ж было да мяне? Як тады ўсё выглядала? Якія былі першыя істоты? Якія раней жылі людзі? Ці хоць не горшы я за іх?!.**

**Заглянем жа і мы, прынёманцы, у глыбіню свайго геа-, этна- і філагенезу.**

## 1

Што было калісьці на нашай тэрыторыі, вучоныя толькі гадаюць. Пэўна адно — на сённяшнім Палессі мільярд гадоў таму назад узнімаўся ланцуг высачэзных гор, кажуць, не меншых, як Альпы ці Гімалаі. Калі так, то наша Гродзеншчына тады была аграмадным узбоччам вялізнай грады, а яе спакой час ад часу парушалі толькі магутныя выбухі вогненных вулканаў.

Горы тыя выветрыліся. Іхняе месца заняло мора. Салёныя хвалі шмат разоў накрывалі Гродзеншчыну ды адступалі зноў. У залежнасці ад гэтага, на сённяшнім Прынямонні то шумелі субтропікі, то ў бяздоннай тоні буялі сакавітыя марскія водарасці.

Раслінныя джунглі тады аж кішэлі цэратазаўрамі, іхтыязаўрамі, трыцэратопсамі... Гэтыя няўклюды, куды большыя за чалавека і таксама пазваночныя, недзе грызліся, жэрлі, выцяснялі адны адных, перажывалі эпідэміі, падалі з абрываў. Але ўсё гэта цяпер нас мала хвалюе, бо з пункту гледжання чалавека сённяшняга дня ўсё гэта было даўно. Вельмі даўно.

Ніхто яшчэ дакладна не вызначыў і нашу ледніковую эпоху, не сказаў, колькі разоў лёд то з'яўляўся ў нас, то адступаў, пакідаючы ўсюды сляды. Палова Гродзеншчыны — пяскі. Калі едзеш палявымі дарогамі, абавязкова ўбачыш, нібы гурты авечак, пасцягваныя трактарам валуны. А вясной, калі спадае ў рэчцы вада, то нават я не раз знаходзіў на беразе Нёмана мамантавыя косткі.

Пасля ледніка, калі нашу тэрыторыю пакрылі суцэльныя лясы і балоты, мабыць, і паявіўся на Гродзеншчыне першы чалавек. Колькі людзей было тады? Ніхто не ведае. Пакуль што вучоныя могуць адно — меркаваць.

Жыць нашы далёкія продкі маглі толькі з палявання. Ды іх тады было і нямнога. Вучоныя падлічылі, што, напрыклад, 200 000 гадоў таму назад паляўнічых угоддзяў усяе Грузіі хапала, каб пракарміцца толькі тром-чатыром паляўнічым групам па 50—100 чалавек у кожнай. На нашай тэрыторыі выжыць магло куды менш. Аднак яны жылі і пакінулі па сабе памяткі. Там-сям на берагах нашых азёр і рэчак трапляюцца наканечнікі стрэл, скрэблы, чарапкі глінянага посуду, які ўжывалі некалі даўгарукія, сутулыя, з нізкімі лбамі абарыгены Прынёманшчыны ў эпоху ранняга неаліту. А займаліся яны паляваннем толькі на сваю патрэбу.

Але ёсць пераканаўчыя доказы таго, што крыху пазней, калі ў старажытным Егіпце пачыналі будаваць піраміды, і ў Прынёманшчыне пульсавала інтэнсіўнае жыццё, хоць і першабытныя, але існавалі ўжо вытворчыя ўзаемаадносіны. З таго часу захаваліся красамоўныя сляды «прамысловага цэнтра», калі гаварыць сённяшняй мовай. У Ваўкавыскім раёне ля мястэчка Рось узвышаецца шмат мелавых гор. Ля адной з іх ёсць вёска з прыгожай стараславянскай назвай — Краснае Сяло. Яшчэ да вайны вучоныя адкрылі там каля тысячы шахт эпохі позняга неаліту. У суцэльных пластах мелу старажытныя шахцёры кіркамі з ласінага рога папрабівалі калодзежы па дзесяць метраў у глыбіню. Між імі метраў на дваццаць цягнуцца падземныя хады.

У шахтах людзі шукалі галоўны тавар першабытнага гандлю і асноўную сыравіну для сваіх прылад вытворчасці — крэмень.

То былі нашыя першыя «магніткі».

Адгэтуль цяпер цэментны завод «Перамога» бярэ мел. Магутныя экскаватары развярнулі ўзгоркі. Як у раскроеных пірагах, бялеюць у свежых разрэзах тоненькія жылкі крэменю. Яны вельмі рэдкія. Аж крыўда бярэ, што заводскія сіты з пароды цяпер старанна аддзяляюць крэмень і вывозяць на звалку: выкідваюць тое, без чаго нашы продкі не маглі жыць.

Як тады ўмудраліся знаходзіць такія тонкія і рэдкія жылкі ў аграмадных пластах мелу? Капалі ўсляпую? Тады верхні пласт зямлі быў бы ўвесь перавернуты, а ён, кажуць, не парушаны: шахты ўзнікалі толькі дакладна над жыламі. Горназдабывальнікі, факт, валодалі нейкім прафесіянальным сакрэтам. Над выкапаным сствалом стаіш і думаеш: нюхам яны крэмень адчувалі? Інтуіцыяй?.. Колькі ні думай — не адгадаеш. Можаш адно цьмяна ўявіць сабе іх работу.

Спецыялістам тады мог быць толькі самародак.

Вось такі — аброслы краснасельскі дзяцюк з капцілкай, пад зямлёй, адзін толькі ведаў спосаб, як знайсці каштоўную жылу. Ён і быў першым прамысловым спецам Гродзеншчыны, яе магам і аўтарытэтам. Яму было куды цяжэй, чым сённяшнім нашым спецыялістам. Бо, да ўсяго, ён яшчэ мусіў валодаць выдатным здароўем, быць адважным, упартым і дужым, — сам сабе служыў і вартаўніком, і медпунктам і сачыў за тэхнікай бяспекі...

Не дзіва, што з-за такіх узнікалі між пляменаў войны, іх шукалі і дамагаліся знаёмства, марылі стаць іх сваякамі.

Шахты пад Ваўкавыскам (IV—III тысячагоддзе да нашай эры) вельмі падобныя да славутых на ўвесь свет у Цысбуры (Англія). І недаравальна, што з-за нашай ганебнай нічым не апраўданай абыякавасці краснасельскія шахты не фігуруюць у праспектах «Інтурыста» і людзі мала пра іх ведаюць.

## 2

Першыя знакі асэнсаванага і блізкага нам рытуалу на Гродзеншчыне нашыя продкі пакінулі для нашчадкаў у Мастоўскім раёне.

На левым беразе Нёмана, недалёка ад Лунны, раскінулася даўжэзная вёска Навасёлкі. Усцяж яе на плошчы ў некалькі дзесяткаў гектараў узвышаюцца сотні, а мо і тысячы курганоў. Навасёлкаўскія курганы не тояць у сабе рэштак старажытнай зброі, у іх няма і чалавечых касцей, тым не менш, іхняя гісторыя цікавая.

У старажытных славян калісьці панаваў звычай — калі на чужыне гінуў ваяўнік, на радзіме яму насыпалі капец зямлі.

У той час, калі ля Навасёлак паўставалі рытуальныя курганы, у Швецыі пры каралі Одзіну быў неўраджай і голад. Каб бог злітаваўся над імі, людзі прынеслі яму ў ахвяру быкоў. Гэта не памагло. Тады вырашылі прынесці ў ахвяру свайго караля. Одзіну зарэзалі і крывёю яго абмазалі ўсе сцены ў доме бога.

У прыбалтаў лепшай ахвярай для багоў лічыўся чалавек, які першы трапіў у палон. Такога палоннага з іншага племені яны аддавалі адмысловым катаванням.

Паводле рэцэптаў, знойдзеных у манастыры Бельгала (Малая Азія), гартавалі сталь некалі так — распалены клінок усаджвалі ў цела жывога чалавека, каб яго сіла перайшла ў сталь. Майстра восем разоў награваў клінок і столькі ж разоў студзіў яго ў мускулах звязанага маладога нявольніка, якога кавалю даваў той, хто заказваў кінжал.

У Індыі, каб быў ураджай, кожны год рассякалі напалову дзіця...

Дакладных апісанняў быту, звычаяў нашых прынёманцаў у той далёкі час мы не маем, але прыблізна можам сабе ўявіць, мяркуючы па суседніх народах, з жыцця якіх я прывёў прыклады... калі ў прасле няма адной штыкеціны, дык пра тое, якая яна была, меркаваць няцяжка: дастаткова прыглядзецца да суседніх.

Што зробіш, гэта быў — суровы час... І людзі, якім узвышаюцца маўклівыя помнікі — курганы ля Навасёлак,— героі не ў нашым разуменні. Хутчэй за ўсё, яны не вярнуліся з разбою, а мо трапілі да якіх-небудзь саксаў у палон і былі спалены жывымі на вогнішчы.



Такі выгляд мела Гродна ў ліпені 1944 года.



У новым мікрараёне.



Мікалай Уласавец—
першы дырэктар пединстытута.



Жывая гісторыя Гродна. Ганна Іванаўна Бандарчык была за кухарку ў Элізы Ажэшкі.

●

Фота У. Мяжэвіча.

●





Мікалай Вайцяхоўскі—былы камандзір партызанскай брыгады імя Кастуся Каліноўскага.

Гродна індустрыяльнае. Працуе азотнатукавы.

Адным словам, у паходзе супроць якіх плямёнаў, у якім краі склала свае буйныя галовы адразу столькі мужчын з-пад Лунны, ніхто не ведае. Аднак навасёлкаўскія курганы нечым ужо нам блізкія. Яны — тыя грані, якімі мы сутыкаемся з нашымі прашчурамі. Таму няхай бы сабе старажытныя капцы стаялі. На жаль, сучасная тэхніка паступова зраўноўвае іх з зямлёй.

## 3

Няпраўда, што пры царызме нашу мясцовасць мала ведалі. Ведалі і нават вельмі добра. У першую чаргу ведалі Белавежу — месца для пацехі Раманавых.

Аднойчы на Свіслацкую дачу прыехаў на паляванне гасудар са світай. Для царыцы з фрэйлінамі змайстравалі высокі памост, заслалі яго дыванамі, адкуль яе высокасць мела б ласку стрэльнуць у звяроў. Егеры і загоншчыкі пачалі гнаць зуброў у калідор з бярвенняў. І вось магутны і непакорны адзінец не захацеў падстаўляць свой бок пад кулі нават царыцы і з ярасцю пачаў разносіць падпоры, што падтрымлівалі памост з найвышэйшымі асобамі. Царыца з прыдворнымі дамамі цудам вынесла ногі. Ва ўсіх цэрквах неабсяжнай імперыі з гэтага выпадку адслужылі малебен.

Калі знаёмішся са звесткамі аб Прынёманшчыне, якія дайшлі да нас, кідаецца ў вочы адно — Гродзеншчына заўсёды была вельмі непачціваю да цароў і прастола.

Вяртаўся ў 1824 годзе Аляксандр I з Парыжа ў Пецярбург праз Гродна, а ў раёне цяперашняга аэрапорта выскачылі з лесу хлопцы ды і адрэзалі ад карэты царскія чамаданы. У нашым архіве захоўваюцца данясенні жандараў губернатару пра гэтую падзею.

Побач з гэтым дакументам у тым самым архіве ляжыць папка з матэрыяламі, у якіх гаворыцца пра дзёрзкія паводзіны супраць цара сялян цэлых вёсак. У сувязі з адменай прыгоннага права «Государь Император Всемилостивейше удостоил приёма» валасных стараст Маскоўскай губерні і звярнуўся да іх з прамовай. Дзяржаўны статс-сакратар Валуеў прамову яго імператарскай вялікасці размножыў і загадаў прачытаць яе сялянам усяе імперыі. Ураднікі са старастамі і на Гродзеншчыне пачалі збіраць сялян і чытаць «найвышэйшыя словы». Вось гэтыя перлы:

> *«Здравствуйте, ребята! Я рад Вас видеть. Я дал вам свободу, но помните, свободу законную, а не своевольную. Поэтому я требую от вас прежде всего повинения властям, МНОЮ установленным. Требую затем от вас точного исполнения установленных повинностей. Хочу чтобы там, где уставные грамоты еще не составлены, они были составлены скорее, к назначенному МНОЮ сроку. Затем после составления их, т. е. после 19 февраля будущего года, не ожидать никакой новой воли и никаких новых льгот. Слышите ли? Не слушайте толков, которые между вами ходят, и не верьте тем, которые будут вас уверять в другом, а верьте одним МОИМ словам. Теперь прощайте, бог с вами!»*

На вялікае дзіва ўраднікаў і прыставаў, мужыкі Прынёманшчыны не выказалі пашаны да гэтых «мудрых і ласкавых» слоў імператара. Сяляне з-пад Бераставіцы, Ваўкавыска, Навагрудка ўзнялі такі бунт, што мясцовыя ўлады вымушаны былі выклікаць войска.

Вызваленчы рух на Прынёманшчыне ў 1863 годзе і народнае паўстанне Кастуся Каліноўскага прынесла нямала бед царызму. Праўда, дзесяткі, сотні патрыётаў Гродзеншчыны Мураўёў-вешацель пакараў смерцю, пазбавіў маёмасці, прымусіў уцякаць у эміграцыю. Але яшчэ больш іх, змардаваных ды змучаных, са звонам кайданоў пацягнулася пад канвоем праз усю імперыю ў Сібір, здзіўляючы дрымучую Расію, у якой народныя масы, па словах Леніна, яшчэ спалі беспрабудным сном, — здзіўляючы іх сваёй адважнай непакорлівасцю, сеючы ў роспачных душах яе грамадзян іскры надзеі.

З таго часу губернскі горад Прынёманшчыны стаў вядомы велізарнай краіне яшчэ і новай турмой ды месцам стаянкі ліхіх казакоў для ўціхамірвання народу. Дрыжыкі прабіраюць, калі чытаеш назвы вуліц тагачаснага Гродна:

**«Жандарскі завулак».**

**«Паліцэйская».**

**«Мураўёва».**

**«Сталыпіна».**

**«Купецкая».**

**«Саборная»...**

Канец мінулага і пачатак нашага стагоддзя праходзілі ў нас бурна. У Прынёманшчыне зарэгістравана адна з першых у царскай Расіі забастовак. У 1879 годзе ў Гродна забаставалі рабочыя кравецкіх майстэрняў, а неўзабаве — рабочыя тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага, чыгуначнікі, гарбары...

Яшчэ жывуць дзяды, якія добра памятаюць апошнія дні Гродзенскай губерні.

Слухаючы іх, адразу заўважаеш, што ўскраіна вялізнай імперыі жыла тым, чым жылі ў той час прамысловыя цэнтры Расіі.

Прынёманшчыну закранула і вайна з Японіяй. У Гродна адкрылі вялікі шпіталь для раненых пад Мукдэнам. Збіралі сродкі на царкву ў памяць загінуўшых на Далёкім Усходзе (так узнік цяперашні сабор на вуліцы Ажэшкі).

Дакаціліся сюды водгукі рускай рэвалюцыі 1905 года. У гарадах Гродзеншчыны пачаліся забастоўкі, сходы, сутычкі з казакамі. У архівах захаваліся матэрыялы аб хваляваннях гродзенскіх гімназістаў. Калі ў Гродна і ў другіх гарадах выбухнулі забастоўкі рабочых, гімназісты прынялі рашэнне:

> *«Мы, вучні старэйшых 4-х класаў Гродзенскай мужчынскай гімназіі, выказваючы сваю салідарнасць з рэвалюцыйным гарадскім і сельскім пралетарыятам, спыняем заняткі і далучаемся да ўсерасійскай палітычнай забастоўкі!»*

Каб паказаць напал барацьбы таго часу ў Гродна, дазволю сабе прывесці вытрымкі з падпольнага часопіса гімназістаў, які называўся «Школа». У нумары чацвёртым гэтага часопіса на вокладцы перафразіравана прыказка: «Далей едзеш — цішэй будзеш!» — сказаў цар, ссылаючы студэнта ў Сібір».

Між іншым, у «Школе» нумар 2 ёсць і такая інфармацыя:

> *«У лютым у гімназіі на ўроках французскай мовы вучні задалі настаўніку пытанне, што такое Марсельеза. Выкладчык, нічога не падазраючы, пачаў тлумачыць. Вучні пачалі яе напяваць, а адзін выпусціў чырвоны шар, які паляцеў пад столь і красаваўся там да канца ўрока... На месца злачынства з'явіўся жандар Пакало. Згодна распараджэння прыстава Шыманскага дэманстранты адседзелі тры гадзіны».*

Там жа:

> *«У канцы сакавіка жандармерыя арыштавала на вакзале нашага таварыша Н. Д. Жандар, відаць, папаўся сур'ёзны. Са словамі: «Я вас арыштую!» ён паклікаў некалькі суб'ектаў у такіх жа гарохавых паліто і адправіў «злачынцу» ў жандарскі каземат. Тут галоўны начальнік жандармерыі вахмістр Кугач склаў пратакол, у якім гаварылася, што гімназіст Н. Д. зняважыў словамі аднаго з слуг «ампіратара», яго Вялікасці Усежандарскага. Агледзеўшы кішэні тав. Н. Д. і не знайшоўшы ў іх ні аднаго браўнінга, «гарохавыя спектры» адправіліся выконваць свае службовыя абавязкі, г. зн. заглядаць у кошыкі, кішэні, па вачах пазнаваць, ці маюць яны справу з «Дэмакратам», ці не, і нагул з верай на нажыву і вельмі падазронай праўдай служыць «Цару і...» — аб радзіме я баюся гаварыць, бо мне здаецца, што яны, калі і служаць ёй, то, напэўна, яна здаецца ім у выглядзе скрыжаваных штыкоў і нагаек з царскай каронай пасярэдзіне. Не інакш. Чырвоны».*

## 4

Пасля рускай рэвалюцыі на Гродзеншчыне запанаваў адносны спакой. Толькі часамі яго парушала якая-небудзь падзея.

У 1907 годзе рэвалюцыянер Голуб на Саборнай плошчы (цяпер — Савецкая) застрэліў начальніка жандармерыі губерні палкоўніка Зубава. Неўзабаве на тую ж плошчу Голуб адправіўся помсціць за расстралянага брата. Спакой губерні быў зноў парушаны. У час тэзаімяніцтва «Яго Імператарскай Вялікасці» хлопец выскачыў з натоўпу, адштурхнуў губернатара і архірэя, прарваўся цераз папоўскую мітусню і гаварыў з трыбуны рэвалюцыйную прамову, пакуль яго не засеклі казакі.

У 1908 годзе на гродзенскіх вуліцах упершыню з'явіўся аўтамабіль. На ім ехаў князь Любамірскі. Яго суправаджаў велізарны натоўп цікаўных. Тады ж адкрыўся «Ілюзіён» — першы гродзенскі кінатэатр.

Усе гэтыя падзеі кранaлі толькі горад. Сялянская ж маса жыла сваім, замкнутым жыццём. Толькі перад самай сусветнай вайной вёскі Прынёманшчыны крыху ажывіліся: пачалося будаўніцтва фартоў. Тысячы фурманак з усяе губерні сцякаліся пад Гродна і Асавец капаць і вазіць пясок, рабіць бетон. Але гэта пэўных зрухаў у жыццё людзей не ўнесла.

Адным словам, аб Прынёманшчыне таго часу скажаш нямнога. Жыццё яе было ў застоі.

Яшчэ менш добрага скажаш пра Гродзеншчыну з часоў паміж сусветнымі войнамі.

На самай справе, якія праявы эканамічнага пад'ёму, культуры знойдуць даследчыкі ў старых падшыўках польскіх газет і часопісаў за дваццацігадовае ўладанне «санацыі»?

Як і раней, самым буйным прадпрыемствам у Гродна заставаліся піваварны завод ды сезонная тытунёвая фабрыка Шарашэўскага.

Насельніцтва гарадоў паменшылася: у Гродна ў 1913 годзе было 61 тысяча чалавек, а ў трыццатыя гады гэтая лічба знізілася да 49 тысяч.

У былой царскай турме цяпер пакутавала новае пакаленне талентаў: Браніслаў Тарашкевіч, Валянцін Таўлай, Міхась Васілёк, Піліп Пестрак...

Сярэднія школы (гімназіі) былі, як і пры царызме, амаль толькі для дзяцей багатых.

Працягвалі на Гродзеншчыне існаваць некалькі тых самых спецыяльных школ, якія былі і пры царызме, але цяпер ужо з польскай мовай навучання — гандлёвая школа, семінарыя...

У Гродна з'явілася і новая навучальная ўстанова з сельскагаспадарчым ухілам — шасцімесячныя курсы, дзе вучылі каваць коней. Гадавы бюджэт «школы» выносіў аж 600 злотых.

У старых польскіх газетах і часопісах гісторыкі знойдуць фатаграфіі «маршалка» Пілсудскага, які спыняўся ў Гродна па дарозе на курорт Друскенікі. Сустракаецца нават здымак — Пілсудскі ў Вярцелішках кладзе першую цагліну пад фундамент сямігадовай школы. Ён абяцаў гэтым самым сямігадовую адукацыю — усё, што мог.

Плата за лячэнне была вельмі высокая, і вясковыя людзі лячыліся не ў дактароў, а ў знахароў і шаптух. Сярэдняя працягласць жыцця мужчыны была 48,2, жанчыны 51,4 года (звесткі з польскіх крыніц за 1931—1932 гады).

Амаль уся вёска насіла саматканае адзенне, абувалася ў пасталы. Вялікай падзеяй было — з'ездзіць у горад, купіць для сям'і селядца або паласавацца там булкай з ліманадам.

Граніцу мараў селяніна таго часу добра выказаў наш Міхась Васілёк:

*От каб грошай хоць з паўпуда, ну і зрабіў бы ж тады я цуда:*
*Накупіў бы рыбы, мяса, кіло кракаўскай кілбасы,*
*Хлеба белага з паўторбы і, дальбог, адзін упёр бы!*

У Польшчы існавала замежная манаполія на галоўныя сродкі вытворчасці, сыравіну. Манапалісты самачынна ўстанаўлівалі цэны на прамысловыя тавары, а каб увесь час мець гарантаваны прыбытак, дзяліліся грашыма з урадам.

Пасадзіць дзядзька ў гародчыку крыху табакі сабе на курыва, прыйдзе паліцыя, і дзядзьку — турма! Прыкурыць на вуліцы чалавек сваю самакрутку ад цыгаркі іншага — штраф: фірме, якая выпускала запалкі, гэта нявыгадна. Карабок запалак каштаваў столькі, колькі каштавала два яйкі на рынку. Людзі ўмудраліся шчапаць запалкі на дзве часткі. А газеты аднойчы надрукавалі сенсацыю: у Польшчы нейкі селянін прыдумаў спосаб шчапаць кожную на чатыры! Каб распаліць у печы, цётка з бляшанкай бегала да суседкі пазычаць жару. За гэта, здаецца, не штрафавалі.

Адным словам, урад трымаўся на паліцыі. Паліцыянтаў баяліся. У паліцыю набіралі людзей адукаваных, дужых і адданых. Ім добра плацілі, і падкупіць іх было цяжка.

## 5

*З панам ён заўжды па-польску,*
*А зураднікам — па-руску,*
*Як у доўг у Мойшы просе,*
*Гутэн моргэн — буркне ў носе;*
*А як сядзе ў кутузку —*
*Усіх кляне па-беларуску!*

*Янка Купала.*

Прынёманшчына здаўна размаўляла на беларускай мове, а мова гэтая, дарэчы, звязана і з гісторыяй Польшчы. У свой час вялікім князем літоўскім была яна нават прынесена ў Кракаў на Вавель і на працягу стагоддзяў лічылася мовай афіцыйнай, нароўні з польскай, нямецкай, латынню, і прымянялася нават пры дыпламатычных перагаворах.

Старажытнейшы беларускі дакумент, які дайшоў да нас, — дагавор караля Польшчы і князёў мазавецкіх з князямі літоўскімі пры Альгердзе. Ён напісаны яшчэ ў 1380 годзе («Ведай то каждый человек, кто тои лист посмотрит. Оже я князь Еонутии...»). З часоў Сігізмунда Старога, Сігізмунда Аўгуста, Стэфана Баторыя на беларускай мове дайшло да нас мноства такіх пергаментаў. На ёй рана паявілася кнігадрукаванне і развівалася культура самабытнага народа. Бяда, што ўмовы таго часу не дазвалялі развівацца беларускай літаратуры, і яе ролю доўгі час выконваў фальклор. Беларускі фальклор натхняў геніяльнага паляка Адама Міцкевіча, і ніхто не сказаў з еўрапейскай трыбуны ў мінулым стагоддзі столькі добрага пра беларускія песні, казкі, пра беларускую мову, як гэты вялікі гродзенец.

Надышла перамена.

Польшча 1920—1939 гадоў стала нібыта і дэмакратычнай рэспублікай, але самаўпэўненыя і абмежаваныя яе заправілы перанялі ад каралеўскай Польшчы імперыялістычныя імкненні «ад мора да мора» і не хацелі лічыцца з гістарычнымі фактамі. З уласцівай усім шавіністам жорсткасцю пілсудчыкі ўзяліся знішчаць усё беларускае. Створаныя пасля вайны нацыянальныя школы пазачынялі. Масавую арганізацыю беларусаў «Грамаду» распусцілі, яе кіраўнікоў пасадзілі ў турму. У Варшаўскім сейме міністр асветы Скульскі пыхліва аб'явіў:

— Запэўняю вас, паны паслы, праз дзесяць год у Польшчы і са свечкай не знойдзеце ніводнага беларуса!

У гэты час у Лізе Нацый міністр замежных спраў Польшчы Юзэф Бэк даваў інтэрв'ю французскай газеце «Пці парызьен»:

— Мы закрываем беларускія школы і адкрываем польскія таму, што беларусы — адсталы, дзікі народ, і мова яго таксама адсталая!

...Кароль Польшчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які жыў у Гродна, дзвесце гадоў назад зацвердзіў для саноўнікаў медаль. Ім узнагароджвалі тых, хто пасмеў быць разумным. На медалі так і напісана было па-латыні: «Адважся быць разумным!» («Sapere auso!»).

А гэты выпадак здарыўся яшчэ раней — у 1389 годзе.

Ягайлу, які вярнуўся з паездкі ў далёкія раёны, данеслі, што яму здрадзіла жонка. Муж і жонка перагаварылі, і выявілася, што данос — чыстая плётка. На паклёпніка-шляхціца Гнявоша каралева Ядвіга падала скаргу ў гарадскі суд. Адбыўся працэс. Суддзі прызналі шляхціца вінаватым у паклёпе і вынеслі яму пакаранне — залезці пад лаўку і сказаць: «Я сабака, я — збрахаў!»

Лёгка ўявіць, што адбылося б, каб у становішча караля трапіў які-небудзь заправіла «санацыі»: ён адразу пачаў бы сячы ўсім галовы.

Адным словам, якія ні жорсткія былі каралі, але яны часам выглядалі дэмакратамі ў параўнанні з «санацыяй»...

## 6

Паэты і пісьменнікі — сумленне народу.

Пра лёс беларусаў з-пад Нёмана расказала ўсяму свету ганаровая памешчыца «Елізавета Пятроўна» — Эліза Ажэшка. З перакладзеных яе кніг у Францыі, Скандынавіі, Японіі і нават у Карэі людзі даведаліся пра стойкі, упарты і працавіты народ, які бязлітасна прыгнятаўся.

Пісьменніца старалася палегчыць долю народу не толькі пяром. У 1885 годзе Гродна вынішчыў пажар. «Пані Эліза» пакінула пісанне кніг і праз маскоўскія, пецярбургскія часопісы звярнулася да сваіх прыхільнікаў за дапамогай. Хутка 190 000 рублёў прыслалі ёй з усіх куткоў Расіі чулыя людзі, і сардэчная жанчына кінулася памагаць людзям, не разбіраючы, якой яны нацыянальнасці або веры.

Эліза Пашкевіч-Цётка таксама не адмаўляла людзям у матэрыяльнай дапамозе. Але яна пайшла далей. Старыя людзі расказваюць, як у самым пачатку нашага стагоддзя прыязджала яна з Віленскага ўніверсітэта да свайго бацькі ў Стары Двор, што непадалёку ад Гродна.

— Ліза, я магу ўявіць сабе рэвалюцыянераў-мужчын,— смяяўся з яе вясковы хлопец, з якім яна разам расла.— Але ж куды прэшся ты — слабая баба?

— Слаба-ая! — абурылася Эліза і выцягнула ручку парасона, у якой быў схаваны кінжал: — А ну, мужчы-ына, падыходзь!

На наступны дзень наваколле ўскалыхнула вестка: студэнтка, якая прыехала на канікулы, арганізавала забастоўку батракоў супроць свайго роднага бацькі.

Праз трыццаць год студэнт таго ж універсітэта, сын асадніка, палкоўніка-легіянера з-пад Ліды, Ежы Путрамент кінуў выклік свайму грамадству і стаў таксама на шлях пісьменніка-рэвалюцыянера.

Многія перадавыя людзі Прынёманшчыны хварэлі за лёс сваіх землякоў і спрабавалі палегчыць іхнюю долю. Але ўсё гэта былі намаганні адзіночак. Лёс Гродзеншчыны магла змяніць толькі партыя аднадумцаў.

## 7

Камуністычны рух на Гродзеншчыне пачаўся даволі рана.

Ужо ў канцы мінулага і на пачатку цяперашняга стагоддзя партыя РСДРП узнімала рабочых Смаргоні, Ваўкавыска, Гродна на забастоўкі і дэманстрацыі, а сялян з навакольных вёсак — на памешчыкаў. Але неўзабаве мясцовасць стала полем бою, і нашы бацькі і дзяды самі ўжо былі бяссільныя ўплываць на ход падзей. У дапамогу Гродзеншчыне партыя бальшавікоў пачала пасылаць свае лепшыя сілы — ад Гая з яго конніцай, да таленавітых арганізатараў КПЗБ, да ваеннага спецыяліста Карбышава.

Асабліва адчувальнай была гэтая дапамога ў Вялікую Айчынную вайну. Імё-



На бавоўна-прадзільнай фабрыцы.



Ваўкавыскі цэментавы завод.

Ля пульта кіравання печамі на цэментавым у Ваўкавыску машыніст Мікалай Абрамаў.

Аня Бяляй — пераможца конкурсу «Лепшая па прафесіі» на бавоўна-прадзільнай фабрыцы.







Старшыня калгаса «Праўда» Мастоўскага раёна Сцяпан Хадзько.



Калгасны статак.



Сярэдняя школа ў калгасе «Авангард» Гродзенскага раёна.

Сярод сельскіх спецыялістаў і старшыня калгаса «Авангард» Пятро Дзеншчыкоў (у цэнтры).



ны многіх упаўнаважаных ЦК КПБ, партыйных, камсамольскіх работнікаў і арганізатараў партызанскага руху, якія часта ўпамінаюцца ў газетах, вядомы нават піянерам. Пра некаторых жа, прысланых у цяжкую хвіліну з Вялікай зямлі да нас, мы ўсё яшчэ гаворым: «...і іншыя». Не адзін год трэба будзе нам высвятляць, колькі іх загінула ў засценках гестапа былога «Беластоцкага бецырка», колькі іх пахавана ў безыменных магілах па нашых лясах і палях.

Галоўныя якасці партызана — сумленнасць, упартасць, стойкасць ды цярпенне, а гэтага, як вядома, беларусу не пазычаць. Пасланцы з Вялікай зямлі прывялі стыхійныя партызанскія сілы Прынёманшчыны ў стройную сістэму і парадак, стварыўшы 106 партызанскіх атрадаў і 19 падпольных райкомаў.

Людзі, што прыбылі з глыбіні Расіі, унеслі ў партызанскі рух нечуваны размах. Пра лясных герояў ужо столькі напісана, што цяжка не паўтарацца. Хіба што расказаць пра славутую «аперацыю другога фронту».

Партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага пад камандаваннем горнага інжынера з Ленінграда Мікалая Калістратавіча Вайцяхоўскага накіравалася з Гута-Міхалінскага лесу да Поразава і заднявала на ўскраі Белавежскай пушчы — у славутай Свіслацкай дачы. Гэты куток мясцовыя партызаны яшчэ не асвоілі, немцы там былі непалоханыя. Людзі ў той час пагаворвалі пра другі фронт. Марылі пра яго і партызаны. Фашысты ж і здраднікі чакалі другога фронту з трывогай, і створаныя з адурманеных сялян атрады самааховы трымаліся моцна, падыходзіць да населеных пунктаў лясным хлопцам было небяспечна.

Брыгада Каліноўскага адпачывала побач з вёскай, у якой жылі сем'і здраднікаў. Калі сцямнела, камбрыг Вайцяхоўскі паслаў у вёску хлопцаў падрыхтаваць дваццаць фурманак. Крыху пазней з разведчыкамі накіраваўся туды і сам.

Партызаны зайшлі да солтыса, завесілі посцілкай вокны, гаспадара выправадзілі ў бакоўку, адкуль ён мог вельмі добра ўсё чуць.

— Віця, стаў рацыю! — загадаў Мікалай Калістратавіч свайму радысту ды цішком пагразіў разведчыкам, каб не смяяліся.

Брыгадны радыст Віктар Раманцэвіч (цяпер — сакратар Свіслацкай раённай газеты) умомант разгарнуў антэну, наладзіў апарат, і Вайцяхоўскі пачаў дыктаваць радыёграму:

**«Масква. Пляцоўка для пяцітысячнага дэсанта падрыхтавана. Камбрыг Вайцяхоўскі».**

**«Лондан. Ваш дэсант у сем тысяч «камандосаў» паспяхова прызямліўся ў Свіслацкай дачы. Капітан савецкіх войск Вайцяхоўскі».**

**«Вашынгтон. Першая палавіна вашага дэсанта — дзве тысячы салдат — прынята мной у Белавежскай пушчы. Вайцяхоўскі».**

— Гатова, таварыш камандзір! — адчаканіў радыст.

— Здымай антэну. Гайда да англічан віскі піць!

А хлопцы на дваццаці фурманках разыгрывалі камедыю далей. Прагоняць коней праз вёску, полем аб'едуць і — зноў у яе ўязджаюць.

Да світання пракалясілі так разоў дванаццаць.

Раніцай солтыс і яго памагатыя кінуліся званіць у Беласток шэфу бецырка:

— Партызаны другі фронт адкрылі!

Да абеду самаахоўнікі здалі зброю. Гарнізоны вакол Поразава зняліся і памчалі, хто ў Ваўкавыск, хто ў Гродна. Шпіталь ваенных лётчыкаў з Красак паспешна эвакуіравалі ў Беласток. На мост праз Нараўку прыгналі яшчэ адну роту аховы...

Вайцяхоўскі тут жа і пакінуў вёску, але, падбадзёраныя прыкладам знаходлівага і смелага ленінградца, мясцовыя партызаны на поўдні Гродзеншчыны ўжо да самага з'яднання з Савецкай Арміяй ініцыятывы з рук не выпускалі.

## 8

Пасля вызвалення Прынёманшчыны ад фашыстаў партыя накіравала да нас тысячы новых арганізатараў.

З уступленнем нашых перадавых часцей у Гродна вярнуўся з арміі даваенны старшыня гарвыканкома, камуніст Пятро Іванавіч Ратайка.

Жахлівы выгляд мела тады наша Гродна. Электрастанцыя — узарвана. Масты, заводы, горад — адны руіны. Не было людзей, сыравіны, машын. Адкуль гэта браць?!

Першае, што зрабіў старшыня гарвыканкома ў сваім кабінеце на Сацыялістычнай вуліцы ў доме пад нумарам адзін, дзе цяпер натарыяльная кантора, гэта распісаўся, што атрымаў першы транспарт, першую цяглавую сілу, першую крыніцу энергіі — дзве пары вярблюдаў. Нейкая вайсковая часць спісала іх, і Ратайка, будучы чалавекам гаспадарлівым, ад тых вярблюдаў не адмовіўся.

— А што? — рэзонна запярэчыў ён насмешнікам.— Ваду, паліва ў лазню прывязуць. І калек у бальніцу пазвозяць!..

Дырэктар магутнай ЦЭЦ, бульдазерыст 150-сільнай машыны, вадзіцель кам-

фартабельнага радыёфікаванага аўтобуса, кранаўшчык высотнага дома, звяртаюся да вас з просьбай:

Калі будзе хто з вас у Гродзенскім заапарку, затрымайцеся абавязкова лішнюю хвіліну не каля легкадумных папугаяў, не каля бескарысных лежабокаў-тыграў, не каля фанабэрлівых паваў, а — каля вальера двухгорбых і няўклюдных вярблюдаў. Дынастыя тых самых флегматычных прышэльцаў са спякотнай Таджыкіі або Кіргізіі цяпер спакойна працягвае там свой род. Памятай, дырэктар магутнай ЦЭЦ, продкі гэтых шаноўных жывёлін, што цёплымі, аксамітнымі вуснамі хапаюць ручку твайго сына, далі для Гродна тыя першыя «вярблюджыя сілы», з якіх узяў пачатак цяперашні магутны наш транспарт, індустрыя Прынёманшчыны!

Але вярнуся да пасляваенных дзён.

Пакуль Пятро Іванавіч Ратайка змацоўваў у канцы цяжкага лета 1944 года сваім старшынёўскім подпісам такую сімвалічную цяпер для нас паперу, у апавітым дзікім вінаградам будынку па вуліцы Элізы Ажэшкі, 22, адбылася другая вялікая падзея.

У гэтым будынку малады выпускнік Маскоўскай вышэйшай партыйнай школы Мікалай Васільевіч Уласавец выстругаў дрэўка, прымацаваў да яго кавалак чырвонай тканіны і металічнай фарбай (іншай ва ўсім Гродна тады не знайшоў бы і са свечкай) размашыстым почыркам вывеў: «Гродзенскі дзяржаўны педінстытут». Яшчэ нікому не было зразумела, адкуль набраць выкладчыкаў, студэнтаў, дзе раздабыць хоць бы фанеры, каб заставіць выбітыя шыбы, дзе ўзяць дроў на зіму, каб абаграваць будынак, але ўжо быў пакладзены пачатак першай вышэйшай навучальнай установе Прынёманшчыны (і першай — у былой Заходняй Беларусі).

Парторг педінстытута імя Янкі Купалы, які на святочныя дэманстрацыі пад шматлікімі шаўковымі сцягамі з малінавымі кутасамі і серабрыстымі наканечнікамі выводзіш цяпер тысячныя калоны вясёлай моладзі, не забывайся пра наступнае:

У 1944 годзе пры адкрыцці важнага аб'екта фотакоры такі акт для гісторыі на плёнку не фатаграфавалі — было не да гэтага. Таму абавязкова пашукаў у кладовай той стары сцяг ды знайдзі яму адпаведнае, дастойнае месца. Няхай заўсёды будзе ён на вачах і ў барадатых дактароў Гродзеншчыны, і ў шматлікіх кандыдатаў, і ў тых, хто толькі ступае на дарогу навукі — нашых бязвусых юнакоў ды сакатлівых дзяўчат!

## 9

Як ні цяжка было Пятру Іванавічу Ратайку з руін узнімаць горад, як ні цяжка было Мікалаю Уласаўцу знаходзіць з мясцовай моладзі хлопцаў і дзяўчат хоць з якой-небудзь адукацыяй, каб прыняць іх у інстытут, а пасланцам партыі ў сёлах Прынёманшчыны было цяжэй.

Гэтаму былі розныя прычыны.

Бадай галоўным было тое, што жыццё і свядомасць тысячных сялянскіх мас Гродзеншчыны фарміраваліся пад уражаннем падзей, якія бушавалі на яе тэрыторыі. У сутнасці гэтых падзей непісьменнаму селяніну разабрацца часта было амаль немагчыма, але падыходзіць да іх з чыста жыцейскага, практычнага боку ён прыстасаваўся. Што ж, зразумець яго можна.

На змену царызму ў жніўні 1915 года на Прынёманшчыну прыйшлі кайзераўскія войскі, каб у красавіку 1919 года саступіць уладу Польшчы.

Потым прыйшло сюды ў чэрвені вызваленне, а ў канцы верасня — зноў атабарыўся Пілсудскі.

У верасні 1939 года Гродзеншчыну вызваліла Чырвоная Армія, але праз два гады сюды прыйшлі нямецкія фашысты, і сонца сапраўднай свабоды засвяціла ажно ў ліпені 1944 года.

Частыя перамены палітычна розных улад у непісьменных і цёмных пасялілі глыбокае перакананне ў непастаянстве любой улады ды прывучылі іх не вельмі спяшацца з выкананнем яе рашэнняў.

Арганізатарам сацыялістычнай перабудовы вёскі цяжэй за ўсё было ў тых сёлах, дзе людзі ў 1915 годзе не эвакуіраваліся ў глыбіню Расіі, а засталіся на месцы. На жаль, у Прынёманшчыне такія сёлы пераважалі.

На камуністаў, пасланых у вёску, адразу абрушыліся ашалелыя ад гультайства банды пілсудчыкаў, якія за ўсю вайну часам не выпусцілі ніводнае кулі. Пачаўся тэрор. Вымазаныя ў сажу, альбо і без маскіроўкі, увальваліся бандыты з абрэзамі ў сяло, шукалі ўпаўнаважаных райкома, дэпутатаў і чынілі расправу. Потым рабавалі сялян і браліся за дзяўчат.

— А-а, не мяне ты чака-ала?! Вось і дачака-алася!..— цынічна здзекаваліся яны пры гэтым.

Але і банды былі яшчэ не самае горшае. У вёсцы пераважала дрымучая века-

вая адсталасць і запусценне, прынесенае апошняй вайной. Успышкі «абноўленых» ікон, абнаўленне «святых», пашырэнне невераґодных, бязглуздых чутак збівала сялян з панталыку. І ў выніку яны, асцерагаючыся падману, баяліся падпісваць не толькі заявы ў калгас. Некаторыя сяляне Сапоцкінскага, Радунскага, Васілішкаўскага, Лідскага раёнаў не падпісвалі Стакгольмскай адозвы за мір, не падпісвалі заяў у школу. Дайшло да таго, што нават не падпісваліся на бланках паштовых пераводаў.

Людзі нідзе не распісваліся, не падавалі заяў. Ухіляліся ад усялякіх абавязкаў перад грамадой, не хадзілі на сходы. Я ў той час быў студэнтам гродзенскага педінстытута, і маю душу назаўсёды ўразіла адна гісторыя.

Са свайго інтэрната мы хадзілі на заняткі па вуліцы Камінтэрна каля будынка, у якім і цяпер знаходзіцца гродзенскі абласны суд. Я прывык, што ля яго заўсёды стаяў натоўп, і сам цікавіўся кожны раз, каго і за што судзяць.

Аднойчы судзілі Рамэа і Джульету.

У многіх нашых вёсках разам жылі праваслаўныя і каталікі. І гэта быў не проста фармальны падзел на тых, хто ходзіць у касцёл і хто — у царкву. З-за рэлігійнага фанатызму каталічка ўжо не выходзіла замуж за праваслаўнага і — наадварот.

І вось у адной вёсачцы недзе пад Лідай дзевятнаццацігадовы хлапец з каталіцкай сям'і пакахаў васемнаццацігадовую праваслаўную дзяўчыну, але бацькі забаранілі аднаму і другому нават сустракацца.

Маладыя людзі вырашылі развітацца з белым светам.

Хлапец па просьбе дзяўчыны забіў спачатку яе, потым усадзіў кінжал і сабе ў грудзі. Яго адратавалі, вылечылі і прывезлі на суд.

## 10

Да дабра часамі людзей даводзілася цягнуць ледзь не сілай.

Камуніста А. Калашнікава са школы паслалі старшынёй калгаса. Гаспадарка перажыла першую стадыю арганізацыі, і Калашнікаву прыйшла ў галаву ідэя: пабудаваць небывалую ў гэтых вёсках установу — лазню. Пабудаваў.

Лазняй пачала карыстацца вясковая інтэлігенцыя, а сяляне туды не спяшаліся. Старшыні калгаса лягчэй было сагітаваць людзей на цяжкія работы, чым пайсці ў суботу памыцца. Старога, у якога Калашнікаў стаяў на кватэры, старшыня зацягнуў туды ледзь не сілай. Мыцца дзядзька мыўся, толькі нацельнай кашулі так і не зняў.

У Пракопавічах, за Індурай, старшыня калгаса П. Дзеншчыкоў зайшоў да дзяўчыны-калекі і пачаў угаворваць яе не ісці ў манастыр. Пакуль старшыня абяцаў ёй знайсці занятак, збегліся фанатычныя клікушы і абрынуліся на яго:

— Данута чула божы голас! Пакінь, камуніст, нашу Дануту ў спакоі!

— Што вы, бабы! Яна ж — маладая! Трэба ёй на работу пайсці, жыццё наладжваць

— Можа ты, магілянец, навучыш нас жыццю. Навучыш нас весці гаспадарку?! Ты накорміш нас хлебам, ты?!

Дзеншчыкову ледзь удалося вырвацца.

Яму, нярэдка галоднаму, было вельмі крыўдна. Але ў глыбіні душы ён усё разумеў. Школа ў Пракопавічах існавала ўсяго некалькі год і месцілася ў хляве пажарнай каманды, а індурскі касцёл з адукаваным і вопытным ксяндзом, з чатырохгалосым хорам, з арганам тут быў пяць стагоддзяў. Каталіцызм пакаленнямі, дзесяткамі пакаленняў выпрацоўваў і замацоўваў традыцыі, якія глыбока ўваходзілі ў свядомасць людзей. Ксяндзы нават малебны праводзяць з раніцы, калі людзі свежыя і моцныя духам. У чалавека, які цяжка працуе на полі, з'яўляецца патрэба ў нечым духоўным. Не прывучаны да іншага, ён імкнуўся ў касцёл, дзе красамоўны пастар, дзе спявае хор, іграе велічны арган.

Хіба магла выклікаць такое высокае пачуццё ў людзей загадчыца хаты-чытальні, жанчына з сямігадовай адукацыяй, у сценах беднага памяшкання?.. І Дзеншчыкоў, разумеючы ўсё гэта, дараваў фанатычным сялянкам іхнюю выхадку.

Расправіцца з арганізатарам калгаса І. Кавальчуком выйшлі аднойчы мужчыны цэлай вёскі. Бяззбройны і адважны камуніст толькі сваімі мужнымі паводзінамі спыніў раз'юшаны натоўп.

Аднак не ўсім так сходзіла. Многія тады злажылі галовы.

Па дарозе ў Сонічы загінуў ад рук бандытаў выхадзец з Андрэевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, які вытрымаў катаванні ў дэфензіве пры ўладзе Пілсудскага,—старшыня Сапоцкінскага райвыканкома Павел Антонавіч Сяўко.

Памёр ад бандыцкай кулі, атрыманай у галаву пад Шылавічамі, сакратар Ваўкавыскага райкома камсамола, былы камісар партызанскага атрада Пеця Грышкін.



Перад канцэртам ансамбля «Нёман».

У пакутах загінуў у лесе пад Васілішкамі студэнт педінстытута былы зенітчык, камуніст Юра Какашынскі.

Загінулі міліцыянеры Толя Курцэвіч і Мікалай Мялешка пад Свіслаччу.

Загінулі дзесяткі, а можа і сотні іншых — міліцыянераў, настаўніц, лектараў, нарыхтоўшчыкаў, упаўнаважаных.

У Валавічоўцах Сапоцкінскага раёна загінула аж тры змены старшынь сельсавета!

Перад гэтымі людзьмі мы ў асаблівым даўгу. Іх, якія загінулі ўжо ў мірны час, мы не толькі не ўвекавечылі помнікамі і мемарыяльнымі дошкамі,— іншых нават і не памятаем.

Шмат давялося вынесці пасланцам партыі ў глухіх вёсках Прынёманшчыны. Яны трывалі і працягвалі сваю справу. Пасля чарговай дыверсіі, чарговага праяўлення недаверу, быццам нічога не здарылася, яны ўпарта зноў пачыналі з гутаркі



Так жывуць у калгасе «Прагрэс» Гродзенскага раёна.

аб міжнародным становішчы, з расказаў аб прынцыпах савецкай улады, з доследаў з хімічнымі рэактывамі, з выкрыцця «абнаўлення» іконы.

Іншы настаўнік-камуніст, прыйшоўшы на змену загінуўшаму старшыні калгаса, прыступаў да сваіх абавязкаў з таго, што купляў саджанцы, хадзіў па вёсцы ды ўпрошваў:

— Юзік, пасадзі вось яблыні ў гародзе, няхай твае дзеці не абломваюць адзінай дзічкі ў вёсцы!

## 11

Нам вельмі пашанцавала. Першым сакратаром Гродзенскага абкома партыі адразу стаў былы начальнік штаба партызанскага руху Беларусі, чалавек уплывовы, аўтарытэтны і вядомы — Пятро Захаравіч Калінін. Просты ў абыходжанні, гэты чалавек быў нястомны і прагны ў рабоце.

Пятро Захаравіч даведаўся, што беларускай сталіцы ўрад СССР даверыў будаўніцтва трох буйнейшых прадпрыемстваў саюзнага значэння — трактарнага, аўтамабільнага і веласіпеднага заводаў. Спрадвеку на Гродзеншчыне былі толькі саматужныя прадпрыемствы, прамысловых навыкаў людзі амаль не мелі, аднак Калінін не супакоіўся, пакуль не дабіўся і для яго гродзенцаў сур'ёзнай справы. Неўзабаве на таварных дварах гродзенскай і скідэльскай чыгуначных станцый пачалі згружаць цяжкія скрыні з нямецкім абсталяваннем, дастаўленым па рэпарацыі ў лік пакрыцця страт, нанесеных фашыстамі нашай зямлі.

Калі разбітыя на ваенных дарогах газікі і студэбекеры з гродзенскай станцыі вазілі станкі ў абгарэлую каробку былой польскай казармы для будучага тонкасуконнага камбіната, за некалькі сот метраў ад скідэльскай станцыі ўжо ўзводзілі сцены для другой новай будоўлі Гродзеншчыны — цукровага завода. У навакольных вёсках былыя «капэзэбоўцы» Скідэльшчыны вучыліся вырошчваць незвычайную ў той час для Беларусі культуру — цукровыя буракі.

Пакуль скідэльцы прывыкалі да дзіўнай расліны, у цэнтры былога падпольнага руху пры Польшчы, у партызанскіх вёсках — Кайшоўцы, Пагарэлцы, Лазках, Нягнявічах прагрымела слава пра першых ільнаводаў калгаснай Прынёманшчыны.

Неўзабаве Навагрудчына дала новую сенсацыю — падвясную дарогу на ферме!..

## 12

Мінулі гады пасляваеннага аднаўлення разбуранай гаспадаркі. Энергія, сіла народу, дзякуючы намаганням нашай партыі і дзяржавы, выліліся ў карысную стваральную працу людзей. Непрыкметна Прынёманшчына набыла новыя якасці.

Нядаўна гродзенскія пісьменнікі зазірнулі ў калгасы сваёй вобласці, і вось што яны ўбачылі.

У Верцялішках, дзе Пілсудскі больш для самарэкламы пазіраваў фатографу ля фундамента сямігадовай школы, мясцовы старшыня калгаса «Прагрэс» малады выпускнік Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Фёдар Сянько без лішняга шуму пабудаваў ужо сярэднюю школу, а цяпер забудоўвае Верцялішкі катэджамі для сялян, якія падышлі б і курорту Друскенікі.

У дзіцячым аддзяленні бібліятэкі ў вёсцы Кайшоўка пасланы дываны, якія падышлі б, бадай, нават і для царскіх палат.

Незабыўнае ўражанне пакідае механізаванае даенне кароў на сучаснай ферме. Напрыклад, у тых жа Пракопавічах, дзе калісьці адурманеныя фанатычныя жанчыны так несправядліва абрушыліся на свайго маладога старшыню. Аказваецца, карова, калі добра ўкормлена і дагледжана, вельмі арыгінальная і прыемная істота. У яе асанцы паяўляецца прывабнасць, а ў вялізных вачах — хітрая цікаўнасць і аптымізм. І вось стаіць дзевяцьсот такіх задаволеных Красуль з нікеляванымі апаратамі на вымі і з какетлівай цікаўнасцю разглядаюць цябе, чужога.

Са скупой мужыцкай гордасцю паказвае ферму гаспадар — старшыня калгаса «Авангард» Пятро Дзеншчыкоў. Рытмічна пашчоўквае апаратура. Пнеўматыка падае малако ў поліэтыленавыя трубкі. Трубкі прасвечваюцца, відаць, як па іх пульсуюць белыя струмені малака, якія зліваюцца ў ручаі ды трапляюць у аб'ёмістыя цыстэрны са складанай халадзільнай сістэмай. Глядзіш на гэты малюнак і здзіўляешся. Вёска гэта? Вытворчасць? Лабараторыя доследнага інстытута?.. Не. Перад табой, у былой вёсцы, адурманенай духам каталіцызму,— нейкія новыя ўзаемаадносіны передавой тэхнікі з прыродай. Няважна, што далёка не ва ўсіх калгасах надоенае малако бяжыць па такіх белых трубках. Пры нашых тэмпах развіцця...

Побач з абсталяваннем ферм па апошнім слове тэхнікі, побач з навуковай арганізацыяй працы, будаўніцтвам зручнага жылля для калгаснікаў у сёлах нашых ідзе барацьба за выкараненне старых звычак.

У сельскіх кіраўнікоў ужо даўно адпала патрэба ўгаворваць людзей выходзіць на работу, у іх цяпер іншыя клопаты.

З Пракопавіч заехалі мы ў Хорціцу Мастоўскага раёна. Старшыня калгаса «Праўда» Сцяпан Фёдаравіч Хацько паскардзіўся, што ў яго людзі яшчэ не перасталі баяцца газу і газіфікавана «ўсяго» 90 кватэр.

Пайшлі мы са Сцяпанам Фёдаравічам па Хорціцы. Каля аднаго дома старшыня адстаў і пачаў пераконваць нейкага дзядзьку. Я ўхітрыўся іх падслухаць. Аказваецца, у вёсцы правялі вадаправод, але чалавек не дазваляе пракласці трубу праз свой участак да суседа, з якім ён пасварыўся...

У Дзятлаўскім раёне мы былі міжвольнымі сведкамі іншай сцэнкі.

Старшыня калгаса «Расія» — Аляксей Ягоравіч Калашнікаў — думаючы, што мы не чуем, угаворваў калгасніка:

— Слухай, Мікодым, не наклікай на нас ганьбы — ты ж застаўся адзін! Вось табе грошы, купі спружынныя ложкі, няхай і твая сям'я спіць, як усе людзі...

— У мяне ёсць свае! — спалохана абараняўся чалавек.

— Дык якой халеры цягнеш?!

У памянёнай ужо не раз Кайшоўцы цяпер знаходзіцца цэнтр калгаса «Зара». Зайшлі мы ў кантору і засталі там госця з Мінска — адміністратара тэатра імя Янкі Купалы. Чакаўся прыезд трупы, і старшыня Пятро Майсеевіч Шчарбакоў са спакойнай упэўненасцю гаварыў адміністратару:

— Адкрытай касай білеты прадаваць будзем. Як у горадзе. У нашым клубе не менш месц, чым у вашым рэканструяваным будынку на вуліцы Энгельса. Пакрыўджаны не будзеце — атрымаеце поўны аншлаг!

## 13

Цяпер дзеці калгаснікаў з Гродзеншчыны вучацца ў тых жа вышэйшых навучальных установах, ездзяць на тых жа матацыклах, карыстаюцца тымі ж транзістарамі, апранаюцца ў той самы капрон ды імпартныя кофты, што і ў вялікім горадзе. І калі праўленне ўзнагароджвае сваю свінарку — гадзіннік ёй ужо не падарунак.

На дзіва ўсё перамянілася за жыццё аднаго пакалення.

Пажылы мужчына, які некалі лічыў сябе рослым хлопцам, у асяроддзі, напрыклад, студэнтаў Гродзенскага медінстытута, цяпер са здзіўленнем даведаецца, што ён — толькі сярэдняга росту. Гэта — вынік тых умоў, у якіх вырастаюць нашы дзеці. Працягласць жыцця мужчыны цяпер —68, жанчыны —75 гадоў. Іншымі словамі, на працягу 30 год жыццё мужчын вырасла на 20,2, а жанчыны — на 23,6 года. Падоўжылася на цэлае пакаленне. І гэта ўжо не эвалюцыя, а дэмаграфічная рэвалюцыя!

Гэтымі днямі мяне здзівіла адна падзея і прымусіла задумацца. Не, вы не шукайце яе ў газетах, пра яе не гаварылі і па радыё, бо з афіцыйнага пункту гледжання падзея такая лічыцца недапрацоўкай, пра яе маўчаць. А дарэмна...

Настаўнікі пятай гродзенскай пазменнай школы выявілі на абутковай фабрыцы, што Віктар С., з 1953 года нараджэння, кінуў вучыцца, хоць у яго ўсяго сем класаў адукацыі.

Што тут пачалося!

Бедныя педагогі адразу рынуліся на кватэру да гэтага «самастойнага» маладога чалавека, пачалі ўгаворваць яго, сварыцца з яго бацькамі. Пачаліся перапалоханыя званкі з гарана...

Так, вельмі дрэнна, што хлопец гэтак рана адрасціў бакенбарды і кінуў наведваць сярэднюю школу. Але паглядзелі б вы, якую трывогу ён выклікаў! Яшчэ б — ЧП! Сенсацыя на ўсю вобласць! Не дай бог міністэрства даведаецца!..

Шкада гарана. Шкада хлопца. Шкада сярэдняй школы, якой уляціць. Але глянем на ўсё спакойнымі і цвярозымі вачыма. Чаго баяцца, чаго ўтойваць такі факт? Ды раскажы дырэктар пятай пазменнай школы Іван Лаўрэнцьевіч Капорыкаў пра гэты выпадак у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — і ў прадстаўнікоў многіх нават перадавых краін засвецяцца ад зайздрасці вочы.

Спартсмены Прынёманшчыны ўдзельнічаюць у сусветных алімпіядах. Нашы вучоныя працуюць над такімі ж праблемамі, што і вучоныя Масквы, Лондана, Парыжа: «Праблемы абмену рэчываў», «Харчовы тракт», «Каталіцызм на даным этапе»...

Прынёманшчына ўзнялася сёння да яшчэ ніколі не чуваных тут праблем: што рабіць з грашыма, што рабіць, каб людзі іх не транжырылі на гарэлку ці іншыя непатрэбныя рэчы, чым заняць вольны час, што прыдумаць, каб яны апраналіся з густам, жылі з выгодай?

Людзі Гродзеншчыны на нашых вачах перажылі мутацыю, сталі часткай сучаснага народа, які адпавядае тэхнічна развітай эпосе заваявання космасу.

Непрыкметна Прынёманшчына ўвайшла ў свядомасць, у жыццё вялікай краіны сваімі справамі.

Цяпер мы — заходні рубеж краіны Саветаў. Дзяржаўная мяжа ад Гродна — рукой падаць. Над ёю пралятаюць без папытання птушкі, ды яшчэ дазволена не прызнаваць яе белавежскім зубрам, бо за агароджай — асенняя вільготная траўка, лаза, хутары на зямлі дружалюбнай нам Польшчы.

Але ты адно паверніся на 180 градусаў... Аж крыўдна, што з польскіх хутароў людзі бачаць зноў тую ж траву, лясок... Але ж далей, за гэтымі звычайнымі кусцікамі лазы і сасняку — сусветная дзяржава з Масквой, Кузбасам, касмадромамі, магутнай арміяй і флотам, плацінамі, акадэміямі навук, вінаграднікамі, фермамі — там жыве і працуе 240 мільёнаў савецкіх грамадзян. Але раней ідзе Гродзеншчына з яе старажытнымі курганамі часоў нашэсця татар і свежымі магіламі Вольгі Соламавай, скідэльскіх камсамольцаў, старшыні Сапоцкінскага райвыканкома Паўла Сяўко, Пеці Грышкіна з Ваўкавыска...

Ці ведаеш ты, ленінградская школьніца Оля, дачка былога камбрыга Вайцяхоўскага, ці ведаеш ты — маскоўскі школьнік, унук Гая,— з чаго вам мама сёння прыгатавала снеданне? Магчыма, гэтую бульбу, гародніну, масла ці мяса далі табе палі і фермы Гродзеншчыны. Той Гродзеншчыны, куды з Піцера, Масквы ў свой час дайшлі ідэі Вялікага Кастрычніка, а твой дзед з конніцай Гая або тата з войскамі Ракасоўскага памагаў гродзенцам абараняць яе ад ворагаў, а потым узнімаў яе з адсталасці ды руін.

Цяпер Прынёманшчына дае прадуктаў столькі, што хапае іх і сабе, і вам, дарагія маскоўскія і ленінградскія дзеці. А дзесяткі, сотні напоўненых рэфрыжэратараў паступаюць ад нас яшчэ і ў распараджэнне Міністэрства знешняга гандлю СССР, каб несці свае пажыўныя калорыі людзям многіх краін Еўропы, Азіі, Амерыкі.

Няхай і яны ядуць на здароўе!

Святло блакітнага экрана на вашых, дзеці, тэлевізарах таксама мае прамыя адносіны да нас.

Мы ганарымся, што ў Астанкінскай вежы, у Брацкай ГЭС, у магутных волжскіх плацінах — тысячы тон цэменту вышэйшай маркі цэментнага завода «Перамога» з-пад Краснага Сяла, дзе працуюць патомкі гарнякоў неалітавых шахт — равеснiц егіпецкіх пірамід.

Увайдзіце вы ў метрапалітэн, звярніце ўвагу на яркія свяцільнікі падземак. Яны таму так ярка і прыемна навокал прамянеюць і свецяцца, бо ў іх — цяпло і душа рабочых, інжынераў Лідскага завода асвятляльных прыбораў.

Даўно ўжо нямецкае абсталяванне на Скідэльскім цукровым і Гродзенскім тонкасуконным заменена новым, — машыны, атрыманыя па рэпарацыі ў 1946—1947 гадах, адыгралі для нас ролю славутага тапара, з якога салдат булён варыў.

У школе вы праходзіце Турцыю, Японію, Англію... Аб дзвюх апошніх настаўніца вам гаварыла, як аб краінах прамыслова развітых. Так, сваё тэхнічнае развіццё яны пачалі вельмі даўно. А вось нават яны не абыходзяцца без нашых майстроў: бегуны ваўкавыскіх ліцейшчыкаў ідуць і ў гэтыя дзяржавы, як ідзе яшчэ трыццаць сем назваў прадукцыі прамысловай Гродзеншчыны ў розныя краіны. Да кіраўнікоў нашых заводаў цяпер ставіцца адно патрабаванне — даваць прадукцыю сусветных стандартаў!

Магчыма вам, юныя сябры, мама купіла чаравікі, і вы любаваліся старадаўнім гербам нашага абласнога цэнтра на каробцы — сілуэтам магутнага барадатага зубра, сімвалам непакорнасці, упартасці і сілы. Звярніце ўвагу яшчэ і на надпіс: «Фабрыка «Нёман». Каб вы мелі вобразнае ўяўленне аб нашай прамысловасці, назаву вам колькасць прадукцыі толькі гэтага прадпрыемства. Яно дае 6 мільёнаў пар абутку ў год, і гэтымі чаравікамі, туфлямі ды тапачкамі можна абуць адразу ўсіх жыхароў Кеніі!

Беларусь стала шырока вядома толькі ў Вялікую Айчынную вайну, калі яна ўзрушыла свет сваёй непакорнасцю і партызанскім рухам. І з таго часу забыць пра сябе не дае. Яе трактары ўзорваюць палі многіх краін усіх кантынентаў, а па дарогах планеты калясяць тысячы лепшых у свеце беларускіх самазвалаў, сваімі конскімі сіламі палягчаюць жыццё народам з розным колерам скуры. Нам прыемна, мы вельмі ганарымся, што ў гэтых машынах — пасланцах Савецкай Беларусі — праца і рабочых Гродзенскага завода аўтазапчасткі, прадукцыя Шчучынскага завода электракабеля, фарбы завода з Ліды.

На палях Навагрудчыны ў апошнія месяцы растуць буравыя вежы — ля вёскі Кайшоўка знойдзены багатыя залежы жалеза. У Гродна ўзняліся гіганты хіміі — азотнатукавы і завод капралактаму. Пагаворваюць і пра ўніверсітэт у нашым абласным цэнтры. Што вынікае з усяго гэтага, зразумела кожнаму.

Сённяшні дзень Гродзеншчыны не падобны на мінулы. З прыходам Савецкай улады ў Прынёманшчыну гэты край уступіў у век свайй стабілізацыі, бо стабілізацыя, паводле марксісцкага вучэння, заключаецца не толькі ў тым, каб сёння было так, як учора, а — каб сёння стала лепш і ўсяго было больш.

## 15

Ці шчаслівыя цяпер нашыя людзі?

Аказваецца, шчасце — панятце адноснае. Калісьці наш селянін марыў паесці булкі з ліманадам, на вялікдзень ды каляды — паласавацца зацiркай на малацэ, а шчасце яму ўяўлялася часам, калі б ён мог гэта мець на стале кожны дзень.

І вось гэта ўжо пройдзены этап.

Цяпер у людзей іншае ўяўленне пра шчасце і іншыя імкненні. На свеце так створана, што ліміты шчасця ніколі не вычэрпваюцца, у гэтым наш стымул да жыцця.

Не вычарпала старэйшае і сярэдняе пакаленні ў вайну і ў перыяд пасляваеннага будаўніцтва лімітаў геройства, самаадданасці, а пакінула іх у дастатковай колькасці для цяперашняй моладзі. Толькі трэба быць прагным і зайздросным, але не зайздроснай хціваснцю кулака, які імкнецца да асабістага накаплення ды напаўнення свайго жывата, а той высакароднай прагнасцю, якая накіравана на ўзбагачэнне людзей, што была ў камуністаў, першых будаўнікоў і першых піянераў новай Гродзеншчыны. Без гэтай прагнасці не можа быць прагрэсу, не можа перадавацца эстафета пакаленняў, бо, гаворачы словамі нашага земляка, а цяпер вядомага пісьменніка Народнай Польшчы Ежы Путрамента: «...даброты, атрыманыя без напружання і барацьбы за іх, не маюць вагі і падобны да ваты».

Па чым цэніць сябе чалавек?

Па той карысці, якую ён прыносіць людзям.

Гродзенец, будзь поўны гордасці ад таго, што карысць ты даеш адчувальную, таму ты чагосьці варты. Толькі стары бурклівец ад эгаістычнай зайздрасці да ўсяго новага і маладога можа сцвярджаць, што калісьці было, а вось цяпер... Не вер яму.

г. Гродна.



**Дакументальную аповесць Аляксандры УС і Алены УЛАДЗІМІРАВАЙ «НА СЕМНАЦЦАТЫМ КІЛАМЕТРЫ» вы прачытаеце ў наступным нумары.**

# АБЕЛІСК НАД НЁМАНАМ

Батальён капітана Алфёрава балотамі дыляснымі сцяжынамі непрыкметна падышоў да нёманскіх стром. Змораныя бяссонніцай, цяжкімі франтавымі дарогамі і баямі, салдаты неслі з сабой самае неабходнае, тое, без чаго салдат не салдат: зброю, гумавыя лодкі, рацыю... І калі батальён дасягнуў ракі, у эфір паляцеў новы пазыўны:

—Я — Нёман...

Ціха бяжыць па рацэ надзіманая лодка. Ззаду, з правага боку, яшчэ дзве. У лодках — салдаты. Неба паласуюць трасіруючыя кулі, белыя дугі ракет заліваюць усё вакол нежывым бялесым святлом. Лодкі плывуць у глыбокай цішыні: без шоргату, без агеньчыка... Бераг усё бліжэй і бліжэй... Да раніцы група надзейна акапалася на тым, супрацьлеглым, беразе...



**Народ ушаноўвае памяць свайго абаронцы.**
Фота **У. Гофмана.**

— А Нёман, скажу я вам, нечым падобны на наш Амур — імклівы, шырокі, — шэптам дзяліўся з таварышамі Міша Курбатаў, хлопец з пагонамі сержанта...

Бой разгарэўся на світанку, з першымі промнямі сонца... Над берагам, дзе акапаліся нашы байцы, праляцеў нямецкі самалёт-разведчык, потым узмыў уверх і доўга кружыўся на вялікай вышыні. Неўзабаве над Нёманам з'явілася з дзесятак «юнкерсаў». Фашысцкія бамбардзіроўшчыкі кідаліся ў піке і свінцом палівалі акопы; прамой наводкай біла артылерыя. І тут жа гітлераўцы пайшлі ў атаку — на ўвесь рост...

І тады громам прагучала дружнае: «Ура!» Фашысты заляглі. А праз некалькі мінут на агнявы рубеж, заняты савецкімі воінамі, гітлераўцы зноў паслалі шквал агню...

Радзелі шэрагі смельчакоў. Загінуў камандзір узвода. У атаку байцоў узняў малодшы сержант Міхаіл Курбатаў.

...Сціплая агароджа. Белая цішыня. На абеліску словы: **«Тут, на тэрыторыі завода, 18. VII. 1944 г. у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі загінуў малодшы сержант 878 стралковага палка Герой Савецкага Саюза Курбатаў Міхаіл Ціханавіч, 1924 года нараджэння, член ВЛКСМ. Вечная слава герою!»**

Ціха коціць свае воды Нёман. Дзе бушавала полымя вайны, узняліся карпусы гродзенскага завода «Аўтазапчастка». У сонечных пралётах цэхаў успыхваюць блакітныя маланкі электразваркі. Вецер даносіць цяжкія ўздыхі кампрэсараў, сталёвы перастук станкоў-гігантаў.

«Кожны чалавек, бы тая руда, фармуецца і дэфармуецца пры пэўнай ідэалагічнай тэмпературы»,— гэтыя словы Максіма Горкага прыгадаліся мне, калі я разам з групай навічкоў, учарашніх выпускнікоў сярэдніх школ, знаёміўся з заводам. Сакратар партыйнай арганізацыі вадзіў «навабранцаў» па цэхах, знаёміў з прадпрыемствам. Юнакі і дзяўчаты даведаліся пра тое, што завод нарадзіўся 4 красавіка 1951 года; што ён падтрымлівае двухбаковую сувязь з дзевяноста прадпрыемствамі; што зробленыя тут карданныя валы ідуць на галоўныя канвееры Мінскага і Львоўскага аўтамабільных заводаў, а таксама экспартуюцца ў краіны Аф-

рыкі, на Кубу, у Балгарыю, Венгрыю, Польшчу, Румынію, Чэхаславакію; што на заводзе амаль кожны другі рабочы камсамольскага ўзросту. А ўсіх камсамольцаў на заводзе каля паўтысячы.

Нядаўнія дзесяцікласнікі прачыталі аб'яву: «Адбудзецца камсамольскі сход. На парадку дня — уручэнне вымпела імя Героя Савецкага Саюза Міхаіла Курбатава».

Барыс Матафонаў, сакратар заводскага камітэта камсамола, абвёў вачыма юнакоў і дзяўчат.

Настала цішыня... Барыс расказаў пра тых, хто свае працоўныя справы прысвячае равесніку — Мішу Курбатаву, пра тых, хто падтрымлівае сувязь з Мішавымі бацькамі, са школай далёкаўсходняга гарадка Магдатачынска, дзе вучыўся герой.

— У спаборніцтве за права валодаць вымпелам імя Героя Савецкага Саюза Міхаіла Курбатава,— аб'явіў сакратар, — вызначыліся пярвічныя камсамольскія арганізацыі ўчастка ЗІЛ і рамонтна-механічнага цэха. Ім і даецца права паслаць двух лепшых камсамольцаў на радзіму Міхаіла Курбатава.

...Паштальён часта наведвае невялікі домік на далёкаўсходняй станцыі Магдатачынск, дзе жывуць Васіліса Восіпаўна і Ціхан Андрэевіч — бацькі Курбатава. Пішуць школьнікі, запрашаюць на піянерскі збор ці на злёт.

На гэты раз паштальён падаў тэлеграму: «Дарагія Васіліса Восіпаўна і Ціхан Андрэевіч, сустракайце гасцей з Гродна, з завода «Аўтазапчастка».

Васіліса Восіпаўна замітусілася, стала прыбіраць у кватэры, а Ціхан Андрэевіч, яшчэ раз перачытаўшы тэлеграму, пачаў прыгадваць сваю паездку на завод. Тады, помніцца, быў урачысты мітынг ля абеліска, узнятага на берагах Нёмана ў гонар іх сына — Мішы.

Пасланцы завода Уладзімір Босы і Міхаіл Рубінраўт прывезлі Мішавым бацькам макет абеліска, а таксама падарункі і сувеніры ад заводскага калектыву. Тут, на станцыі Магдатачынск, на радзіме героя, гродзенцы сустрэліся з камсамольцамі і піянерамі школы, у якой вучыўся герой, і якая, дарэчы, таксама носіць яго імя.

У школьныя гады Міша Курбатаў рэдагаваў насценгазету, пісаў вершы, сябраваў шчыра з равеснікамі. Ён заўсёды памагаў аднакласнікам, калі хто адставаў у вучобе. Васіліса Восіпаўна заўсёды чула на бацькоўскіх сходах словы, якія гаварыла настаўніца: «Дарагія бацькі, няхай вашы дзеці бяруць прыклад з Мішы Курбатава: ён і вучань прыкладны, і сябар надзейны»... А калі грымнула вайна і школьнікаў паслалі ў калгас на ўборку ўраджаю — Міша быў першы сярод добраахвотнікаў. У вучобе, у працы, у вернасці свайму слову пачыналіся вытокі будучага подзвігу.

Ішла першая ваенная зіма.

Марозным лютаўскім днём, задыханы і ўсхваляваны, прыбег дадому Міша. Спачатку ён маўчаў. Бацьку здалося, што сын нібыта пасталеў. Шчокі разружавеліся — ці ад холаду, ці ад узбуджанасці. А потым прамовіў:

— Я на фронт еду, тата!..

Былы будзёнавец добра ведаў характар сына і пярэчыць не стаў. Толькі крыўдна было, што яго дзіця так рана вылятае з роднага гнязда.

З фронту на станцыю Магдатачынск часта даляталі салдацкія трохкутнікі.

«Дарагая мамачка! Я здаровы, а гэта значыць, што і жывы. Наш старшына любіць гаварыць: «Салдат спіць, а служба ідзе». Так усё і ёсць на самай справе, толькі нам, салдатам, падчас не да сну...

Ведаеш, мілая мая мама, я часта думаю, вось закончыцца вайна, я прыеду, збяром у нашым доме ўсіх маіх сяброў, і я буду гаварыць доўга-доўга, пра ўсё на свеце... Цікава, якое будзе жыццё пасля перамогі над ворагам?

Мама, ты беражы мае кнігі, вярнуся з перамогай, буду зноў вучыцца. А калі скончу школу — у авіяцыйнае вучылішча падамся. Ты не пярэчыш?».

Лісты ад Мішы прыходзілі ўсё радзей. Васіліса Восіпаўна разумела, што Міша б'е ворага і яму не да лістоў.

І вось зноў канверт. Фота. На адваротным баку надпіс: «Мама, беражы гэты здымак...»

На фотакартцы юнак з пагонамі малодшага сяржанта. Вочы праніклівыя, твар рашучы, валявы. На гімнасцёрцы медаль — першы, баявы...

— Гэты здымак ужо можа сто разоў перафатаграфаваны. Мішаву картку просяць многія школы Далёкага Усходу. Нам, старым, прыемна, што памяць аб ім жыве на берагах Амура,— гаворыць Васіліса Восіпаўна і ўзіраецца ў твар сына...

**Іосіф КАЛЮТА.**



# БРАСЛАВА

*О, мой цудоўны край,*
*Мой саснежаны рай,*
*Ціхі званочкаў смех,*
*Снег у лесе густым,*
*Смех у садзе пустым,*
*Коней спакойны бег.*

*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.*

Браслава! Браслава!..

Слова, якое азначае ўсё і не значыць нічога, якое існуе і не існуе. Хіба толькі ва ўяўленні, быццам дух—белавалосая, прывідная багіня таго далёкага, сіняга краю. Гэта мая зямля. Няведама чаму сціскаецца сэрца, калі прыязджаеш туды, калі ад'язджаеш, калі ходзіш па ёй — зямлі. Азёры з дзіўнымі назвамі: Струста, Снуды, Войса, Рака, Дрывяты...

З Замкавай гары старажытнага Браслава, як на далоні, край. Азёры, азёры; лясы спачатку зялёныя, пасля цёмна-сінія, сінія і зусім блакітныя, ледзь бачныя, празрыстай ніткай за дзесяткі кіламетраў на хвалістым гарызонце. Блакітныя далі хаваюць у сабе безыменную тайну і невыказную тугу чалавека. І дзіўнае адчуванне былога, нецяперашняга жыцця пранікае ў істоту, нібы мроя. Што там? Друйск... Дзвінск... Друя? Здаецца, буйна б'е жыццё магутнае і моцнае, як спрадвеку... Скачуць коні, бразгаюць збруяй, хрыпяць ад жаху; дзікая лаянка, свіст, конскі пот, кроў; жалобна плача азёрная чайка. А мо мірны званочак, рып колаў, «но, малы», песня... За дзесяць кіламетраў адсюль, сярод сіні і зелені, відаць Слабодскі касцёл. Таямнічы здалёку, зблізку — быццам сядзячы зялёнажоўты, двухгаловы дракон перад узлётам...

Адзін амерыканскі падарожнік, выхадзец з гэтага краю, пісаў на пачатку стагоддзя: «Калі я на раніцы пры ўсходзе сонца глядзеў на Слабодскі касцёл, прыгажэйшага віду ў Еўропе я не бачыў». Пра гэта расказваў мне браслаўскі хірург, «доктар Фердынанд Леўша», як з павагай называюць яго мясцовыя людзі. Гэта чалавек з той інтэлігенцыі, якая, не зважаючы ні на што, самааддана служыла свайму народу, сваёй любімай справе. Выхадзец з сялянскай сям'і (нарадзіўся ў вёсцы Тулюткі, ля Слабодкі), Фердынанд Леўша пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта ўвесь час працуе на сваёй радзіме, спачатку ў Друі, пасля ў Браславе. Многа змен адбылося. А ўрач застаўся на сваім месцы. Лячыў людзей, застаўся верны свайму прызванню, абавязку, высакароднай прафесіі, амаль адзінай на зямлі, якая патрэбна заўсёды і ўсюды, усім. Таму і карыстаецца ён на Браслаўі павагай і пашанай у людзей амаль не меншай, чым некалі вядомы на ўсю акругу браслаўскі ўрач Нарбут.

Нарбут—гэта ўжо гісторыя і легенда пра чалавека, які аддаў усё жыццё сваё служэнню людзям. Ён пабудаваў на ўласныя сродкі вялікую бальніцу ў Браславе. Яна стаіць і цяпер. Расказваюць, што гэта быў вельмі дэмакратычны чалавек, а іншы раз дзіўны. З беларусам ён размаўляў па-беларуску, з палякам — па-поль-



Браслаўе.

ску, а калі лячыцца да яго траплялі рускі або яўрэй, то размаўляў з імі на іхняй жа мове. Да графіні Плятар, якая жыла ў Бяльмонтах (10 кіламетраў ад Браслава) мог прыехаць на восліку ў пажарным шлеме, з драўлянай шабляй, не зважаючы на гучны графскі тытул. Любіў сядзець на Замкавай гары і глядзець удалеч, на азёры. Пасля смерці браслаўчане паставілі яму на гэтым месцы помнік.

Налева і направа ад самой гары, ад дамоў і вуліц ля яе падножжа, на поўнач і на поўдзень цягнецца суцэльны ланцуг азёр. Горад Браслаў, якому ў 1965 годзе споўнілася 900 гадоў, знаходзіцца ў адзіным праходзе паміж гэтага

На Замкавай гары ля Браслаўля.





На Браслаўскім пляжы.

азёрнага ланцуга, што прасціраецца больш як на трыццаць кіламетраў. Праехаць з захаду на ўсход можна толькі праз Браслаў. Прыгранічнае становішча рабіла горад нібы перадавой заставай, фарпостам перад паўночнымі крыжацкімі крэпасцямі і замкамі. Гэтая характэрнасць была адлюстравана і ў старажытным гербе горада: чалавечае вока на блакітным трохкутным шчыце на фоне залатых праменняў «крылатага» сонца. Вока на шчыце—сімвал пагранічнай пільнасці і стражы. Блакітны колер шчыта—колер вады і колер усяго азёрнага краю. Праменні сонца—сімвал славы горада.

У гэтым паўночным беларускім краі асабліва адчуваецца дух старажытнасці і славы народу. Перш за ўсё, ён нібы жыве ў самім ландшафце і, здаецца, у самой прыродзе. Потым у многіх, раскіданых скрозь, помніках духоўнай і матэрыяльнай культуры. Перш за ўсё ў архітэктуры. Характэрныя востраканечныя гонтавыя дахі, зялёныя і заімшэлыя, калодзежы, быццам капліцы, зробленыя не з простай утылітарнай мэтай, але і так, каб цешылі вока, з сваёй архітэктурай, якая агульная і тым заімшэлым дахам, і драўляным касцёлам у Межанах і Дрысвятах—унікальных помніках беларускага драўлянага будаўніцтва.

Цікавае і каменнае культавае дойлідства. Тут у асноўным пануе готыка і барока. Помнік архітэктуры барока — друйскі базылянскі кляштар пачатку XVII стагоддзя. На другім беразе Дзвіны ў Педруі касцёл таксама ў стылі барока, пабудаваны ў 1613 годзе магнатамі Сапегамі. Цікава, што арачныя скляпенні касцёла зроблены таўшчынёй у адну цагліну. Каб яны трымаліся і не выпадалі, іх мацуюць драўляныя калкі. Умелі будаваць продкі, выбраць матэрыял, стасунак для яго. Бэлькі над скляпеннямі, якія трымаюць дах, хваёвыя, але такія моцныя, быццам ім зусім не трыста пяцьдзесят год, а трыццаць.

Паказвае ўсё гэта мне мясцовы чалавек, маляр. Кожны год працуе тут, малюе, фарбуе, даглядае і, відаць, вельмі закаханы ў даўніну. Гаворыць пра яе з захапленнем, але ён не фанатык. Прачытаў старыя кнігі, якія былі ў касцёле. Ведае і час збудавання яго і гісторыю рэчаў. Ведае на памяць кожную прыступку вінтавых каменных лесвіц у вежах касцёла, хаця цемната такая (мы пайшлі без агню), што ўвогуле страчваецца ўсялякае адчуванне прасторы. Чалавек упэўнена і хутка ўзляцеў па лесвіцы некуды ўверх (хоць яна была цесная і доўгая), а я,

Танец.





Пасля лову.

мацаючы камень, паволі соп за ім, і, прызнаюся, каб не загрукацець па строме, не на двух, а на чатырох. Балазе той у цемнаце не бачыў.

Колькі дзіўных і нечаканых сустрэч у гэтым краі. 30—40 кіламетраў пешшу за дзень з фотаапаратамі, штатывамі—нішто. Але колькі непаўторных уражанняў, спатканняў! Хвалісты ландшафт. Узгоркі, парослыя лесам альбо засеяныя жытам, рыбацкія хаты, мініяцюрныя могілкі. Палявыя дарогі пятляюць жоўтымі стужкамі. Там-сям струхнелы крыж пры дарозе, і побач жалезныя апоры электраліній, сляды трактарных гусеніц. Прамчыцца з ветрам і пылам адзінокі матацыкліст, прагудзіць машына, і зноў ціха. Воблакі, нібы вата, да самага гарызонта. Блісне возера з-за ўзгорка, маленькае і круглае, як сподак, а ля возера дамок, на беразе лодка — рыбак жыве. А гэтая жменька вады для яго, як і зямля. Падыходжу, кланяюся і вітаюся. Здымае шапку — дзень добры. У старога белая, як снег, галава, сівыя доўгія вусы, твар карычневы ад ветру, і зморшчаны, дзевяты дзесятак дзеду, а вочы глыбокія і сінія-сінія, жывыя і глядзяць на цябе з такой спагадай, добразычлівасцю і даверам, што робіцца незвычайна хораша на сэрцы. Пранікаешся павагай да гэтага старога і хочацца пагаварыць з ім, сказаць штосьці ласкавае і вельмі добрае.

— На Плюсы? То я так васпану скажу: валіце проста і не зыходзьце ні ўправа, ні ўлева.—Стары паказвае рукой і—нібы благаслаўляе.

Высокія берагі Струсты пакрыты сасновым лесам. Месцамі хвойкі падступаюць да самай вады. Лысы ўзгорак засеяны гарохам. Стаіш на яго вяршыні, і ўсё



Браслаўскі рыбак.

пад табой: лясы, вада, астраўкі на вадзе з рыбацкімі хатамі, лугі, каровы, што пасуцца на іх. Паўдзённае сонца смаліць у патыліцу, і цёплы вецер даносіць з лесу пах ігліцы і хвой. Кругом абсягі зямлі, вады і бяскрайнія далі. Хочацца падскочыць у неба ад радасці, што распірае грудзі. Далёка ўнізе смех. Па вузкай, як нітка, сцяжынцы бягуць з даёнкамі беланогія дзяўчаты.

— Дзяўчатачкі-і! О-ей!

— Уа-ха-ха-ха! — разносіць бор звонкае рэха.

Сустрэчы, бы летуценні. Даводзілася падарожнічаць і на трактары, і на грузавіку, і на конях, і на лодцы. Але найбольш пешшу. Усюды добрыя людзі. Хто б ні быў — стары рыбак, ці малады мурзаты трактарыст, жанчына ў лесе, ці дзядзька-калгаснік (які раскажа пра ўсё і распытае пра ўсё, а пасля скажа, як і належыць гаспадару: «Дык фатаграфуйце сабе на здароўе, чаго ж, мы не супраць») — я ніколі не бачыў ні сполаху,ні падазронасці на іхніх тварах. Нават калі я, заблудзіўшыся, сустракаў іх ноччу, нават калі я, абвешаны фотаапаратамі, размаўляў з касцельнымі служкамі ў Педруі (безнадзейна перапалоханымі і недаверлівымі людзьмі, па маіх ранейшыхназіраннях).

Ва ўсіх выраз добразычлівасці і спагады ў абліччы. Нейкі ўдумлівы, сталы, мудры спакой у сініх вачах і добрая чалавечая ласка. Заходзіць у аўтобус бабуля, успамінае «божачку» і дзякуе шаферу, што не паленаваўся, спыніўся. Я пасунуўся, і бабка села побач. Пасля неяк вельмі добра пагледзела на мяне сваімі сінімі вачыма (наўздзіў, яны тут ва ўсіх сінія і нават не сінія — азёрныя), усміхнулася, дастала з кошыка вялізны чырвоны яблык і моўчкі прапанавала мне, ласкава пазіраючы ў твар. Я адчуў сябе пад яе цёплым позіркам зусім маленькім, маленькім унучкам, якога пагладзілі па галоўцы. Ніхто не звярнуў на гэта ніякай увагі. Бо так і трэба. Так спрадвеку. Паміраюць людзі, але жывуць у нашчадках іх добрыя звычаі, і добры, светлы геній абліччаў і думак застывае надоўга ў легендах, песнях і рэчах.

Дубовыя дзверы касцёла ў Педруі, збітыя каванымі цвікамі трохсотгадовай даўнасці, з клямкамі, якія ёсць у кожнай беларускай вясковай хаце, гэтак жа сама, як і каваныя завесы і клямары з беларускім геаметрычным арнаментам на дзвярах Слабодскага касцёла, альбо драўляныя дзверы касцёла ў Дрысвятах пакідаюць дзіўнае ўражанне. Амаль фізічна ўяўляеш людзей тых далёкіх, безыменных і простых, якія рабілі гэта, дакрануліся сваімі рукамі да гэтага чорнага



Відзы. Касцёл збудаваны ў мінулым стагоддзі.

Друя. Фрагмент базыльянскага кляштара.



жалеза, да якога дакранаюся цяпер я альбо ты. Тых людзей даўно няма. Ёсць толькі справа рук іх.

Рукі чалавечыя. Вось рукі трактарыста, чорныя, пакрытыя мазутам. Здзіўляецца: нашто фатаграфаваць іх, хто іх не бачыў? А гэтыя вялікія, белыя — млынара, мука на далонях. Рып-рып — парыпваюць гужы, тужыцца пара коней: твае рукі на плузе, араты. Ракоча трактар. Ляцяць за плугам белыя чайкі: «Гыля-я!» — махае рукамі хлапчук. Тонкі капрон рыбацкага невада, гуд матора, мокры канат студзіць пальцы — гэта твае рукі, рыбак. А гэта — твае. Хто ты? Як завуць цябе? Мо Браслава? Браслава, Браслава, бусел над лугам, Купалле, Браслава... Браслава — слова, якога няма. Лён валасоў, сінь азёр, вачэй... Слова, якое нічога не значыць, слова — прывід, дух. Ты толькі ў маім уяўленні, Браслава, Край.

Шапацяць ля ног азёрныя цёплыя хвалі, абнімаюць бераг за жоўты пясок, за трысцё, за людскія ногі. Браслава..., Браслава... Канчаецца дзень. Лёгкім сінявата туманам павісла над возерам дрыготкая ціш. Вада засынае. Нейкае першабытнае адчуванне ахоплівае ўсю істоту. На другім беразе, за сем кіламетраў адсюль, далёкія агні. Мігцяць, адбіваюцца ў вадзе, і, нібы міраж, напамінаюць аб далёкай, нязведанай цывілізацыі. Гэта вялікі тарфяны завод. Цяпер ужо не бачна яго высокіх б, і толькі далёкія агні ўзбуджаюць фантазію і ўяўленне. Здаецца, чуеш гала юдзей, іх крокі, шум машын. Але гэта толькі здаецца. Завод маўчыць. Летня надыходзіць. Цямнее, знікае гарызонт. Зліваецца неба і вада. Чуцен ман ы гул матора. Гэта рыбацкі катэр выйшаў на начны лоў рыбы. Пратарахцеў па арозе позні аўтобус, бліснуў зялёнымі агнямі ў вадзе.

Цішыня поўніцца гукамі. Яны не даюць увесці ў зман, вяртаюць у рэчаіснасць, у XX стагоддзе. Пачнецца новы дзень, і ў празрыстай сінечы з першай ранішняй чайкай срэбнай стралой прымчыць самалёт, пакіне на небе белы, туманны след. Загудзяць машыны, задымяць трубы, вернуцца дамоў рыбакі, грукатам сталі і свежай раллёй адзавецца зямля; голас працы і чалавека запануе ў зямным віры; бераг запоўніцца гукамі, смехам дзявочым, хлапечым; увойдзе ў сілу святло; асмужацца далі і стануць сінімі; аблокі апусцяцца і стануць белымі; заспяваюць азёры сівымі хвалямі; як боль няўсцешны, наплывуць уяўленні, бо ўсё, што бачу я, ёсць, бо ўсё існуе і жыцьме. І гучна заб'ецца ў скраню пульс маёй зямлі, застуганіць шалёным голапам магутна і моцна, застукае сэрца. У пошчак шалёны ўваб'ецца крык, пераможны крык апошняга воя і роспач утраты, халоднай сталі сіні корд і с..ніх воч утрапёны пал — ты ў маім сэрцы, барацьбяны кліч і ціхі смех маладой жанчыны, калі стаю на тваёй зямлі, Браслава, накалі на дзіды свае трызненні мае, голаў маю астудзі вадой.

Я не магу без цябе, Зямля. У хвіліны адчаю і роспачы, болі і радасці кірую думкі свае да вас, хлопцы. У белай пене мкнуць караблі, напінаюць ружовыя ветразі. Тады вы былі хлопцы, мае далёкія, невядомыя, безыменныя продкі. Канада, Стакгольм, Сідней, Місісіпі, далёкія землі і чужая сінь стала вашай калыскай. І можа толькі на мове сваёй гучаў вам апошні хаўтурны спеў. Я ўяўляю вас, як на карціне Ілтнера: на беразе мора мужных, суровых, старых і маладых мужчын. Вы седзіцё тут ужо соткі год, хлопцы аднае лодкі, і глядзіце ў даль. Мігціць над гарызонтам самотная белая зорка. У балючых, вялікіх, сініх вашых вачах — чаканне. І я разумею ўсё. І раптам усведамляю, наколькі шчаслівейшы ад вас, калі бачу гэтыя азёры, лес, дарогі, дамы, магілы, калі чую гэтую звонкую мову. Якое бязмежнае шчасце, што гэта ўсё ў мяне ёсць, што гэта існуе і што гэта маё, што магу яшчэ гэта ўбачыць, пачуць, вырвацца з гарадскіх бетонных лап і размоў і крыкласці да ран гаючы бальзам вашых сноў. Гэта так, хлопцы. Бо калі прыязджаеце на сваю зямлю сівыя — вы плачаце.

...Жоўты дым, цёплы дым падымаецца з хвой, палыном асядае на вуснах. Красуе лес. І шэпчуць ля ног спрадвечныя хвалі, сівыя язычніцы, спяваюць сваё: Браслава..., Браслава..., Браслава...

Зянон ПАЗНЯК.




# 1969

## КАСТРЫЧНІК

**2**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) С. В. Курылёва, доктара юрыдычных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Памёр у 1968 г.



С. В. Курылёў.

**3**

40 гадоў з дня выхаду (1929) першага нумара газеты «Піянер Беларусі».

50 годаў з дня нараджэння (1919) А.-В. І. Вейніка, вучонага фізіка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.



А.-В. І. Вейнік.

**5**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) П. С. Крохалева, беларускага мастака-жывапісца.

**6**

50 гадоў з дня ўтварэння (1919) Віцебскага губернскага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта.



Юныя чытачы «Піянера Беларусі».



П. С. Крохалеў.

## 11

60 гадоў з дня нараджэння (1909) З. А. Бандарынай, беларускай пісьменніцы. Памерла ў 1959 г.



З. А. Бандарына.

## 13

40 гадоў (1929) з часу пуску першага трамвая ў Мінску.

## 14

70 гадоў з дня нараджэння (1899) А. А. Бабарэкі, беларускага літаратуразнаўцы. Памёр у 1938 г.

70 гадоў з дня нараджэння (1899) М. І. Жыркевіча, дацэнта кафедры беларускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.



А. А. Бабарэка.

## 22

60 гадоў з дня нараджэння (1909) заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР А. П. Струніна, рэжысёра Гродзенскага драмтэатра.

30 гадоў назад (1939) у Заходняй Беларусі адбыліся выбары дэпутатаў у Народны сход.

## 29

Дзень нараджэння Ленінскага камсамола.



А. П. Струнін.



М. І. Жыркевіч.

Новая Сафія.



Хто надарае нас першымі памідорамі? Балгарыя. Хто прысылае нам садавіну? Балгарыя. Хто частуе нас віном? Зноў жа Балгарыя. А ў апошнія гады ўсё часцей на пытанне, дзе адпачываў, чуеш адказ: «У Балгарыі».

Савецкія людзі не застаюцца ў даўгу перад балгарскімі сябрамі — у Балгарыю з нашай краіны ідзе нафта, руда, вугаль, машыны, абсталяванне...

Нядаўна група беларускіх турыстаў вярнулася з падарожжа па Балгарыі. Ва ўсіх гарадах, дзе мы пабывалі, шмат помнікаў даўніны. А побач — новыя кварталы, новыя вуліцы, забудаваныя

# НАЗАЎСЁДЫ

## БАЛГАРСКІЯ ЎРАЖАННІ

прыгожымі сучаснымі дамамі. Для турыстаў — камфартабельныя гасцініцы. Пакоі, як правіла, на двух чалавек. Мэбля сучасная і зручная.

У Балгарыі ёсць нават спецыяльны інстытут турызму, дзе рыхтуюць гідаў, афіцыянтаў, адміністратараў і г. д.

Усюды, дзе мы спыняліся, ёсць у продажы каляровыя мастацкія паштоўкі з мясцовымі пейзажамі. Шмат сувеніраў. Усюды нас сустракалі з выключнай гасціннасцю. Той, хто пабываў у гэтай цудоўнай краіне, адчуе, што рускія і балгары — браты.

Гасціннасць балгар вышэй за ўсялякую пахвалу. Кажуць, што толькі жыхары горада Габрава складаюць выключэнне — яны скнапныя. Многім, напэўна, вядома гісторыя пра габраўскіх катоў з абсечанымі хвастамі. Такі чорны кот ледзь не стаў эмблемай горада. У кожным разе, на значку, які я прывёз з паездкі, малюнак ката і надпіс — Габрава.

Вядома ж, габраўскія анекдоты ніхто не прымае ўсур'ёз. У Габраве нас сустракалі не з меншай гасціннасцю, чым у іншых месцах. Быў нават такі выпадак. Адзін наш таварыш, шукаючы нейкую пакупку, звярнуўся за парадай да габраўца. Малады тэхнік Хрыста праводзіў таварыша да магазіна, памог знайсці патрэбную таму рэч, а потым запрасіў да сябе ў госці. Каб той не хваляваўся, што спозніцца ў гасцініцу, прывёз яго на таксі...

Калі ж з аднаго габраўца жартавалі, што пра яго землякоў складзена шмат анекдотаў, ён, усміхнуўшыся, адказаў: «Так, гэта правільна, але анекдоты расказваюць толькі пра вядомых людзей».

У Балгарыі рускую мову разумеюць усе. Гэта аблягчае знаёмства з мясцовымі людзьмі, і вы часам забываецеся, што не дома... У кніжных магазінах вельмі многа кніг на рускай мове. Мне, напрыклад, было вельмі прыемна сустрэць у г. Варна кніжку сваіх калег «Общая электротехника».

Жывую цікавасць у нас выклікала ўсё, пачынаючы ад вузкакалейкі і поезда, у якім мне давялося ехаць з горада

Легендарная Шыпка.



Русэ да Варны, і канчаючы сялянскімі дамамі,— усе камяніцы пад чарапічнымі дахамі.

Бяскрайнія прасторы вінаграднікаў. Сады. Плантацыі тытуню.

З прыемнасцю слухалі мы балгарскія песні, глядзелі прыгожыя балгарскія танцы. Зачараваў нас танец з пацалункамі «Пеленіца». Пары ўтвараюць карагод, які рухаецца па крузе пэўным крокам — два вялікія і адзін меншы. Аркестр знаходзіцца ўнутры карагоду, у коле адзін з яго ўдзельнікаў. Ён накідвае на шыю дзяўчыне, якая яму прыглянулася, хусцінку і выводзіць дзяўчыну ў цэнтр. Сцеле хусцінку на зямлю, абодва становяцца на яе каленямі і цалуюцца. Потым ролі мяняюцца — хусінку бярэ дзяўчына і г. д.

На курортах і ў некаторых гарадах праводзяцца конкурсы прыгажосці. Яны нагадваюць тэатралізаваны паказ. У ім удзельнічаюць усе — ад малога да старога. Камічныя сітуацыі, прывабныя прэтэндэнты, музыка — усё гэта стварае святочны настрой.

Мы былі ў многіх балгарскіх гарадах. Кожны па-свойму прыгожы. Але асабліва ўражваюць Несебр і Вяліка-Тырнава, дзе так хораша спалучаюцца даўніна і сучаснасць.

Старажытны горад Несебр знаходзіцца паблізу курорта Сонечны бераг. Старая яго частка размешчана на паўвостраве, які з зямлёю злучаны толькі вузкай палоскай — дарогай шырынёю некалькі метраў. Берагі тут абрываюцца ў мора. Вельмі цесныя вуліцы. Домікі стаяць упрытык, другі наверх навісае над першым... Новая частка горада даўно перабралася на бераг. У горадзе шмат цэркваў, руін і крэпасцей. Тут заўсёды шмат турыстаў. Увечары, асветлены зыркімі агнямі, Несебр нагадвае плывучы карабель.

Не менш прыгожы і горад Вяліка-Тырнава, што раскінуўся па схілах пагоркаў, між якіх пятляе рака Янтра. Дамы, нібы ластаўчыны гнёзды, лепяцца



Храм, збудаваны як помнік рускім і балгарам, што перамаглі турэцкіх захопнікаў.



Так запрашаюць турыстаў у падарожжа па помных мясцінах.

**Што каму падабаецца...**






адзін пры адным на рачных абрывах. Вуліцы старога горада вельмі вузкія і крутыя. Тут шмат помнікаў архітэктуры і мастацтва.

Адзін наш гід сцвярджаў, што ў вячэрні час па прыгажосці Вяліка-Тырнава саступае хіба толькі Рыо-дэ-Жанейра і Буэнас-Айрэсу.

Шыпкінскі перавал — вароты з паўднёвай часткі краіны ў паўночную. У часе руска-турэцкай вайны тут былі жорсткія баі. І зноў «на Шыпцы ўсё спакойна», як у свой час паведамляў генерал Радзецкі, што ўзначаліў абарону перавалаў. Толькі нястомныя турысты парушаюць цішыню.

У Плоўдзіве ў нас былі цікавыя экскурсіі. Мы агледзелі горад, пабывалі ў археалагічным і этнаграфічным музеі, у Варне захапляліся цудоўным акварыумам навукова-даследчага Інстытута рыбнай гаспадаркі і акіянаграфіі, дзе сабрана шматлікая чарнаморская фауна.

Незабыўнае ўражанне засталося ад наведвання Сафіі. Мы наведалі маўзалей Георгія Дзімітрава, пабывалі ў карціннай галерэі, паглядзелі храм-помнік Аляксандру Неўскаму.

Незабыўныя, шчырыя провады. Наш поезд ідзе між гор: яны абступілі яго з двух бакоў, нібы для таго, каб яшчэ хоць трохі затрымаць нас. Больш за гадзіну поезд вырываўся з гэтых абдымкаў, пераадолеўшы каля дваццаці тунеляў.

Да спаткання, балгарскія сябры!

**Анатоль ПРОЦКІ,**
**дацэнт Беларускага політэхнічнага інстытута.**

**Фота аўтара.**

*Камунізм — гэта грамадства асоб.*

З сучаснага артыкула.

1

Сучасны ўзровень матэрыяльнага і сацыяльнага развіцця свету можа стварыць і стварае для чалавека ўмовы быць чалавекам. І не толькі для адзінак выбраных, нават не для тысячнай эліты, а, галоўнае, — для мас. У гэтым мэта сацыялізма. І ў гэтым яго сіла, бо чалавечнасць чалавека — не проста прыгожая маральная аздоба да велічы матэрыяльнага прагрэсу. Яна — энергія самога прагрэсу і канчатковае яго прызначэнне. Сацыялізм робіць людзей чалавечнымі, але і чалавечнасць людзей набліжае перамогу сацыялістычных прынцыпаў жыцця, бо яна ўплывае на кірунак грамадскай дзейнасці чалавека і на яе актыўнасць.

Сацыяльную актыўнасць чалавечнасці трэба спецыяльна падкрэсліць, бо сістэма гуманістычных прынцыпаў, якая адмаўляе барацьбу, не лічыцца і не можа лічыцца вышэйшым патрабаваннем марксісцка-ленінскай ідэалогіі.

● Віктар КАВАЛЕНКА

# ЧАЛАВЕК ЯК АСОБА



**Часопісная проза 1968 года**

У нашы дні надзвычай ажывілася ва ўсім свеце — і ў сацыялістычных краінах таксама — увага філасофскай навукі да чалавека, да праблем чалавечай асобы. Натуральна, што ў спрэчках і роздуме філосафы часта карыстаюцца літаратурнымі фактамі, бо мастацкая літаратура — гэта чалавеказнаўства, яна заўсёды паэтызавала сапраўдную чалавечнасць і шукала ў чалавеку асобу.

Разгляд беларускай прозы мінулага года з мэтай выявіць глыбіню яе ўвагі да асобы, да праблем асабовасці чалавека ў сучасным грамадстве — гэта разам з тым задача ўстанавіць і спеласць мастацкага мыслення сучаснай беларускай літаратуры, і надзённасць яе інтарэсаў, і, урэшце, ступень яе блізкасці да лепшых дасягненняў усёй савецкай літаратуры і прагрэсіўнай літаратуры свету.

Але перш — што такое асоба?

Літаратурная крытыка, маючы справу з мастацкім творам, значнасць і ступень мастацкай пераканальнасці вобраза таго ці іншага героя часцей за ўсё мерае яго індывідуальнасцю. Сапраўды, мець чалавечую індывідуальнасць і захаваць яе ў складаных дачыненнях з іншымі людзьмі таксама нямала. Але індывідуальнасць чалавека не заўсёды складае яго асобу. Індывідуальнасць — гэта ўсё, што вылучае пэўнага чалавека з асяроддзя ўсіх іншых. Асоба ж — нешта большае. У асобе да індывідуальнасці далучаецца грамадскі пафас дзейнасці і творчасці чалавека.

Асобу можна назваць засяроджаннем чалавечага ў чалавеку. Для літаратуры сацыялістычнага рэалізму важна, каб гэтае засяроджанне не было замкнутым, каб яно не было звернута толькі ўнутр душы, а мела выхад у свет, да людзей. Чалавек становіцца грамадскім чалавекам толькі тады, калі ён сапраўдная асоба. Больш таго, асоба і ёсць шлях выхаду чалавека да грамадства. Таму пытанне, у якой ступені літаратурныя героі з'яўляюцца асобамі, ёсць разам з тым і пытанне, у якой ступені яны з'яўляюцца грамадскімі людзьмі.

У вобліку асобы творчы пачатак — гэта неад'емная, сутнасная рыса. Няма здольнасці да творчасці — няма і асобы. Асоба таму і называецца асобай, што асабістасць паводзін выступае выразна, г. зн. ёсць выхаваная здольнасць да самастойнай арыентацыі ў жыцці, другімі словамі — да творчасці.

Зразумела, што самастойнасць жыццёвых рашэнняў накладае на чалавека асаблівую адказнасць — маральную, духоўную, грамадзянскую. Таму чалавека ў асобу ператварае вышыня маральных прынцыпаў, неспакой духу, ідэйная перакананасць.

Што можа асоба на грамадскім полі? Якія яе магчымасці? Выступаць у ролі — «і адзін у полі воін»? Быць прыкладам самаўдасканалення? Не толькі гэта. Далёка не толькі гэта. Ад становішча асобы ў грамадстве, ад яе якаснай сутнасці шмат у чым залежыць узровень маральнай свядомасці грамадства, кірунак і інтэнсіўнасць яго духоўных пошукаў.

## 2

Наша крытыка заўсёды любіла папракаць літаратуру за недастатковую ўвагу да сучаснасці. Цяпер ужо відаць, што даволі часта ў такіх папроках было зашмат дробязных, нікчэмных разлікаў, якія ішлі ад непатрабавальнасці да твораў на сучасную тэму або нават і казённай спекуляцыі на надзённасці. Адзін час крытыка лічыла, што клікаць літаратуру да сучаснасці, — гэта і добры тон, і вяршыня інтарэсаў самой крытыкі ў сучаснасці. Крытыка рэдка ішла далей пахвалы за сучасную тэму, таму вельмі ахвотна рабіліся скідкі на мастацкасць творам, напісаным пра бягучы дзень. Заклікі, па сутнасці, заставаліся пустым гукам.

Сёння праблема «літаратура і сучаснасць» вырашаецца крытыкай у больш складаным аспекце, з улікам багацейшага літаратурна-гістарычнага вопыту, без кідкай аднабаковасці. Ды і сама літаратура ў апошнія гады не адзін раз даказвала, які моцны сучасны пафас і нават змест могуць набываць творы на тэмы гістарычнага мінулага. Дастаткова назваць імёны пісьменнікаў Я. Брыля, В. Быкава, І. Мележа, каб успомніць, якія вострыя перажыванні, глыбокія хваляванні, гарачыя спрэчкі выклікаліся раманамі і аповесцямі, звернутымі тэматычна ў мінулае народу, але, бясспрэчна, блізкімі да сучасных інтарэсаў грамадства.

Галоўныя героі гэтых твораў — сапраўдныя асобы, ім нельга адмовіць у самастойнасці паводзін, у творчым падыходзе да жыцця, у нескаронасці перад абставінамі. Такая Ганна з раманаў І. Мележа, героі аповесцей В. Быкава. Каб застацца асобай, каб захаваць павагу да сябе, яны вымушаны цярпець пакуты і прайсці праз шматлікія выпрабаванні.

Сучаснасць пазіцыі пісьменніка ў раманах І. Мележа і Я. Брыля, у аповесцях В. Быкава бясспрэчная. Хоць жыццёвы матэрыял бярэцца з мінулага, мастацкая задача, мастацкая ідэя твораў надзённая, сучасная.

І ўсё ж пры ўсім пры гэтым існуе спецыфіка мастацкага адлюстравання сучаснасці, калі грамадская надзённасць сэнсу, ідэі вынікае прама і непасрэдна з канкрэтнай сітуацыі, калі адлюстраваная ў творы плынь жыцця сучасная па сваіх формах, па сваім вобліку. Здольнасць адчуваць сучаснасць і ўменне захапіцца ёю ў такой ступені, што яна з болем праходзіць сваімі трывогамі праз сэрца пісьменніка — гэта важная адзнака таленту, і адзнака не прыватная, не другарадная. Да тыпу пісьменніка, які ўвесь паглынуты сучаснасцю, у рускай класічнай літаратуры належалі І. Тургенеў, Ф. Дастаеўскі, А. Чэхаў.

Гісторыя беларускай літаратуры амаль што не ведае такога тыпу пісь-

менніка, які ўвесь свой талент аддаў бы служэнню сучаснасці. Магчыма, толькі адзін К. Чорны найбольш паслядоўна набліжаўся да яго.

Нельга думаць, быццам той пісьменнік, які піша толькі пра сучаснасць, мае права на нейкае прывілейнае становішча ў літаратуры, быццам грамадская вага яго творчасці большае ўжо ад таго, што ён піша менавіта пра сучаснасць. Супрацьстаўленне пісьменнікаў па тым, больш ці менш яны захоплены праблемамі сучаснага жыцця, нічога не дае. Аднак у маштабах усёй літаратуры далёка не ўсё роўна, колькі сіл і энергіі яна аддае на мастацкае асэнсаванне надзённых грамадскіх сітуацый. Наглядаецца заканамернасць: чым больш развітая літаратура, тым шырэй і смялей яна звяртаецца да сучаснай тэмы, тым больш зацікаўлена яна канкрэтнымі пытаннямі народнага лёсу ў бягучы момант.

У дакастрычніцкі час беларуская проза (і не толькі проза) не магла дазволіць сабе раскошы шмат «выдаткоўвацца» на сучаснасць. Яна глыбокі аналіз сучаснасці нібы пакідала на будучыню. Першыя буйныя празаічныя творы ў беларускай літаратуры, а таксама і пераважная большасць паэм пачатку XX ст., напісаны пра мінулае народу. У такой тэматычнай арыентацыі літаратуры была вымушанасць ці абавязковасць. К таму часу беларуская літаратурная думка яшчэ не паспела асэнсаваць гістарычны шлях росту народнай свядомасці і — як вынік гэтага — не паспела выпрацаваць яшчэ дастаткова цэласную і глыбокую канцэпцыю разумення сучаснасці. Паглыбленне ж у праблемы сучаснасці абавязкова патрабуе грунтоўных асноў, закончанага погляду на ўсю духоўную гісторыю народу. Вось чаму ў дакастрычніцкай літаратуры часта пераважае зацікаўленасць да гісторыі.

Мастацкае асэнсаванне сучаснасці мае для пісьменніка тую цяжкасць, што ацэнка бягучых грамадскіх працэсаў толькі складваецца і складваецца часцей за ўсё ў барацьбе. Гэта значыць, што сам пісьменнік павінен актыўна ўдзельнічаць у змаганні думак і ўяўленняў аб сучаснасці.

Праўда, бывае і так, што пісьменнік, які піша пра мінулае народу, не абмінае барацьбы за сваю пазіцыю, за сваё разуменне гістарычных падзей. Гэта тады, калі ў сучасным грамадстве няма закончанага погляду на іх сэнс і значэнне. Ацэнка мінулага таксама звязана з выпрацоўкай грамадскага светапогляду сучаснасці.

І ўсё ж варта яшчэ раз падкрэсліць, што ўвага да сучаснасці ў маштабах усёй літаратуры — адна з самых яскравых прыкмет яе грамадскай сталасці і баявітасці, яе мастацкай развітасці, бо развітая літаратура не можа не накіроўваць большую частку сваіх адлюстравальных магчымасцей на вырашэнне самых неадкладных, самых хвалюючых пытанняў народнага жыцця. Гэта яе ўнутраная задача. Імкненне пранікнуць у самы цэнтр зараджэння новых грамадскіх працэсаў, у самы цэнтр завязвання грамадскіх канфліктаў — добрая традыцыя рэалістычнай літаратуры, тым больш літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

## 3

Адкрыццё буйнага закончанага сацыяльнага тыпу — самая вялікая ўдача пісьменніка ў адлюстраванні сучаснасці. Аднак тыпы жыццё нараджае не кожны год. Пісьменнік, які адчувае плынь часу, паказваючы змену асобных рыс у характары сучасніка, новы зрух у свядомасці, у яго грамадскім настроі, павінен, бывае, паказаць не меншае мастацкае майстэрства, чым у асэнсаванні буйнага тыпу. Тып, як правіла, ужо значны сам па сабе, і ён можа накіроўваць пісьменніка да закончанага абагульнення. Ёсць свае цяжкасці ў пісьменніка, які перадае сацыяльны воблік часу праз асобныя, раз'яднаныя псіхалагічна і эмацыянальна моманты жыцця. У такім выпадку асабліва важна адчуць іх характэрнасць, вылучыць з асяроддзя звыклага і ненадзённага.

Адзнакі новага лягчэй выяўляюцца ў параўнанні цяперашняга стану з папярэднім. І хоць параўнанне духоўнага вобліку літаратурнага героя блізкіх гадоў — леташняга году з пазалеташнім ці нават у разбежцы дзесяці гадоў — можа стаць чыстай умоўнасцю, бо чалавечая асоба мае ўсё ж даволі

ўстойлівую канстытуцыю, але прыём параўнання — адзіны, мусіць, метадалагічны шлях разгледзець хуткі ці павольны працэс змен.

Урэшце, чытаючы прозу леташняга года, хочацца без усякіх зададзеных крытычных установак параўноўваць яе з прозай папярэдніх гадоў, бо, акрамя ўсяго іншага, такое параўнанне ўплывае на складванне аб'ектыўнай ацэнкі твора.

Якія ж рысы ў асобе літаратурнага героя мінулагодняй прозы звярнулі на сябе ўвагу сваёй навізной, сучаснай псіхалагічнай асновай, абяцаннем цікавага будучага развіцця?

Памятаючы, як колькі гадоў таму назад у творах маладых пісьменнікаў у беларускай прозе — ад першых апавяданняў Б. Сачанкі, І. Пташнікава — адкрывалася адна старонка новага жыцця за другой, хочацца спачатку звярнуцца да творчасці маладых, пачынаючых празаікаў, якія летась даволі актыўна выступалі, у асноўным на старонках часопіса «Маладосць». Абнадзейвае думка: за тымі, хто толькі-толькі пераступае парог літаратуры, павінны ўварвацца свежыя павевы сучаснасці, з імі павінны прагучаць самыя новыя, самыя свежыя яе галасы.

Скажам адразу — надзеі не спраўдзіліся. Пачынаючыя празаікі не мелі ў мінулым годзе ніводнага значнага твора. Магчыма, гэта залішне патрабавальна чакаць штогод мастацкага адкрыцця ад тых, хто яшчэ толькі спрабуе свае сілы ў літаратуры. Хай сабе так. Затое ўжо што-што, а здольнасць да жывых, непасрэдных, нічым не заслоненых нагляданняў павінна выяўляцца выразна. Гэта адна з першых умоў прафесіянальнай прыгоднасці літаратара. Не вялікая бяда, калі ў першую пару нагляданні будуць не такія ўжо тыповыя і значныя. Галоўнае, каб яны былі свежыя, самастойныя. А іх якраз зусім няшмат у мінулагодніх творах маладых пісьменнікаў.

Нельга сказаць, што ў першых творчых вопытах няма адчування надзённасці тэм, адчування навізны жыццёвага матэрыялу. З'явіліся аповесці, прысвечаныя студэнцкаму жыццю. У беларускай літаратуры на гэтую тэму ёсць усяго некалькі твораў. Але, на жаль, і тое, што напісана летась пра студэнтаў, нічым істотным, нічым значным у мастацкіх адносінах не дапаўняе папярэднія творы. У нейкай меры сярод празаічных практыкаванняў пачаткоўцаў пра студэнцкае жыццё вылучаецца «Суэма» Э. Зубрыцкага, вылучаецца пэўнай эмацыянальнай настраёвасцю, хоць і гэтая рэч — без сур'ёзнага зместу. Чаго варты адзін прэтэнцыёзны загаловак! Героям жа Э. Зубрыцкага наогул няма чаго рабіць і няма пра што думаць. Аповесць напісана ў эмацыянальным ключы, але запас рэальных эмоцый у душы герояў мізэрны. Яны яшчэ бяздумна адносяцца да жыцця. Прыехаўшы на канікулы ў вёску, студэнты не заўважаюць вакол сябе нічога — ні добрага, ні дрэннага. Адзінае, на што яны адважыліся, дык гэта злавіць браканьера. Але праблема браканьерства як праблема маральная і сацыяльная ставілася ўжо ў творах І. Пташнікава. У лепшых яго апавяданнях («Алені», «Браканьер») браканьерства — не проста здарэнне або прыгода, а драма чалавечай душы, драма лёсу героя.

Гаворачы пра душэўнае багацце, прыкметныя якасці асобы ў герояў з твораў маладых аўтараў, узнікае думка, што ў юнакоў, магчыма, усё гэта толькі ў станаўленні. Хай сабе так. Але ж не менш цікава і важна разгледзець і паказаць, з якімі маральнымі задаткамі ідзе ў жыццё маладое пакаленне. Адным словам, што збіраюцца рабіць маладыя людзі са сваім жыццём, якое ўпершыню яны пачынаюць усведамляць як сваю ўласнасць, якою могуць распараджацца, як захочуць. Зразумець ці адчуць гэта ў аповесці Э. Зубрыцкага немагчыма, бо характар імкненняў герояў, накіраванасць іх роздуму вельмі няпэўная.

Заслугоўвае хвалы тое, што маладыя празаікі бяруцца і за тэму рабочага класа, тэму надзвычай складаную ў сацыяльным змесце. М. Гіль напісаў аповесць пра тое, як нялёгка прыжыцца на заводзе хлопцу («Год мінецца хутка»). Аднак аповесці шкодзяць «скарапіс», адсутнасць эпічнай засяроджанасці, аналітычнай глыбіні.

Паказ рабочага ў літаратуры — вельмі актуальная праблема. Вакол яе вядуцца гарачыя спрэчкі. Гэтыя спрэчкі будуць вырашацца перш за ўсё

мастацкай практыкай і — будзем спадзявацца — не без удзелу і нашых маладых пісьменнікаў. Таму варта загадзя засцерагчы іх ад вельмі павярхоўнага, а па сутнасці і няправільнага ўяўлення аб сучасным рабочым, якога трымаюцца ў нас ці не дзякуючы дрэнным, павярхоўным і скараспелым нарысам пра заводскае жыццё. Вельмі часта ў газетных нарысах фігура рабочага паказваецца з аднаго боку — з боку яго вытворчых, прафесіянальных інтарэсаў. Рабочы чалавек там характарызуецца, як правіла, некалькімі знешнімі рысамі: знаўца сваёй справы, дысцыплінаваны на працы, свядомы — на яго разуменне і яго дапамогу заўсёды можа разлічваць кіраўніцтва завода, прынцыповы — выступае з крытыкай недахопаў у арганізацыі вытворчага працэсу, спагадлівы да таварышаў, ласкавы з моладдзю, клапатлівы.

Літаратура часам бярэ гатовым гэтае ўяўленне пра рабочага і толькі белетрызуе яго. У выніку ў творы з'яўляецца ўзорны работнік вытворчасці. Асоба рабочага як чалавека, яго тыповыя рысы як прадстаўніка класа, якога называюць гаспадаром жыцця, не раскрываюцца. У такога героя з рабочага асяроддзя няма ніякіх іншых інтарэсаў акрамя вузка прафесіянальных. А калі ён ды займаецца яшчэ і вынаходніцтвам, то аўтары спяшаюцца запэўніць, што ім сустрэўся ідэал рабочага.

І вынаходніцтва, і дысцыпліна працы — усё гэта добра, усё гэта неабходна. Але толькі праз такія якасці нельга паказаць рабочага, бо яны ўласцівы і людзям іншых працоўных груп у нашай краіне.

Пісаць пра рабочага сёння — гэта значыць паказаць у канкрэтных сітуацыях яго сацыяльнае становішча, прасачыць, як практычна ўздзейнічае рабочы клас на маральную і палітычную свядомасць усяго грамадства, па якіх каналах, па якіх шляхах гэта ажыццяўляецца, убачыць сацыяльныя і духоўныя гарызонты сённяшняга рабочага чалавека. Без дастаткова глыбокай увагі да асобы чалавека нельга раскрыць воблік нашага сучасніка — ці гэта будзе рабочы ці чалавек іншай прафесіі і іншага сацыяльнага становішча.

Сярод маладых пісьменнікаў вылучыліся літаральна за некалькі гадоў імёны празаікаў А. Кудраўца, М. Капыловіча, М. Вышынскага, у чыёй творчасці ёсць і свежыя назіранні над жыццём і героі з выразнымі задаткамі асобы.

Праўда, нельга сказаць, што ў апавяданнях гэтых пісьменнікаў ужо ёсць чалавек, які мог бы зацікавіць як жывы і цэльны тып ці характар. Звычайна іхні герой толькі пачынае далучацца душой да навакольнага свету, хочучы зразумець жыццё глыбока і самастойна. Але і гэта ўжо нямала.

Яшчэ зусім нядаўна некаторыя з празаікаў ахвотна ўводзілі ў літаратуру, магчыма, у нейкай ступені не без уплыву рускіх маладых пісьменнікаў, героя, які імкнуўся з горада ў вёску, каб знайсці тут маральную падтрымку, каб абнавіць у душы адчуванне першаснага хараства жыцця, яго адвечных каштоўнасцей, грунтоўна захаваных народам. У такіх творах былі ідылічныя моманты ў апісанні побыту сучаснай вёскі. Аднак, да гонару аўтараў, яны рэдка даводзілі захапленне вёскай да экстазу. А ў апавяданнях М. Стральцова імкненне героя вырвацца з горада не мела дакладнага адрасу вёскі. Гэта было хутчэй імкненне на прастору, у далечыню дарог — імкненне, у якім была прага дзейнасці, думкі і адчування, не скаваных ніякімі ўмоўнасцямі. Б. Сачанка аповесцю «Дзік-бадзяга» нават палемізаваў з безумоўнай тэндэнцыяй паэтызаваць традыцыйныя формы народнага жыцця. У патрыярхальным складзе характару яго героя ёсць як станоўчыя рысы, так і выразна адмоўныя. У. Дамашэвіч наогул аддаваў перавагу гораду перад вёскай, бачыў у ім больш паэзіі («Горад будзе»).

Герой маладых пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру ўслед за М. Стральцовым, Б. Сачанкам, У. Дамашэвічам, таксама адчувае моцную ўнутраную сувязь з вёскай, жаданне акунуцца ў яе звыклую і любую з дзяцінства атмасферу. Але ў гэтым жаданні няма інтэлігенцкай экзальтацыі, намеру маральнага ачышчэння. Вось як суха, па-дзелавому, неяк вельмі ж практычна сказана пра гэта ў апавяданні А. Кудраўца «Сястру-

ха»: «Да сваіх старых Аркадзя наязджаў часта, таму развітваліся проста».

У апавяданні М. Вышынскага «Вокны ўначы» вёска ўзрушвае героя больш, але, магчыма, таму, што ён рэдка прыязджае туды. Вясковы лад жыцця не выконвае ў М. Вышынскага адкрытай месіянскай ролі. Яго герой, прыехаўшы ў вёску з пачуццём адзіноты, не пазбаўляецца ад тугі толькі адным сузіраннем прыроды. І ў вёсцы ён лечыцца ад тугі «гарадскім лякарствам» — вінoм. Людзі ў вёсцы мілыя яму не таму, што яны менавіта вясковыя людзі, а таму што яны людзі наогул, такія, як і ўсе, у роўнай меры здольныя на спачуванне, спагаду і дапамогу, хоць, праўда, недзе на перыферыі нашага ўспрымання твора паказваецца ўсё ж і ідэя маральнага выратавання ці выздараўлення. Дапамаглі герою ўсё ж вясковыя людзі. Але ўзмацніць гэтую ідэю і давесці яе да ідылічнага моманту маладому пісьменніку не дае тая акалічнасць, што ён ведае сапраўднае аблічча сучаснай вёскі. Жыццё цёткі Алімпы нялёгкае. Праўдзіва напісана і другое апавяданне М. Вышынскага «Хата пад ліпай».

Адно ўжо тое, што герой маладых пісьменнікаў фармуецца ўнутрана, як асоба, маючы нескажонае адчуванне навакольнага жыцця, дазваляе чакаць ад іх творчасці адкрыцця псіхалагічных, этычных, духоўных сітуацый, якія дазваляюць бачыць сапраўдны характар нашай сучаснасці.

## 4

Характар у чалавека — гэта ўвасабленне яго ўнутранай самастойнасці. «Чалавек з характарам» — часта гучыць як пахвала, як захапленне. Таму станоўчы літаратурны герой, калі ён толькі ў нейкай ступені значны, павінен мець характар.

Але ў жанры апавядання, напрыклад, не заўсёды герой выяўляе ўвесь характар. Вельмі часта пісьменнік ставіць у цэнтр твора не самога героя, а падзейнасць. Тады яму даводзіцца вылучаць адну якую-небудзь рысу ўнутранага складу, каб па ёй лёгка ўяўляўся ў агульнай сутнасці ўвесь унутраны воблік героя, характар таксама.

Якімі ж, калі меркаваць па разрозненых рысах, прадстаюць перад намі героі, надрукаваных у мінулым годзе апавяданняў? У якой ступені гэтыя рысы выяўляюць асобу героя і характарызуюць час?

Герой апавядання Аляксея Кулакоўскага «А следам цень...», стары прафесар, па ўсім відаць, чалавек сучасны. Ён — без умоўнасцей, рашучы. Не кожны асмеліцца зрабіць так, як ён — ажаніцца з маладой дзяўчынай на старасці. Яго маладая жонка аказалася недалёкай. Раман яна называе «романам». Мабыць, адзіная прывабнасць яе — у маладосці. Але неўзабаве прафесара сталі непакоіць успаміны пра сваю памёршую жонку. Па ўсім відаць, прафесар хутка пачне каяцца, што зрабіў неабдумана, хоць маладая жонка адносіцца да яго клапатліва і пяшчотна. Сітуацыя ў героя складаная. Трэба сказаць, што яна вельмі прыдатная, каб герой раскрыўся глыбока як чалавек — у пачуццях, думках, якія ў яго ў гэты момант абвостраны. Але пісьменнік абмежаваў свайго героя ў выяўленні ўнутраных якасцей. Канкрэтная, унутраная, асабістая аснова ў маральных ваганнях прафесара паказана слаба, і ад гэтага ідэя апавядання гучыць некалькі дыдактычна, мае адценне дробязнасці (старым удаўцам непрыстойна жаніцца з маладымі дзяўчатамі), што, дарэчы, не ўласціва творчасці А. Кулакоўскага ў цэлым.

У другім апавяданні А. Кулакоўскага «Карміце рыбак» глыбей раскрыты асабісты пачатак у характары герояў. Пра Веру можна даведацца з твора ўсяго толькі тое, што яна не саромеецца свайго кахання да жанатага мужчыны, бо яе пачуцці шчырыя. Але ж кожная рыса характару вынікае з самой натуры чалавека. Сапраўды, вобраз Веры ўспрымаецца як вобраз чалавека мужнага, цэльнага, які ўмее быць самім сабой.

А вось паводзіны яе каханага Рамана гэта якраз прыклад разбурэння асобы. У яго няма ніякай самастойнасці. Ён ілжэ каханай, ілжэ жонцы, ілжэ заўсёды, калі гэта выгадна. Аднак маралізатарства ў гэтым апавяданні няма: гляньце, маўляў, як непазбежна карае жыццё лгуна. Вобраз Рамана — значнае абагульненне. Адсутнасць шчырасці ў інтымным жыцці не такое бяскрыўднае, не такое нейтральнае ў адносінах да ўсіх яго жыццёвых

прынцыпаў, да яго агульнага маральнага вобліку. Правіла ўласнай выгады, якім кіруецца герой, дае толькі ілюзію поспеху. На самай справе Раман даўно страціў маральную арыенціроўку ў жыцці, і гэта спустошвае яго душу і робіць «няўдачлівым». Сапраўды, жыццё карае чалавека за адступленне ад чалавечнасці, але карае праз яго ж самога. Раман зацікавіўся трагедыяй жанчыны, якая перанесла Асвенцім, але нават гэтая зацікаўленасць не вынік яго ўласнай душэўнай дапытлівасці і ўражлівасці. Больш за ўсё яго цікавасць да лёсу былой лагерніцы тлумачыцца газетнай і кніжнай дасведчанасцю аб усім тым страшным, што звязана з Асвенцімам. Не ведаў бы ён наперад, што жанчына была ў Асвенціме, то можна не сумнявацца, што ў яго не хапіла б чуласці заўважыць душэўныя пакуты гэтай жанчыны, як няздольны ён здагадацца, што побач з ім пакутуе Вера ад яго маны і палахлівасці.

У апавяданні Міколы Ракітнага «Лукер'я» з цыкла «Сярод людзей сваіх» ёсць праслаўленне чалавечай годнасці, нязломнасці характару, стойкасці. Як ні цяжка было Усціну і Лукер'і абараніць сваё каханне, сваю чалавечую годнасць, яны ўсё ж выстаялі, дамагліся свайго, бо адчулі, што пасля рэвалюцыі чалавек павінен быць вольны ўнутрана. Усцін і Лукер'я — звычайныя вясковыя людзі, але яны моцныя характарам, маюць задаткі багатай індывідуальнасці. Яны — асобы, бо сваім прыкладам унеслі нешта новае ў звыклы ход жыцця.

Праўда, часам М. Ракітны ў тым жа цыкле апавяданняў палохаецца самастойнасці думак і паводзін сваіх герояў. Спачатку ён смела накрэслівае лінію самастойнасці ў поглядзе на свет, а пасля абстаўляе ўсё такімі штучнымі сітуацыямі, што ранейшая лінія героя, ды і самога аўтара, губляецца, не адчуваецца зусім. Так здарылася ў апавяданні «Мітрафанава лавачка».

Калгаснікі сабраліся ісці ў поле буртаваць бульбу. Яны чакаюць кагосьці, хто запазніўся, сядзяць на лавачцы і вядуць размову пра тое, што тым людзям, хто здагадаўся падацца з вёскі ў горад, жывецца многа лепей:

« — Што там ні кажы, а вёсцы яшчэ далёка!.. Яе спадыспаду трэба ўсю варушыць.

— Ламаць і...нанова!.. А так, як яе ні прычэсвай, як ні прыгладжвай, усё роўна вёска.

— А дарогі?..

— Ды і мы самі, прызнацца, не далёка рушылі... От ідзем на поле бульбу закопваць... Гэтай рыдлёўкай дзед мой капцы абкопваў, і я іду з ёю... Дзе тут прагрэс?..»

І адразу ж пісьменнік спалохаўся такіх «вольных» размоў сваіх герояў. М. Ракітны спяшаецца даць адчуць чытачу, што ён, пісьменнік, не «аднабаковы». Крый божа! Ён не забыўся, што пры ўсім тым у вёсцы ёсць — што б вы думалі? — ну, вядома ж, калгасная механізацыя, трактары. Вось яны і загулі ў момант, аніколечкі не счакаўшы, якраз тады, калі гэта трэба аўтару, «адзін — басіста, з роўным гудам авадня, другі — танклява — задзірыста і пастрэльваючы...»

Вось як лёгка можна зняць важную праблему, пасароміць людзей за тое, што бачаць розніцу ў гарадскім і вясковым жыцці. А толькі ж толькі нехта з мужчын перакананa гаварыў рашучыя словы: «Ламаць і... нанова! А так, як ні прычэсвай, як ні прыгладжвай, усё роўна вёска». Выходзіць, не трэба нічога ламаць. А размовы людзей — гэта несур'ёзна, гэта проста так, ад таго, што свярбіць язык часам у чалавека, асабліва, калі чалавек той не заняты працай і сядзіць сабе на лавачцы.

М. Ракітны часам бывае вельмі непаслядоўны ў накіраванасці думкі, у пафасе сцверджання жыццёвых ідэалаў. У апавяданні «Мітрафанава лавачка» ён ставіць усё ж праблему ўладкаванасці вясковага побыту, а ў апавяданні «Сваццi» паэтызуе поўную няўвагу людзей да свайго побыту, да культурнага выгляду вёскі. Свацц累 з Тамбоўшчыны, прыехаўшы да Мар'і ў госці, кажа ёй: «У нас, на Тамбоўшчыне, заможней жывуць мужыкі. У іх заглянеш у двор — гаспадары! І хлявы, і клеці, і паветкі розныя. І парканамі ўсё абнесена. Дамавіта, утульна...» Адказ Мар'і вельмі характэрны:

«Навошта нам тыя паветкі ды парканы? Ад каго хавацца за імі? Ды і жыць ужо нядоўга...»

Вядома, можа быць розная любоў да ўтульнасці і дамавітасці, напрыклад, з дамешкаю скнарнасці. Такая любоў, на ўсім відаць, і ў свацці з Тамбоўшчыны. Але насцярожвае ў пазіцыі пісьменніка вельмі ж абавязковае супрацьпастаўленне: там, дзе ўтульнасць, дамавітасць, там і скнарнасць, ледзь не кулацкія замашкі, а дабрата, сардэчная спагадлівасць, сціпласць быццам бы заўсёды звязаны з няўвагай да ўласнага побыту, да ўласнага становішча. А такая няўвага ёсць не што іншае, як звычайная нявыхаванасць культуры побыту.

Наогул у сучаснай беларускай прозе не знікла жаданне некаторых пісьменнікаў, у тым ліку і маладых, паэтызаваць гаспадарчую нядбайнасць пад выглядам высакароднага рамантызму, альтруістычных якасцей душы, цвёрда ўкаранелай калектывісцкай свядомасці. На самай справе ў такой мастацкай пазіцыі ёсць адгалосак даўніх спрошчаных літаратурных уяўленняў аб жыцці. Мізэрнасць пабытавай культуры некалі сведчыла аб матэрыяльным становішчы чалавека, аб яго класавай прыналежнасці. Але яна ніколі не была маральным ідэалам у савецкім грамадстве.

Асоба чалавека, мусіць, найбольш даступна, першасна сцвярджае сябе ў побыце, у знешнім стылі жыцця. Няўвага да ўзроўню побыту чалавека ёсць няўвага і да элементарных магчымасцей асобы.

## 5

За апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў увага беларускай прозы да асобы чалавека ўвесь час мацнела. Паглыблялася і разуменне чалавека. Усё большы і большы давер сталі выклікаць творчыя здольнасці чалавечай асобы, самастойнасць у думках і паводзінах. Гэта можна прасачыць па тым, як паступова эвалюцыяніравала маральная ацэнка самастойнага жыццёвага выбару, завяяванага права на ўласную адказнасць за свае ўчынкі.

Недзе з сярэдзіны 50-х гадоў у беларускай прозе з'яўляецца герой або зусім бесхарактарны, як тады здавалася, або з характарам нявытрыманым, супярэчлівым, у такой меры імпульсіўным, што яго паводзіны выглядалі звычайнай нястрыманасцю, а то і парушэннем асноўных маральных нормаў.

Колькі было спрэчак вакол апавядання Барыса Сачанкі «Канапляны чад»! У ім апісвалася, як студэнт, прыехаўшы ў вёску, спадабаўся брыгадзіравай жонцы, і яны ходзяць на патаемныя спатканні. Студэнт хоча кінуць усё і паехаць, але не можа — гэтак прываражыла яго маладая жанчына. Пасля вагання і папрокаў самому сабе студэнт зноў чакае сустрэчы.

Цяпер ужо відаць, што спрэчкі аб змесце гэтага апавядання маглі быць не такія вострыя, каб пісьменнік больш выразна накрэсліў псіхалагічнае і эмацыянальнае развіццё падзей, каб у ім раскрываліся больш упэўнена душэўныя матывы ў паводзінах герояў. Сапраўды — што ў іх, у гэтых людзей: вялікае пачуццё ці маральная неперабарлівасць, банальны адзюльтэр. Сама назва апавядання «Канапляны чад» можа штурхнуць думку ў тым кірунку, што ў герояў проста пачуццёвы чад, што гэта адна легкадумнасць.

Але ж справа ў тым, што пісьменнік не ставіў перад сабой задачу ўнесці поўную яснасць у характар узаемаадносін герояў, даць вычарпальную маральную ацэнку іхнім паводзінам. Магчыма, што ў той час ён пры ўсім жаданні і не мог гэтага зрабіць. Жыццёвая сітуацыя, адлюстраваная ў творы, была незвычайная для літаратуры папярэдніх гадоў, калі часта з'явы супярэчлівыя, няясныя па маральных крытэрыях проста абміналіся. Калі б пісьменнік тлумачыў учынкі сваіх герояў, апіраючыся на прынцыпы такой літаратуры, ён не пазбегнуў бы маралізатарства. Бясспрэчным заставалася іншае. Пісьменнік захапіўся непасрэднасцю сваіх герояў. Іх узаемаадносіны сапраўды не былі высветлены, яны — для абоіх двухсэнсоўныя. Але пісьменніку імпанавала рашучасць герояў, тое, што яны бяруць толькі на сябе адказнасць за маральны сэнс сваіх паводзін. У гэтым была выразная гуманістычная прыкмета творчай пазіцыі маладога тады пісьменніка. Пазбягаючы выразнай маральнай ацэнкі ўчынкаў сваіх герояў, ён нібы запрашаў і чытача ўключыцца ў роздум і спрэчкі.

Васіль Быкаў у апавяданні «На сцяжыне жыцця», ставячы тую ж праблему маральнай адказнасці за самастойны ўчынак, ужо зусім пэўны ў аўтарскіх крытэрыях. Калі спачатку ўсе, хто ведае Прузыну, асуджаюць яе за каханне да жанатага чалавека, то пасля нараджэння дзіцяці адбываецца пералом у адносінах людзей да Прузыны. Ёй даравалі ўсё за дзіця, зразумелі яе жаданне мець звычайныя чалавечыя радасці, адчуваць сябе маці і няньчыць дзіця, гэта значыць, адчуваць сябе чалавекам. Прузына сама абараніла сябе ад падазрэння, што яе ўчынак амаральны. Чалавечая, а значыць і маральная законнасць учынку гераіні была пераканальна доказана глыбока чалавечнымі якасцямі яе: шчырасцю, адкрытасцю перад людзьмі, пяшчотай да дзіцяці. Гэта не магло не выклікаць у людзей разумення і павагі. Прузыне лепш відаць, які яе ўчынак — добры ці дрэнны.

Гераіня апавядання Анатоля Кудраўца «Сяструха», надрукаванага ў мінулым годзе, ужо не лічыць сябе абавязанай нешта даказваць людзям, апраўдвацца за свае ўчынкі. Яніна ведае, што шмат хто яе асуджае, але адносіцца да гэтага амаль раўнадушна. Больш таго, яна так пераканана ў сваёй справядлівасці, што вінаваціць не сябе, а людзей за іх чэрствасць, нежаданне зразумець натуральную чалавечнасць. Яніна скардзіцца: «А людзі — паспрабуй зразумей іх. Жыла я з Іванкам, дня яснага не бачыла — уздыхалі, шкадавалі мяне. А сышлася з Петраком — ён і шануе мяне і памагае — і дома, і ў саўгасе, — дык людзей як падмянілі. Пачалі нагаварваць усякае — і ў вочы і зачы. Чаго я толькі не наслухалася! Як быццам я ўжо не я, як быццам зрабіла нешта брыдкае, як усё роўна ўкрала што...» Гераіня А. Кудраўца ўжо настойліва патрабуе не ўмешвацца ў яе асабістыя справы, беручы на адну сябе абавязак разабрацца ва ўсім, бо адчувае ў сабе чалавечую годнасць, адчувае ўнутраную сілу для гэтага.

Мікола Гіль у аповесці «Слабодскі парламент», надрукаванай таксама летась, ідзе яшчэ далей у маральным вытлумачэнні вольнага ўчынку чалавека, выкліканага яго асабістымі інтарэсамі. У М. Гіля ўжо самі людзі, нават старыя жанчыны, прыхільнасць якіх да спрадвечных нормаў маралі вельмі моцная, апраўдваюць маральна жанчын, якія не выйшлі ў вайну замуж, а нарадзілі незаконных дзяцей. І хоць у аповесці «Слабодскі парламент» вельмі выразна адчуваецца аўтарская рацыяналістычная зададзенасць у вырашэнні гэтай тэмы і відавочная прысутнасць ненатуральнага ідэальнага моманту, напрыклад, сцвярджаецца, што бязбацькавічаў усе вельмі шкадавалі (калі дзяцей лавілі ў чужым садзе, то ўсіх іншых секлі крапівою, а іх, бязбацькавічаў, адпускалі без пакарання ды яшчэ давалі яблыкаў), а на самай справе ім жылося цяжка, аднак твор гэты цікавы тым, што тут ужо ёсць поўная маральная рэабілітацыя ўчынку чалавека, які хоць і выбіваецца з агульнапрынятых нормаў, але з'яўляецца чалавечным па сэнсу, па мэце.

Ад твораў, дзе аўтары не маглі яшчэ адкрыта адобрыць чалавечую натуральнасць «вольнага» ўчынку сваіх герояў, да поўнай маральнай рэабілітацыі — значная эвалюцыя сучаснай беларускай прозы ў асэнсаванні праблем чалавечнасці і асобы.

Трэба адзначыць і ж станоўчы факт тое, што сучасная беларуская проза не спрашчае праблему «вольнага» ўчынку і калі паказвае яго ў сферы кахання, то без усякага намёку на апраўданне ці паэтызацыю «вольнага» кахання. Якую маральную аснову мае «вольны» ўчынак чалавека — ён сур'ёзны, з духоўнымі карэннямі і пабуджэннямі чалавечнымі ці бяздумны, легкаважкі — ад гэтага залежыць яго канчатковая ацэнка, яго апраўданне ў грамадстве.

Цікава «падключыўся» да мастацкай распрацоўкі праблемы «вольных» паводзін чалавека Аляксей Карпюк аповесцю «Знаёмы незнаёмец». Амаль тая ж сітуацыя, што і ў творах Б. Сачанкі, В. Быкава, А. Кудраўца, М. Гіля — незаконнае каханне. Само каханне, праўда, толькі пачало яшчэ нараджацца. Разумнай, інтэлектуальнай жанчыне часта сустракаецца на вуліцы мужчына, які падабаецца ёй усё больш і больш. Прыкмеціўшы ўвагу да сябе жанчыны, ён пачынае рабіць выгляд таксама зацікаўленага, імітуе закаханасць. Толькі выпадковасць выратавала жанчыну ад памылкі.

А. Карпюк у аповесці «Знаёмы незнаёмец» адкрыў цікавы тып чала-

века, які ўмее падрабляць увесь стыль сваіх паводзін пад асабовасць, ведаючы, што арыгінальнасць, асабовасць заўсёды цэняцца і прываблiваюць у асяроддзі выхаваных, прыстойных людзей. Робленую арыгінальнасць і асабовасць ён выстаўляе як прынаду для даверлівых. Выстаўляючыся асобай, «знаёмы незнаёмец» шукае вульгарнай, карыслівай выгады.

Аказваецца, безасабовасць і бездухоўнасць часта могуць выступаць у вопратцы асабовасці і духоўнасці. Справа нават не ў тым, што гэта маральная спекуляцыя. Такое пераапрананне ў чужое мае на мэце прызвычаіць людскую свядомасць да думкі, што высакародства для таго толькі і існуе, каб прыкрываць карыслівасць. Усе людзі быццам бы аднолькавыя ў сваіх імкненнях, і розніца паміж імі толькі ў тым, што адны ўмеюць прыкрываць карыслівыя, эгаістычныя разлікі прыгожай заслонай высакародства і чалавечнасці, а другія — не ўмеюць. І выходзіла, што быць адкрытым цынікам — гэта нават больш сумленна.

Чуласць сучаснай беларускай прозы ў цэлым да маральных праблем часу, магчыма, яшчэ не дастаткова вострая і зацікаўленая, але ў асобных апавяданнях, у творах нават малога празаічнага жанру можна адчуць, як асабовасць чалавека становіцца важнай рысай, што характарызуе вобраз літаратурнага героя.

## 6

Раман Івана Шамякіна «Снежныя зімы» — адзіны раман на сучасную тэму ў часопіснай прозе мінулага года і адзін з самых буйных раманаў аб сучаснасці ў беларускай прозе апошніх гадоў. Ужо адно гэта прыцягвае да яго пільную ўвагу і выклікае патрэбу ў грунтоўным крытычным аналізе. Першыя водгукі крытыкі (артыкул Я. Герцовіча «Вузлы людскіх трывог» і артыкул пісьменніка П. Пестрака «І растаяў снег») былі поўныя адабрэння і пахвалы. Я. Герцовіч пісаў, што ў новым рамане І. Шамякіна «многа праўды», што «такая кніга — радасць для кожнага». Не адмаўляючы высокай агульнай ацэнкі рамана «Снежныя зімы», варта ўсяго толькі падмацаваць яе канкрэтным аналізам, бо крытычныя выступленні і Я. Герцовіча і П. Пестрака пры ўсёй іх цікавасці з'яўляюцца не столькі разгорнутымі рэцэнзіямі, колькі менавіта водгукамі, непасрэднымі і ў вялікай ступені эмацыянальнымі.

Новы раман І. Шамякіна, вядома, заслугоўвае ўсебаковага і цэласнага крытычнага падыходу. У гэтым артыкуле адпаведна яго тэме разглядаецца толькі адзін аспект зместу рамана — як адлюстраваны чалавечыя якасці нашага сучасніка ў асобе герояў, перш за ўсё ў асобе галоўнага героя Івана Васільевіча Антанюка. Гэта крытычная задача аблягчаецца тым, што падзеі часу адбіліся на лёсе героя вельмі відавочна і адкрыта. Іван Васільевіч, будучы адказным кіраўніком у галіне сельскай гаспадаркі, быў зняты з пасады і яшчэ даволі маладым пасланы на пенсію за тое, што не падтрымаў ілжэнаватарскіх праектаў, накіраваных супраць традыцыйнай у Беларусі практыкі травасеяння. Не баючыся аслаўлення ў кансерватызме і непрыемнасцей па службе, ён рашуча выступіў за травасеянне, даказваючы яго мэтазгоднасць, за што і быў пакараны. Пазней справядлівасць Івана Васільевіча была прызнана, але вярнуцца назад на работу яму не ўдаецца, хоць ён вельмі хоча гэта зрабіць. Наогул выступленне героя за травасеянне, звальненне яго з пасады — усё гэта ўжо знаходзіцца па-за рамкамі твора, непасрэдна ў рамане не паказваецца, складае як бы экспазіцыю ў экспазіцыі. Пра ўсё гэта чытач даведваецца з успамінаў героя. Раман пачынаецца з апісання душэўнага стану Антанюка, які перажывае крыўду, прычыненую яму, носіць гэтую крыўду ў душы, як рану, хаваючы нават ад жонкі.

Аднак як бы вузка ні ставілася крытычная задача пры разглядзе рамана «Снежныя зімы», забыцца пра агульныя асаблівасці творчасці І. Шамякіна, якія, вядома, выявіліся і ў «Снежных зімах», не выпадае, бо ўсякі аб'ектыўны вывад аб творчасці пісьменніка, хай сабе і прыватны, павінен улічваць агульны характар яго творчай індывідуальнасці. Адным словам, нельга мераць ступень майстэрства пісьменніка дасягненнямі іншага мастака і не заўважаць яго асабістых.

**(Далей будзе.)**



Яўген КРУПЕНЬКА. Салаўі. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.

# СЛУХАЮЧЫ САЛАЎЯ

Май у белых маюе садах,
Абдымаючы, яблыні песціць.
Я нашу салаўя у грудзях,
А з грудзей вырываюцца песні,—

піша Яўген Крупенька ў адным з сваіх вершаў, якія склалі яго першую кніжку «Салаўі». Гэтую кніжку я чакаў даўно. Голас паэта то затухаў, як вячэрняе вогнішча, то ўспыхваў піянерскім кастром. І заўсёды іскрай, ад якое займаўся агонь душы, былі і ёсць — родныя мясціны, дзе вырас паэт,— Шклоўшчына. Ёй у кнізе па праву належыць пачэснае месца:

Гасцінныя заўсёды землякі.
У іх сумленне, як крышталь,
спрадвеку,
Як назва роднай Шклоўшчыны
маёй.

Нічога не скажаш, напісана шчыра. Іншая справа, якімі сродкамі і як выказаў паэт сваю любоў да роднай зямлі, да сваіх землякоў, як удалося яму намаляваць паэтычны вобраз Шклоўшчыны. Аб тым — гаворка ніжэй. А пакуль, адказваючы на шчырасць паэта шчырасцю, мушу папярэдзіць яго: не трэба паўтараць тыя літаратурныя прыёмы, якімі ўжо карысталіся папярэднікі. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Той жа верш «Шклоўшчыне» пачынаецца з абыгрывання назвы горада Шклоў: «...неба блакітам разлілося па палях, такое чыстае, як назва Шклоў». Далей пачынаецца бясконцае паўтарэнне аднаго і таго ж каленца: «Сасноўка — сосны ля дзвярэй і вокан, а Вішанька — у вішнях расцвіла». Прыгожа і паэтычна, але не нова. Адразу ж успамінаюцца радкі А. Вялюгіна: «За лесам — Залессе, за мохам — Замошша», якія паспелі ўжо «запазычыць» некаторыя паэты, з тых, хто любіць «пазычаць»... Дзеля прыгажосці Я. Крупенька часам ахвяруе жыццёвай праўдай. «А Вішанька — у вішнях расцвіла»,— піша ён. Можа гэта і парадуе слых таго, хто ні разу не быў у Вішаньцы. А хто быў — абурыцца: хоць гэта і дзіўна, але менш за ўсё ў названай вёсцы вішань... Ды справа не ў гэтым. Падобная расшыфроўка назвы, расшыфроўка без меры і густу, робіць верш аморфным.

Прыведзеныя вышэй радкі — не першы і не апошні прыклад, калі паэт трапляе ў палон вонкавай афарбоўкі слова. Верш «Нарач» пачынаецца з радкоў: «Пусці мяне нанач, Нарач, я з рыбакамі буду рыбачыць у буру». Уважліва ўчытаешся ў іх, і адразу нічога не застаецца ад уяўных слыхавых эфектаў. Слова «нанач» азначае паначаваць, адпачыць. Прычым жа гэтае «рыбачыць буду»? Ды і буры часцей за ўсё бываюць днём, ужо не кажучы пра тое, што ў час буры рыбакі стараюцца хутчэй дабрацца да берага.

Есць у кнізе і тое, што звычайна называюць «жестоким романсом». Не хапае толькі гітары, каб праспяваць вось гэтыя радкі з верша «Дэман» пра разбітае сэрца:

Неба сіняе, зоры сінія,
Горы чорныя, нібы ноч.
Узніміце мяне, рукі сільныя (?),
Я развею чорную ноч.
. . . . . . . . . . .
Узнімуся, ўсё роўна адолею
Адзіноту і сум цяжкі,—
Пралячу над тваім я домам,
Узламаю цяжкія замкі...

Каб не стварылася ўражанне, што ўсё ў кнізе дрэнна, адразу агаваруся: перад намі — паэт здольны. Тады, калі ён сур'ёзна бярэцца за тэму блізкую, з-пад яго пяра выходзяць празрыстыя, паэтычныя радкі:

Перад нядзеляй —
паглядзелі б! —
О, як нядзеляцца суседзі!
На агарод спяшаюць шпарка,
Бярэмы дроў на іх руках,
Дыміцца лазня, як цыгарка,
І парай пахне ў паплавах.
У печцы грэецца жалеза,
І калі стане медзяком,
Дык качаргой яго паджэляць
І — у ваду...

Крышку псуе верш «Лазня суседа» канцоўка, дзе Я. Крупенька, каб быць больш «сучасным», піша:

Памаладзелыя,
выходзяць на ганак,
Выходзяць з лазні —
кашулі наросхрыст —
І пытаюць:
**— Ці ёсць там... у Ганны?**

Ганна тут толькі для таго, каб падабраць рыфму пад «ганак».

Верш «Лазня суседа» не адзіны ў кнізе. З багатай палітры чэрпае паэт фарбы ў вершы «Вячэрняя чырвань»:

Ты заходзіць, сонца, не спяшы,
Не гасі пажар на небакраі.
Цішыня. Адзін я. Ні душы.
Прэч, трывога! Чуеш? Праганяю.
Ноч засела ў чорнай барадзе.
Дай ёй, сонца, свой чырвоны
колер —
І трывога чорная спадзе
З чорных думак і чырвоных
коней.
Я — адзін. Кругом — чырвоны
стэп.
І табун чырвоны мой пасецца.
Буду есці я чырвоны хлеб,
На чырвоных травах буду грэцца.

Ёсць у кнізе і яшчэ некалькі вершаў, якія хацелася б адзначыць: «Май у белых маюе садах», «Крычаць шпакі маленькія ў шпакоўнях», «Туман бялёсы ранак цэдзіць» і іншыя. Яны сведчаць, што там, дзе Я. Крупенька піша, не аглядаючыся на другіх,— у яго творах б'ецца пульс паэзіі.

Аўтару трэба і далей развіваць лепшае, што праявілася ўжо ў многіх вершах, і — галоўнае! — хутчэй пазбаўляцца ад сваёй салаўінай бесклапотнасці.

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ.**



**Казімір КАМЕЙША. Восеньскія позвы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ВОКНАМІ Ў АСВЕТЛЕНЫЯ ДАЛІ

На паліцах нашых кнігарань з'яўляюцца новыя кнігі, у крытычных артыкулах і рэцэнзіях—новыя аўтарскія імёны, і гэта не застаецца не заўважаным. Крытыкі ахвотна размяркоўваюць маладых аўтараў па літаратурных «цэхах» — адных залічваюць у цэх Аркадзя Куляшова, другіх — у майстэрню Максіма Танка, трэціх — да Пімена Панчанкі. Атрымліваецца ўнушальна і... наіўна. Няўжо не зразумела, што ўсе без выключэння маладыя аўтары арганічна засвойваюць творчыя здабыткі старэйшых майстроў у адпаведнасці са сваімі творчымі схільнасцямі? Кожны паэт, калі ён паэт сапраўдны,— гэта, у першую чаргу, непаўторны індывідуальны свет. Змястоўнасцю, маляўнічасцю і шматгалоссем гэтага свету, відавочна, і трэба вымяраць здольнасць таго ці іншага маладога пісьменніка. Зразумела, далёка не ўсе заяўляюць пра сябе адразу акрэслена і выразна. Іншаму спатрэбіцца пэўны час, каб разабрацца, дзе яго сапраўдны паэтычны аблог.

Казімір Камейша прыйшоў у паэзію ў той час, калі скрыжоўваліся самыя разнастайныя стылёвыя плыні. Таму ў яго вершах аслабленыя адгалоскі фальклорных матываў прасякнуты ўскладнёнай асацыятыўнасцю, маналагічныя споведзі побач з вершамі прамоўчага плану, жанравыя сцэнкі — з інтымнымі лірычнымі намёкамі. На жаль, спробы матэрыялізаваць у слове свае эмоцыі і данесці іх да чытача, не заўсёды бываюць удалыя. Паэт мала клапоціцца пра завершанасць кожнага малюнка, ён нібы спадзяецца, што стракатасць фарбаў сама па сабе надасць прывабнасць твору.

Але пачнём па парадку.

Хто не пісаў пра кірмашы! Прыгадаем хоць бы тое, як коласаўскі дзядзька Антось выбіраў касу, або кірмашовыя сцэны з куляшоўскай «Песні аб слаўным паходзе». Гэта віратлівыя натоўпы, дзе ў кожнага чалавека непаўторнае аблічча, насычаны нейкім магнетызмам: яны так і просяцца на пяро. Казімір Камейша знайшоў свае фарбы не толькі таму, што яго малюнак сучасны («з-за цёплых бочак-трыбун гучаць дзядзькоў прамовы»),— ён узняў гэтую мурашыную варухлівасць натоўпу над клопатамі, «што

дарагое і што дзяшовае», і таму можа запытацца ў дзеда, ці «прывёз налібоцкага ветру ў бочцы», а на яблыку колішняга дзядзькі-суседа, у чый сад некалі наведваўся, убачыць добрую, хітрую ўсмешку.

Трэба таксама мець уражлівае сэрца і пільны зрок, каб спыніць увагу на такім малюнку:

...У адным адзінокім двары,
Над каменнем сівым нахіліўшы
грудзі,
Жменю іскраў крупістых
высякаў стары.

Гэта — майстра помнікаў, які бачыць уцеху ў тым, што можа прадоўжыць памяць аб добрых людзях.

Жалобна-прасветлены настрой верша заканчваецца такім высокім акордам:

І памёр ён аднойчы,
над каменнем седзячы,
З іскрай высечанай у вачах.

Ці трэба гаварыць, што сама тэма вымагала ад паэта душэўнага такту. Лёгка можна было б упасці альбо ў сентыментальнасць, альбо ў абыякавую бесклапотнасць. Паэт жа абраў суровую чалавечнасць — і не памыліўся.

Аб злітнасці чалавека з прыродай напісаны вершы «Смерць дзеда» і «Зіма». Праўда, другі верш псуе штучны радок, які ніяк не стасуецца да дзіцячага светаўспрымання: зіма — «пяшчотная, як у вершах паэтаў». Адвольнасць, кніжнасць параўнанняў тады і пачынаецца, калі аўтар імкнецца запоўніць імі прабелы зместу. І гэта зразумела. На хадулях ходзяць па лужынах, але не фарсіруюць рэкі. Так і ў паэзіі.

Калі Казімір Камейша гаворыць аб тым, што яго сапраўды ўразіла, ён знаходзіць і натуральныя словы. Але, стаўшы ў позу глыбакадумнасці, ён імгненна траціць прастату. Тады ў яго можна прачытаць, што «гула, як вайна, са скрыгатам (?!) рана» («Бярозы»), што «шклянкі разбіваюцца на дне ў сэрцы» («Калі крычыць застолле»), што «адных, як дровы, хуткасць паламала» («Даруй мне, свет»), што дзяцінства «сышло, як цягнік, аднойчы з рэек, пакінуўшы нам успамінаў вагоны адны» і «раны ўсе, што граззю сочацца» («Восеньскія позвы») і г. д. Думаць, што гэта апіскі, не даводзіцца, па-першае, таму, што іх многа, па-другое, таму, што за імі ўгадваецца свядомая ўстаноўка: здзівіць, аглушыць чытача незвычайнасцю параўнанняў. Імкненне да яркасці — рыса добрая, але важна, каб метафары былі лагічнымі, не ўзаемавыключаліся, а дапаўнялі адна адну.

Параўнаўшы ў вершы «Старая скрыпка» футарал з трунай, аўтар хоча давесці, што «кагосьці гэтая музыка выратуе». Але як гэта робіцца? Спачатку «дзіцячым прарэзлівым крыкам закрычыць у чыейсьці руцэ (?!) струна», пасля «смыком асцярожна кране, быццам рану», і, нарэшце, «пральюцца, як лівень, раптоўна гукі». Дзіцячы крык, рана, лівень — усё гэта, мякка кажучы, з розных опер, і суладная музыка не магла атрымацца.

Верш «Зноў фіранкамі неба патушана» напісаны па вельмі пашыранаму цяпер трафарэту:

Адпачніце, ногі, ад туфляў,
Адпачніце, туфлі, ад ног;
Ад дарог адпачніце, шыны,
Адпачніце, дарогі, ад шын...

Вар'іруючы перамяшчэнне розных прадметаў, можна яшчэ напісаць некалькі старонак, каб у фінале выгукнуць з уяўнай глыбакадумнасцю:

Толькі ты, маё сэрца,
ад вернасці
Ні хвіліны не адпачывай.

Аўтар не заўважае, што высокае чалавечае пачуццё неасцярожна прыраўняў да запыленых туфляў. Пагоня за знешняй асацыятыўнасцю прывяла да недарэчнасці.

Пра гора салдацкіх удоў многа напісана і многа напішацца. Гэта—маці аднагодкаў паэта, і ён таксама хацеў сказаць пра іх:

Усё яшчэ трывогі па начах.
Забытае... Яно пры вас, удовы.
І слёзы душаць вас, нібы удавы...
. . . . . . . . . . . . .
А караблі ўспамінаў зноў і зноў
Прыходзяць...

Удавы... Караблі... Далей чытаць не хочацца.

Запамінаюцца прыватныя падрабязнасці ў вершы «Будоўля», накшталт: «тросся вібратар амаль ліхаманкава», «выцершы нос рукавом прамасленым», нават пажаданне, каб «лесвіцы ўгору шчасліва бегалі, як Маякоўскага вершаў радкі». Апошняе сказана не нова і не зусім зграбна (радкі ўсё-такі ўніз «бегалі»), але думку аўтара можна ўлавіць. Толькі адкуль тут узяўся цень Пятра Першага?

«Я цяжка ступаў, нібы Пётр Першы».

Думаецца, абедзве гістарычныя асобы не ўзрадаваліся ад такога суседства: занадта самаўпраўна звёў іх паэт на адной будаўнічай пляцоўцы. Верш разбураецца, яго не ратуе нават выдатная сама па сабе рыфма «пабудаваць — пабедаваць».

У свой час маладыя рабочыя справядліва абураліся яўтушэнкаўскім вершам, дзе рыфмаваліся Верачкі з вербачкамі: там яўна праглядвала пагардлівасць да чалавека працы, якога паэт намерыўся ўславіць. Казімір Камейша рыфмуе Грунечак з грузчыкамі, дазваляе сабе пісаць так:

Увабраць гэта сонца,
як пот у поры.

Або:

Ён (маладзік — С. Г.) акна
шакаладную плітку
Аж да ранку будзе смактаць.

Ці:

Букет струменяў пералівісты
Шугнуў, падобна рысаку.

Гэта самая звычайная манернасць. Можна было б прывесці яшчэ некалькі дзесяткаў падобных прыкладаў, але абмяжуемся напаследак адным. Аўтар піша: «маленькі гарадок — прастор для плеткароў і цесна для кахання». Няўжо для выяўлення пачуцця прыдатныя толькі сталічныя гарады? Як жа тады ўхітраюцца івянецкія ганчары гуляць свае вяселлі з такім размахам, каб аж лясам было горача?

Казімір Камейша выйшаў на сваю самастойную дарогу. Ён сустрэне тут і ціхія вёскі, і шумныя сталіцы. У вёсцы, і ў горадзе ён здолее напоўніць сваю паэтычную кайстру. Аднак хочацца добразычліва папярэдзіць цікаўнага падарожнага — не спыняйся ля кіёскаў, дзе з выцвілых глянцавітых вокладак падміргваюць тыражаваныя прыгажуні. Ідзі смялей да тых, у каго пад рабочым загарам можна ўбачыць непаўторна прывабны твар.

Сцяпан **ГАЎРУСЁЎ.**



**ПРОЙДУЦЬ ГАДЫ. Нарысы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# СВЕДКІ ЧАСУ

Мастацкі летапіс нашай рэспублікі папоўніўся новымі старонкамі. Выйшаў калектыўны зборнік нарысаў пра людзей, што ствараюць індустрыяльную славу Беларусі.

Шафёру Макару Шаховічу дырэктар леспрамгаса прапанаваў прыстасаваць свой лесавоз пад вывазку збожжа і перадаць яго Сяргею Саўчыцу, якога меркавалі паслаць на ўсход убіраць ураджай. Але Макар, каб не давяраць свой грузавік нядбайнаму чалавеку, нечакана для ўсіх сам згаджаецца паехаць у далёкія краі. Смеласць і настойлівасць не маладога ўжо чалавека, які нядаўна перанёс хваробу, здзівіла дырэктара. Але Макар Міхайлавіч не ўмее пускаць словы на вецер. Не адступіў ён ад свайго намеру і на гэты раз... Вось у такім напружаным тэмпе, дынамічна развіваюцца падзеі ў нарысе Уладзіміра Мяжэвіча «Паядынак».

Разгортваючы сюжэт далей, У. Мяжэвіч ставіць свайго героя ў яшчэ больш складаныя сітуацыі, у якіх глыбей раскрываецца яго характар. Макар возіць збожжа з далёкіх калгасаў Прыангар'я па цяжкадаступных горных дарогах. Выпадковая сустрэча з Сямёнам Шкарутам, былым сябрам, цяпер дырэктарам леспрамгаса, садзейнічае таму, што ў Макара выспявае рашэнне застацца ў новай мясцовасці назаўсёды. Ён пачынае працаваць шафёрам леспрамгаса, праяўляючы вялікую спрактыкаванасць і кемлівасць. Усё гэта паказана на канкрэтных жыццёвых эпізодах і фактах. Адзін з іх — сутычка Макара са злодзеем і нахабнікам Даўгілычам — даў пачатак самастойнаму сюжэтнаму адгалінаванню. Шкада, што гэта лінія не распрацавана да канца. Але і тыя штрыхі і дэталі, якія выкарыстоўвае аўтар, сведчаць пра яго добрае ўменне лаканічна і пераканаўча перадаць барацьбу ў душы чалавека. Нарыс нясе ў сабе адзнакі мастацкага твора, у ім ёсць канфлікты, спроба ляпіць характары.

Цікава чытаецца змешчаная ў зборніку цэхавая хроніка Валянціна Мыслівуца «Сябры-таварышы», напісаная ў выглядзе лірычных нататак рабочага-мадэльшчыка завода аўтаматычных ліній. Па сваіх жанравых прыкметах рэч гэтая бліжэй стаіць да дакументальнай аповесці, чым да нарыса. Тэхнічныя праблемы сённяшняга дня, чалавечы гуманізм, каханне, лёс людзей, насычанасць будзённымі фактамі,— усё гэта надае хроніцы надзённасць, жыццёвую паўнацэннасць і шчырасць. Як і жадаў аўтар, матэрыял у творы «проста і складна лёг на паперы, жывымі галасамі гавораць у ім людзі». Усё гэта сведчыць пра тое, як павышаецца мастацкая вартасць твора, калі аўтар здольны адысці ад схематычнага, прымі-

тыўнага падыходу да адлюстравання рабочага жыцця і ўмее дакументальны матэрыял уцягнуць у рэчышча займальнага і нават захапляючага сюжэта.

Смелае журналісцкае ўваходжанне ў жыццёвы матэрыял паказалі ў сваіх нарысах і некаторыя іншыя аўтары. Далёкімі і разнастайнымі маршрутамі, цікавымі сустрэчамі з людзьмі шчодра узнагародзіла жыццё геолага-журналіста Васіля Якавенку. Блізкія кантакты з рабочым асяроддзем далі пачатак яго задуме намаляваць воблік калектыву—атрада разведчыкаў, занятых пошукамі каштоўных глін (нарыс «Вясёлка на гліне»). Асабістае знаёмства з людзьмі з'явілася штуршком і для стварэння вобразаў мантажнікаў нафтавых вышак у Прыпяцкай даліне (нарыс «Палескі вышкар») і буравікоў мазырскай разведачнай канторы («Стальная калона»).

Васілю Якавенку не трэба хадзіць па аб'ектах і выпытваць у людзей пра тэхналогію нафтабурэння — яму самому ўсё гэта добра вядома. Таму, паказваючы работу нафтавікоў, яму ўдаецца пазбегнуць павярхоўнай ілюстрацыйнасці. Праз тэхнічныя апісанні аўтар умее неяк заглыбіцца ў чалавечыя характары, пранікнуць у клопаты і думкі людзей працы. У нарысах выразна адчуваецца асоба апавядальніка, і гэта стварае магчымасць мацней зніставаць асобныя эпізоды нарыса. Лірычны струмень аб'ядноўвае фрагментарныя малюнкі ў адно цэлае, надае творам закончанасць і кампазіцыйную стройнасць. Апрача ўсяго іншага, адметнымі рысамі В. Якавенкі-нарысіста з'яўляюцца жыццерадаснасць, уменне знайсці свежыя выяўленчыя фарбы, трапна заўважыць і скарыстаць жывую гаворку рабочага чалавека.

Крыху асобна стаіць у кнізе нарыс Анатоля Кудраўца «Салігорская песня». Гэта — лірычны эцюд, у аснову якога лёг выпадак, вельмі характэрны для чалавека, акрыленага рамантыкай юначых мар. Па пранікненню ў чалавечую псіхалогію, па займальнасці сюжэта і багаццю выяўленчых сродкаў нарыс набліжаецца да апавядання. Гэта сведчыць пра вялікія мастацкія магчымасці баявога аператыўнага жанру, якім з'яўляецца нарыс.

Аднак не ўсім нарысам зборніка ўласцівы глыбокі змест і высокая мастацкасць. Нарысу Алеся Бяржынскага «Чыстая вышыня», напісанаму ў форме дзённіка маладога камуніста Андрэя Савіцкага, які прайшоў шлях ад простага рабочага да майстра трэста, шкодзіць празмерная ўзнёсласць. У аснову нарыса Анатоля Астрэйкі «Песні тапалінага краю» лягло знаёмства з майстрам ваўкавыскага цэментнага завода Людмілай Нішчатой. Твор мае той жа недахоп, што і «Чыстая вышыня» А. Бяржынскага: у ім лірычныя адступленні і пейзажныя замалёўкі вельмі слаба звязаны з фактычным матэрыялам. Гэта наводзіць на думку аб тым, якую шкоду мастацкаму паказу нашага сучасніка наносіць штучны аўтарскі пафас, празмерная «рамантычнасць». Ілжэпатэтыка, лірыка слоў, а не фактаў — за гэтым часта хаваецца няўменне ці нежаданне намаляваць чалавечыя характары ва ўсёй іх складанасці і шматграннасці. Выклікае здзіўленне хоць бы такі эпізод, узяты з нарыса А. Астрэйкі: у змене майстра арганізавалі курсы па вывучэнню бетоннай, сталярнай і арматурнай справы, і ўжо праз месяц «не пазнаць стала членаў брыгады. Адзін аднаго замяніць маглі ўчарашнія школьнікі, няўмекі сталі добрымі майстрамі».

Асноўная каштоўнасць нарысаў Браніслава Спрынчана «Рыбак», Валянціна Лукшы «Працяг дзвінскай легенды», Івана Шальманава «Гарывада» ў тым, што яны нясуць багата інфармацыі пра індустрыяльнае жыццё рэспублікі. У першым з іх расказваецца пра клопаты аднаго з лепшых рыбакоў Браслаўшчыны Змітра Данілава; другі паведамляе пра стваральную працу будаўнікоў з брыгады Анатоля Гушчы на Наваполацкім нафтабудзе; з трэцяга чытач даведваецца пра першаадкрывальнікаў беларускай нафты на Палессі. На жаль, далей простага пераліку фактаў аўтары не пайшлі. А там, дзе яны імкнуцца намаляваць характары людзей, іх барацьбу з цяжкасцямі, робяць гэта скорагаворкай і агульнымі словамі.

Параўноўваючы нарысы, змешчаныя ў зборніку «Пройдуць гады», можна прыйсці да вываду, што ў тых творах, дзе зместам становяцца не толькі падарожжы і прыгоды герояў, а і супярэчнасці іх лёсу, рэальныя жыццёвыя канфлікты, там дзеянне развіваецца інтэнсіўна, характары выступаюць больш акрэслена і выразна. У нарысах жа апісальна-падарожніцкіх героі выглядаюць статычна, хоць аўтар і спрабуе лірычнымі адступленнямі ажывіць малюнак.

Самым правільным крытэрыем ацэнкі работы журналіста і адначасова самым строгім экзаменатарам яго з'яўляецца час. Пройдуць гады, і лепшыя нарысы зборніка не страцяць свайго значэння, як жывыя сведкі часу, што захавалі яго важнейшыя прыкметы. І яшчэ з аднаго боку заслугоўвае пахвалы кніга «Пройдуць гады»: у апошні час важныя грамадскія праблемы і цікавыя характары сучаснікаў даследаваліся нарысістамі пераважна на матэрыяле вёскі. У гэтым жа зборніку ёсць удалыя спробы стварыць вобразы рабочых, намаляваць партрэты людзей, чыімі працавітымі рукамі Беларусь ператварылася ў краіну высокай індустрыі, паставіць перад грамадскасцю важныя пытанні з жыцця рабочага класа і тэхнічнай інтэлігенцыі.

**Міхась НЯХАЙ.**



**Іван СЯРКОЎ. Мы з Санькам у тыле ворага. Аповесць.Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Пра незабыўныя гады Вялікай Айчыннай вайны, пра цяжкі час фашысцкай акупацыі, пра нялёгкае дзяцінства вясковых хлапчукоў — гэтая аповесць. Сітуацыя ў нашай літаратуры не новая. Падарожжы ў краіну свайго дзяцінства рабілі многія пісьменнікі. І тым не менш, прачытаўшы кнігу Івана Сяркова, адчуваеш радасць ад сустрэчы з цікавым дзіцячым пісьменнікам.

Аднойчы Рахманінаў на пытанне Станіслаўскага, у чым ён бачыць асноўную цяжкасць прафесіі кампазітара, адказаў, што галоўнае — гэта не закранаць чужыя клавішы. Вось так, думаецца, і ў дзіцячай літаратуры. Як гэта важна, калі пішаш для дзяцей, не сфальшывіць, не выйсці за межы дзіцячага ўспрымання, не прымушаць свайго маленькага героя думаць і дзейнічаць па-даросламу. У гэтым, відаць, і заключаецца тая славутая спецыфіка твораў для дзяцей, на якую яшчэ сёй-той любіць рабіць скідку, разважаючы са спагадлівай інтанацыяй пра дзіцячую літаратуру.

Іван Сяркоў добра ведае і разумее асаблівасці дзіцячай псіхалогіі, дзіцячага ўспрымання. Абраўшы прыём апавядання ад першай асобы, ён глядзіць на свайго героя не з вышыні цяперашняга, жыццёвага вопыту. Усё, што адбываецца ў кнізе, мы бачым праз успрыманне дзесяцігадовага хлопчыка. Мы глядзім на свет яго вачыма, адчуваем — яго сэрцам.

Сюжэт аповесці просты. Вясковыя хлапчукі Ваня і Санька ў першыя месяцы вайны апынуліся ў тыле ворага. Скончылася мірнае жыццё, школа, гульні і забавы, пачаўся цяжкі час акупацыі. Хлопчыкі хочуць змагацца з ворагам, але дарослыя не расказваюць ім пра свае справы. Тады хлопчыкі самі пачынаюць помсціць ворагу. Яны робяць жалезныя швайкі, якімі можна будзе непрыкметна пракалваць шыны фашысцкіх аўтамабіляў. А калі немец загадвае ім напаіць свайго каня, яны, дачакаўшыся, калі той знік за варотамі, дзейнічаюць рашуча: адзін — кулаком па храпе, другі — вядром у зубы біцюгу. Вельмі пераканаўчая яна, гэтая дзіцячая нянавісць і гэтая помста. А самае галоўнае, што за гэтымі, здавалася б, на першы погляд, бяскрыўднымі ўчынкамі мы бачым нашых, савецкіх дзяцей, іх патрыятызм і смеласць у барацьбе з ворагам.

У аповесці хлопчыкі робяць і больш сур'ёзныя справы: памагаюць раненаму камісару, запасаюцца зброяй, а трапіўшы ў рукі гітлераўцаў, паводзяць сябе, як сапраўдныя героі.

Удачай аўтара з'яўляецца вобраз Ваневай бабулі — цёці Моці. З выгляду злосная, буркліваая, усім незадаволеная, яна на самой справе ласкавая і спагадлівая, у яе чулая душа, добрае сэрца. Не ведаючы адпачынку, заўсёды ў рабоце, у клопатах, кожны дзень робіць яна сваю непрыкметную справу, дзякуючы якой і выжываюць у часіну фашысцкай навалы яе ўнукі.

Аўтару ўласціва добрае пачуццё гумару. Ці не парадаксальна гэта: чорная ноч фашысцкай акупацыі, і раптам — гумар... Не, ніякага парадоксу ў гэтым няма — ва ўсе часы побач з трагедыяй жыццё пасылала людзям і ўсмешку. Прывяду хоць бы такі прыклад.

Аднаго разу, калі бабуля Моця несла ваду, падскочыў да яе немец, выхапіў з рук вядро, выплюхнуў ваду і шпурнуў на сваю падводу. Бяжыць бабуля следам, просіць немца, каб вярнуў вядро. А той разззлаваўся і крычыць: «Цурык!» Не сунімаецца старая — ёй шкада вядра, цяпер такое ні за якія грошы не купіш: «Навошта мне твой цурык? Ты мне, нехрысць, вядро вярні!» Немец здымае з шыі аўтамат. «Каб ты ўтапіўся ў гэтым вядры, ідал!» — крычыць бабуля ўслед немцу і вяртаецца дадому. А дома шкадуе: «Вось дурная дык дурная! Трэба было хоць той цурык узяць, пакуль даваў. А цяпер ні вядра, ні цурыка...»

Уся аповесць напісана ў мажорным ключы. Таму яе фінал, прасякнуты горыччу і болем, хоць сам па сабе прымальны і заканамерны, але не зусім сугучны з агульнай аптымістычнай накіраванасцю твора.

Адчуваецца і кампазіцыйная незавершанасць твора. Падзеі хоць і паказаны ў паслядоўнай і лагічнай сувязі, але адсутнасць кульмінацыі пазбаўляе аповесць той унутранай, схаванай спружыны, якая павінна рухаць дзеянне з нарастаннем. Нават канцоўка аповесці ўспрымаецца даволі ўмоўнай кропкай. Аўтар як бы не ставіць кропкі. Пасля апошняга раздзела — «Бацькава пісьмо» — можна дабаўляць новыя раздзелы, скажам, «Мы ў новай школе», «Бацька прыехаў!» і г. д.

Незавершанымі выглядаюць і асобныя сюжэтныя лініі. Аўтар быццам не давярае натуральнаму развіццю падзей і «пад заслону» робіць непераканаўчыя сюжэтныя ходы. Так, напрыклад, адбылося з дзедам Міронам. Гібель яго не падрыхтавана ні лагічна, ні псіхалагічна. Ужо не кажучы пра тое, што гэта чамусьці не выклікае ў Вані ніякіх эмоцый. А Ваня ж разам з Санькам памаглі ў свой час дзеду Мірону выратаваць камісара Чырвонай Арміі, і наогул вельмі паважалі старога за яго смеласць і мужнасць у барацьбе з гітлераўцамі.

Ёсць у аповесці раздзелы, дзе апавядаецца пра тое, як Санька трапіў у рукі фашыстаў. Ваня, ад імя якога вядзецца апавяданне, пры гэтым не прысутнічаў, але расказвае з такім веданнем справы, быццам усё бачыў на свае вочы. Пазбаўленыя так званага «эфекту прысутнасці», раздзелы гэтыя выпадаюць з агульнай тканіны твора.

Не ўпрыгожвае аповесць і мова. Вельмі часта, асабліва ў аўтарскіх апісаннях, яна сухая, малавыразная, дыстыляваная. Праўда, гэтага нельга сказаць пра мову герояў аповесці, асабліва бабулі.

Аповесць «Мы з Санькам у тыле ворага» яшчэ далёкая ад дасканаласці. Гэта першы твор маладога аўтара, у якога, аднак, ёсць галоўнае — пільнае пісьменніцкае вока і любоў да дзяцей. Трэба спадзявацца, што першая кніга не будзе апошняй.

**Уладзімір ЛАЎРОЎ.**

У бліжэйшых нумарах
з новымі вершамі выступяць
Барыс БЕЛІЖЭНКА,
Вера ВЯРБА,
Іван КАЛЕСНІК,
Віктар РАКАЎ.

**Будуць надрукаваны апавяданні
Віктара КАРАМАЗАВА,
Алеся МАСАРЭНКІ,
Навума ЦЫПІСА.**

● Віктар МАРТЫНАЎ
● Арнольд МІХНЕВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

### УСХОДНЕСЛАВЯНСКАЕ МОЎНАЕ АДЗІНСТВА

Першая міграцыя славян была накіравана на ўсход. Праз Прыпяцкае Палессе яны выйшлі на Дняпро і паступова занялі вялікую тэрыторыю ў басейне гэтай ракі. У першых звестках усходнія славяне выступаюць пад назвай анты. Анты, паводле гэтых крыніц, жылі ў чацвёртым-шостым стагоддзях паміж Дняпром і Днястром. Як далёка распасціралася гэтая тэрыторыя ў паўночным кірунку, невядома. Існуе думка, што паўночна-ўсходнеславянскія плямёны (славяне і вяцічы) прыйшлі пазней (пасля шостага стагоддзя) у выніку другой міграцыі з ляхіцкіх (прапольскіх) зямель. Сама назва «вяцічы» паходзіць ад **ventiči* (<venti), пра якіх пад назвай «вянеды» пісалі старажытныя аўтары. Вянеды, паводле гэтых крыніц, жылі першапачаткова ў басейне Віслы. Менавіта з вянедамі, або вянетамі, упершыню сустрэліся фіны, на мове якіх рускія — *венэйа* (з больш старажытнага *венэт*).

Продкі ўсходніх славян, якія пачалі сваю міграцыю з раёна заходняй часткі Прыпяцкага Палесся, у працэсе асваення тэрыторыі на ўсход ад гэтага раёна павінны былі асіміляваць шэраг неславянскіх плямёнаў. Тэрытарыяльныя суадносіны этнічных груп вакол Прыпяці перад пачаткам першай міграцыі славян можна паказаць з дапамогай наступнай схемы: (гл. клішэ).

БАЛТЫ
ФІНЫ
ПРЫПЯЦЬ
СЛАВЯНЕ
ІРАНЦЫ

Няцяжка заўважыць, што ў першую чаргу павінны былі асіміляваацца балты і іранцы. На балтыйскім субстраце, г. зн. на тэрыторыі, якую займалі прыдняпроўскія балты, узніклі ўсходнеславянскія плямёны — продкі сучасных беларусаў. На іранскім субстраце — усходнеславянскія плямёны, продкі сучасных украінцаў. Гэты працэс адбываўся ўжо ў першых стагоддзях нашай эры. Пасля шостага стагоддзя пачалася асіміляцыя фінскіх плямёнаў, якая прывяла да ўзнікнення ўсходнеславянскіх плямёнаў — продкаў сучасных рускіх.

Вядома, што тры ўсходнеславянскія народнасці ўзніклі значна пазней (першая палова другога тысячагоддзя нашай эры) у выніку вельмі складаных сацыяльных і эканамічных працэсаў. Што ж датычыць першых стагоддзяў нашай эры, мы можам гаварыць толькі пра іх далёкіх продкаў — усходнеславянскія плямёны.

У далейшым усходнеславянскія плямёны заснавалі шэраг саюзаў, што пазней прывяло да ўзнікнення Кіеўскай дзяржавы.

Паступовае аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямёнаў стварала спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення агульных моўна-культурных рыс. Што датычыць мовы, то да такіх рыс трэба аднесці наступныя: словы ва ўсходнеславянскіх мовах характарызуюцца моцным і рухомым націскам. Гэта значыць, што склад пад націскам вымаўляецца мацней за іншыя склады, у якіх галосныя вымаўляюцца няпоўна. Для ўсходнеславян-

Працяг. Гл. часопіс «Маладосць» № 7.

скіх моў характэрна так званае поўнагалоссе (гукаспалучэнне *оро, оло* на месцы заходнеславянскага *ро, ло* і паўднёваславянскага *ра, ла,* якія ўзыходзяць да праславянскага **or, *ol*).

Усходнеславянскія мовы страцілі насавыя галосныя, на месцы якіх узніклі *у* і *я* (*а* з мяккасцю папярэдняга зычнага).

Праславянскія спалучэнні **tj, *dj* перайшлі ў *ч, ж (свяча, мяжа),* а пачатковае **je* — у *о (восень).*

Нарэшце, апошні працэс (дванаццатае стагоддзе), які характэрны для ўсіх усходніх славян — гэта знікненне так званых слабых ненаціскных ераў (ъ, ь) і пераход іх пад націскам адпаведна ў *о, е (сон-сна, дзень-дня).*

Можна таксама прывесці і шэраг агульных рыс у галіне граматыкі і лексікі, якія аб'ядноўваюць усіх усходніх славян. Большасць гэтых рыс узнікла яшчэ ў дагістарычныя часы, некаторыя пазней. Усе яны сведчаць аб моўнай кансалідацыі ўсходніх славян, аб тым перыядзе, які для гістарычных часоў прынята называць праeasкай супольнасцю.

АБЦАС. З польскага *обцас,* якое ў сваю чаргу з нямецкага *абзатц* з тым жа значэннем, але з метатэзай зычных гукаў у корані.

АПАНТАНЫ. Запазычана з польскай мовы *(опонтаны* — аблытаны), пра што сведчыць фанетычнае аблічча слова: корань мае насавое *о.*

БАДЗЯГА. Слова выключна беларускае. Корань яго балтыйскага паходжання. Параўнайце літоўскае *бадас* — голад. Утворана беларускае *бадзяга* па словаўтваральнаму тыпу, да якога належыць рускае *бродяга.* Абодва словы маюць аднолькавую суфіксацыю. Сюды ж адносіцца і дзеяслоў *бадзяцца.*

ВЫДЫГАЦЬ. Параўнаўшы гэта слова з дзеясловам *удыгаць,* які мае тое ж значэнне — падлабуньвацца, падлізвацца, лёгка выдзеліць зыходны дзеяслоў *дыгаць.* Параўнайце рускае *дыгать* — хістацца, паддавацца, украінскае *диготати* — уздрыгваць. польскае *дыгаць* — вітаць, робячы прысяданне. *Дыгаць* ~ старажытнаверхненямецкае *туххан* — акунацца, хавацца (пра сонца), англійскае *дак* — тое ж самае.

ВЕРШ. З лацінскага *вэрсус* — рад праз польскае *верш.*

ВЫПАДАК. Утворана ад дзеяслова *выпадаць.* Параўнайце такі ж семантычны пераход у нямецкай мове: *фаль* — выпадак < *фаллен* — падаць.

ГЛЕЙ. Праславянскае **glьjь.* Індаеўрапейскія паралелі: сярэдненіжненямецкае *клеі* — гліна, старажытнагрэчаскае *гліа* — клей, *глоіос* — брудны, слізкі, літоўскае *гліте* — выдзяленне з носу. Да гэтага ж кораня (з іншым суфіксам) належыць і *гліна.*

ГОНАР. Слова запазычана з лацінскага *хонор* у тым жа значэнні, магчыма пры польскім пасрэдніцтве.

ДЗВЕРЫ. Старажытнабалгарскае *двьри* (адзіночны лік *двьрь*), чэшскае *дверже,* польскае *джві,* верхнелужыцкае *дуре,* славенскае *дурі* < праславянскай формы **dvьrь* (адзіночны лік), якая з'яўляецца аблаўтнай формай да **dvorъ* (параўнай *двор, падворак* і г. д.). Індаеўрапейскія паралелі: лацінскае *форэс* — падвойныя дзверы, г. зн. з дзвюх брамак, албанскае *дэрэ* — дзверы, нямецкае *тюр* — дзверы, старажытнаіндыйскае *дварам* — вароты і г. д.

ЁЛКІ. Усходнеславянскі прыметнік (у польскай мове з беларускай). Надзейнай этымалогіі не мае. Па адной з гіпотэз праўсходнеславянскае **jьlъkъ* звязана з індаеўрапейскім **el-/*ol-* — псавацца, гнісці, плеснець. Параўнайце нарвежскае *ул* — сплеснелы, шведскае *ул* — з'ялчэлы, літоўскае *алмес, елмес* — трупная вадкасць.

ЗВАДЫЯШ. Марфалагічны склад слова такі: *з-вад(ы)-яш.* Корань *вад.* Параўнай рускае *вадить* — спрачацца, паклёпнічаць, славенскае *ваdіті* — заяўляць, прызнавацца, прывабліваць, чэшскае *ваdіті* — перашкаджаць. Корань гэты роднасны старажытнаіндыйскаму *вадаті* — (ён) гаворыць, выдае, *вадах* — выказванне, спрэчка. У слове *звадыяш* выкарыстан суфікс эмацыянальнай ацэнкі *-яш* (параўнайце рускае *торг-аш*).

ІСТОТА. Першаснае значэнне гэтага слова, вядомае ўсім славянам,— пэўнасць, праўдзівасць, сапраўднасць. Марфалогія слова: праславянскае **istъ* (параўнайце рускае *истый*) + **ota.* Да развіцця сучаснага значэння параўнайце рускае *существо (существо дела)* > *существо (живое существо).*

КАВАЛАК. Корань слова *кавал-*. Запазычанне (праз польскую мову) з сярэдненіжненямецкага *кавэл* — кавалак дрэва, з дапамогай якога вызначалі лёс, гадалі (параўнайце нямецкае дыялектнае *кабэль* — лёс). Паралель у семантычным развіцці можна бачыць у славянскім *жэрабя:* спачатку «лёс»>потым «частка», напрыклад, старапольскае *зьжеб* — лёс>*зьжеб* — надзел зямлі.

КАНАПА. З французскай мовы (праз польскую): французскае *канапэ*<лацінскае *канапэум* < *конопэум* (заслона ад камароў, а потым і ложак з такой заслонай) < < грэчаскае *конопэйон* < *коноп* — камар.

КАЧКА. Ёсць некалькі версій аб паходжанні гэтага слова. Адна грунтуецца на тым, што птушка была так названа за яе паходку: ідзе і качаецца. Па другой — слова ўтварылася ў выніку пераноснага ўжывання скарочанай пяшчотнай формы асабістага імя *Кацярына,* параўнайце чэшскую ласкальную літаратурную форму імя *Кача* і народную *Качэна* (ад *Кацярына*). Хоць і вядомы выпадкі пераносу асабовых імёнаў на жывёл і птушак, усё ж найбольш верагоднай трэба лічыць трэцюю версію пра паходжанне слова *качка* — ад гукаперaймальнага выклічніка, які абазначаў крык гэтай птушкі.

МАСТАК. Калісьці ўсходнеславянскія мовы запазычылі, відаць, з германскай крыніцы слова *мастер,* якое магло мець шэраг розных значэнняў. Ад гэтага слова шляхам «чаргавання суфіксаў» і было ўтворана слова *мастак.* Слова ж *майстар* было, як трэба меркаваць, запазычана з польскай мовы (польскае *майстэр*).

НАГБОМ. Толькі беларускае слова. *Нагбом* < **na-gъb-om*. Корань **gъb* суадносіцца з праславянскім **gybati,* беларускім *нагібаць.* Заканчэнне*-ом* — канчатак творнага склону, які можа станавіцца суфіксам прыслоўя, напрыклад: *вечарам, раптам, цішком.*

ПРЫКРЫ. Агульнаславянскае слова < праславянскага **prikrъ* < **pikr-*. Гэты корань роднасны грэчаскаму *пікрос* — востры, горкі.

ПРАЦА. Лічыцца, што ўсходнія славяне ўзялі гэта слова ў славян заходніх. Праславянскую форму яго ўзнаўляюць як **portja* і супастаўляюць з сербска-харвацкім дзеясловам *пратіті* — суправаджаць, славенскім *пратіті* — суправаджаць, ствараць.

СВІРАН. Гэта слова ёсць у беларускай мове і сустракаецца ў некаторых рускіх і польскіх гаворках,— адзін з доказаў таго, што слова запазычана з літоўскай мовы. Параўнайце літоўскае *свірна, свірнас* — свіран.

ТВАНЬ. Запазычанне з балтыйскіх моў: літоўскае *тванас* — прыліў, паводка < < *твінті* — напаўняцца, пухнуць (пра ваду).

ФЕЛЬЧАР. Праз польскае *фельчер* з нямецкага *фельдшер* — палявы хірург: *фельд* — поле, шерэн (< сярэдневерхненямецкага *шёрн*) — кроіць, стрыгчы.

ХЦІВЫ. Марфалагічна ў слове *хцівы* вылучаюцца корань *хц-* і суфікс *-ів-*. Корань *хц-* той самы, што і ў дзеяслове *хацець,* у дадзеным выпадку выступае з нулявым галосным, а ў розных мовах і розных формах мог мець і іншае аблічча, параўнайце: рускае *хотеть,* польскае *хэнтне* — ахвотна, чэшскае *хуць* — смак, апетыт, ахвота.

ЧАРГА. Запазычанне з цюркскіх моў, параўнайце чагатайскае *черге* — шэраг, рад, лінія.

ШЭРАГ. Старое запазычанне з цюркскіх моў, вядомае не толькі славянскім мовам. Вельмі магчыма, што гэта слова ў розныя, нават суседнія мовы трапляла рознымі шляхамі. Існуе гіпотэза, што руская форма *шеренга* — самая старая і прыйшла з персідскай мовы: *шетрень* < санскрытскага *катур-анга* — войска ў чатыры рады. Па другой версіі, беларускае *шэраг* < польскага *шерег* < венгерскага *шерег* — натоўп < цюркскіх моў (параўнайце турэцкае *чері* — войска і вядомы цюркізм *янычары*).

ЮХТ. Асобны тып апрацаванай скуры, пашыраны ў Расіі. Параўнайце французскае *кюір дэ Рюсі* — юхт, літаральна «скура з Расіі». На Русь (рускае юфть) слова запазычана з персідскага *джуфт* — па́ра (скура апрацоўвалася па́рай). З усходнеславянскіх моў слова пайшло на захад: польскае *юхт,* балгарскае *юфт,* літоўскае *юктас,* нямецкае *юхт* і г. д.

ЯВА. Праславянскае **avě* (*j* прыстаўны) мае такія індаеўрапейскія паралелі: старалітоўскае *овійе* — на яве, старажытнаіндыйскае *авіш* — яўна, старажытнагрэчаскае *аіо* — (я) чую, лацінскае *аугіо* — (я) чую. Значыць, *ява* — гэта тое, што сапраўды існуе і ўспрымаецца пачуццямі. Параўнайце рускае проціпастаўленне *во сне* и *наяву.* Беларускае *ўяўны* можна вытлумачыць як «такі, як у яве», а *ўявіць* — «узнавіць нешта ў свядомасці, як яўнае». На падставе гэтых значэнняў з цягам часу развілося і сучаснае значэнне слова *ўяўны* — не сапраўдны, чыста разумовы, нерэальны.

# НА ШЛЯХУ ДА НЕДАСТУПНАГА

Наша стагоддзе называюць эпохай вялікіх біялагічных адкрыццяў. Новае тэхнічнае аснашчэнне лабараторый, шчыльны саюз біялогіі з фізікай і хіміяй даюць магчымасць вучоным смела змагацца за вырашэнне такіх задач, якія не маглі ставіць перад сабой біёлагі нават на пачатку дваццатага стагоддзя.

Мы раскажам тут пра тыя пошукі і эксперыменты, якія вядуцца ў лабараторыях **Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук БССР.**

## САМЫ ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ

Насельніцтва зямнога шара расце з кожным днём. Натуральна, што павялічваецца і патрэба ў сельскагаспадарчых прадуктах. Зялёны акіян свету стварае штогод каля ста мільярдаў тон арганічных рэчываў, але толькі дзесяць працэнтаў з іх прыпадаюць на долю сельскагаспадарчых раслін.

Павялічыць запасы харчавання можна за кошт павышэння плошчаў пад культурным земляробствам. Аднак, як мяркуюць вучоныя, магчымасці тут не вельмі вялікія. Пасяўныя плошчы харчавання і кармавых культур можна пашырыць усяго толькі ў два-тры разы. Асноўная ж задача заключаецца ў росце ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур, інакш кажучы, у павышэнні каэфіцыента выкарыстання энергіі сонечнай радыяцыі. Людзі даўно імкнуцца да высокіх ураджаяў. Ва ўмовах нашай рэспублікі трыста цэнтнераў бульбы з гектара — гэта багаты ўраджай. Але ёсць гаспадаркі, дзе атрымліваюць па чатырыста і нават па шэсцьсот цэнтнераў. Узнікае пытанне — дзе тая мяжа ўраджайнасці, вышэй за якую ўзняцца ўжо немагчыма?

— Мы яшчэ вельмі далёкія ад гэтай мяжы, — гаворыць загадчык лабараторыі фотасінтэзу доктар біялагічных навук **М. М. Ганчарык.** — Ураджай, як вядома, ствараецца ў працэсе фотасінтэзу. Гэта важнейшы біяхімічны працэс жыўлення раслін, у якім яны засвойваюць энергію сонечнай радыяцыі і пры яе дапамозе з неарганічных злучэнняў сінтэзуюць першасныя арганічныя рэчывы. Гэтая энергія і рухае ўсё жыццё на Зямлі. Ад каэфіцыента карыснага скарыстання раслінамі сонечнай радыяцыі залежаць усе працэсы жыццядзейнасці.

У фотасінтэзе ўдзельнічае не наогул сонечнае святло, а толькі тыя праменні, якія паглынаюцца хларафілам. Аднак і яны не ўсе паглынаюцца зялёным лісцем. Частка іх адбіваецца ад ліста, частка праходзіць праз яго. Найбольшы эфект даюць такія пасевы, калі праменні, якія пройдуць праз верхні ярус лісця, затрымліваюцца наступнымі ярусамі. Таму паверхня



**Міхаіл Мікалаевіч Ганчарык.**

гэтых зялёных ярусаў павінна ў некалькі разоў перавышаць паверхню поля.

Усходы паглынаюць нязначную колькасць сонечнай радыяцыі, але паступова, па меры таго, як растуць лісты ў раслін, павышаецца і ступень паглынання сонечных праменняў.

Доследы, праведзеныя над бульбай, паказалі, што ўраджай 283 цэнтнеры з гектара складае толькі васемнаццаць працэнтаў ад таго, які можна было б збіраць. Максімальны ўраджай бульбы, які вызначаецца законамі паглынання сонечнай радыяцыі, складае 1572 цэнтнеры з гектара. Але і гэта яшчэ не мяжа. Пры пэўных умовах ураджай бульбы можа дасягнуць больш за 2000 цэнтнераў з гектара. Для гэтага трэба стварыць для раслін такія ўмовы, каб ад паяўлення ўсходаў і да ўборкі лісце паглынала не менш пяцідзесяці-шасцідзесяці працэнтаў сонечных промняў.

## БУЛЬБА, ЯКАЯ НЕ ПРАРАСТАЕ

У тры засекі мінскага «Плодагароднінагандлю» насыпалі бульбы, якая з выгляду нічым не адрознівалася ад



**У лабараторыі біяхіміі Ала Кулікова, Міхаіл Масны і Таісія Троіцкая.**

звычайнай. Розніцу ўбачылі толькі вясной. У іншых засеках бульбу трэба было перабіраць, абрываць парасткі, а тая, што захоўвалася ў трох засеках, мела такі выгляд, нібыта яе нядаўна прывезлі з поля. Яна была цвёрдая, без парасткаў, без маршчын. У біяхімічнай лабараторыі інстытута правялі хімічны аналіз—ніякіх адхіленняў ад нормы. Паспыталі на смак—таксама не знайшлі ніякай розніцы.

У чым сакрэт таго, што бульба не прарасла?

Навуковы супрацоўнік **Міхаіл Масны** паказвае прабірку з белым парашком. Гэта і ёсць тое рэчыва, якое затрымлівае працэс прарастання бульбы,—гідразід малеінавай кіслаты. Парашок сінтэзаваны яшчэ ў мінулым стагоддзі, але пра яго ўздзеянне на рост раслін даведаліся нядаўна, каля дваццаці гадоў назад.

У лабараторыі правялі просты дослед. У раствор парашка апусцілі некалькі бульбін і пачалі за імі назіраць. Аказалася, што яны вельмі дрэнна прарастаюць. Потым два гектары бульбы пасадзілі на полі доследнай гаспадаркі «Русінавічы». Пасевы, як звычайна, прабаранавалі, зрабілі акучванне. За тры тыдні да ўборкі бульбоўнік апырскалі водным растворам прэпарату—па два кілаграмы гідразіду на гектар. Пры такой дозе ў клубні на адзін кілаграм сырой бульбы пранікае не больш чатырнаццаці міліграмаў хімікату, а гэта зусім няшкодна. Доследы былі паўтораны на палях калгаса імя Гастэлы пад Мінскам і паказалі добрыя вынікі.

Апрацоўка бульбоўніку гідразідам малеінавай кіслаты патрабуе нязначных матэрыяльных затрат. Такім жа чынам можна затрымліваць працэсы прарастання цыбулі і захоўваць яе працяглы час.

## ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ У РАСЛІНАХ

Электрафізічныя з'явы ў арганізмах жывёлы і чалавека ўжо даўно вывучаюцца. А вось цікавасць да электрычных з'яў у раслінах то разгаралася, то затухала. І толькі ў апошняе дзесяцігоддзе пачалі вывучаць электрычныя сігналы з клетак вышэйшых раслін.

Упершыню гэтым пытаннем у нашай рэспубліцы пачаў займацца аспірант лабараторыі фотасінтэзу **Уладзімір Юрын.** Нядаўна ён вярнуўся з Кішынёва, дзе праходзіў першы Усесаюзны калёквіум па электрычных уласцівасцях раслін.

У лабараторыі стаяць акварыумы з водарасцямі. Тут жа мікраскоп, розныя электрычныя прыборы і ўстаноўкі. Ідзе чарговы сеанс прыёму электрасігналаў з расліннай клеткі. Не так проста пранікнуць у сярэдзіну клеткі, не разбураючы яе. Для гэтага патрэбны спецыяльныя мікраэлектроды. Іх даводзіцца вырабляць тут жа, у лабараторыі.

У камеру, праз якую праходзіць спажыўны раствор, змяшчаюць клетку водарасці нітэлы. На клетку накіраваны мікраскоп, каб убачыць, у якое месца клеткі трапіць мікраэлектрод. Да вонкавай абалонкі клеткі далучаюць звычайны электрод. Цяпер ужо можна ўлавіць электрычнасць, якую клетка выпрацоўвае ў працэсе сваёй жыццядзейнасці.

Электрычныя сігналы з клеткі вельмі слабыя. Іх узмацняюць, а потым запісваюць на электронна-аптычным прыборы. Кожная клетка водарасцей можа даваць токі ў 140 і нават у 200 мілівольт.

Вывучэнне электрафізіялагічных уласцівасцей расліннай клеткі паможа вучоным разгадваць складаныя працэсы, якія ідуць унутры яе. Гэта дазволіць рэгуляваць паступленне розных рэчываў у клетку, бачыць вынікі іх станоўчага ці адмоўнага ўздзеяння на раслінны арганізм, распазнаваць ранція захворванні.

Біёлагі працягваюць пошукі. Новыя метады даследавання дазваляюць глыбей пазнаваць многія працэсы, якія адкрыты ўжо даўно, але да гэтага часу не выяўлены заканамернасці, што ляжаць у аснове іх развіцця.

**Васіль СВЯТЛОЎ.**

# ДАРОГА ВАКОЛ СВЕТУ

«Паколькі мне дакладна вядома... што на астравах Малука ёсць вострыя прыправы,— пісаў Магелану іспанскі кароль Карл I (ён жа быў германскім імператарам Карлам V),— я пасылаю Вас галоўным чынам на іх пошукі, і мая воля такая, каб Вы накіраваліся проста на гэтыя астравы».

Атрымаўшы загад караля, Магелан пачаў старанна рыхтавацца да падарожжа. На пяці суднах, прызначаных для гэтай мэты, рамантаваліся снасці, рабіліся запасы вады і правіянту. Нарэшце, 20 верасня 1519 года — чатырыста пяцьдзесят гадоў таму назад — флатылія адплыла з Сан-Лукара (порт у вусці Гвадалквівіра непадалёк ад Севільі). Перасякаючы Атлантычны акіян пад тропікамі, эскадра трапіла ў моцны штыль. Караблі «дрэйфавалі» туды і сюды па акіяне, пакуль не падзьмуў спадарожны вецер».

29 лістапада Магелан дасягнуў крайняга ўсходняга мыса Паўднёвай Амерыкі — Сан-Аўгусціна. Плывучы далей уздоўж узбярэжжа, ён праз чатыры месяцы — у канцы сакавіка 1520 года — прыбыў у бухту Сан-Хуліян на Патагонскім узбярэжжы. Усю восень і зіму, вясну і лета знаходзіліся тут караблі Магелана. Доўгая стаянка ў пустыннай бухце, дзе не было ніводнага чалавека, выклікала нездаволенасць экіпажа. Адно судна было паслана на разведку Паўднёвага ўзбярэжжа, але затанула. Экіпаж цудам уцалеў і пасля шматлікіх прыгод дабраўся да месца стаянкі эскадры.

У канцы жніўня 1520 года чатыры караблі флатыліі пакінулі Сан-Хуліян і паплылі да мыса Дзеў, дзе і адбылося адкрыццё, якое зрабіла імя Магелана бессмяротным.

«І, дзякуючы цуду, мы знайшлі «праліў» ...даўжынёю ў 110 ліг, г. зн. 440 міляў, і выходзіць ён у другое мора, што называецца Ціхім»,— пісаў адзін з удзельнікаў магеланавай экспедыцыі.

Плаванне было вельмі цяжкое і прадаўжалася больш за месяц, хоць праліў той быў усяго некалькі сот марскіх міляў даўжынёй.

Калі ж нарэшце пасля шматлікіх пакут падарожнікі дасягнулі Ціхага акіяна, эскадра налічвала тры караблі. Каманда карабля «Сан-Антоніа», дзе капітанам быў вопытны партугальскі марак Эстэван Гамес, здрадзіла Магелану і пакінула яго.

Спачатку Магелан павёў сваю эскадру на поўнач уздоўж паўднёваамерыканскага ўзбярэжжа, потым, карыстаючыся спадарожным ветрам, перасек акіян. Тры месяцы і дваццаць дзён флатылія плыла ўдалечыні ад берагоў, сярод бясконцай воднай прасторы. Усе пакутавалі ад голаду. «Вада, якую мы вымушаны піць, была гнілая і смярдзе-

**сур'ёзнае і кур'ёзнае**

## ЯК СУСТРЭЦЬ ГОСЦЯ

**Гасціннасцю вызначаюцца амаль усе народы на зямлі, але кожны гасцінны па-свойму. Эскімосы на Алясцы сустракаюць госця аплявухай ды яшчэ, як кажуць, «з пляча», з усяго маху. Але госць не ў крыўдзе, ён ведае: гэта ўсяго толькі сяброўскае запрашэнне памерацца сіламі. І ён адразу ж дае здачы, а гаспадар падстаўляе шчаку. Абмен віншаваннямі на гэтым заканчваецца, і гаспадар запрашае госця ў пакоі, прапануе пераапранууцца і пачаставацца.**

## ПЕРШЫ МУЗЕЙ

**У 1714 годзе Пётр I заснаваў у Пецярбурзе Кунсткамеру — першы музей Расіі. Пры Савецкай уладзе на яе аснове быў створаны цяперашні Музей антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра Першага.**

**Сам жа Пётр I прывёз у музей з Капенгагена і першы экспанат — гэта была палова акамянелага бохана і драўляны абутак, які насілі датчане. У якасці падарунку ў Капенгаген былі пасланы рускія лапці.**

**Сярод першых экспанатаў былі таксама драўляны паднос і срэбраны ключ ад горада Дэрбента, медныя ядры, якімі персы ў 1723 годзе стралялі ў рускія судны на Каспійскім моры. Гэтыя першыя экспанаты не захаваліся, яны загінулі ў часе пажару ў 1774 годзе.**

**Імкнучыся прывабіць наведвальнікаў у музей, Пётр I загадаў выдаваць ім па кілішку гарэлкі і па бутэрброду. А на пачастунак высокіх гасцей казна штогод давала чатырыста рублёў — суму па тым часе вельмі значную.**

ла. Сухары, якія мы елі, нагадвалі сабою не хлеб, а пыл, змешаны з чарвякамі, забруджаны мышамі... Каб не памерці галоднай смерцю, мы вымушаны былі есці бычыныя скуры, якімі абшываюць снасці»,— пісаў удзельнік гэтага надзвычай цяжкага падарожжа. Не менш, чым голад, знясільвала людзей цынга, ад яе памерла дзевятнаццаць матросаў.

Толькі 24 студзеня 1521 года эскадра ўпершыню ўбачыла зямлю — гэта была Пука-Пука з архіпелага Паумоту. У пачатку красавіка Магелан і яго спадарожнікі прыбылі на Себу — адзін з самых буйных астравоў Філіпін. Магелан неўзабаве быў у сутычцы з туземцамі забіты на адным з суседніх астравоў — Мактане.

Страціўшы свайго камандзіра, іспанцы адплылі на Барнеа, адкуль, кіруючыся спачатку на паўночны ўсход, а потым трымаючы курс на паўднёвы ўсход, дасягнулі нарэшце мэты свайго падарожжа — Малукскіх астравоў.

Экспедыцыя Магелана не толькі знайшла шлях да «Вострава вострых прыпраў», але і пацвердзіла думку аб тым, што наша планета — шар і што можна зрабіць па вадзе кругасветнае падарожжа.

Барыс РОЗЕН.

●

## СЛАНЫ І ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ

**Сланы ў Таіландзе — першыя памочнікі чалавека. На лесараспрацоўках яны замяняюць рабочыя рукі і тэхніку.**

**Аднак часам і яны робяць немалую шкоду. У праблеме электрыфікацыі Таіланда не малое месца займае пытанне, як абараніць лініі высакавольтных перадач ад сланоў, якія выкарочваюць апорныя слупы, і ад малпаў, якія, дражнячы манцёраў, залазяць на слупы і робяць кароткае замыканне.**

**Наталля ЖУКОЎСКАЯ.**

● ● ●

## «ЖЫВАЯ» І «МЁРТВАЯ» ВАДА

**На полі бою забітыя воіны, коні... Злятаецца груганнё на сваё жудаснае баляванне... Так у рускага мастака Васняцова выглядае поле бітвы рускіх асілкаў з палаўцамі і печанегамі.**

**На Русі ў даўніну верылі, што можна ажывіць мёртвага воіна, калі чараўнік акропіць яго спачатку «мёртвай» вадою, а потым — «жывой».**

**Сучасныя чараўнікі — хімікі і фармакалагі — наважылі стварыць прэпарат, які стымуляваў бы ў арганізме рост і размнажэнне клетак, своеасаблівую «мёртвую» ваду.**

**Цяпер кожны школьнік ведае, што ў жыццядзейных працэсах нашага арганізма вялікую ролю маюць нуклеінавыя кіслоты. Без іх немагчыма ўтварэнне бялкоў, рост і размнажэнне клетак, перадача спадчыннай інфармацыі. Пачынаючы пошукі рэчываў, якія маглі б дзейнічаць у якасці «мёртвай» вады, вучоныя вырашылі, што трэба знайсці такія прэпараты, якія стымулявалі б сінтэз нуклеінавых кіслот. Вопыт бліскуча пацвердзіў правільнасць такой здагадкі. Створаныя па гэтым прынцыпе прэпараты, асабліва метылурацыл, выклікаюць хуткае ўзнаўленне жывых тканак.**

**Неацэнную паслугу аказаў метылурацыл хірургам. Хворы напярэдадні аперацыі, вядома, хвалюецца, а гэта павялічвае распад бялкоў у арганізме. Разбурэнню бялковых цел спрыяе таксама і наркоз, і нож хірурга, што траўміруе тканкі. Невялікая доза метылурацылу, уведзеная пацыенту перад аперацыяй, стымулюе сінтэз бялкоў і спрыяе загойванню раны. Новы прэпарат вельмі добра памагае пры апёках і пераломах касцей. Ён дзейсны таксама пры лячэнні язвы страўніка, хваробы падстраўнікавай залозы і печані.**

Раздзел вядзе
міжнародны
гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# КНІГА ПРА ТЫСЯЧУ КНІГ

Усесаюзнае выдавецтва «Книга» выпусціла ў свет вельмі каштоўны біяграфічны даведнік, складзены савецкім вучоным-бібліёграфам, вялікім аматарам шахмат Мікалаем Сахаравым. Называецца кніга — **«ШАХМАТНАЯ ЛІТАРАТУРА СССР».** Аўтар сістэматызаваў усе выдадзеныя на рускай мове кнігі па шахматах, пачынаючы з самых першых і да тых, што выйшлі зусім нядаўна.

Бібліяграфічны даведнік Сахарава не просты пералік тых ці іншых выданняў. На кожнае з іх даецца кароткая анатацыя, а таксама дакладнае ўказанне ўсіх фактычных звестак. Для чытача тут усё карысна і цікава. Цікава даведацца, што першай кнігай па шахматах у Расіі была кніга А. Лявонцева «Апісанне кітайскай шахматнай гульні», выдадзеная Акадэміяй навук у 1775 годзе. Праз сто гадоў, у 1877 годзе, тэкст брашуры Лявонцева быў цалкам перадрукаваны часопісам «Шахматный листок». Значна больш вядомая праца І. Бутрымава «Пра шахматную гульню», выдадзеная ў 1821 годзе, і «Шахматная гульня» А. Пятрова. Гэтая апошняя — паўнацэнны дапаможнік, які складаецца з пяці частак. У першай і другой частцы разглядаецца гісторыя шахмат, наступныя тры часткі прысвечаны практыцы шахматнай гульні. Тут жа цікавы дадатак, складзены з дваццаці штучных заканчэнняў — «стратагем», а таксама вядомай задачы аўтара «Уцёкі Напалеона з Масквы ў Парыж».

Цікава даведацца, што пачаткам выдання перыядычнай шахматнай літаратуры ў Расіі быў 1859 год, калі выйшаў «Шахматный листок» В. Міхайлава.

Сапраўднага росквіту шахматная літаратура ў нашай краіне дасягнула пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. За гады савецкай улады з'явіліся і зусім не вядомыя раней выданні, такія, напрыклад, як масавая шахматная газета «64», спецыяльныя бюлетэні, прысвечаныя асноўным шахматным падзеям года.

Бібліяграфічны даведнік М. Сахарава, такім чынам, як бы робіць падрахунак шахматнаму кнігадруку ў нашай краіне. Трэба заўважыць, што да апошняга часу ўлік літаратуры па шахматах і яе сістэматызацыя значна адставалі ад патрэб жыцця, і даведнік Сахарава касуе гэты разрыў. У даведніку выкарыстана як літаратура на рускай мове (арыгінальная і перакладная), так і на мовах народаў СССР. Даецца пералік рэцэнзій і найбольш істотных выказванняў, што друкаваліся ў рускіх выданнях пра тыя ці іншыя кнігі. Класіфікацыя матэрыялу вядзецца аўтарам шляхам спалучэння храналагічнага, тэматычнага, жанравага і візуальнага прынцыпаў.

Матэрыял, перш за ўсё, падзелены на два асноўныя раздзелы: «Шахматная літаратура, выдадзеная ў дарэвалюцыйнай Расіі (1775—1917 гг.)», і «Шахматная літаратура, выдадзеная ў СССР пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі (1917—1966 гг.)».

У кожным раздзеле вылучаны кнігі, перыядычныя выданні і спецыяльныя шахматныя бюлетэні. У кожным з гэтых раз-

дзелаў ёсць таксама свой падзел. Так, у раздзеле «Кнігі» спачатку ідзе падраздзел «Шахматныя дапаможнікі», потым «Гісторыя шахмат» і нарэшце падраздзелы, якія прысвечаны зборнікам партый асобных шахматыстаў, партыям турніраў і матчаў. Асобны раздзел прысвечаны тэорыі шахмат, шахматным камбінацыям, арганізацыйным пытанням і іншаму.

Унутры кожнага з падраздзелаў матэрыял размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці. Усё гэта спрашчае карыстанне даведнікам, дазваляе хутка знайсці патрэбны матэрыял.

Вельмі цікавыя і ўдалыя анатацыі да кніг. Вось, напрыклад, што мы чытаем пра паэму Эйхенбаўма «Такраб», выдадзеную ў 1847 годзе: «Паэма, у якой у выглядзе бітвы паміж Кора і Хеберам даецца шахматная партыя. Эфектнае заканчэнне партыі — гэта паўтор адной з задач сірыйскага шахматыста Стамы. Пераклад зроблены са старажытнаяўрэйскай мовы. Упершыню паэма выйшла ў Лондане ў 1840 годзе». Тут жа мы даведваемся, што паэма «Такраб» вытрымала пяць перавыданняў (апошняе ў 1915 годзе ва Уладзівастоку).

Доўгі час настольнай кнігай шахматыстаў усяго свету быў «Дапаможнік шахматнай гульні» Эмануіла Ласкера. У нашай краіне ён перавыдаваўся пяць разоў на рускай мове (з 1926 па 1937 год) агульным тыражом 65 000 экземпляраў.

Шмат цікавага можа знайсці чытач ў кнізе М. Сахарава «Шахматная літаратура СССР».

# ПАРТЫІ-МІНІЯЦЮРЫ

Кароткія партыі — не частая з'ява ў практыцы гросмайстраў і майстроў. Таму цікава пазнаёміцца з наступнымі мініяцюрамі.

Пачнем з партыі **Рэці — Дункельблюм** (Вена, 1918 год). Партыя мела ўсяго восем хадоў. 1. e4 e5, 2. Kf3 Kc6, 3. Kc3 Cc5?!, 4. K:e5! K:e5, 5. d4 C:d4?, 6. Ф:d4 Фf6, 7. Kb5! Kpd8, 8. Фc5!! І чорныя здаліся.

А вось партыя **Пільсберы — Фернандэс** (Гановер, 1900 год). Гэта партыя была ўсяго на адзін ход большая за папярэднюю. 1. e4 e5, 2. Kc3 Kc6, 3. f4 d6, 4. Kf3 a6, 5. Cc4 Cg4, 6. fe K:e5?, 7. K:e5! C:d1, 8. C:f7+ Kpe7, 9. Kd5X!

Столькі ж хадоў у партыі **Бірд — Гунсберг** (Хестынгс, 1897 год), хоць, праўда, была зроблена яшчэ палавіна хода: 1. f4 e5, 2. fe d6, 3. ed C:d6, 4. Kf3 g5, 5. c3 g4, 6. Фa4+ Kc6, 7. Kd4 Фh4+, 8. Kpd1 g3, 9. b3?? Ф:h2!! І белыя здаліся.

Нямала партый-мініяцюр у практыцы аднаго з вядомых гросмайстраў мінулага Г. Пільсберы. Вось, напрыклад, як разграміў ён белымі пазіцыю майстра Свідэрскага (Мюнхен, 1902 год): 1. e4 e5, 2. f4 ef, 3. Cc4 d5, 4. C:d5 Kf6, 5. Kc3 Cb4, 6. Kf3 0—0, 7. 0—0 c6, 8. Cc4 Фb6+, 9. d4 C:c3, 10. bc K:e4, 11. C:f4! Kd7, 12. Фd3 Kef6, 13. Cd6 Лe8, 14. Kg5! І чорныя здаліся.

Вельмі эфектная партыя **Шлехтэр — Пшэпюрка** (Нюрнберг, 1906 год): 1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Kc3 Kf6, 4. Kf3 Kbd7, 5. Cg5 Ce7, 6. e3 b6.

Выбар закрытага пачатку, здавалася б, не абяцае хуткага крызісу ў барацьбе. Але вывады рабіць яшчэ зарана.

7. cd K:d5, 8. K:d5 ed, 9. Cf4 0—0, 10. Cd3 c5, 11. 0—0 Cb7, 12. Лc1 Лe8, 13. Ke5 K:e5, 14. C:e5 cd?, 15. Лc7! (непрадбачаны ўдар) Cc8, 16. Фh5 g6, 17. C:g6!! І чорныя здаліся.

# СПРАБУЙЦЕ СВАЕ СІЛЫ

Падаем тут лепшыя шашачныя кампазіцыі нашых чытачоў. Спрабуйце свае сілы і рашыце іх самастойна. Напамінаем, што прозвішчы чытачоў, якія на працягу гэтага года выканаюць найбольшую колькасць заданняў, будуць змешчаны ў часопісе, а пераможцы атрымаюць кнігу гросмайстра В. Гарадзецкага «Рамантыка шашак» з аўтографам аўтара.

**М. Стэфановіч** (Гродна)



Выйгрыш.

**Д. Палонскі** (Мінск)



Прааналізаваць пазіцыю. Ход белых.

**Л. Чарноў** (Магілёў)



Выйгрыш.

**Задача М. Раменскага** (Алма-Ата):

Белыя — дамка 15; простыя: 10, 33, 35, 45 (5);
чорныя — дамка 1; простыя: 4, 19, 31, 41, 42, 43 (7).
Заперці простую чорных.

**Эцюд Н. Гарадзецкага** (Бабруйск):

Белыя — простыя: a3, d4, h2, h4 (4);
чорныя — a7, d6, f4, f6 (4). Нічыя.

**Задача В. Громава** (Талін):

Белыя — дамкі a5, a7, b4, c5, d2; простыя: b6, e3, e7 (8);
чорныя — дамка b2; простыя: d6, f8 (3). Заперці простую чорных.

**Задача А. Афоніна** (Маскоўская вобласць):

Белыя — дамкі a5, e1, h6, h8; простыя d2, e3 (6);
чорныя — дамка c1; простыя: a7, d6, h2 (4). Заперці простую чорных.

**Канцоўка Б. Магілеўскага** (Жытомір):

Белыя — a7, b4, b6, c5 d4, h2, h4 (7);
чорныя — b8, d2, d8, e7, f2, f4, f6, g5 (8). Выйгрыш.

**Канцоўка Г. Багатырова** (Запарожская вобласць):

Белыя — b4, c3, c5, d6, f2, f4, g5, h4, h6 (9);
чорныя — a3, a5, a7, b8, e5, e7, f8, g7, h2 (9). Выйгрыш.

**Падрыхтаваў майстар спорту СССР Мікалай ГРУШЭЎСКІ.**

# ГАБРАЎСКІЯ АНЕКДОТЫ

Габрава — горад у Балгарыі, славуты не толькі як прамысловы цэнтр, але і як невычэрпная крыніца, што струменіць дасціпамі. З незапомных часоў ходзяць анекдоты пра фантастычную скупасць габраўцаў, а больш дакладна — пра іх гаспадарлівасць, ашчаднасць. Жыхар Габрава — гэта чалавек кемлівы, яго на мякіне не правядзеш...

## У ГАБРАЎСКАЙ ШКОЛЕ

**Настаўнік, расказваючы на ўроку пра серную кіслату, пытаецца:**

**— Зараз я апушчу гэты залаты пярсцёнак у кіслату. Скажыце, ці сапсуецца метал ад кіслаты?**

**Усе маўчаць.**

**— Не! — крыкнуў раптам адзін з вучняў.**

**— А чаму? — запытаў настаўнік.**

**— Калі б сапсаваўся, вы не апусцілі б яго!**

Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



## КЛАПАТЛІВАСЦЬ

**Калі ў Габраве фарбавалі тэатр, дык не павесілі надпіс: «Беражыцеся, фарба!», а павесілі — «Беражы фарбу!»**

## РАСКАШЭЛІЎСЯ

**Аднойчы да габраўца прыйшлі госці.**

**Пасядзелі, пагутарылі...**

**— Прапануй гасцям што-небудзь асвяжальнае! — напомніла жонка.**

**— Ну вядома ж! — адказаў муж і адчыніў насцеж акно.**

## ПЯРСЦЁНАК

**— Дзе твой абручальны пярсцёнак?**

**— Гэты тыдзень яго носіць мая жонка.**

## ПЕРШЫЯ УРОКІ

**Бацька купіў сыну новыя чаравікі. Увечары яны пайшлі да сваякоў у госці. Па дарозе бацька пытае ў сына:**

**— Іванча, ты — у новых чаравіках?**

**— Але, тата,— адказвае сын.**

**— Тады шырэй кроч,— параіў бацька.**





## ПАД ДАЖДЖОМ

Два габраўскіх студэнты ўвайшлі ў магазін, каб купіць сабе шапкі. Толькі яны іх выбралі, як раптам пайшоў дождж. З трывогай у сэрцы абодва спыніліся на парозе. Думалі, ламалі галаву і раптам, працягнуўшы рукі, памяняліся шапкамі. Надзелі іх на галовы і, кожны ў чужой шапцы, спакойна пакіраваліся дамоў.

## ЗГУБЛЕНАЯ СТАЦІНКА

У шчыліну ў падлозе звалілася адна стацінка. Габравец падумаў трошкі і кінуў туды ж яшчэ дваццаць.

— Што ты робіш? — з трывогай закрычала жонка.

— Ды не варта з-за адной стацінкі дошкі ўздзіраць!

## НОВАЯ ЦАНА

Мастак прапанаваў сваю карціну гандляру палатном. Купец даў яму пяць леваў.

— Пяць леваў?!.— разззлаваўся мастак.— Ды я ў вас аднаго палатна купіў на дзесяць.

— Так, але тады яно было чыстае,— спакойна адказаў габравец.



## АБАЖУР НА ЛЯМПУ

Сустрэліся два габраўцы.

— Куды? — пытаецца адзін.

— Іду шукаць абажур на лямпу.

— А чаму ж ты не купіш слабейшую лямпачку?

## ПАЧАКАЙ

— Тата, дай мне леў, я хачу глянуць у тэлескоп на Месяц.

— Пачакай трошкі! Праз два тыдні будзе поўня, і за тыя ж грошы ты ўбачыш больш.

*З балгарскай.*
Пераклад Уладзіміра ЮРЭВІЧА.



# нашы аўтары

●

**ДУКСА Мар'ян** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Аўтар зборніка «Спатканне».

●

**ГАЎРЫЛКІН Леанід** нарадзіўся ў 1935 годзе ў пасёлку Стэп былога Цярахоўскага раёна на Гомельшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе на Гомельскай студыі тэлебачання. Аўтар кніг: «Рукі не здрадзяць», «Прашу звольніць мяне».

●

**РУДКОЎСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Востраў Ляхавіцкага раёна. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Працуе на Брэсцкай студыі тэлебачання. Аўтар зборнікаў «Першыя вёрсты», «Сінія брады».

●

**ДРАНЧУК Валеры** нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Ахрэмавічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў сярэднюю школу. Працуе на заводзе.

●

**ВОРАНАЎ Мікола** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Віры Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Працаваў вадалазам на Балтыцы. Цяпер—літсупрацоўнік аршанскай аб'яднанай газеты «Ленінскі прызыў». Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. З прозай у «Маладосці» выступае ўпершыню.

●

**АРОЧКА Мікола** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР, дзе і працуе цяпер.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Не ўсе лугі пакошаны», «Ветраломная паласа» і аповесці «Хай расце маладая таполя».

●

**ЗАРЫЦКІ Аляксей** нарадзіўся ў 1911 годзе ў Хоцімску на Магілёўшчыне. Працаваў электраманцёрам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Скончыў Маскоўскі інстытут замежных моваў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
Аўтар зборнікаў «Эпічныя фрагменты», «Дняпроўскае рэха», «Арліная крыніца», «Залатое дно», «Праз бурныя парогі», «Вершы і паэмы» і многіх іншых.

●

**ГІЛЕВІЧ Ніл** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар зборнікаў «Песня ў дарогу», «Неспакой», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Званковы валет», «Лісце трыпутніку» і іншых.

●

**ЧАНІН Віталь** нарадзіўся ў 1929 годзе. У 1953 годзе закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Цяпер— рэдактар газеты «Знамя юности».

●

**КАРПЮК Аляксей** нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Страшава Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Аўтар кніг «Дзве сасны», «Мая Гродзеншчына», «Данута», «Пушчанская адысея» і іншых.

●

**КАВАЛЕНКА Віктар** нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Сакаўшчына Валожынскага раёна. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі пра Змітрака Бядулю «Пошукі і здзяйсненні» і зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Давер». Працуе ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 9**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854**—сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592**—аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/VII-69 г. Падпісана да друку 26/VIII-69 г.
АТ 03297. Тыраж 11527 экз. Зак. 401. Цана 40 кап. Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



**Н. Гурэвіч. Лявоніха.** Дэкаратыўнае пано. Кераміка, дрэва.